




# Жыццё





# і дзіўныя прыгоды марахода

# Рабінзона Круза





И(Англ)
Д 39

Пераклад
АЛЕНЫ ВАСІЛЕВІЧ

Малюнкі
МІКАЛАЯ КАЗЛОВА

Пераклад зроблены з выдання:
Даниэл Дэфо «Робинзон Крузо»
Пересказал Корней Чуковский
«Детская литература», 1976 год

Д $\frac{70802\text{-}226}{\text{М } 302(05)\text{-}76}$ 213-76

## ПРА «РАБІНЗОНА КРУЗА»

*Гэта кніга напісана вельмі даўно — больш двухсот гадоў назад. Прыдумаў яе англійскі пісьменнік Даніэль Дэфо. За сваё доўгае жыццё ён напісаў шмат кніг, але ніводная з іх не мела такога поспеху, як «Рабінзон».*

*Кніга гэта стала вядомая ўсяму свету.*

*Аднак ці мала было кніг, якія пры сваім з'яўленні мелі незвычайны поспех, а потым гублялі нядоўгую славу і забываліся чытачамі. А кніга пра Рабінзона жыве і зараз. І ўнукі чытаюць яе з тым жа хваляваннем, з якім чыталі яе дзяды і прадзеды.*

*Асабліва захапляе ў Рабінзоне тое, што ён працаўнік, чалавек невычэрпнай энергіі. Другі б на яго месцы загінуў, апынуўшыся сярод такой смяртэльнай небяспекі. Варта было Рабінзону хоць на момант апусціць свае нястомныя рукі, адмовіцца ад няспыннай барацьбы з грознымі сіламі прыроды, і пустынны востраў, куды яго выкінула бура, зрабіўся б яго магілай. Але Рабінзон працавіты і настойлівы, ён не адступае ні перад якімі перашкодамі і, нарэшце, дабіваецца ўсяго, чаго хоча.*

*Цяжкая праца, якую ён робіць. Ці то ён будуе сваю славутую крэпасць і мацуе вакол яе частакол, ці выдоўбвае з велізарнага дрэва човен — ён аддае гэтай працы ўсе сілы і так палка захапляецца ёю, што захапляе і нас. Нам вельмі цікава даведацца пра тое, як зляпіў ён з гліны свой першы гаршчок, як змайстраваў драўляную ступку, як пашыў да свае лодкі парусы.*

*Пра якую б работу ён ні расказваў у гэтай кнізе, ён гаворыць пра яе так цікава, што кожнаму*

*з нас пачынае здавацца, нібыта і мы самі ўдзельнічаем у ёй.*

*Падабаецца ў Рабінзоне нам і тое, што з першых жа дзён, як ён застаўся адзін на востраве, ён пачынае саджаць там лес, прыручае жывёл, бясплодную пустку ператварае ў каласістае поле.*

*Вядома, нам, савецкім чытачам, многа ў Рабінзоне чужога. Быў ён купцом і, як усе купцы, клапаціўся толькі пра ўласную выгаду. Да таго ж, трапіўшы на бязлюдны востраў, ён клапаціўся толькі пра тое, каб здабыць найболей грошай і рознай іншай маёмасці. У маладосці ён нават нажываўся ашуканствам: прывёз жыхарам Гвінеі кучу розных шкляных бразготак і грашовых пацерак і, карыстаючыся тым, што яны не ведалі цаны золату, выменяў у іх шмат залатога пяску. У той час ніхто не лічыў такую нажыву ганебнай, але мы гэта асуджаем. Цэнім жа мы ў Рабінзоне яго веру ў чалавечую працу, яго настойлівасць у пераадоленні перашкод, яго смеласць і моцную волю.*

*КАРНЕЙ ЧУКОЎСКІ*



## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### Сям'я Рабінзона.— Уцёкі з бацькоўскага дому

З самага ранняга дзяцінства я больш за ўсё на свеце любіў мора. Я зайздросціў кожнаму матросу, які выпраўляўся ў далёкае плаванне. Гадзінамі выстойваў я на марскім беразе і, не зводзячы вачэй, разглядаў караблі, якія праходзілі паблізу.

Маім бацькам гэта вельмі не падабалася. Бацька, стары хворы чалавек, хацеў, каб я быў важным чыноўнікам, служыў у каралеўскім судзе і атрымліваў вялікія грошы. А я марыў пра марскія падарожжы. Мне здавалася найвялікшым шчасцем вандраваць па морах і акіянах.

Бацька здагадваўся, што ў мяне ў галаве. Аднойчы ён паклікаў мяне да сябе і злосна сказаў:

— Я ведаю: ты хочаш уцячы з роднага дому. Гэта вар'яцтва. Ты павінен застацца. Калі ты застанешся, я заўсёды буду добрым бацькам, але не чакай дабра, калі ты ўсё-такі надумаешся ўцячы! — Голас у бацькі задрыжаў, і ён ціха дадаў: — Падумай пра сваю хворую маці... Яна не вытрымае разлукі з табою.

У вачах у яго заблішчалі слёзы. Ён любіў мяне і хацеў мне дабра.

Мне зрабілася шкада старога, і я цвёрда вырашыў застацца ў бацькавым доме і больш нават не думаць пра марскія падарожжы. Але — дарэмна! — мінула некалькі дзён, і ад маіх намераў нічога не засталося. Мяне зноў пацягнула да марскіх берагоў. Мне зноў па-

чалі сніцца мачты, хвалі, парусы, чайкі, невядомыя краіны, агні маякоў.

Праз два-тры тыдні пасля гаворкі з бацькам я ўсё ж вырашыў уцячы. Улучыўшы момант, калі маці была вясёлая і спакойная, я падышоў да яе і пачціва сказаў:

— Мне ўжо васемнаццаць гадоў, і ў гэтым узросце позна ўжо вучыцца судовай справе. І калі б я нават і паступіў куды-небудзь на службу, праз некалькі дзён я ўсё роўна збег бы ў далёкія краіны. Мне так хочацца пабачыць чужыя краі, пабыць і ў Афрыцы і ў Азіі! А калі я нават і вазьмуся за якую-небудзь справу, у мяне ўсё роўна не хопіць цярпення давесці яе да ладу. Прашу вас, угаварыце бацьку пусціць мяне ў мора, няхай сабе ненадоўга — толькі для спробы; калі жыццё марака будзе не да спадобы мне, я вярнуся дадому і больш нікуды не паеду. Няхай бацька пусціць мяне па добрай волі, таму што інакш я вымушаны буду пакінуць родны дом без дазволу.

Маці вельмі ўзлавалася на мяне і сказала:

— Я дзіўлюся, што ты не выкінуў гэтага з галавы пасля гаворкі з бацькам! Бацька ж патрабаваў ад цябе, каб ты раз і назаўсёды забыў пра чужыя краіны. А ён лепш за цябе разумее, якой справай табе займацца. Вядома, калі ты хочаш згубіць сябе, едзь хоць зараз, толькі ведай, што мы з бацькам ніколі не дамо згоды на твае падарожжы. І дарэмна ты спадзяваўся на маю помач. Не, я ні словам не абзавуся бацьку пра твае бязглуздыя выдумкі. Я не хачу, каб потым, калі мора давядзе цябе да жабрацтва і пакут, ты мог папракнуць сваю маці за тое, што яна давала табе патачку.

Потым, праз многа гадоў, я даведаўся, што маці ўсё ж перадала бацьку нашу гаворку — ад слова да слова. Бацька быў засмучаны і адказаў ёй, цяжка ўздыхнуўшы:

— Не разумею, чаго яму не хапае? На радзіме ён здолеў бы без цяжкасцей дабіцца поспеху ў сваёй рабоце і шчасця. Мы хоць і небагатыя людзі, але сякія-такія сродкі ў нас ёсць. Ён можа жыць разам з намі, не маючы ні ў чым патрэбы. А калі ўжо ён наважыўся падарожнічаць, то зведае цяжкія нягоды і пашкадуе, што не паслухаў бацьку. Не, я не магу

пусціць яго ў мора. Далёка ад радзімы ён будзе ў самоце, і калі з ім здарыцца няшчасце, у яго не знойдзецца сябра, які б здолеў яго суцешыць. І тады ён будзе каяцца, ды будзе позна!

І ўсё роўна праз некалькі месяцаў я збег з роднага дому. Адбылося гэта так. Аднойчы я паехаў на некалькі дзён у горад Гуль. Там я сустрэў аднаго прыяцеля, які збіраўся плыць у Лондан на караблі свайго бацькі. Ён пачаў мяне ўгаворваць ехаць разам з ім, спакушаючы тым, што праезд на караблі нічога мне не будзе каштаваць.

І вось, не спытаўшыся ні ў бацькі, ні ў маці,— у нядобрую часіну! — 1 верасня 1651 года я на дзевятнаццатым годзе жыцця сеў на карабель, які плыў у Лондан.

Гэта быў дрэнны ўчынак: я пакідаў старых бацькоў, нават не падумаўшы над іх парадамі і забыўшы пра абавязак сына. І мне вельмі хутка давялося каяцца ў тым, што я нарабіў.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### Першыя прыгоды на моры

Не паспеў наш карабель выйсці з вусця Хамбера, як з поўначы падзьмуў халодны вецер. Неба пакрылася хмарамі. Пачалася страшэнная гайданка.

Я дагэтуль ніколі яшчэ не быў у моры, і мне зрабілася кепска. У мяне закружылася галава, задрыжалі ногі, мяне пачало ванітаваць, і я ледзь не ўпаў. Кожны раз, як толькі на карабель навальвалася велізарная хваля, мне здавалася, што мы зараз жа апынімся на дне. Кожны раз, калі карабель валіўся з высачэзнай грывы, я ўпэўнены быў: яму ўжо ніколі не падняцца над хвалямі.

Тысячу разоў я прысягаў, што, калі застануся жывы, калі толькі яшчэ нага мая ступіць на цвёрдую зямлю, я зараз жа вярнуся дадому да бацькі і ніколі ўжо за ўсё жыццё не падымуся больш на палубу карабля.

Аднак гэтых разважлівых думак хапіла ў мяне толькі на той час, пакуль бушавала бура.

І вось вецер суняўся, хвалі знемаглі, і мне зрабілася куды лягчэй. Паступова я пачаў прывыкаць да мора. Праўда, я яшчэ не зусім пазбавіўся марской хваробы, але к канцу дня праяснела, вецер зусім сцішыўся, надышоў цудоўны вечар.

Усю ноч я праспаў як забіты. Назаўтра неба было такое ж яснае. Сцішанае мора, над якім не было нават слабога ветрыку, ззяла на сонцы ў такой дзівоснай красе, якой я яшчэ зроду не бачыў. Ад мае марской хваробы не засталося і знаку. Я адразу супакоіўся, і мне зрабілася весела. Са здзіўленнем углядаўся я ў мора, якое яшчэ ўчора здавалася такім жорсткім і пагрозлівым, а сёння было ласкавае і сцішанае.



Тут, як знарок, падыходзіць да мяне мой прыяцель, што спакусіў мяне ехаць разам з ім, ляпае па плечуку і кажа:

— Ну, як ты сябе адчуваеш, Боб? Я гатовы паспрачацца, што ўчора ты добра напалохаўся. Прызнавайся: ты ж напалохаўся ўчора, як падзьмуў вятрыска?

— Вятрыска? Добры вятрыска! Гэта ж быў шалёны шквал. Я нават уявіць сабе не мог такой жахлівай буры!

— Буры? Ах ты дзівак! Па-твойму, гэта бура? Ну, ды ты ж яшчэ новенькі на моры: не дзіўна, што напалохаўся... Аднак хадзем лепей ды загадаем падаць нам пуншу, вып'ем па шклянцы і забудзем пра буру. Зірні, які ясны дзень! Цудоўнае надвор'е, ці не так?

Каб скараціць гэту сумную частку майго апавядання, скажу толькі, што ўсё пайшло, як звычайна бывае ў маракоў: напіўшыся, я сп'янеў і ўтапіў у віне ўсе свае найлепшыя думкі пра неадкладны зварот дадому. Як толькі настаў штыль і я пакінуў баяцца, што хвалі мяне праглынуць, я тут жа забыў пра свой добры намер.



На шосты дзень мы ўбачылі ўдалечыні горад Ярмут. Вецер пасля буры дзьмуў насустрач, і таму мы вельмі паволі рухаліся наперад. У Ярмуце нам давялося кінуць якар. У чаканні спадарожнага ветру мы прастаялі сем ці восем дзён.

За гэты час сюды прыйшло многа караблёў з Ньюкасла. Мы, аднак, не прастаялі б столькі

і зайшлі б у раку разам з прылівам, але вецер усё свяжэў, а дзён праз пяць падзьмуў з усяе сілы.

На нашым караблі якары і якарныя канаты былі моцныя, і нашы матросы былі ўпэўнены, што судну не пагражае ніякая небяспека. І таму па звычаю ўсіх матросаў увесь свой вольны час яны аддавалі вясёлым пацехам і забаўкам.

Але на дзевяты дзень пад раніцу вецер пасвяжэў і хутка разыграўся страшэнны шторм. Нават выпрабаваныя маракі былі напалоханы. Я некалькі разоў чуў, як наш капітан, праходзячы паўз мяне то ў сваю каюту, то з каюты, паўтараў напаўголасу: «Мы загінулі! Мы загінулі! Канец!»



І ўсё роўна ён не губляўся і пільна сачыў за работай матросаў і прымаў усе захады, каб выратаваць свой карабель.

Да гэтага часу я не баяўся, я быў упэўнены, што і гэта бура мінуецца гэтак жа шчасліва, як і першая. Але калі сам капітан сказаў, што ўсім нам прыйшоў канец, я страшэнна спалохаўся і выбег з каюты на палубу. Ніколі ў жыцці не даводзілася бачыць мне такога жахлівага відовішча. На моры, быццам высачэзныя горы, хадзілі велізарныя хвалі, і кожныя тры-чатыры мінуты на нас абвальвалася такая гара.

Спачатку я нібы здранцвеў ад страху і не мог нават глядзець навокал. Калі ж нарэшце адважыўся зірнуць назад, я зразумеў, якое бедства нас спасцігла.

На двух цяжка гружаных суднах, якія стаялі непадалёку ад нас на якары, матросы валілі мачты, каб караблі хоць крыху вызваліліся ад цяжару.

Нехта крыкнуў у роспачы, што карабель, які стаяў наперадзе за паўмілі ад нас, у гэты самы момант знік пад вадой.

Яшчэ два судны бура сарвала [redacted] якара і панесла ў адкрытае мора.

Што чакала іх там? Усе іх мачты былі скрышаны ўраганам.

Невялікія судны трымаліся лепш, аднак некаторыя з іх таксама пацярпелі: два ці тры з іх пранесла паўз нашы барты проста ў адкрытае мора.

Вечарам штурман і боцман прыйшлі да капітана і прапанавалі яму для выратавання судна ссячы фок-мачту [1].

— Адкладваць нельга ні мінуты! — сказалі яны.— Загадайце, і мы ссячом яе.

— Пачакаем яшчэ трохі,— запярэчыў капітан.— Магчыма, бура сціхне.

Яму вельмі не хацелася секчы мачту, але боцман пачаў даводзіць, што, калі мачту пакінуць, карабель пойдзе на дно,— і капітан мімаволі згадзіўся.

А калі ссеклі фок-мачту, грот-мачта [2] пачала так моцна хіліцца і разгойдваць судна, што давялося ссекчы і яе.

Настала ноч, і раптам адзін з матросаў, які спускаўся ў трум, закрычаў, што судна пацякло. У трум паслалі другога матроса, і ён далажыў, што вада паднялася ўжо на чатыры футы [3].

Тады капітан загадаў:

— Выпампоўвай ваду! Усе да помпаў!

Калі я пачуў гэту каманду, у мяне ад жаху замерла сэрца: мне здалося, што я паміраю, ногі мае аслабелі, і я паваліўся ніцма на койку. Але матросы расштурхалі мяне, патрабуючы, каб я не адлыньваў ад работы.

— Даволі ты біў бібікі, час прыйшоў і папрацаваць!

Нічога не зробіш, я пайшоў да помпы і пачаў старанна выпампоўваць ваду.

У гэты час невялікія грузавыя судны, якія не маглі ўтрымацца супроць ветру, узнялі якары і выйшлі ў адкрытае мора.



Убачыўшы гэта, наш капітан загадаў стрэліць з гарматы, каб папярэдзіць іх, што нас чакае смяртэльная небяспека. Пачуўшы стрэл гарматы і не разумеючы, у чым справа, я ўявіў сабе, што наша судна разбілася і вось-вось пойдзе на дно. Мне зрабілася так страшна, што я страціў прытомнасць і паваліўся. Аднак у гэты час кожны клапаціўся перш за ўсё пра выратаванне ўласнага жыцця, і на мяне ніхто не звярнуў увагі. Ніхто нават не пацікавіўся, што са мною здарылася. Адзін з матросаў стаў

[1] Фок-мачта — пярэдняя мачта.
[2] Грот-мачта — сярэдняя мачта.
[3] Фут — англійская мера даўжыні, каля адной трэці метра.

на маё месца да помпы, адсунуўшы мяне нагою. Усе былі ўпэўнены, што я ўжо нежывы. Так я праляжаў вельмі доўга. Ачухаўшыся, я зноў узяўся за работу. Мы працавалі без пярэдыху, а вада ў труме падымалася ўсё вышэй і вышэй.

Было зусім ясна, што судна пойдзе на дно. Праўда, шторм пачаў патроху суцішацца, але ў нас не прадбачылася ніякай магчымасці пратрымацца на вадзе да таго часу, пакуль мы зойдзем у гавань. Таму капітан не пераставаў страляць з гарматы, спадзеючыся, што хто-небудзь выратуе нас ад пагібелі.

Нарэшце адно невялікае судна, што было бліжэй да нас, рызыкнула спусціць шлюпку, каб прыйсці нам на дапамогу. Шлюпка кожную хвіліну магла перакуліцца, але яна ўпарта набліжалася да нас. І ўсё роўна мы не маглі перабрацца ў шлюпку, таму што не было ніякай магчымасці прычаліць яе да нашага карабля, хоць людзі веславалі з усяе сілы, рызыкуючы ўласным жыццём для выратавання нашага. Мы кінулі ім канат. Яны доўга не маглі злавіць яго, таму што бура адносіла яго ўбок. Але, на шчасце, адзін смяльчак пасля неаднаразовых няўдалых спроб нарэшце злаўчыўся і схапіў канат за самы канец. Тады мы падцягнулі шлюпку да нашай кармы і ўсе да аднаго перабраліся на яе. Мы меркавалі даплыць да іх карабля, але не змаглі адолець хваль, якія неслі нас да берага. Выявілася, што толькі ў гэтым напрамку і можна было веславаць.



Не прайшло і чвэрці гадзіны, як наш карабель пачаў апускацца ў ваду.

Хвалі так кідалі шлюпку, што нам не відно было нават берага. Толькі на нейкае імгненне, калі ўскідвала на грэбень хвалі, мы маглі бачыць, што на беразе сабраўся натоўп людзей. Людзі бегалі туды і сюды, гатовыя кінуцца нам на дапамогу, як толькі мы падыдзем бліжэй. Але мы рухаліся да берага вельмі павольна.



Толькі пад вечар здолелі мы выбрацца на сушу, ды і то з найвялікшымі цяжкасцямі.

У Ярмут ісці нам давялося пешкі. Там нас чакала сардэчная сустрэча: жыхары горада, якія ўжо даведаліся пра наша няшчасце, адвялі нам добрае жыллё, пачаставалі выдатным

абедам і далі нам грошай, каб мы здолелі дабрацца, куды пажадаем — да Лондана ці да Гуля.

Непадалёку ад Гуля быў Йорк, дзе жылі мае бацькі, і, вядома ж, мне трэба было вярнуцца да іх. Яны даравалі б мне мае самавольныя ўцёкі, і ўсе мы былі б такія шчаслівыя!

Але безразважная мара пра марскія прыгоды не пакідала мяне і зараз. Хоць цвярозы голас розуму казаў мне, што на моры мяне чакаюць новая небяспека і нягоды, я зноў пачаў думаць пра тое, як бы мне трапіць на карабель і аб'ехаць па морах і акіянах увесь свет.

Мой прыяцель (той самы, бацьку якога належала загінуўшае судна) быў цяпер пануры і самотны. Бяда гняла яго.

Ён пазнаёміў мяне са сваім бацькам,— той таксама не пакідаў бедаваць па затанулым караблі. Даведаўшыся ад сына пра маю цягу да марскіх падарожжаў, стары сурова зірнуў на мяне і сказаў:

— Малады чалавек, вам ніколі болей не трэба выходзіць у мора. Я чуў, што вы баязлівец, што вы распешчаны і губляеце галаву нават пры самай нязначнай небяспецы. Такія людзі не варты ў маракі. Хутчэй вяртайцеся дадому і памірыцеся з раднёю. Вы ўжо самі на сабе зазналі, як небяспечна падарожнічаць морам.

Я адчуваў, што ён кажа праўду, і не мог пярэчыць. Але ўсё роўна я не вярнуўся дадому, таму што мне было брыдка паказацца на вочы маім блізкім. Мне здавалася, што ўсе нашы суседзі будуць нада мною кпіць; я быў упэўнены, што мае няўдачы зробяць мяне пасмешышчам для ўсіх сяброў і знаёмых.

З цягам часу я не аднойчы заўважаў, што людзі, асабліва ў маладосці, лічаць непрыстойнымі не тыя свае бессаромныя ўчынкі, за якія завуць іх дурнямі, а тыя добрыя і высакародныя справы, якія робяцца імі ў хвіліны раскаяння, хоць толькі за гэтыя справы і можна зваць іх разумнымі. Такі і я быў у той час. Успаміны пра пакуты, якія я выцерпеў у час караблекрушэння, паступова сцерліся, і я, пражыўшы ў Ярмуце два-тры тыдні, паехаў не ў Гуль, а ў Лондан.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### Рабінзон трапляе ў палон.— Уцёкі



Вялікім маім няшчасцем было тое, што я ў час маіх прыгод не застаўся на караблі матросам. Праўда, мне давялося б болей працаваць, але затое вывучыўся б, нарэшце, марападнай справе і з цягам часу мог бы стаць штурманам, а магчыма, і капітанам. Але ў той час я быў такі дурны, што з усіх шляхоў выбіраў заўсёды самы горшы. З той прычыны, што я мог тады заўсёды фарсіць сваім адзеннем і ў кішэнях у мяне не зводзіліся грошы, я заўсёды з'яўляўся на карабель бесклапотным шалапутам: нічога там не рабіў і нічому не вучыўся.

Маладыя свавольнікі і гультаі звычайна трапляюць у дрэнную кампанію і вельмі хутка канчаткова збіваюцца з тропу. Такі ж лёс чакаў і мяне, але ў Лондане мне пашчасціла пазнаёміцца з паважным пажылым капітанам, які шчыра мною зацікавіўся. Незадоўга перад гэтым ён хадзіў на сваім караблі да берагоў Афрыкі і Гвінеі. Гэта падарожжа прынесла яму немалы прыбытак, і цяпер ён зноў збіраўся накіравацца ў тыя ж краі.

Я спадабаўся яму. Я быў тады цікавым субяседнікам.

Ён часта бавіў са мною свой вольны час і, даведаўшыся, што я мару пабачыць заморскія краіны, прапанаваў мне пайсці ў плаванне на яго караблі.

— Вам гэта не будзе каштаваць грошай,— сказаў ён,— я не вазьму з вас нічога ні за праезд, ні за яду. Вы будзеце на караблі маім госцем. А калі яшчэ прыхопіце з сабою сякія-такія рэчы, якія вам удасца выгадна збыць на Гвінеі, то вы будзеце мець яшчэ і барыш. Паспрабуйце, можа, якраз вам і пашэнціць.



Гэты капітан карыстаўся агульным даверам, і я з ахвотай згадзіўся на яго запрашэнне.

Накіроўваючыся ў Гвінею, я прыхапіў з сабою сёе-тое з тавару: закупіў на сорак фунтаў стэрлінгаў[1] розных бразготак і шкляных вырабаў, якія мелі выдатны збыт у дзікуноў.

[1] Фунт стэрлінгаў — грашовая адзінка ў Англіі.

Набыць гэтыя сорак фунтаў мне пасадзейнічалі блізкія сваякі, з якімі я меў перапіску: я паведаміў ім, што збіраюся заняцца гандлем, і яны ўгаварылі маю маці, а магчыма, і бацьку памагчы мне хоць нязначнай сумай.

Гэта паездка ў Афрыку была, бадай, маім адзіным шчаслівым падарожжам. Вядома ж, за свой поспех я павінен быў быць удзячны толькі бескарыслівай дабраце капітана.

У час падарожжа ён займаўся са мной матэматыкай і вучыў мяне карабельнай справе. Ён меў задавальненне ад таго, што перадаваў мне свой вопыт, а я — ад таго, што слухаў і вучыўся ў яго.

Падарожжа зрабіла мяне і маракам і купцом: я выменяў на свае бразготкі пяць фунтаў і дзесяць унцый залатога пяску, за які, вярнуўшыся ў Лондан, атрымаў немалую суму.

Такім чынам, я мог лічыць сябе багатым прамыслоўцам, які паспяхова вядзе гандаль з Гвінеяй.

Але, на маё няшчасце, мой сябра капітан хутка пасля вяртання ў Англію памёр, і мне давялося зрабіць другое падарожжа на свой страх, ужо без сяброўскай парады і дапамогі.

Я адплыў з Англіі на тым жа караблі. І гэта было самае нешчаслівае падарожжа, якое калі-небудзь рабіў чалавек.

Аднойчы на світанні, калі мы пасля доўгага плавання ішлі паміж Канарскімі астравамі і Афрыкай, на нас напалі піраты — марскія разбойнікі. Гэта былі туркі з Салеха. Яны здаля заўважылі нас і поўным ходам прыпусцілі наўздагон.

Спачатку мы спадзяваліся, што здолеем выратавацца ад іх уцёкамі, і таксама паднялі парусы. Аднак хутка стала відавочна, што гадзін праз пяць-шэсць яны нас абавязкова даганяць. Мы зразумелі, што неабходна рыхтавацца да бою. У нас было дванаццаць гармат, а ў ворага — васемнаццаць.

Каля трох гадзін апоўдні разбойніцкі карабель дагнаў нас, але піраты зрабілі вялікую памылку: замест таго каб падысці да нас з кармы, яны падышлі з левага борта, дзе ў нас было восем гармат. Выкарыстаўшы іх памылку, мы навялі на іх усе гэтыя гарматы і далі залп.

Туркаў было не менш дзвюх соцень чалавек, таму яны адказалі на нашу стралянiну не толькi гарматным, але таксама i ружэйным залпам з двухсот стрэльбаў.

На шчасце, у нас нiкога не зачапiла, усе засталiся жывыя i не параненыя. Пасля гэтай сутычкi пiрацкае судна адышло на паўмiлi [1] i пачало рыхтавацца да новага нападу. Мы ж, у сваю чаргу, падрыхтавалiся да новай абароны.

На гэты раз ворагi падышлi да нас з другога борта i ўзялi нас на абардаж, гэта значыць зачапiлiся за наш борт бусакамi, чалавек шэсцьдзесят уварвалiся на палубу i перш за ўсё кiнулiся секчы мачты i снасцi.

Мы сустрэлi iх ружэйнай стралянiнай i двойчы вызвалялi ад iх палубу, але ўсё роўна вымушаны былi здацца, таму што наш карабель ужо быў не прыгодны для далейшага плавання. Трое з нашых людзей былi забiтыя, восем чалавек паранена. Нас як палонных завезлi ў марскi порт Салех, якi належаў маўрам [2].

Iншых англiчан забралi i адправiлi да двара жорсткага султана, а мяне капiтан пiрацкага судна пакiнуў пры сабе i зрабiў сваiм рабом, бо [redacted] быў малады i спрытны.

Я горка заплакаў: я ўспомнiў прадказанне майго бацькi, што рана цi позна са мною здарыцца бяда i нiхто не прыйдзе мне на дапамогу. Я думаў, што менавiта цяпер такая бяда мяне i напаткала. Але дарэмна я так думаў. Наперадзе мяне чакалi яшчэ страшнейшыя няшчасцi.

Я спадзяваўся, што мой новы ўладар, капiтан разбойнiцкага судна, пакiнуўшы мяне пры сабе, калi ён зноў адправiцца рабаваць марскiя караблi, возьме мяне [redacted] сабою таксама. Я быў цвёрда ўпэўнены, што, нарэшце, ён трапiць у палон да якога-небудзь iспанскага цi партугальскага ваеннага карабля i тады я атрымаю волю.

Але хутка я зразумеў, што гэтыя спадзяваннi былi дарэмныя, таму што ў першы ж раз, калi мой уладар выйшаў у мора, мяне ён пакiнуў дома выконваць чорную работу, якую звычайна выконваюць рабы.

[1] Мiля — мера даўжынi каля 1609 метраў.
[2] Маўры — паўночнаафрыканскiя арабы-мусульмане.

З гэтага дня я толькі і думаў пра ўцёкі. Але ўцячы было немагчыма: я быў знясілены і адзінокі.

Сярод палонных не было ніводнага англічаніна, каму я здолеў бы паверыць.

Два гады пакутваў я ў палоне, не маючы ніякай надзеі на выратаванне. Але на трэці год мне ўсё ж удалося ўцячы.

Адбылося гэта так: мой уладар заўсёды, раз ці два на тыдзень, браў карабельную шлюпку і плыў на ўзмор'е лавіць рыбу. У кожную такую паездку ён браў з сабою мяне і хлапчука, якога звалі Ксуры. Мы старанна веславалі і як умелі пацяшалі свайго ўладара. А паколькі я, у дадатак, яшчэ аказаўся і някепскім рыбаловам, ён часам пасылаў нас абаіх — мяне і гэтага Ксуры — па рыбу пад наглядам аднаго старога маўра, свайго далёкага родзіча.

Аднойчы мой гаспадар запрасіў двух вельмі важных маўраў пакатацца з ім на яго парусной шлюпцы. Для гэтай паездкі ён нарыхтаваў вялікія запасы яды, якія звечара яшчэ адправіў да сябе на шлюпку. Шлюпка была прасторная. Гаспадар яшчэ гады два назад загадаў свайму карабельнаму цесляру зрабіць там невялікую каюту, а ў каюце — кладоўку для прадуктаў. У гэту кладоўку п і склаў усе прыпасы.

— Можа здарыцца, што госці пажадаюць наладзіць паляванне,— сказаў мне гаспадар.— Вазьмі на караблі тры стрэльбы і занясі іх у каюту.

Я зрабіў усё, што мне было загадана: вымыў палубу, узняў на мачце сцяг і на другі дзень з раніцы сядзеў у шлюпцы і чакаў гасцей. Раптам гаспадар прыйшоў адзін і сказаў, што госці сёння не паедуць, таму што іх затрымалі справы. Затым ён загадаў нам траім — мне, хлапчуку Ксуры і маўру — плыць у нашай шлюпцы на ўзмор'е па рыбу.

— Мае сябры прыйдуць да мяне вячэраць,— сказаў ён,— і таму вы, як толькі наловіце дастаткова рыбы, нясіце яе сюды ж.

Вось тады зноў і абудзілася ва мне даўняя мара пра волю. Цяпер у мяне было судна, і, як толькі гаспадар пайшоў, я пачаў рыхтавацца — не да рыбнай лоўлі, а ў далёкае плаванне. Праўда, я не ведаў, куды паплыву, але

ўсякая дарога добрая — абы-толькі ўцячы з няволі.

— Варта нам было б прыхапіць сабе якую-небудзь яду,— сказаў я маўру,— не будзем жа мы без спросу есці тое, што гаспадар падрыхтаваў гасцям.

Стары згадзіўся са мною і хутка прынёс вялізную кашолку сухароў і тры збаны прэснай вады.



Я ведаў, дзе ў гаспадара стаіць скрыня з віном, і пакуль маўр хадзіў па прадукты, я перанёс усе бутэлькі на шлюпку і паставіў іх у кладоўку, нібыта яны яшчэ раней былі назапашаны для гаспадара.

Апрача таго, я прынёс вялізны кавалак воску (фунтаў на пяцьдзесят вагою) ды прыхапіў маток прадзіва, сякеру, пілу і малаток. З часамі усё гэта нам вельмі прыдалося, асабліва воск, з якога мы рабілі свечкі.

Я прыдумаў яшчэ адну хітрасць, і мне зноў удалося ашукаць даверлівага маўра. Яго імя было Ізмаіл, таму ўсе звалі яго Молі. Вось я яму і сказаў:

— Молі, на судне ёсць гаспадаровы паляўнічыя стрэльбы. Не шкодзіла б нам мець трохі пораху ды некалькі зарадаў — магчыма, нам пашэнціць падстрэліць сабе на абед кулікоў. Гаспадар трымае порах і шрот на караблі, я ведаю.

— Добра,— сказаў ён,— прынясу.

І ён прынёс ладную скураную торбу з порахам — фунта паўтара вагою, а магчыма, і болей. І другую, са шротам — фунтаў пяць ці шэсць. Ён прыхапіў таксама і кулі. Усё гэта было складзена ў шлюпцы. Апрача таго, у гаспадаровай каюце знайшлося яшчэ крыху пораху, які я насыпаў у вялікую бутлю, выліўшы з яе папярэдне рэшткі віна.

Зрабіўшы такі запас усяго неабходнага для далёкага плавання, мы выйшлі з гавані, нібыта на рыбную лоўлю. Я закінуў у ваду свае вуды, але нічога не злавіў (я знарок не выцягваў вуды, калі рыба трапляла на кручок).

— Тут мы нічога не зловім,— сказаў я маўру.— Гаспадар нас не пахваліць, калі мы вернемся да яго з пустымі рукамі. Трэба плысці далей у мора. Магчыма, далей ад берага рыба будзе лепей брацца.

Не падазраючы падману, стары маўр згадзіўся са мною і, паколькі ён стаяў на носе карабля, узняў парус.

Я ж сядзеў за рулём на карме, і, калі судна адышло мілі на тры ў адкрытае мора, я лёг у дрэйф[1] — як быццам для таго, каб зноў узяцца лавіць рыбу. Затым, аддаўшы хлапчуку руль, я перайшоў на нос, падышоў да маўра ззаду і раптам прыўзняў яго і кінуў у мора. Ён зараз жа вынырнуў, таму што плаваў, як корак, і пачаў прасіцца, каб я ўзяў яго ў шлюпку, абяцаючы, што паедзе са мною хоць на край свету. Ён плыў так шпарка за суднам, што вельмі хутка дагнаў бы мяне (вецер быў слабы, і шлюпка ледзь рухалася). Бачачы, што маўр нас хутка дагоніць, я ўскочыў у каюту, узяў там паляўнічую стрэльбу, прыцэліўся ў маўра і сказаў:

— Я не жадаю табе зла, але зараз жа адчапіся ад мяне і хутчэй вяртайся дадому! Ты добры плывец, мора ціхае, ты лёгка даплывеш да берага. Паварочвай назад, і я цябе не зачаплю. Але калі ты не адстанеш ад шлюпкі, я прастрэлю табе галаву, таму што я цвёрда вырашыў здабыць сабе волю.

Ён павярнуў да берага і, я ўпэўнены, без цяжкасці даплыў да яго. Вядома, я мог узяць з сабою гэтага маўра, але старому нельга было давяраць.

Калі маўр адстаў ад шлюпкі, я звярнуўся да хлопчыка і сказаў:

— Ксуры, калі ты будзеш мне аддадзены, я зраблю табе многа дабра. Пакляніся, што ты ніколі не здрадзіш мне, інакш я і цябе кіну ў мора.



Хлопчык усміхнуўся, гледзячы мне проста ў вочы, і пакляўся, што будзе адданы мне да самае смерці і паедзе са мною, куды я захачу.

Гаварыў ён так шчыра, што я не мог яму не паверыць.

Пакуль маўр не наблізіўся да берага, я трымаў курс ў адкрытае мора, лавіруючы супроць ветру, каб усе думалі, што мы ідзём да Гібралтара.

[1] Легчы ў дрэйф — размясціць парусы на судне так, каб яно заставалася амаль нерухомым.

Але як толькі пайшло на адвячорак, я пачаў кіраваць на поўдзень, прытрымліваючыся патроху ўсходу, таму што мне не хацелася аддаляцца ад берага. Дзьмуў вельмі свежы вецер, але мора было роўнае, спакойнае, і таму мы ішлі добрым ходам.

Калі ж на другі дзень к тром гадзінам наперадзе ўпершыню паказалася зямля, мы былі ўжо міль на паўтараста паўднёвей Салеха, далёка ўжо за межамі ўладанняў мараканскага султана, ды і ўсякага іншага з афрыканскіх цароў. Бераг, да якога мы набліжаліся, быў зусім бязлюдны.

Але ў палоне я набраўся такога страху, так баяўся зноў трапіць да маўраў, што, карыстаючыся спрыяльным ветрам, які падганяў маю шлюпку на поўдзень, пяць дзён плыў наперад і наперад, не становячыся на якар і не выходзячы на бераг.

Праз пяць дзён вецер змяніўся: падзьмуў з поўдня, і паколькі цяпер я ўжо не баяўся пагоні, то вырашыў падысці да берага і кінуць якар у вусці нейкай маленькай рэчкі. Не магу сказаць пэўна, што гэта за рэчка, дзе яна працякае і якія людзі жывуць на яе берагах. Берагі яе былі пустэльныя, і гэта мяне вельмі ўзрадавала, таму што ў мяне не было ніякага жадання сустракацца з людзьмі. Адзінае, што мне было патрэбна,— прэсная вада.

Мы зайшлі ў вусце пад вечар і вырашылі, калі сцямнее, дабрацца да сушы ўплаў і агледзець усё навокал. Але як толькі сцямнела, мы пачулі страшэнныя гукі: бераг кішэў звярамі, якія так шалёна вылі, рыкалі, раўлі і брахалі, што бедны Ксуры ледзь не памёр ад страху, і Ксуры пачаў упрошваць мяне не выходзіць на бераг да раніцы.

— Добра, Ксуры,— сказаў я яму,— пачакаем! Але можа здарыцца так, што пры дзённым святле мы ўбачым людзей, якіх нам трэба асцерагацца больш, чым лютых ільвоў і тыграў.

— А мы стрэлім у гэтых людзей са стрэльбы,— сказаў ён, смеючыся,— і яны ўцякуць.

Мне было прыемна, што хлапчук трымаецца малайцом. Каб ён і надалей не вешаў носа, я даў яму глыток віна.

Я паслухаў яго парады, і ўсю ноч мы прастаялі на якары, не выходзячы з лодкі і трымаючы напагатове стрэльбы. Да самай раніцы нам не давялося заплюшчыць вачэй ні на хвіліну.

Гадзіны праз дзве пасля таго, як мы кінулі якар, мы пачулі страшэнны рык нейкіх велізарных звяроў вельмі дзіўнай пароды (якой — мы і самі не ведалі). Звяры наблізіліся да берага, зайшлі ў рэчку і пачалі плюхацца і валтузіцца ў вадзе, жадаючы, відаць, асвяжыцца, і пры гэтым вішчалі, раўлі і вылі; такіх агідных гукаў я да таго часу ніколі не чуў.

Ксуры дрыжаў ад страху; шчыра кажучы, напалохаўся і я.

Але мы яшчэ больш напалохаліся, калі пачулі, што адно страшыдла плыве да нашага судна. Мы не маглі яго бачыць, мы толькі чулі, як яно фыркае і сапе, і толькі па гэтых гуках здагадаліся, якое яно вялізнае і лютае.

— Напэўна, гэта леў,— сказаў Ксуры.— Давайце падымем якар і хутчэй паплывём адсюль.

— Не, Ксуры,— запярэчыў я,— навошта знімацца з якара? Мы адпусцім як мага даўжэй канат і адыдзем далей у мора — і звяры не пагоняцца за намі.

Але толькі вымавіў я гэтыя словы, як убачыў невядомага звера на адлегласці двух вёсел ад нашага судна. Я крыху разгубіўся, аднак зараз жа ўзяў з каюты стрэльбу і стрэліў. Звер павярнуўся і паплыў назад.

Немагчыма апісаць, які раз'юшаны роў узняўся на беразе, калі прагрымеў мой стрэл: напэўна, усе гэтыя звяры ніколі да гэтага не чулі такога гуку. Тут я канчаткова ўпэўніўся, што ў начны час выходзіць на бераг нельга. Але ці можна будзе рызыкнуць высадзіцца днём — гэтага мы таксама не ведалі. Стаць ахвярай якога-небудзь дзікуна не лепш, чым трапіць у кіпцюры льву ці тыгру.

Але нам, чаго б гэта ні каштавала, неабходна было выйсці на бераг тут ці ў іншым месцы, бо ў нас не засталося ні кроплі прэснай вады. Мы пакутавалі ад смагі. Нарэшце надышла доўгачаканая раніца. Ксуры сказаў, што, калі я пушчу яго, ён дабярэцца да бе-

рага ўброд і пастараецца здабыць прэсную ваду. А калі я спытаў у яго, чаму павінен ісці ён, а не я, ён адказаў:

— Калі прыйдзе дзікі чалавек, ён з'есць мяне, а вы застанецеся жыць.

Адданасць і любоў да мяне, што прагучалі ў гэтым адказе, бясконца мяне кранулі.

— Вось што, Ксуры,— сказаў я,— пойдзем разам. А калі з'явіцца дзікі чалавек, мы застрэлім яго, і ён не з'есць ні цябе, ні мяне.

Я даў хлопчыку сухароў і глыток віна; затым мы падплылі да зямлі, скочылі ў ваду і накіраваліся ўброд да берага, не ўзяўшы з сабою нічога апрача стрэльбаў і двух пустых збаноў на ваду.

Я не хацеў аддаляцца ад берага, каб не губляць з вачэй нашага судна. Я баяўся, што ўніз па рацэ да нас могуць спусціцца ў сваіх пірогах [1] дзікуны. Але Ксуры, убачыўшы лагчынку на адлегласці мілі ад берага, памчаўся са збаном туды.

Раптам я бачу — ён бяжыць назад. «Ці не пагналіся за ім дзікуны? — спалохаўся я.— Ці не спужаўся ён якога-небудзь дзікага звера?»

Я кінуўся да яго на выручку і, падбегшы бліжэй, убачыў, што за спіною ў яго нешта вісіць. Аказваецца, ён забіў нейкага звярка, накшталт нашага зайца, толькі шэрсць у яго была другога колеру і ногі даўжэйшыя. Мы абодва былі рады гэтай дзічыне, але я яшчэ больш узрадаваўся, калі Ксуры сказаў, што ён знайшоў у лагчыне многа добрай прэснай вады.

Набраўшы поўныя збаны вады, мы прыгатавалі шыкоўнае снеданне з забітага звярка і паплылі далей. Так мы і не знайшлі ў гэтай мясцовасці ніякіх слядоў чалавека.

Пасля таго як мы выйшлі з вусця рэчкі, мне яшчэ некалькі разоў даводзілася ў час нашага далейшага плавання прычальваць да берага, каб набраць вады.

Аднойчы ўранні мы кінулі якар каля нейкага высокага мыса. Пачаўся ўжо прыліў. Раптам Ксуры, у якога былі вельмі зоркія вочы, прашаптаў:

[1] Пірога — доўгі човен, выдзеўблены са ствала дрэва.

— Паплывём далей ад гэтага берага. Зірніце, якое страшыдла ляжыць вунь там на пагорку. Яно моцна спіць, але невядома, што будзе, як яно прачнецца.

Я зірнуў у той бок, куды паказваў Ксуры, і сапраўды ўбачыў страшэннага звера. Гэта быў велізарны леў. Ён ляжаў пад выступам гары.

— Слухай, Ксуры,— сказаў я.— Ідзі на бераг і забі гэтага льва.

Хлопчык спалохаўся.

— Каб я яго забіў! — усклікнуў ён.— Ды гэты ж леў мяне праглыне, як муху!

Я папрасіў яго не варушыцца і, не сказаўшы яму больш ні слова, прынёс з каюты ўсе нашы стрэльбы (іх было тры). Адну, самую вялікую, я зарадзіў двума кавалкамі свінца, папярэдне насыпаўшы ў рулю добры зарад пораху; у другую ўкаціў дзве вялікія кулі, а ў трэцюю — пяць куль паменей.

Узяўшы першую стрэльбу і старанна прыцэліўшыся, я стрэліў у звера. Я цэліўся яму ў галаву, але ён ляжаў так, што лапа прыкрывала галаву на ўзроўні вачэй, і зарад трапіў у лапу і раздрабіў косць. Леў зароў і ўсхапіўся, але, адчуўшы раптам боль, паваліўся, потым падняўся на трох лапах і закульгаў далей ад берага з такім ровам, якога я ніколі не чуў.

Я быў крыху збянтэжаны, што не пацэліў яму ў галаву; аднак, не марудзячы ні хвіліны, узяў другую стрэльбу і стрэліў зверу наўздагон. На гэты раз мой зарад трапіў якраз у цэль. Леў паваліўся з ледзь чутным хрыплым стогнам.

Калі Ксуры ўбачыў параненага звера, увесь яго страх прайшоў, і ён пачаў прасіць мяне, каб я пусціў яго на бераг.

— Ідзі,— сказаў я.

Хлопчык скочыў у ваду і паплыў да берага, грабучы адной рукою, таму што ў другой трымаў стрэльбу. Наблізіўшыся да звера, ён прыставіў рулю стрэльбы яму да вуха і забіў насмерць.

Вядома, прыемна было застрэліць на паляванні льва, але мяса яго было непрыдатна для яды, і я пашкадаваў, што мы страцілі тры зарады на такую нікчэмную дзічыну. Ад-

нак Ксуры сказаў, што ён ўсё ж паспрабуе чым-небудзь пажывіцца ў забітага льва і, калі мы вярнуліся ў шлюпку, папрасіў у мяне сякеру.

— Навошта? — спытаў я.

— Адсекчы яму галаву,— адказаў ён.

Аднак адсекчы галаву ён не здолеў, у яго не хапала сілы: ён адсек толькі лапу і прынёс яе на нашу шлюпку. Лапа была неймавернага памеру.

Тут мне падумалася, што шкура гэтага льва можа нам спатрэбіцца, і я вырашыў паспрабаваць злупіць з яго шкуру. Мы зноў вярнуліся на бераг, але я не ведаў, як нават прыступіцца да гэтай работы. Ксуры аказаўся больш спрытны, чым я.

Працавалі мы цэлы дзень. І злупілі шкуру толькі пад вечар. Мы расцягнулі яе на даху нашай маленькай каюты. Праз два дні яна зусім высахла на сонцы і потым служыла нам за пасцель.

Адчаліўшы ад гэтага берага, мы паплылі проста на поўдзень і дзён дзесяць — дванаццаць плылі, не мяняючы свайго кірунку. Харч наш канчаўся, і таму нашы запасы мы стараліся расцягнуць як мага надалей. На бераг мы выходзілі толькі па прэсную ваду.

Я хацеў дабрацца да вусця ракі Гамбіі ці Сенегала, гэта значыць да тых мясцін, якія прылягаюць да Зялёнага мыса, таму што спадзяваўся сустрэць там які-небудзь еўрапейскі карабель. Я ведаў, што, калі я не сустрэну карабля ў гэтых мясцінах, мне застанецца або плыць у адкрытае мора на пошукі астравоў, або загінуць сярод чарнаскурых — іншага выбару ў мяне не было.

Я ведаў, што ўсе караблі, якія ідуць з Еўропы, куды б яны ні накіроўваліся — ці да берагоў Гвінеі, ці ў Бразілію, ці ў Ост-Індыю,— праходзяць паўз Зялёны мыс, і таму мне здавалася, што ўсё маё шчасце залежыць ад таго, сустрэну я ці не якое-небудзь еўрапейскае судна каля Зялёнага мыса.

«Калі не сустрэну,— казаў я сабе,— мне пагражае верная смерць».

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### Сустрэча з дзікунамі

Прайшло яшчэ дзён дзесяць. Мы няўхільна рухаліся на поўдзень.

Спачатку ўзбярэжжа было пустэльнае; потым разы два-тры ў розных мясцінах мы ўбачылі голых чарнаскурых людзей, якія стаялі на беразе і пазіралі на нас.

Я неяк надумаўся выйсці на бераг і пагутарыць з імі, але Ксуры, мой мудры дарадца, сказаў:

— Не хадзі! Не хадзі! Не трэба!

І ўсё-такі я пачаў трымацца бліжэй да берага, каб мець магчымасць пагутарыць з гэтымі людзьмі. Дзікуны, відаць, зразумелі маё жаданне і доўга беглі за намі берагам.

Я заўважыў, што ў іх не было зброі; толькі адзін з іх трымаў у руках доўгі тонкі кій. Ксуры сказаў мне, што гэта кап'ё і што дзікуны кідаюць свае коп'і вельмі далёка і на дзіва трапна. Таму я трымаўся воддаль ад іх і размаўляў з імі на мігах, імкнучыся растлумачыць ім, што мы галодныя і ў нас няма ежы. Яны зразумелі нас і пачалі, у сваю чаргу, тлумачыць мне, каб я спыніў сваю шлюпку, таму што яны маюць намер прынесці нам ежу.

Я спусціў парус. Шлюпка спынілася. Двое дзікуноў пабеглі некуды і праз паўгадзіны прынеслі два вялікія кавалкі сушанага мяса і два мяхі з зярнятамі нейкага хлебнага злака, які рос у тых мясцінах. Мы не ведалі, якое гэта было мяса і якія зярняты, аднак адразу ж згадзіліся ўзяць і тое і другое.



Але як забраць падарунак, які нам прапанавалі? Выйсці на бераг мы не адважваліся: мы баяліся дзікуноў, а яны — нас. І вось, каб абодва бакі адчувалі сябе ў бяспецы, дзікуны склалі на беразе ўсю правізію, і самі адышліся далей. І толькі пасля таго, як мы пераправілі правізію на шлюпку, яны вярнуліся на ранейшае месца.

Дабрыня дзікуноў усхвалявала нас, мы дзякавалі ім на мігах, таму што самі не маглі зрабіць ім ніякіх падарункаў.

Праўда, у той жа момант здарылася магчымасць і ў нас зрабіць ім вялікую паслугу.

Не паспелі мы адплысці ад берага, як раптам убачылі, што з-за гор выбегла два магутныя страшэнныя звяры. Яны імчаліся што было сілы проста да мора. Нам здалося, што адзін з іх гоніцца за другім. Людзі, якія былі на беразе, асабліва жанчыны, страшэнна напалохаліся. Усчалася мітусня, некаторыя закрычалі, заплакалі. Толькі той дзікун, у якога было кап'ё, застаўся на месцы, усе астатнія кінуліся бегчы хто куды. Але звяры імчаліся проста да мора і нікога з чарнаскурых не зачапілі. Тут толькі я ўбачыў, якія яны велізарныя. Яны з разбегу кінуліся ў ваду і пачалі даваць нырца і плаваць, так што, бадай, можна было падумаць, нібыта імчаліся яны сюды з адзіным толькі намерам пакупацца ў моры.

Раптам адзін з іх падплыў даволі блізка да нашай шлюпкі. Гэтага я не чакаў, але для мяне гэта не было знянацку: зарадзіўшы хутчэй стрэльбу, я падрыхтаваўся сустрэць ворага. Як толькі ён наблізіўся да нас на адлегласць ружэйнага стрэлу, я спусціў курок і прастрэліў яму галаву. У той жа момант звер апусціўся ў ваду, потым вынырнуў і паплыў назад да берага, то знікаючы ў вадзе, то ўсплываючы зноў на паверхню. Ён змагаўся са смерцю, захлынаючыся ў вадзе і сцякаючы крывёю. Не даплыўшы да берага, ён пайшоў на дно.

Ніякімі словамі немагчыма выказаць, як былі ашаломлены дзікуны, калі пачулі грукат і ўбачылі агонь майго стрэлу: некаторыя ледзь не паўміралі са страху, пападалі ніцма на зямлю, як нежывыя.

Але, убачыўшы, што звер забіты і я раблю ім знакі падысці бліжэй да берага, яны пасмялелі і стоўпіліся каля самай вады: відаць, ім вельмі хацелася знайсці пад вадою забітага звера. У тым месцы, дзе ён затануў, вада была пафарбавана крывёю, і таму я вельмі лёгка адшукаў яго. Зачапіўшы звера вяроўкаю, я кінуў канец яе дзікунам, і яны прыцягнулі забітага звера да берага. Гэта быў вялізны леапард з незвычайна прыгожай плямістай шкурай. Стоячы над ім у здзіўленні, дзікуны ўзнялі рукі ўгару; яны не маглі зразумець, чым я забіў яго.

Другі звер, напалохаўшыся майго стрэлу, падплыў да берага і памчаўся назад у горы.

Я заўважыў, што дзікунам вельмі хацелася паласавацца мясам забітага леапарда, і мне прыйшло ў галаву, што будзе добра, калі я падару ім яго.

Я паказаў ім на мігах, што яны могуць забраць звера сабе.

Яны горача падзякавалі мне і ў той жа момант узяліся за справу. Нажоў яны не мелі і дзейнічалі вострай трэскай, аднак шкуру з мёртвага звера злупілі так хутка і спрытна, як бы мы не справіліся і нажом.

Яны прапанавалі мне мяса, але я адмовіўся, знакам паказаўшы, што дарую яго ім. Я папрасіў у іх шкуру, якую яны аддалі мне вельмі ахвотна. Апрача таго, яны прынеслі мне яшчэ правізіі, і я з радасцю прыняў іх дар. Затым я папрасіў у іх вады: я ўзяў адзін з нашых збаноў і перавярнуў яго дагары дном, каб паказаць, што ён пусты і што я прашу наліць яго. Тады яны нешта крыкнулі. Неўзабаве з'явіліся дзве жанчыны і прынеслі вялікую пасудзіну з абпаленай гліны (напэўна, дзікуны абпальваюць гліну на сонцы). Гэту пасудзіну жанчыны паставілі на беразе, а самі адышліся, як і раней. Я адправіў Ксуры на бераг з усімі трыма збанамі, і ён наліў іх да краёў.

Атрымаўшы такім чынам ваду, мяса і хлебныя зярняты, я развітаўся з прыязнымі дзікунамі і на працягу адзінаццаці дзён плыў у ранейшым кірунку.

Кожную ноч у час штылю мы выкрасалі агонь і запальвалі ў ліхтары самаробную свечку, спадзеючыся, што якое-небудзь судна заўважыць наша малюсенькае полымейка, але ніводнага карабля нам так і не трапілася па дарозе.



Нарэшце, міляў за пятнаццаць наперадзе, я ўбачыў паласу зямлі, якая далёка выступала ў мора. Надвор'е было ціхае, і я скіраваў у адкрытае мора, каб абагнуць гэту касу. У той момант, калі мы абгіналі яе, я выразна ўбачыў міляў за шэсць ад берага з боку акіяна другую зямлю і зрабіў для сябе вывад, што вузкая каса — гэта і ёсць Зялёны мыс, а тая зямля, што бачыцца ўдалечыні,— адзін з астравоў Зялёнага мыса. Але астравы былі вельмі далёка, і я не адважыўся накіравацца да іх.



Раптам я пачуў крык Ксуры:

— Пан! Пан! Карабель і парус!

Наіўны хлапчук быў так напалоханы, што ледзь не страціў розум: уявіў сабе, нібыта гэта адзін з караблёў яго гаспадара, пасланых за намі ў пагоню. Але я ведаў, наколькі далёка былі мы цяпер ад маўраў, і быў упэўнены, што баяцца іх ужо няма чаго.

Я выскачыў з каюты і адразу ж убачыў карабель. Мне нават удалося разгледзець, што карабель гэты партугальскі. «Напэўна, ён накіроўваецца да берагоў Гвінеі»,— падумаў я. Але, уважліва ўгледзеўшыся, я ўпэўніўся, што карабель ідзе ў другім кірунку і не мае намеру паварочваць да берага. Тады я ўзняў усе парусы і памчаўся ў адкрытае мора. Я вырашыў, чаго б гэта ні каштавала, дагнаць карабель і пачаць з ім перагаворы.

Хутка, аднак, я зразумеў, што, нават ідучы поўным ходам, я не здолею падысці настолькі блізка, каб на караблі маглі заўважыць мае сігналы. Але якраз у той час, калі мяне пачала ўжо апаноўваць роспач, нас заўважылі з палубы — напэўна, у падзорную трубу. Як я потым даведаўся, на караблі вырашылі, што гэта шлюпка з якога-небудзь затанулага еўрапейскага судна. Карабель лёг у дрэйф, каб даць мне магчымасць наблізіцца, і я прычаліў да яго гадзіны праз тры.

Мяне спыталі, хто я такі, спачатку па-партугальску, потым па-іспанску, затым па-французску, але ні аднае з гэтых моў я не ведаў. Нарэшце адзін матрос, шатландзец, загаварыў са мною па-англійску, і я сказаў яму, што я англічанін і што я ўцёк з палону. Тады мяне і майго спадарожніка вельмі прыязна запрасілі на карабель. Хутка мы апынуліся на палубе разам з нашай шлюпкай.

Немагчыма выказаць, які шчаслівы я быў, калі адчуў сябе на волі. Я быў выратаваны і ад рабства і ад смерці, якая мне пагражала! Шчасце маё было бязмежнае. Ад радасці, каб аддзячыць, я прапанаваў капітану, майму выратавальніку, усю маёмасць, якая ў мяне была. Але капітан адмовіўся.

— Мне нічога не трэба,— сказаў ён.— Усе вашы рэчы будуць захаваныя, і вы атрымаеце іх, як толькі мы прыбудзем у Бразілію. Я вы-

ратаваў вам жыццё, бо добра разумею, што са мной таксама магло б здарыцца такое ж няшчасце. І як бы мне было радасна, каб такую ж паслугу зрабілі для мяне вы! Не забывайце таксама, што мы едзем у Бразілію, а Бразілія далёка ад Англіі, і там вы можаце памерці з голаду без гэтых рэчаў. Не таму ж я ратаваў вас, каб потым кінуць на згубу! Не-не, сеньёр, я давязу вас да Бразіліі бясплатна, а рэчы дадуць вам магчымасць забяспечыць сябе харчаваннем і аплаціць праезд на радзіму.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

**Рабінзон селіцца ў Бразіліі.— Ён зноў выпраўляецца ў мора.— Карабель яго церпіць крушэнне**

Капітан быў высакародны і шчодры не толькі на словах, але і на справе. Ён добрасумленна выканаў усе свае абяцанні. Ён загадаў, каб ніводзін з матросаў не адважыўся нават зачапіць маю маёмасць, потым склаў падрабязны спіс усіх рэчаў, якія мне належалі, загадаў змясціць іх разам з яго рэчамі, а спіс уручыць мне, каб, як толькі мы прыплывём у Бразілію, я здолеў атрымаць усё поўнасцю.

Яму захацелася купіць маю шлюпку. Шлюпка сапраўды была добрая. Капітан сказаў, што купіць яе для свайго карабля, і спытаў, колькі я хачу за яе.

— Вы,— адказаў я,— зрабілі мне столькі дабра, што я ні ў якім разе не адважуся ацэньваць шлюпку. Колькі дасце, столькі і вазьму.

Тады ён сказаў, што выдасць мне пісьмовае абавязацельства заплаціць за маю шлюпку восемдзесят чырвонцаў адразу ж, як мы прыдзем у Бразілію. Аднак, калі там у мяне знойдзецца іншы пакупнік, які прапануе мне больш, капітан заплаціць мне столькі ж.

Наша плаванне да Бразіліі скончылася шчасліва. У дарозе мы памагалі матросам, і яны пасябравалі з намі. Пасля дваццаці двух дзён плавання мы зайшлі ў бухту Усіх Святых.



Тут я канчаткова адчуў, што няшчасці мае засталіся ззаду, што я ўжо вольны чалавек, а не раб і што жыццё маё пачынаецца нанава.

Я ніколі не забуду, як высакародна паставіўся да мяне капітан партугальскага карабля.

Ён не ўзяў з мяне ні капейкі грошай за праезд; ён вярнуў мне цэлымі ўсе мае рэчы, нават тры гліняныя збаны; ён даў мне сорак залатых за шкуру льва і дваццаць — за леапардавую. І наогул ён купіў усё, што мне было непатрэбна і што мне выгадна было прадаць, у тым ліку скрыню з вінамі, дзве стрэльбы і воск, які застаўся (частка яго пайшла ў нас на свечкі). Адным словам, калі я прадаў яму большую частку сваёй маёмасці і сышоў на бераг Бразіліі, у кішэні ў мяне было дзвесце дваццаць залатых.

Мне не хацелася разлучацца з маім спадарожнікам Ксуры: ён быў такі верны і надзейны таварыш, ён памог мне здабыць волю. Але ў мяне не было для яго справы, да таго ж я не быў упэўнены, што здолею яго пракарміць. Таму я вельмі ўзрадаваўся, калі капітан сказаў мне, што яму падабаецца гэты хлопчык, што ён з ахвотай возьме яго да сябе на карабель і зробіць марақом.

Неўзабаве пасля таго як мы прыехалі ў Бразілію, мой сябар капітан завёў мяне ў дом аднаго свайго знаёмага. Ён быў уладальнікам плантацый цукровага трыснягу і цукровага завода. Я пражыў у яго даволі доўгі час і дзякуючы гэтаму здолеў вывучыць цукровую вытворчасць.



Бачачы, як добра жывецца тутэйшым плантатарам і як хутка яны багацеюць, я вырашыў пасяліцца ў Бразіліі і таксама заняцца вытворчасцю цукру. На ўсе грошы, што былі ў мяне, я ўзяў у арэнду ўчастак зямлі і пачаў складаць план маёй будучай плантацыі і сядзібы.

У мяне быў сусед па плантацыі, які прыехаў сюды з Лісабона. Звалі яго Уэлс. Родам ён быў англічанін, але ўжо даўно прыняў партугальскае падданства. Мы з ім хутка пасябравалі і былі ў самых прыяцельскіх адносінах. Першыя два гады мы абодва ледзь здолелі пракарміцца ад нашых ураджаяў. Але паступова зямля ўраблялася, і мы багацелі.



Пражыўшы ў Бразіліі гады чатыры і паступова пашыраючы сваю справу, я, вядома, не толькі вывучыў іспанскую мову, але і пазнаёміўся з усімі суседзямі, а таксама і з купцамі з Сан-Сальвадора, бліжэйшага да нас прыморскага горада. Многія з іх зрабіліся маімі сябрамі. Мы часта сустракаліся, і, вядома, я часта расказваў ім пра дзве мае паездкі да Гвінейскага берага, пра тое, як вядзецца гандаль з тамашнімі неграмі і як лёгка там за якія-небудзь цацкі — за пацеркі, нажніцы, нажы, сякеры ці люстэркі — набыць залаты пясок і слановую косць.

Яны заўсёды слухалі мяне з вялікай цікавасцю і падоўгу абмяркоўвалі тое, пра што я расказваў ім.

Аднойчы прыйшлі да мяне трое з іх і, узяўшы з мяне абяцанне, што ўся наша гаворка застанецца таямніцай, сказалі:

— Вы кажаце, што там, дзе вы былі, можна лёгка здабыць цэлыя груды залатога пяску і іншых каштоўнасцей. Мы хочам паслаць карабель у Гвінею па золата. Ці згодны вы паехаць у Гвінею? Вам не давядзецца на гэту справу траціць ні капейкі: мы дамо вам усё, што патрэбна для абмену. За вашу працу вы атрымаеце сваю долю прыбытку, такую ж, як і кожны з нас.

Мне трэба было б адмовіцца і надоўга застацца ва ўрадлівай Бразіліі, але, паўтараю, я заўсёды сам быў вінаваты ва ўсіх сваіх няшчасцях. Мне страшэнна захацелася зведаць новыя марскія прыгоды, і галава ў мяне закруцілася ад радасці.

У юнацтве я не меў сілы адолець сваё захапленне падарожжамі і не паслухаўся добрых бацькоўскіх парад. Так і зараз я не здолеў устояць супроць спакуслівай прапановы маіх бразільскіх сяброў.

Я адказаў ім, што з ахвотай паеду ў Гвінею з той, аднак, умовай, каб у час майго падарожжа яны прыгледзелі за маімі ўладаннямі і выканалі ўсе мае распараджэнні ў тым выпадку, калі я не вярнуся.



Яны ўрачыста абяцалі выканаць мае пажаданні і змацавалі нашу ўмову пісьмовым абавязацельствам. Я ж, са свайго боку, зрабіў завяшчанне на выпадак смерці: усю сваю ру-

хомую і нерухомую маёмасць я завяшчаў партугальскаму капітану, які выратаваў мне жыццё. Але пры гэтым я зрабіў агаворку, каб частку капіталу ён накіраваў у Англію маім старэнькім бацькам.

Карабель быў падрыхтаваны, і мае кампаньёны, згодна ўмове, нагрузілі яго таварам.

І вось яшчэ раз — у нядобрую гадзіну! — 1 верасня 1659 года я ступіў на палубу карабля. Гэта быў той самы дзень, у які восем гадоў назад я ўцёк з бацькоўскага дому і так безразважна загубіў сваю маладосць.

На дванаццаты дзень нашага плавання мы перасеклі экватар і знаходзіліся пад сёмым градусам і сарака двума мінутамі паўночнай шырыні, калі на нас нечакана наляцеў шалёны шквал. Ён наляцеў з паўднёвага ўсходу, потым пачаў дзьмуць у супрацьлеглы бок і, нарэшце, падзьмуў з паўночнага ўсходу — дзьмуў бясконца і з такой жахлівай сілай, што на працягу дванаццаці дзён нам давялося, аддаўшы сябе ва ўладу ўрагану, плысці туды, куды нас гналі хвалі.

Няма чаго і казаць, што ўсе гэтыя дванаццаць дзён я кожную мінуту чакаў смерці, ды і ніхто з нас не спадзяваўся застацца жывы.



Аднойчы на світанні (вецер усё яшчэ дзьмуў з ранейшай сілай) адзін з матросаў крыкнуў:

— Зямля!

Але не паспелі мы выбегчы з кают, каб даведацца, паўз якія берагі нясе наша няшчаснае судна, як адчулі, што яно села на мель. У той жа момант ад нечаканага прыпынку на нашу палубу хлынула такая шалёная магутная хваля, што мы вымушаны былі зараз жа схавацца ў каютах.

Карабель так глыбока засеў у пяску, што не было чаго і думаць сцягнуць яго з мелі. Нам заставалася адно: паклапаціцца пра выратаванне свайго жыцця. У нас было дзве шлюпкі. Адна вісела за кармой; у час шторму яе разбіла і знесла ў мора. Заставалася другая, але ніхто не ведаў, ці здолеем мы спусціць яе на ваду. А між тым доўга думаць не было калі: карабель мог кожную хвіліну разламацца напалам.

Памочнік капітана кінуўся да шлюпкі і з дапамогай матросаў перакінуў яе цераз борт.

Мы ўсе, адзінаццаць чалавек, спусціліся ў шлюпку і аддалі сябе ва ўладу хваль. Хоць шторм ужо і супакоіўся крыху, на бераг усё яшчэ накочваліся велізарныя хвалі і мора шалела.

Наша становішча зрабілася ячшэ больш безнадзейным: мы добра бачылі, што шлюпку павось-вось захлісне і нам не выратавацца. Паруса ў нас не было, а калі б і быў, дык быў бы зусім бескарысны. Мы веславалі да берага з адчаем у сэрцы, як людзі, якіх вядуць на смяротную кару. Мы ўсе разумелі, што, як толькі шлюпка падыдзе да зямлі, прыбой яе адразу ж разаб'е на трэскі. Вецер нас падганяў, і мы налягалі на вёслы, уласнаручна набліжаючы сваю пагібель. Так несла нас мілі чатыры, і раптам раз'юшаны вал, высачэзны, як гара, набег з кармы на нашу шлюпку. Гэта быў апошні, смяртэльны ўдар. Шлюпка перакулілася. І ў той жа момант мы ўсе апынуліся пад вадой. Бура за адно імгненне раскідала нас у розныя бакі.

Немагчыма апісаць тыя пачуцці і думкі, якія зведаў я, калі мяне захліснула хваля. Я вельмі добра плаваю, але ў мяне не было сілы адразу вынырнуць з таго віру, каб перавесці дух, і я ледзь не задыхнуўся. Хваля падхапіла мяне, працягнула па зямлі, разбілася і адхлынула назад, пакінуўшы мяне ледзь жывога, бо я наглытаўся вады. Я перавёў дух і крыху апрытомнеў. Убачыўшы так блізка зямлю (куды бліжэй, чым я спадзяваўся), я ўскочыў на ногі і як мага хутчэй заспяшаўся да берага. Я спадзяваўся дасягнуць яго раней, чым мяне дагоніць і падхопіць наступная хваля, але хутка зразумеў, што мне ад яе не ўцячы: мора наступала на мяне, як вялізная гара; яно даганяла мяне, як быццам раз'ятраны вораг, з якім немагчыма змагацца. Я і не супраціўляўся тым хвалям, што неслі мяне да берага; але, ледзь толькі яны адыходзілі назад, я прыкладаў усе намаганні, каб яны не знеслі мяне ў мора.

Наступная хваля была велізарная: не менш дваццаці ці трыццаці футаў вышыні. Яна пахавала мяне глыбока пад сабою. Затым мяне падхапіла і з незвычайнай хуткасцю памчала да зямлі. Доўга я плыў па цячэнні, памагаючы

яму з усяе сілы, і ледзь не задыхнуўся ў вадзе, як раптам адчуў, што мяне нясе кудысьці ўгару. Хутка, на маё вялікае шчасце, мае рукі і галава апынуліся над паверхняй вады, і хоць секунды праз дзве на мяне нахлынула новая хваля, усё ж гэта кароткая перадышка надала мне сілы і бадзёрасці.

Новая хваля зноў захліснула мяне з галавою, але на гэты раз я прабыў пад вадою не вельмі доўга. Калі хваля разбілася і схлынула, я вытрымаў яе націск, паплыў да берага і хутка зноў адчуў, што ў мяне пад нагамі зямля.

Я пастаяў дзве-тры секунды, уздыхнуў на ўсе грудзі і з апошняй сілы кінуўся бегчы да берага.

Але і на гэты раз я не ўцёк ад раз'ятранага мора: яно зноў кінулася мне наўздагон. Яшчэ два разы хвалі даганялі мяне і неслі да берага, які ў гэтым месцы быў вельмі пакаты.

Апошняя хваля з такою сілай шпурнула мяне аб скалу, што я страціў прытомнасць.

Нейкі час я быў зусім бездапаможны, і калі б у гэты момант мора паспела дагнаць мяне, я абавязкова захлынуўся б у вадзе.

На шчасце, я ў час апрытомнеў. Убачыўшы, што мяне зараз зноў захлісне хваля, я моцна ўчапіўся за выступ скалы і, затрымаўшы дыханне, стараўся перачакаць, пакуль хваля схлыне.

Тут, бліжэй да зямлі, хвалі былі не такія велізарныя. Калі вада схлынула, я зноў пабег наперад і апынуўся зусім блізка ад берага. Наступная хваля хоць і абліла мяне ўсяго з галавой, але ўжо не здолела знесці ў мора.

Я прабег яшчэ некалькі крокаў і з радасцю адчуў, што стаю на сухой зямлі. Я пачаў карабкацца па ўзбярэжных скалах і, дабраўшыся да высокага пагорка, упаў на траву. Тут я быў у бяспецы: тут вада не магла захліснуць мяне.

Я думаю, не існуе такіх слоў, якімі можна было б выказаць пачуцці чалавека, які вярнуўся, можна лічыць, з таго свету! Я пачаў бегаць і скакаць, я размахваў рукамі, я нават спяваў і пусціўся ўпрысядкі. Уся мая істота, калі можна так сказаць, была ахоплена думкамі пра маё шчаслівае выратаванне.

Але тут я раптам успомніў пра сваіх сяброў, якія загінулі. Мне зрабілася шкада іх, таму што за час плавання я паспеў да многіх з іх адчуць прыхільнасць і палюбіць іх. Я ўспамінаў іх імёны і твары. Дарэмна, нікога з іх я больш не бачыў; ад іх і следу не засталося, апрача трох капелюшоў, якія належалі ім, каўпака і двух няпарных чаравікаў, цяпер выкінутых морам на сушу.

Зірнуўшы туды, дзе стаяў наш карабель, я ледзь разгледзеў яго за сцяною высокіх хваль — так ён быў далёка! І я сказаў сабе: «Якое гэта шчасце, вялікае шчасце, што я дабраўся ў такую буру да гэтага далёкага берага!»

Выказаўшы такімі словамі сваю гарачую радасць з выпадку выратавання ад смяртэльнай небяспекі, я ўспомніў, што зямля можа быць гэтакая ж страшная, як і мора, што я не ведаю, куды я трапіў і што мне неабходна ў самы кароткі час уважліва агледзець незнаёмую мясцовасць.

Як толькі я падумаў пра гэта, усё маё захапленне тут жа астыла: я зразумеў, што хоць я і выратаваў сваё жыццё, я не выратаваўся ад няшчасця, нягод і жахаў. Уся адзежа мая наскрозь вымакла, а перамяніцца мне не было ў што. У мяне не было ні ежы, ні прэснай вады, каб падмацаваць свае сілы. Якая будучыня чакала мяне? Або я памру з голаду, або мяне разарвуць лютыя звяры. І што самае сумнае, я не меў магчымасці паляваць на дзічыну, не мог абараніць сябе ад звяроў, бо ў мяне не было ніякай зброі. Наогул пры мне не засталося нічога, апрача нажа і бляшанкі з тытунём.

Гэта прывяло мяне ў такі адчай, што я пачаў бегаць берагам туды і сюды, як звар'яцелы.

Набліжалася ноч, і я з сумам пытаў сам у сябе: «Што чакае мяне, калі ў гэтай мясцовасці водзяцца драпежныя звяры? Яны ж выходзяць заўсёды на паляванне ўначы?»

Непадалёку стаяла шырокае, разгалістае дрэва. Я вырашыў узлезці на яго і праседзець ноч у галлі да раніцы. Нічога іншага я не мог прыдумаць, каб ратавацца ад звяроў. «А пакуль надыдзе раніца,— сказаў я сабе,— я паспею па-



думаць пра тое, якою смерцю наканавана мне памерці, таму што жыць у гэтых пустэльных мясцінах немагчыма».

Мяне мучыла смага. Я пайшоў паглядзець, ці няма дзе паблізу прэснай вады. Адышоўшыся на чвэрць мілі ад берага, на вялікую радасць, я знайшоў ручай.

Напіўшыся і паклаўшы сабе ў рот тытуню, каб суцішыць голад, я вярнуўся да дрэва, узлез на яго і ўладкаваўся сярод галін такім чынам, каб не зваліцца на зямлю, калі засну. Затым выразаў сабе ёмкую сукаватую дубінку на выпадак нападу ворагаў, зручней сеў і ад страшнай стомы моцна заснуў.

Спаў я соладка, як, напэўна, мала каму спалася б на такой нязручнай пасцелі. І наўрад ці прачынаўся хто пасля такога начлегу такім свежым і бадзёрым.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

**Рабінзон на бязлюдным востраве.— Ён здабывае рэчы з карабля і будуе сабе жыллё**

Прачнуўся я позна. Надвор'е было яснае, вецер суцішыўся, мора больш не шалела.



Я зірнуў на пакінуты намі карабель і са здзіўленнем убачыў, што на ранейшым месцы яго ўжо няма. Цяпер яго прыбіла бліжэй да берага. Ён апынуўся непадалёку ад той самай скалы, аб якую мяне ледзь не разбіла хваляй. Напэўна, уначы яго ўзняў прыліў, зрушыў з мелі і прыгнаў сюды. Цяпер ён стаяў не далей мілі ад таго месца, дзе я начаваў. Хвалі, відаць, не разбілі яго: ён добра трымаўся на вадзе.

Я вырашыў зараз жа прабрацца на карабель, каб зрабіць запас правізіі і розных рэчаў.

Злезшы з дрэва, я яшчэ раз агледзеўся кругом. Першае, што я ўбачыў, гэта была наша шлюпка, якая ляжала праваруч на беразе, мілі за дзве адсюль — там, куды яе шпурнуў ураган. Я спачатку пайшоў у тым кірунку, але выявілася, што проста туды не прайсці: у бераг глыбока ўрэзалася бухта, з паўмілі ў шырыню, яна і была перашкодай на дарозе.

Я павярнуў назад, таму што мне было куды важней трапіць на карабель: я спадзяваўся знайсці там яду.

Апоўдні хвалі зусім супакоіліся, і адліў быў такі моцны, што чвэрць мілі да карабля я прайшоў па сухім дне.

Тут зноў у мяне заныла сэрца: мне стала зразумела, што ўсе мы цяпер былі б жывыя, калі б не спалохаліся і не пакінулі свой карабель. Трэба было толькі дачакацца, каб мінуўся шторм, і мы шчасліва дабраліся б да берага, і я не вымушаны быў бы цяпер пакутаваць у гэтай бязлюднай пустыні.

Пры думцы пра сваю адзіноту я заплакаў, аднак успомніўшы, што слёзы ніколі не спыняюць няшчасце, вырашыў, чаго б гэта ні каштавала, дабрацца да разбітага судна. Распрануўшыся, я зайшоў у ваду і паплыў.

Аднак самае цяжкае было яшчэ наперадзе: я не мог узлезці на карабель. Ён стаяў на мелкім месцы, так што амаль цалкам выступаў з вады, а ўхапіцца не было за што. Я доўга плаваў вакол яго і раптам заўважыў карабельны канат (дзіўлюся, як ён адразу не кінуўся мне ў вочы!). Канат звешваўся з люка, і паколькі канец яго быў даволі высока над вадою, то я злавіў яго з вялікай цяжкасцю. Я падняўся па канаце да кубрыка[1]. Падводная частка карабля была прабіта, і трум быў запоўнены вадой. Карабель стаяў на пясчанай водмелі. Карма яго высока ўзнялася, а нос быў амаль у вадзе. Такім чынам вада не трапіла ў карму, і нічога з рэчаў, што там былі, не падмокла. Я заспяшаўся туды, таму што перш за ўсё мне хацелася даведацца, якія рэчы сапсаваліся, а якія засталіся цэлыя.

Выявілася, што ўвесь запас карабельнай правізіі застаўся зусім сухі. І паколькі мяне мучыў голад, то перш за ўсё я пайшоў у кладоўку, набраў сухароў і, працягваючы агляд карабля, еў на хаду, каб не губляць часу. У кают-кампаніі я знайшоў бутэльку рому і некалькі разоў добра глынуў з яе, таму што мне неабходна было падмацаваць свае сілы для працы, якая мяне чакала.



[1] **Кубрык** — памяшканне для матросаў у насавой частцы карабля.

Перш за ўсё мне патрэбна была лодка, каб перавезці на бераг тыя рэчы, якія маглі мне спатрэбіцца. Але лодку ўзяць не было дзе, а жадаць немагчымага бескарысна. Трэба было прыдумаць што-небудзь іншае. На караблі былі запасныя мачты, сценьгі і рэі. З гэтага матэрыялу я вырашыў пабудаваць плыт і горача ўзяўся за работу.

Выбраўшы некалькі лягчэйшых бярвенняў, я выкінуў іх за борт, папярэдне абвязаўшы кожнае бервяно канатам, каб іх не знесла. Затым я спусціўся з карабля, прыцягнуў да сябе чатыры бервяны, моцна звязаў іх з абодвух канцоў, зверху змацаваў яшчэ дзвюма ці трыма дошчачкамі, пакладзенымі накрыж, і ў мяне атрымалася нешта накшталт плыта.

Мяне гэты плыт цудоўна трымаў на сабе, але для большага грузу ён быў вельмі лёгкі і малы.

Давялося мне зноў лезці на карабель. Там я адшукаў пілу нашага карабельнага цесляра і распілаваў запасную мачту на тры бервяны, якія і прыладзіў да плыта. Плыт зрабіўся шырэйшы і больш устойлівы. Гэта работа каштавала мне вялікіх намаганняў, але жаданне зрабіць запас усяго неабходнага для жыцця падтрымлівала мяне, і я зрабіў тое, на што пры звычайных абставінах у мяне не хапіла б сілы.

Цяпер мой плыт быў шырокі і моцны, ён мог вытрымаць значны груз.

Чым жа нагрузіць гэты плыт і што зрабіць, каб яго не змыла прылівам? Доўга думаць не было калі, трэба было спяшацца.

Перш за ўсё я склаў на плыт усе дошкі, якія знайшліся на караблі; потым узяў тры куфры, якія належалі нашым матросам, зламаў замкі і выкінуў з іх усё. Потым я адабраў тыя рэчы, якія маглі спатрэбіцца мне больш за ўсё, і склаў іх у куфры. У адзін куфар я склаў харчовыя прыпасы: рыс, сухары, тры кругі галандскага сыру, пяць вялікіх кавалкаў вэнджанай казляціны, якая была ў нас на караблі за галоўную мясную ежу, і рэшткі ячменю, які мы везлі з Еўропы курам, што трымалі на судне; курэй мы даўно ўжо з'елі, а крыху збожжа засталося. Гэты ячмень быў змешаны з пшаніцай; ён бы вельмі

мне прыдаўся, але, на жаль, як потым выявілася, быў надта папсаваны пацукамі. Апрача таго, я знайшоў некалькі скрынак віна і каля шасці галонаў[1] рысавай гарэлкі, што належалі нашаму капітану.

Гэтыя скрыні я таксама паставіў на плыт поруч з куфрамі.

Між тым, пакуль я быў заняты пагрузкаю, пачаўся прыліў, і я з жалем убачыў, што мой каптан, рубашку і камізэльку, якія я пакінуў на беразе, знесла ў мора. Цяпер у мяне засталіся толькі панчохі ды штаны (палатняныя, кароткія, да каленяў), якія я не скідаў, калі плыў да карабля. Гэта прымусіла мяне падумаць пра тое, каб назапасіць не толькі яды, але і адзежы. На караблі было дастаткова і куртак і штаноў, але я ўзяў адну толькі пару, бо мяне пакуль што куды больш цікавіла многае іншае, і перш за ўсё рабочы інструмент.

Пасля доўгіх пошукаў я знайшоў скрынку нашага цесляра, і гэта была для мяне найкаштоўнейшая знаходка, якую я не прамяняў бы ў той час на цэлы карабель золата. Я паставіў гэту скрынку на плыт, нават не глянуўшы ў яе, таму што мне было добра вядома, які інструмент там захоўваўся.

Цяпер мне заставалася запасціся зброяй і зарадамі. У каюце я знайшоў дзве добрыя паляўнічыя стрэльбы і два пісталеты, якія я паклаў на плыт разам з парахаўніцай, мяшэчкам шроту і дзвюма заржавелымі шашкамі. Я ведаў, што ў нас на караблі было тры бочачкі пораху, але я не ведаў, дзе яны захоўваліся. Аднак у выніку пільных пошукаў усе тры бочачкі знайшліся. Адна, як выявілася, падмокла, а дзве былі сухія, і я перацягнуў іх на плыт разам са стрэльбамі і шашкамі. Цяпер мой плыт быў дастаткова нагружаны, і трэба было кіравацца ў дарогу. Дабрацца да берага на плыце без паруса, без руля — нялёгкая задача: дастаткова было самага слабага стрэчнага ветру, каб усё маё збудаванне перакулілася.

На шчасце, мора было спакойнае. Пачынаўся прыліў, які павінен быў прыгнаць мяне да

[1] Галон — англійская мера вадкіх цел; роўны 3,78 літра.

берага. Апрача таго, узняўся таксама невялікі спадарожны ветрык. Таму, захапіўшы з сабою паламаныя вёслы ад карабельнай шлюпкі, я заспяшаўся назад, да берага. Хутка я заўважыў невялікую бухту, да якой і накіраваў свой плыт. З вялікай цяжкасцю я правёў яго насуперак цячэнню і, нарэшце, зайшоў у гэту бухту, упёршыся ў дно вяслом, таму што там было мелка; і як толькі пачаўся адліў, мой плыт з усім грузам аказаўся на сухім беразе.

Цяпер мне неабходна было разгледзецца вакол і выбраць сабе зручнае месца для жылля — такое, дзе б я здолеў скласці ўсю сваю маёмасць, не баючыся, што яна загіне. Я ўсё яшчэ не ведаў, куды я трапіў: на мацярык ці на востраў. Ці жывуць тут людзі? Ці водзяцца тут драпежныя звяры? За паўмілі ад мяне ці крыху далей відзён быў пагорак, стромкі і высокі. Я вырашыў падняцца на яго, каб агледзець наваколле.

Узяўшы стрэльбу, пісталет і парахаўніцу, я накіраваўся ў разведку.

Карабкацца на вяршыню пагорка было цяжка. Калі ж, нарэшце, я ўскарабкаўся, я ўбачыў, які горкі лёс чакаў мяне: я быў на востраве! Кругом, з усіх бакоў, было толькі мора, за якім нідзе не бачылася зямлі, калі не лічыць усяго некалькі рыфаў, якія тырчалі ўдалечыні, ды двух астраўкоў, што ляжалі міляў за дзевяць на захад.

Гэтыя астраўкі былі маленькія, куды меншыя за мой.

Я зрабіў і яшчэ адно адкрыццё: расліннасць на востраве была дзікая, нідзе не відаць было ні шматка ўробленай зямлі. Значыць, людзей тут і сапраўды не было!

Драпежныя звяры тут як быццам таксама не вадзіліся, ва ўсякім выпадку я не прыкмеціў ніводнага. Затое птушак вадзілася мноства, усё нейкай не вядомай мне пароды, так што потым, калі мне даводзілася падстрэліць птушку, я ніколі не мог вызначыць па выгляду, ці прыдатнае яе мяса для ежы.

Калі я спускаўся з пагорка, я падстрэліў адну птушку, вельмі вялікую: яна сядзела на дрэве на ўзлессі.

Мне здаецца, што гэта быў першы стрэл, які прагучаў у гэтых дзікіх мясцінах. Не па-

спеў я стрэліць, як над лесам узнялася хмара птушак. Кожная крычала на свой лад, але ніводзін з гэтых крыкаў не падобны быў на крык знаёмых мне птушак.

Птушка, якую я забіў, нагадвала мне нашага еўрапейскага коршака і афарбоўкай пер'я і формаю дзюбы. Толькі кіпцюры ў яе былі карацейшыя. Мяса яе аддавала падлай, і я, вядома, не мог яго есці.

Такія былі адкрыцці, якія я зрабіў у першы дзень. Потым я вярнуўся да плыта і пачаў перацягваць рэчы на бераг. На гэта пайшла ў мяне ўся рэшта дня.

Пад вечар я зноў пачаў думаць, як і дзе мне ўладкавацца на ноч.

Легчы проста на зямлю я баяўся: а што, калі на мяне накінецца які-небудзь драпежны звер? Таму, выбраўшы на беразе зручнае месцейка для начлегу, я абгарадзіў яго з усіх бакоў куфрамі і скрынкамі, а ў сярэдзіне гэтай загарожы зладзіў сабе з дошчак нешта накшталт будана.

Непакоіла мяне таксама пытанне, як буду я здабываць сабе ежу тады, калі скончацца мае прыпасы: апрача птушак ды двух нейкіх звяркоў, накшталт нашага зайца, што выскачылі з лесу, пачуўшы мой стрэл, ніякіх іншых жывых істот я тут не бачыў.

Зрэшты, у гэты момант мяне куды больш цікавіла і непакоіла іншае. Я перавёз з карабля вельмі мала з таго, што можна было забраць, і там засталося многа рэчаў, якія маглі мне спатрэбіцца, і перш за ўсё парусы і канаты. Таму я вырашыў, калі мне нішто не перашкодзіць, зноў пабыць на караблі. Я быў упэўнены, што першая ж бура разаб'е яго на трэскі. Трэба было адкласці ўсе іншыя справы і тэрмінова ўзяцца за разгрузку судна. Нельга супакойвацца, пакуль я не перавязу на бераг усе рэчы, да апошняга цвічка.

Прыняўшы такое рашэнне, я пачаў думаць, як мне лепей зрабіць: ехаць на плыту ці плысці самому, як першы раз. Я вырашыў, што зручней будзе плысці. Толькі на гэты раз я ўжо распрануўся ў шалашы, застаўшыся ў адной споднім у клетку сарочцы, у палатняных штанах і скураных пантофлях на босыя ногі. Як і першы раз, я ўзлез на карабель па канату,

затым збіў новы плыт і перавёз на ім многа карысных рэчаў. Па-першае, я забраў усё, што адшукаў у кладоўцы нашага цесляра, менавіта: два ці тры мяхі цвікоў (вялікіх і дробных), адвёртку, тузіны два сякер, а галоўнае — такую карысную рэч, як тачыла.

Потым я прыхапіў некалькі рэчаў, якія я знайшоў у нашага кананіра[1]: тры жалезныя ламы, дзве бочкі з ружэйнымі кулямі і крыху пораху. Потым я адшукаў на караблі яшчэ кучу ўсякага адзення ды яшчэ прыхапіў запасны парус, гамак, некалькі матрацаў і падушак. Усё гэта я склаў на плыце і, на вялікае маё здавальненне, даставіў на бераг як мае быць.

Адпраўляючыся на карабель, я баяўся, каб за маю адсутнасць на мае харчы не напалі якія-небудзь драпежнікі. На шчасце, гэтага не здарылася.

Толькі нейкі звярок прыбег з лесу і расселся на адным з маіх куфраў. Убачыўшы мяне, ён адбег крыху ўбок, але зараз жа спыніўся, стаў на заднія лапы і з непарушным спакоем, без ніякага страху, глядзеў мне проста ў вочы, нібыта жадаў пазнаёміцца са мною.

Звярок быў прыгожы, падобны на дзікага ката. Я прыцэліўся на яго са стрэльбы, але ён не здагадваўся, якая небяспека яму пагражае, і нават не крануўся з месца. Тады я кінуў яму кавалак сухара, хоць з майго боку гэта было і неразумна, таму што сухароў у мяне было мала і мне трэба было быць ашчадным. Аднак звярок мне так спадабаўся, што я не пашкадаваў яму гэты кавалак сухара. Ён падбег, абнюхаў сухар, з'еў яго са смакам і аблізнуўся.

Відаць было, што ён чакае яшчэ. Але я не даў яму больш нічога. І ён пасядзеў трошкі і пайшоў.

Пасля гэтага я ўзяўся будаваць сабе палатку. Я зрабіў яе з парусаў і жэрдак, якія нарэзаў у лесе. У палатку я перанёс усё, што магло сапсавацца ад дажджу і на сонцы, а вакол нагрувасціў пустых куфраў і скрынак на выпадак раптоўнага нападу людзей ці дзікіх звяроў.

[1] Канані р — той, хто страляе з гарматы, артылерыст.

Знадворку ўваход у палатку я загарадзіў вялізнай скрыняй, паставіўшы яе бокам, а з сярэдзіны загарадзіўся дошкамі. Затым я паслаў на зямлі пасцель, паклаў ля ўзгалоўя два пісталеты, а з боку ад пасцелі — стрэльбу і лёг.

Пасля караблекрушэння гэта была першая ноч, калі я спаў у пасцелі. Я без просыпу праспаў да раніцы, таму што ў папярэднюю ноч спаў вельмі мала, а ўвесь дзень працаваў не прысядаючы: спачатку грузіў рэчы з карабля на плыт, а потым перапраўляў іх на бераг.

Ніхто, я думаю, не валодаў такім велізарным складам рэчаў, як я цяпер. Але мне ўсё здавалася мала. Карабель быў цэлы, і пакуль яго не знесла ўбок, пакуль на ім заставалася хоць адна рэч, якую я мог выкарыстаць, я лічыў неабходным вывезці адтуль на бераг усё, што магчыма. Таму кожны дзень я накіроўваўся туды ў час адліву і прывозіў усё новыя і новыя рэчы.

Асабліва паспяховым было маё трэцяе падарожжа. Я разабраў усе снасці і забраў з сабою ўсе вяроўкі. Гэты раз я прывёз вялікі кавалак запаснога брызенту, якім у нас карысталіся, калі трэба было рамантаваць парусы; і бочачку пораху, якая падмокла і якую спачатку я пакінуў на караблі. Нарэшце, я пераправіў на бераг усе парусы; толькі давялося парэзаць іх на кавалкі і перавезці часткамі. Зрэшты, мне не было чаго шкадаваць: парусы мне патрэбны былі зусім не для мараплавання. Уся каштоўнасць іх заключалася ў тым, што яны былі пашыты з брызенту.

Цяпер на караблі не засталося нічога, чаго б не здолеў забраць адзін чалавек. Засталіся толькі грувасткія рэчы, за якія я і ўзяўся ў наступны рэйс. Я пачаў з канатаў. Кожны канат я разразаў на кавалкі такой велічыні, каб мне не вельмі цяжка было з імі спраўляцца, і кавалкамі перавёз тры канаты. Апрача таго, я забраў на караблі ўсе жалезныя часткі, якія толькі здолеўададраць з дапамогай сякеры. Затым я ссек усе рэі, якія яшчэ заставаліся на караблі, пабудаваў плыт большы за ранейшыя і, склаўшы на яго ўвесь гэты цяжар, паплыў да берага.

На гэты раз мне не пашанцавала: мой плыт быў такі цяжкі, што кіраваць ім было амаль немагчыма. Калі я, нарэшце, зайшоў у бухтачку і накіраваўся да берага, дзе была складзена ўся мая маёмасць, плыт раптам перакуліўся, і я апынуўся ў вадзе з усім маім грузам. Я не патануў таму, што гэта адбылося непадалёк ад берага, аднак амаль увесь мой груз быў пад вадою; галоўнае, што патанула жалеза, якім я так даражыў.

Праўда, калі пачаўся адліў, я выцягнуў на бераг амаль усе кавалкі каната і некалькі кавалкаў жалеза. Гэта мяне вельмі стаміла, бо за кожным кавалкам мне даводзілася ныраць у ваду.

Мае паездкі на карабель працягваліся з дня ў дзень, і кожны раз я прывозіў што-небудзь іншае.

Ужо трынаццаць дзён жыў я на востраве і за гэты час адзінаццаць разоў пабыў на караблі і перавёз на бераг усё, што толькі здолелі зрушыць дзве чалавечыя рукі. Не сумняваюся, што, калі б ціхае надвор'е пратрымалася яшчэ, я перавёз бы па частках і ўвесь карабель.

Рыхтуючыся да дванаццатага рэйса, я заўважыў, што ўзнімаецца вецер. Тым не менш, дачакаўшыся адліву, я накіраваўся да карабля. Мне здавалася, што я так аблазіў нашу каюту, што знайсці там што-небудзь ужо было немагчыма. Аднак раптам на вочы мне трапіла маленькая шафа з дзвюма скрынкамі; у адной я знайшоў тры брытвы, нажніцы і з тузін цудоўных відэльцаў і нажоў; у другой скрынцы ляжалі грошы, часткова еўрапейскай, часткова бразільскай срэбнай і залатой манетай,— усяго каля трыццаці шасці фунтаў стэрлінгаў.



Я пагардліва ўсміхнуўся, гледзячы на гэтыя грошы.

— Непатрэбнае смецце,— прамовіў я.— Навошта ты мне цяпер патрэбна? Усю кучу золата я з ахвотай зараз аддаў бы за любы з гэтых капеечных нажоў. Нават калі б ты ляжала цяпер на падлозе, я і тады не сагнуўся б, каб падняць цябе. Мне няма чаго з табою рабіць. Дык ідзі ж на дно марское.

Але, падумаўшы крыху, я ўсё-такі загарнуў грошы ў кавалак брызенту і забраў іх з сабою.

Мора бушавала ўсю ноч, і калі раніцой я выглянуў са свае палаткі, ад карабля не засталося і следу. Цяпер я мог цалкам займацца пытаннем, якое непакоіла мяне з першага дня: што мне рабіць, каб на мяне не напалі драпежныя звяры ці дзікія людзі? Якое жыллё сабе пабудаваць? Выкапаць пячору ці паставіць палатку?

Нарэшце я вырашыў зрабіць і тое і другое.

К гэтаму часу я ўжо ўпэўніўся, што месца, якое я аблюбаваў на беразе, не прыгоднае для пабудовы жылля: гэта была нізкая балоцістая мясціна каля самага мора. Жыць у такіх мясцінах вельмі шкодна. Да таго ж там не было паблізу прэснай вады. Я вырашыў адшукаць іншае месца, больш прыгоднае для жылля. Мне патрэбна было, каб жыллё маё мела засцярогу ад сонечнай спёкі і ад драпежнікаў; каб яно стаяла ў такім месцы, дзе няма вільгаці; каб непадалёку была прэсная вада. Апрача таго, я абавязкова хацеў, каб з майго дома было бачна мора.

«Можа здарыцца, што непадалёк ад вострава з'явіцца карабель,— казаў я сабе,— а калі я не буду бачыць мора, я здолею прапусціць гэты выпадак».

Як бачыце, мяне ўсё яшчэ не пакідала надзея.

Пасля доўгіх пошукаў я нарэшце знайшоў прыдатную мясціну для пабудовы жылля. Гэта была невялікая гладкая пляцоўка на схіле высокага пагорка. Ад вяршыні да самай палянкі пагорак спускаўся крутой сцяной, так што я мог не баяцца нападу зверху. У гэтай сцяне каля самай палянкі было невялікае паглыбленне, як быццам уваход у пячору, аднак ніякай пячоры там не было. Вось тут, якраз супроць гэтага паглыблення, на зялёнай палянцы я і вырашыў паставіць палатку.

Мясціна гэта знаходзілася на паўночна-заходнім схіле пагорка, і таму яна амаль да самага вечара заставалася ў цяні. А пад вечар яе асвятляла сонца.

Перш чым ставіць палатку, я ўзяў завостраны кій і выпісаў ім перад самым паглыбленнем паўкруг, ярдаў [1] каля дзесяці ў дыяметры.

[1] Ярд — англійская мера даўжыні; роўны 0,9144 метра.

Затым па ўсяму паўкругу я набіў у зямлю ў два рады высокіх моцных калоў, завостраных зверху. Паміж двух радоў калоў я пакінуў невялікі прамежак і забіў яго да верху абрэзкамі канатаў, прывезеных з карабля. Я склаў іх у рады, адзін на другі, а з сярэдзіны ўмацаваў агароджу падпоркамі. Агароджа ў мяне атрымалася выдатная: ні пралезці праз яе, ні пералезці цераз яе не здолеў бы ні звер, ні чалавек. Гэта праца патрабавала многа часу і сілы. Асабліва цяжка было насекчы ў лесе жэрдак, перанесці іх на месца пабудовы, абчасаць і ўбіць у зямлю.

Плот быў суцэльны, дзвярэй не было. Заходзіў я ў сваё жыллё і выходзіў з яго, карыстаючыся лескамі. Калі мне патрабавалася зайсці ці выйсці, я прыстаўляў іх кожны раз да частаколу.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### Рабінзон на наваселлі.— Каза і казлянё

Цяжка было мне перацягваць у крэпасць усё маё багацце — правізію, зброю і іншыя рэчы. Ледзь справіўся я з гэтай работай, як тут жа давялося брацца за новую: ставіць вялікую трывалую палатку.

У трапічных краінах дажджы, як вядома, вельмі моцныя і ў пэўную пару года льюць без перапынку многа дзён. Каб захаваць сябе ад вільгаці, я зрабіў двайную палатку, гэта значыць спачатку паставіў адну палатку, меншую, а зверху яе — другую, большую. Знадворную палатку я пакрыў брызентам, які я прыхапіў на караблі разам з парусамі.

Цяпер я спаў ужо не на посцілцы, якая ляжала проста на зямлі, а ў вельмі зручным гамаку, які належаў памочніку нашага капітана.

Я перанёс у палатку ўсе харчовыя прыпасы і іншыя рэчы, якія маглі сапсавацца ад дажджу. Калі ўсё гэта было занесена ў сярэдзіну агароджы, я шчыльна забіў ход, які часова служыў мне замест дзвярэй, і пачаў хадзіць па прыстаўных лесках, пра якія казаў раней. Такім чынам я жыў усё роўна як у крэпасці,

ахаваны ад усякай небяспекі, і мог спаць зусім спакойна.



Умацаваўшы агароджу, я ўзяўся капаць пячору, паглыбляючы тую выемку, якую мела гара. Пячора знаходзілася якраз за палаткай і служыла мне склепам. Выкапанае каменне я зносіў у дворык і складаў уздоўж агароджы. Туды ж ссыпаў я і зямлю, і таму глеба ў дворыку ўзнялася футы на паўтара.

Нямала часу адабрала ў мяне гэта работа. Да таго ж было ў мяне тады і многа іншых спраў і здарылася некалькі прыгод.

Аднойчы, у той час, калі я яшчэ толькі рыхтаваўся ставіць палатку і капаць пячору, набегла раптам чорная хмара і лінуў праліўны дождж. Потым бліснула маланка і ўдарыў страшэнны гром.

У гэтым, вядома, не было нічога незвычайнага, і мяне напалохала, вядома, не сама маланка, а адна думка, якая прамільгнула ў маёй галаве хутчэй маланкі: «Порах!..»

У мяне спынілася сэрца. Я з жахам падумаў: «Адзін удар маланкі можа знішчыць увесь мой порах! А без пораху я не здолею ні абараніцца ад драпежных звяроў, ні здабыць сабе ежы». Дзіўная справа, але ў той час я нават не падумаў пра тое, што калі порах узарвецца, то перш за ўсё загіну я сам.

Гэты выпадак зрабіў на мяне такое моцнае ўражанне, што я, як толькі прайшла навальніца, адклаў на час усе свае будаўнічыя работы і адразу ж узяўся за сталярнае рамяство і шытво: я шыў мяшэчкі і рабіў скрыначкі на порах. Неабходна было падзяліць порах на некалькі частак і кожную хаваць асобна, каб яны не маглі ўспыхнуць усе адразу.

На гэту работу ў мяне пайшло амаль два тыдні. Усяго пораху ў мяне было каля двухсот сарака фунтаў. Я высыпаў яго ў мяшэчкі і скрыначкі, падзяліўшы ўвесь запас прыкладна на сто частак.



Мяшэчкі і скрыначкі я пахаваў у расколіны гары, у такіх мясцінах, куды не магла пранікнуць вільгаць, і дакладна прыкмеціў кожную схованку. За бочачку з адсырэлым порахам я не баяўся — гэты порах усё роўна быў кепскі — і таму паставіў яе, як яна была, у пячору, ці ў сваю «кухню», як я называў яе ў думках.

Увесь гэты час раз на дзень, а то і болей я выходзіў з дому, узяўшы стрэльбу — на праходку, а таксама, каб пазнаёміцца з мясцовай прыродай і, калі будзе выпадак, падстрэліць якую-небудзь дзічыну.

Першага разу, калі накіраваўся ў такую экскурсію, я зрабіў адкрыццё, што на востраве водзяцца козы. Я вельмі ўзрадаваўся, але хутка выявілася, што козы незвычайна чуйныя і спрытныя і падкрасціся да іх няма ніякай магчымасці. Аднак гэта мяне не збянтэжыла: я не сумняваўся, што некалі ўсё роўна навучуся паляваць на іх.

Хутка я заўважыў адну дзіўную з'яву: калі козы знаходзіліся на вяршыні гары, а я ў гэты час паказваўся ў даліне, увесь статак зараз жа ўцякаў ад мяне далей; калі ж, наадварот, козы хадзілі ў даліне, а я быў на гары, тады яны як быццам нават не заўважалі мяне. З гэтага назірання я зрабіў заключэнне, што вочы іх маюць тую асаблівасць, што яны не бачаць таго, што знаходзіцца ўгары. З таго часу я і пачаў так паляваць: я падымаўся на якую-небудзь гару і страляў з вяршыні па козах.

Першым жа стрэлам я забіў маладую казу, якая хадзіла з сысунком. Мне страшэнна шкада было казляняці. Калі маці ўпала, яно ўсё гэтак жа рахмана стаяла каля яе і глядзела на мяне з даверам. Мала таго, дык яно пабегла за мною следам, калі я ўзваліў забітую казу на плечы і панёс яе дадому. Так мы дайшлі да самага дома. Я паклаў казу на зямлю, узяў казляня і перакінуў яго цераз агароджу ў двор. Я спадзяваўся, што выгадую яго і прыручу, але казляня яшчэ не ўмела есці травы, і я вымушаны быў зарэзаць яго. Таго мяса мне хапіла надоўга. Еў я ўвогуле мала, імкнучыся, па магчымасці, ашчаджаць свае прыпасы, асабліва сухары.

Пасля таго калі я канчаткова ўладкаваўся ў сваім новым жыллі, мне прыйшло на думку скласці сабе печ ці ўвогуле які-небудзь ачаг. Неабходна было таксама назапасіць дроў.

Як я рабіў усё гэта, як пабольшыў свой склеп, як паступова жыццё маё набывала нават некаторыя выгоды, я падрабязна раскажу на наступных старонках.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### Каляндар Рабінзона.— Рабінзон уладкоўвае сваё жыллё

Неўзабаве пасля таго як я пасяліўся на востраве, мне раптам прыйшло ў галаву, што калі я не завяду сабе каляндар, то я вельмі хутка згублю лік дням і нават не буду адрозніваць нядзелі ад будзённага дня.

Каляндар я прыдумаў такі: абчасаў сякераю тоўстае бервяно і ўкапаў яго на беразе ў пясок, на тым самым месцы, куды мяне выкінула бура. Да гэтага слупа я прыбіў перакладзіну, на якой выразаў вялікімі літарамі такія словы:

ТУТ Я УПЕРШЫНЮ
СТУПІЎ НА ГЭТЫ ВОСТРАЎ
30 ВЕРАСНЯ 1659 ГОДА.

З таго часу кожны дзень на сваім слупе я рабіў зарубку ў выглядзе кароткай рысачкі. Праз шэсць рысачак я рабіў адну даўжэйшую, якая азначала нядзелю; зарубкі ж, якія значылі першае чысло кожнага месяца, я рабіў яшчэ даўжэйшыя.

Такім чынам я вёў свой каляндар, адзначаючы дні, тыдні, месяцы і гады.

Пералічваючы рэчы, якія я перавёз з карабля, як я казаў ужо, за адзінаццаць разоў, я не ўпамянуў пра розную драбязу, якая хоць і не мела асаблівай каштоўнасці, але ўсё роўна зрабіла мне вялікую паслугу. Так, напрыклад, у каютах капітана і яго памочніка я знайшоў чарніла, пер'і і паперу, тры ці чатыры компасы, некаторыя астранамічныя прыборы, падзорныя трубы, геаграфічныя карты і карабельны журнал. Усё гэта я склаў на ўсякі выпадак у адзін з куфраў, не ведаючы нават, ці спатрэбіцца мне што-небудзь з гэтых рэчаў. Затым мне трапілася некалькі кніг на партугальскай мове. Я забраў іх таксама.

Былі ў нас на караблі два каты і сабака. Катоў я перавёз на бераг на плыту; сабака ж яшчэ ў час самае першае мае паездкі сам скочыў у ваду і паплыў услед за мною. Многа гадоў ён быў маім надзейным памочнікам і служыў мне шчыра і аддана. Ён амаль замяняў мне адносіны з людзьмі, толькі не ўмеў гава-

рыць. О як бы дорага я заплаціў, каб ён загаварыў толькі!

Чарніла, пер'і і паперу я стараўся як мага берагчы. Пакуль у мяне было чарніла, я старанна запісваў усё, што са мною здаралася, і калі ж чарніла скончылася, запісы давялося спыніць, таму што я не ўмеў рабіць чарніла і не мог дадумацца, чым яго замяніць.



Наогул, хоць у мяне і быў такі вялікі склад разнастайных рэчаў, мне, апрача чарніла, яшчэ многа чаго не хапала: у мяне не было ні кіркі, ні рыдлёўкі — ніякага інструмента для земляных работ. Не было ні іголак, ні нітак. Мая бялізна знасілася, але хутка я прывык абыходзіцца зусім без бялізны і не адчуваў у ёй вялікай патрэбы.

У мяне не хапала патрэбных прылад, і таму ўсякая работа ў мяне рабілася вельмі марудна і з вялікімі цяжкасцямі. Той частакол, якім я абгарадзіў сваё жыллё, я гарадзіў амаль цэлы год. Насекчы ў лесе тоўстых жэрдак, начасаць з іх калоў, перацягаць гэтыя калы да палаткі — на ўсё гэта патрабавалася шмат часу. Калы былі вельмі цяжкія, і таму я мог падняць і прынесці за адзін раз не больш аднаго кала. Часам я траціў і два дні толькі на тое, каб вычасаць кол і прынесці яго дадому, а трэці дзень — на тое, каб убіць яго ў зямлю.

Заганяючы калы ў зямлю, я спачатку карыстаўся цяжкой дубінай, а потым успомніў, што ў мяне ёсць жалезныя ламы, якія я прывёз з карабля. Я пачаў працаваць ломам, аднак не скажу, што гэта прынесла мне вельмі вялікую палёгку. Наогул самая цяжкая і стамляючая для мяне работа было ўбіваць у зямлю калы. Але што мне тут было выдумляць? Усё роўна ж у мяне не было на што траціць часу, і другой справы ў мяне не было, апрача блукання па востраве ў пошуках ежы; гэтым я займаўся акуратна штодня.

Часам на мяне нападаў адчай, у такія моманты я адчуваў смяротэльны сум. Каб перамагчы гэтыя горкія пачуцці, я ўзяў пяро і паспрабаваў даказаць сам сабе, што ў маім адчайным становішчы ёсць усё ж нямала і добрага. Я падзяліў старонку папалам і напісаў злева «кепска», а справа «добра», і вось што ў мяне атрымалася:

| Кепска | Добра |
|---|---|
| 1. | 1. |
| Я закінуты на панылы бязлюдны востраў, і ў мяне няма ніякай надзеі на выратаванне. | Але я застаўся жывы, хоць мог бы патануць, як усе мае спадарожнікі. |
| 2. | 2. |
| Я адарваны ад усяго чалавецтва; я пустэльнік, назаўсёды пазбаўлены свету і людзей. | Але я не памёр з голаду і не загінуў у гэтай пустыні. |
| 3. | 3. |
| У мяне мала адзежы, і хутка мне не будзе чым прыкрыцца. | Але клімат тут гарачы, і можна абысціся без адзежы. |
| 4. | 4. |
| Я не здолею абараніцца, калі на мяне нападуць злыя людзі ці дзікія звяры. | Але тут няма ні людзей, ні звяроў. І я магу лічыць сябе шчаслівым, што мяне не выкінула на бераг Афрыкі, дзе столькі драпежнікаў. |
| 5. | 5. |
| Мне няма каму сказаць слова, і ніхто мяне не падбадзёрыць і не суцешыць. | Але я паспеў назапасіць усяго неабходнага для жыцця і забяспечыць сабе пражытак да канца сваіх дзён. |

Гэтыя разважанні былі для мяне вялікай падтрымкай. Я ўбачыў, што мне не варта сумаваць і адчайвацца, таму што нават пры самых цяжкіх выпрабаваннях можна і неабходна знайсці суцяшэнне.

Я супакоіўся і стаў куды больш бадзёры. Да гэтага часу я толькі і думаў, як мне пакінуць востраў; гадзінамі ўглядаўся я ў марскую далячынь — ці не пакажацца дзе-небудзь карабель. Цяпер жа, скончыўшы з дарэмнымі надзеямі, я пачаў думаць пра тое, як мне лепей наладзіць сваё жыццё на востраве.

Я ўжо апісваў сваё жыллё. Гэта была палатка, пастаўленая на схіле гары і абнесеная моцным двайным частаколам. Але цяпер маю агароджу можна было назваць сцяной ці валам,

таму што з надворнага боку ўшчыльную да яе я зрабіў земляны насып, таўшчынёй у два футы.

Праз нейкі час (гады праз паўтара) я паклаў на свой насып жэрдкі, прыхіліўшы іх да адхону гары, а зверху зрабіў насціл з галін і доўгага шырокага лісця. Такім чынам, мой дворык аказаўся пад страхой, і цяпер я мог не баяцца дажджу, які, як я казаў ужо, у пэўную пару года бязлітасна паліваў мой востраў.

Чытач ужо ведае, што ўсю маёмасць я перанёс у сваю крэпасць, спачатку толькі за агароджу, а затым і ў пячору, якую я выкапаў у гары за палаткай. Але я павінен сказаць, што на першым часе ўсе мае рэчы былі бязладна звалены ў кучу і загрувашчвалі ўвесь двор. Я бясконца спатыкаўся на іх, і мне зусім не было дзе павярнуцца. Каб скласці ўсё як мае быць, мне давялося пашырыць пячору.

На шчасце, гара складалася з рыхлага пясчаніку. Пракапаўшы зямлю ўправа, колькі па майму разліку было патрэбна, я ўзяў яшчэ правей і вывеў ход за агароджу.

Гэты скразны падземны ход — чорны ход майго жылля — даў мне магчымасць не толькі смела пакідаць двор і вяртацца дадому, але і значна павялічыў плошчу мае кладоўкі.

Скончыўшы гэты занятак, я ўзяўся майстраваць сабе мэблю. Больш за ўсё мне патрэбен быў стол і крэсла: без стала і крэсла я не меў асалоды нават ад таго, чым я валодаў у маёй адзіноце,— я не мог ні есці па-людску, ні пісаць, ні чытаць.

І вось я зрабіўся сталяром.

Ніколі ў жыцці да таго часу не трымаў я ў руках сталярнага інструмента, і тым не менш, дзякуючы прыроджанай кемлівасці і настойлівасці ў працы, я памалу так налаўчыўся, што, калі б у мяне былі ўсе патрэбныя прылады, я мог бы змайстраваць любую мэблю.



Аднак і без інструмента, ці амаль без інструмента, з адной толькі сякераю і рубанкам, я зрабіў мноства рэчаў, хоць, напэўна, ніхто яшчэ не рабіў іх такім першабытным спосабам і не траціў на гэта столькі працы. Толькі для таго, каб зрабіць дошку, я павінен быў спілаваць дрэва, ачысціць ствол ад галін і часаць яго з абодвух бакоў да таго часу, пакуль

з яго не атрымаецца нешта накшталт дошкі. Спосаб гэты быў і нязручны і мала карысны, таму што з цэлага дрэва атрымлівалася ўсяго адна дошка. Але што было рабіць, даводзілася мірыцца. Да таго ж і мой час і мая праца каштавалі вельмі танна, дык ці не ўсё роўна было, што я буду рабіць.

Такім чынам, перш за ўсё я зрабіў сабе стол і крэсла. На гэта мне прыдаліся кароткія дошкі, якія я прывёз з карабля. Затым сваім першабытным спосабам я начасаў даўгіх дошчак і прыладзіў у маім склепе некалькі паліц, футаў на паўтара шырынёю. Я склаў на іх інструменты, цвікі, кавалкі жалеза і іншую дробязь — словам, зрабіў парадак, каб, як спатрэбіцца, я мог знайсці любую рэч.



Апрача таго, у сцяну свайго склепа я ўбіў калкі, на якіх павесіў стрэльбы, пісталеты і іншыя рэчы.

Калі б хто ўбачыў тады маю пячору, напэўна, падумаў бы, што гэта склад разнастайных гаспадарчых прылад. І я меў сапраўдную радасць, калі заглядваў на гэты склад — так многа было там featuring рознага дабра, у такім парадку былі раскладзены і развешаны ўсе рэчы, і кожная дробязь была ў мяне пад рукою.



З таго часу і пачаў я весці свой дзённік, запісваючы ўсё, што я рабіў на працягу дня. На першым часе мне было не да запісаў: я быў завалены работай; да таго ж у мяне тады быў такі змрочны настрой, што я баяўся, каб ён не адбіўся і на маім дзённіку.



Але цяпер, калі мне, нарэшце, удалося адолець сваю самоту, калі я пакінуў цешыць сябе бескарыснымі марамі і надзеяй, я ўзяўся цяпер абсталёўваць сваё жыллё. Прывёў да ладу сваю хатнюю гаспадарку, змайстраваў сабе стол і крэсла, наогул уладкаваўся па магчымасці зручна і ўтульна і ўзяўся за дзённік. Прыводжу яго тут поўнасцю, хоць значная частка падзей, якія тут апісаны, чытачу вядома ўжо з папярэдніх раздзелаў. Паўтараю, я вёў свой дзённік акуратна, пакуль у мяне было чарніла. Калі ж чарніла скончылася, дзённік міжволі давялося спыніць.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

### Дзённік Рабінзона.— Землетрасенне

**30 верасня 1659 года.** Наш карабель, захоплены страшэнным штормам у адкрытым моры, пацярпеў крушэнне. Увесь экіпаж [1], апрача мяне, патануў; мяне ж, няшчаснага Рабінзона Круза, выкінула ледзь жывога на бераг гэтага праклятага вострава, які я назваў востравам Адчаю.

Да самай ночы мяне прыгняталі змрочныя пачуцці: я ж застаўся без ежы, без жылля; у мяне не было ні адзежы, ні зброі; я не меў дзе схавацца, калі б на мяне напалі ворагі. Чакаць выратавання было дарэмна. Наперадзе мне бачылася толькі смерць: або мяне разарвуць драпежныя звяры, або заб'юць дзікуны, або я памру з голаду.

Калі надышла ноч, я ўзлез на дрэва, таму што баяўся звяроў. Усю ноч я праспаў як забіты, нягледзячы на тое, што ішоў дождж.

**1 кастрычніка.** Прачнуўшыся раніцой, я ўбачыў, што наш карабель прылівам знесла з мелі і прыгнала бліжэй да берага. Гэта надало мне надзеі, што, калі вецер сціхне, я здолею дабрацца да карабля і зраблю сабе запас харчоў і іншых неабходных рэчаў. Я крыху падбадзёрыўся, хоць мяне і не пакідаў сум па маіх таварышах, якія загінулі. Мне ўсё думалася, што калі б мы засталіся на караблі, то мы абавязкова выратаваліся б. Цяпер з яго абломкаў мы здолелі б збудаваць баркас, на якім і выбраліся б з гэтага прапашчага месца.

Як толькі пачаўся адліў, я накіраваўся на карабель. Спачатку я ішоў па аголеным дне мора, а потым паплыў. Увесь гэты дзень не спыняўся дождж, але ветру зусім не было.

**З 1 па 24 кастрычніка** я перавозіў рэчы: Я адплываў на карабель, як толькі пачынаўся адліў, і плыў назад разам з прылівам. Рэчы перавозіў на плытах. Увесь час ішлі дажджы, і часам выяснівалася, але ненадоўга: відаць, на гэтай шырыні зараз час дажджоў.

**25 кастрычніка.** Усю ноч і ўвесь дзень ішоў дождж і дзьмуў моцны парывісты вецер.

[1] Экіпаж судна — матросы і наогул уся каманда карабля.

Карабель за ноч разбіла на трэскі; на тым месцы, дзе ён стаяў, тырчаць нейкія панурыя абломкі, ды і яны бачны толькі ў час адліву. Увесь гэты дзень я клапаціўся пра рэчы: закрываў і ўкручваў іх, каб не папсаваў дождж.

26 кастрычніка. Знайшоў, як мне здаецца, зручнае месца для жылля. Трэба будзе абгарадзіць яго частаколам.

З 27 па 30 кастрычніка. Настойліва працаваў: перацягваў сваю маёмасць у новае жыллё, хоць амаль увесь час ішоў дождж.

31 кастрычніка. Раніцой блукаў па востраве са стрэльбай, спадзеючыся падстрэліць якую-небудзь дзічыну і адначасова агледзець наваколле. Забіў казу. Яе казляня пабегла за мною і правяло мяне да самага дома, але неўзабаве давялося зарэзаць і яго — яно было яшчэ такое малое, што не ўмела скубці траву.

1 лістапада. Паставіў на новым месцы, каля самае гары, вялікую палатку і павесіў у ёй на калах гамак.

4 лістапада. Размеркаваў свой час, вызначыўшы пэўныя гадзіны на паляванне, для работы, для адпачынку і сну. З раніцы, калі няма дажджу, гадзіны дзве ці тры блукаю са стрэльбай па востраве, затым да адзінаццаці працую, у адзінаццаць снедаю, з дванаццаці да дзвюх адпачываю (таму што гэта самая гарачая пара дня), а дзвюх зноў бяруся за работу. Усе рабочыя гадзіны за апошнія два дні я майстраваў стол. У той час я быў яшчэ кепскім сталяром. Але чаму не навучыць бяда! Я раблюся майстрам на ўсе рукі. Безумоўна, такога ж майстэрства дасягнуў бы кожны іншы, каб ён апынуўся ў маім становішчы.

13 лістапада. Ішоў дождж. Зямля і паветра прыкметна асвяжыліся, і стала лягчэй дыхаць, але ўвесь час былі страшэнныя грымоты, бліскала маланка, і я напалохаўся, каб не ўспыхнуў мой порах. Калі скончылася навальніца, я вырашыў увесь свой запас пораху падзяліць на маленькія часцінкі і захоўваць у розных месцах, каб порах не ўзарваўся ўвесь разам.

14, 15 і 16 лістапада. Усе гэтыя дні я майстраваў скрыначкі для пораху; у кожную такую скрыначку можна ўсыпаць адзін-два фунты. Сёння рассыпаў увесь порах у скры-

начкі і схаваў іх у расколінах гары, як мага далей адну ад адной. Учора забіў вялізную птушку. Якая гэта птушка, не ведаю. Але мяса ў яе смачнае.

17 лістапада. Сёння пачаў быў капаць пячору ў пясчанай гары, што за маёй палаткай, каб зручней уладкаваць усю маёмасць. Але для гэтай работы неабходна мець тры рэчы: кірку, рыдлёўку і тачку або кош, каб выносіць накапаную зямлю, а ў мяне нічога гэтага няма. Давялося спыніць работу. Доўга ламаў галаву, што прыдумаць замест гэтых рэчаў ці як зрабіць іх. Замест кіркі паспрабаваў працаваць жалезным ломам; ён нічога, але вельмі цяжкі. Застаецца рыдлёўка і тачка. Без рыдлёўкі як без рук, але я ўсё роўна нічога не здольны прыдумаць — ні як яе зрабіць, ні чым замяніць.

18 лістапада. Знайшоў у лесе тое самае дрэва (ці той жа пароды), якое ў Бразіліі называюць «жалезным», таму што яно незвычайна трывалае. Ледзьве ссек адно дрэва. Мая сякера зусім ступілася. Я адсек ад ствала вялікі цурбан і ледзь данёс яго да свайго жылля — такі цяжкі ён быў! Я вырашыў зрабіць з яго лапату. Дрэва было такое цвёрдае, што гэта работа адабрала ў мяне вельмі многа часу і працы. Але лапату я ўсё-такі зрабіў. Дзяржанне атрымалася не горшае, чым тыя, што робяць у нас, у Англіі, а сама лапата аказалася нетрывалай. Не шкодзіла б абабіць яе жалезам, але лістовага жалеза ў мяне няма, таму яна праслужыла мне нядоўга. І ўсё ж на першым часе я пакарыстаўся ёю на земляных работах, хоць, думаю, ніводная лапата ў свеце не рабілася такім мудрагелістым спосабам, ні на адну не было патрачана столькі працы.

Мне не хапала яшчэ тачкі ці каша. Пра кош не было чаго і думаць; каб сплесці яго, патрэбны былі гнуткія дубцы, а я, нягледзячы на ўсе пошукі, так і не знайшоў іх у лесе. Змайстраваць тачку ў мяне, бадай, хапіла б умення, але ж да тачкі неабходна мець кола, а я не меў ніякага ўяўлення, як робяцца колы. Апрача таго, кола неабходна было надзець на жалезную вось, якой у мяне таксама не было. І таму давялося адмовіцца ад гэтай задумы. Замест тачкі я змайстраваў з дошчак невялікую

скрынку, накшталт тых, у якіх муляры трымаюць вапну.

У гэтай скрынцы я і выносіў накапаную зямлю.

Скрынку зрабіць было лягчэй, чым лапату. Але ўсё разам — скрынка, лапата і дарэмная спроба зрабіць тачку — усё гэта забрала ў мяне чатыры дні, за выключэннем тых ранішніх гадзін, калі я хадзіў са стрэльбай на паляванне. Наогул я рэдкі дзень не хадзіў на паляванне, і амаль не было выпадку, каб я не прынёс якой-небудзь дзічыны.

23 лістапада. Закончыў рабіць лапату і скрынку. Як толькі яны былі гатовы, зноў узяўся капаць пячору. Капаў цэлы дзень, колькі меў сілы. Мне патрэбна было вельмі прасторнае памяшканне, якое адначасова магло б служыць і склепам, і кладоўкаю, і кухняй, і сталовай.

10 снежня. Я працаваў роўна васемнаццаць дзён і ўжо лічыў сваю работу скончанай, як раптам сёння з аднаго краю абвалілася зямля. Відаць, я зрабіў пячору вельмі шырокай. Абвал быў такі, што я напалохаўся: гэта пэўна ўжо, што калі б я сам знаходзіўся ў гэты час у пячоры, то мне ўжо не спатрэбіўся б магільшчык. Гэты сумны выпадак нарабіў мне шмат клопату: трэба будзе выносіць з пячоры ўсю абваленую зямлю, а галоўнае — давядзецца цяпер рабіць падпору да скляпення, інакш не будзе ўпэўненасці, што абвал не паўторыцца.

11 снежня. З сённяшняга дня ўзяўся за работу. Пакуль што паставіў дзве палі і на кожнай па дзве дошкі крыж-накрыж.

17 снежня. Канчаткова ўмацаваў першыя дзве палі і паставіў яшчэ некалькі, таксама з дошкамі наверсе, як і першыя дзве. Цяпер мяне ўжо не палохае ніякі абвал. Палі я паставіў у рад, так што яны будуць служыць у маім склепе і за перагародку. Гэта праца забрала ў мяне цэлы тыдзень. З гэтага дня па 20 снежня прымацоўваў я ў склепе паліцы, забіваў у перагародку цвікі і развешваў усе рэчы, якія можна павесіць.

20 снежня. Перанёс у пячору ўсё начынне і расклаў на месца. Цяпер мая гаспадарка ў парадку. Зрабіў яшчэ адно крэсла і прыбіў некалькі маленькіх палічак для правізіі — ат-

рымалася нешта накшталт буфета. Дошак у мяне застаецца вельмі мала.

24 снежня. Усю ноч і ўвесь дзень ішоў лівень. Не выходзіў з дому.

26 снежня. Дождж спыніўся. Праяснела. Пахаладнела.

27 снежня. Падстрэліў двое казлянят: адно забіў, а другое параніў у нагу, так што яно не здолела ўцячы. Злавіў яго і прывёў дадому на вяроўцы. Дома агледзеў яго нагу: яна была перабіта; я забінтаваў яе.

Заўвага: я адхаяў гэтае казляня; перабітая нага зраслася, і казляня пачало цудоўна бегаць. Але ад мяне яно не ўцякала: я так доўга даглядаў яго, што яно прызвычаілася да мяне і не хацела мяне пакідаць. Яно хадзіла на пашы непадалёк ад мае палаткі. Назіраючы за ім, я падумаў, што добра было б мне развесці хатнюю жывёлу, каб падрыхтаваць сабе харч к таму часу, калі ў мяне скончацца зарады і порах.

28, 29, 30 і 31 снежня. Страшэнная спякота, і зусім няма ветру. Выходзіў з дому на паляванне толькі вечарам. Навёў канчатковы парадак у сваёй гаспадарцы.

1 студзеня 1660 года. Гарачыня не спадае, і ўсё роўна сёння я хадзіў двойчы на паляванне: на досвітку і вечарам. Днём адпачываў. Пад вечар прайшоўся далінаю ў глыбіню вострава і бачыў многа коз, але яны такія палахлівыя, што падысці да іх блізка зусім немагчыма. Хачу паспрабаваць паляваць на іх з сабакам.

2 студзеня. Сёння ўзяў сабаку і нацкаваў яго на коз, але нічога не атрымалася: увесь статак павярнуў раптам насустрач сабаку. Сабака, напэўна, выдатна зразумеў небяспеку, якая яму пагражала, кінуўся наўцёкі і нізашто не хацеў больш наблізіцца да коз.

3 студзеня. Вырашыў зрабіць агароджу і насыпаць вакол яе земляны вал, таму што ўсё яшчэ баюся раптоўнага нападу ворага. Паспрабую зрабіць гэты вал як маг.. мацнейшым...

Сваю агароджу я апісаў ужо на папярэдніх старонках і таму не паўтараю нічога з таго, пра што ідзе гаворка ў маім дзённіку.

Разам з тым, паміж справаю і калі, вядома, дазваляла надвор'е, я працягваў сваё штодзённае блуканне па востраве, адшукваючы дзічы-

ну. У час гэтых блуканняў я зрабіў нямала карысных адкрыццяў. Я, напрыклад, натрапіў на пароду дзікіх галубоў, якія, у адрозненне ад нашых, майстравалі свае гнёзды не на дрэвах, а ў расколінах скал, так што чалавеку дабрацца да іх было куды лягчэй.

Аднойчы я забраў з гнязда птушанят і прынёс іх дадому, каб выкарміць і прыручыць. Я многа патраціў на іх часу, але як толькі яны падраслі і ў іх падужэлі крылы, яны паляцелі адно за адным. Магчыма, аднак, гэта адбылося таму, што я не меў для іх адпаведнага корму.

Пасля гэтага выпадку я нярэдка забіраў птушанят з гнязда, таму што яны былі вельмі смачныя і з іх можна было прыгатаваць цудоўны абед.

За гэты час я зрабіўся сапраўдным сталяром і дзейнічаў сякераю і рубанкам ужо з вялікім майстэрствам.

Але ўсё ж былі і такія рэчы, якія я так і не здолеў змайстраваць. Напрыклад, бочачкі. У мяне было, як я казаў раней, дзве ці тры бочачкі з карабля, якія маглі паслужыць мне ўзорам, але колькі я ні біўся, хоць і патраціў на гэта некалькі тыдняў, у мяне нічога не атрымалася. Я не здолеў ні ўставіць дно, ні падагнаць настолькі шчыльна клёпкі, каб яны не прапускалі вады. Так я і кінуў гэту сваю задуму.

Вельмі цяжка было абыходзіцца без свечак. Здаралася, што, як толькі змеркне (змяркала ў сёмай гадзіне), я вымушаны быў класціся ў пасцель. Я часта ўспамінаў той кавалак воску, з якога мы разам з Ксуры рабілі свечкі ў час нашых вандровак каля берагоў Афрыкі. Але воску ў мяне не было, і адзінае, што я мог прыдумаць, гэта выкарыстаць тлушч тых коз, якіх я страляў на паляванні. І я сапраўды змайстраваў сабе свяцільнік з казінага тлушчу: каганец зляпіў уласнаручна з гліны і як мае быць высушыў яго на сонцы, а кнотам мне паслужыла старая канапляная аборка. Каганец гарэў вельмі цмяна, куды горш, чым свечка з воску. Да таго ж ён вельмі мігаў і разпораз патухаў.



Аднойчы, будучы заняты ўсімі гэтымі справамі па ўладкаванню свае гаспадаркі, я шукаў нейкую патрэбную мне рэч у сябе на складзе

і раптам наткнуўся на невялікі мяшэчак з ячменем; гэта быў той самы ячмень, які мы везлі на караблі нашым гусям і курам. Усё збожжа, якое яшчэ заставалася, было з'едзена пацукамі; так ва ўсякім разе мне здалося, калі я зірнуў у мяшэчак: мне здалося, што там адна труха. Мяшэчак спатрэбіўся мне на порах, я вынес яго на двор і вытрас непадалёку ад пячоры.

Гэта было незадоўга ад таго, як пачаліся ліўні, пра якія я казаў ужо ў сваім дзённіку. Я даўно забыў пра той выпадак, я нават не памятаў, дзе я вытрасаў мяшок.

Але вось прайшло з месяц, і я ўбачыў пад гарою, ля самае пячоры, некалькі зялёных парасткаў, якія толькі што выбіліся з зямлі. Спачатку я падумаў, што гэта якая-небудзь туземная траўка, якую я раней не заўважаў. Але мінула некалькі дзён, і я са здзіўленнем убачыў, што зялёныя сцяблінкі (іх было штук дзесяць — дванаццаць, не болей) закаласіліся і хутка аказаліся каласамі звычайнага ячменю, які расце ў нас у Англіі. Немагчыма перадаць, як усхвалявала мяне гэта адкрыццё. Ад радасці я ледзь не страціў розуму: у першы момант мне здалося, што здарыўся цуд і ячмень вырас сам па сабе, без насення, каб падтрымаць маё жыццё ў жудаснай пустыні.

Гэта недарэчная думка так мяне ўзрушыла, што я заплакаў. І «цуд» на гэтым не скончыўся: хутка паміж каласамі ячменю паказаліся сцяблінкі другой расліны, а менавіта рысу: я іх лёгка пазнаў, бо, калі жыў у Афрыцы, часта бачыў рыс на палях.

Я не толькі быў упэўнены, што гэты рыс і гэты ячмень пасланы мне самім богам, які клапоціцца, каб я не памёр з голаду, але не сумняваўся ў тым, што на востраве мне прызапашана яшчэ нямала такіх каласоў. Я аблазіў усе куточкі свайго вострава, агледзеў усе лагчынкі і пагорачкі, але нідзе не знайшоў ні рысу, ні ячменю.

Толькі тады, нарэшце, я ўспомніў пра мех з птушыным кормам, які я высыпаў каля свае пячоры.

У тым мяшку былі зярняты, з якіх і выраслі гэтыя каласы. «Цуд» тлумачыўся вельмі проста!

Можаце ўявіць сабе, як старанна я сабраў каласы, калі яны паспелі (гэта здарылася ў канцы ліпеня). Я падабраў з зямлі ўсе да адзінага зярняткі і схаваў іх у сухім надзейным месцы. Увесь ураджай першага года я вырашыў пакінуць на насенне: я спадзяваўся, што з цягам часу ў мяне збярэцца такі запас збожжа, што яго будзе хапаць мне і на насенне і на хлеб.

Аднак толькі на чацвёрты год я здолеў адсыпаць на яду частку зярнят, ды і то вельмі нязначную. Справа ў тым, што ў мяне прапаў амаль увесь ураджай ад першага пасеву: я кепска разлічыў час, пасеяў перад самай засухай, і многа насення ў мяне не ўзышло. Але пра гэта я раскажу ў свой час.

Апрача ячменю, у мяне вырасла, як я ўжо казаў, дваццаць ці трыццаць сцяблін рысу. Рыс я сабраў гэтак жа рупліва, пакінуўшы ўвесь першы ўраджай на насенне. Потым, калі рысу сабралася дастаткова, я спёк з яго не тое каб хлеб (мне не было ў чым яго пячы), ■ хутчэй праснакі, якія замянялі хлеб. Праўда, праз нейкі час я ўсё ж прыдумаў спосаб, як пячы хлеб.

Але вяртаюся да свайго дзённіка.

14 красавіка. Агароджа была зусім скончана і завалена знадворку зямлёй. Я глуха забіў уваход, таму што вырашыў дзеля бяспекі заходзіць і выходзіць па прыстаўных лесках, каб знадворку нельга было здагадацца, што за агароджай схавана чалавечае жыллё.



16 красавіка. Скончыў лескі. Пералажу цераз сцяну і кожны раз падымаю лескі за сабою. Цяпер я агароджаны з усіх бакоў. У маёй крэпасці дастаткова прасторна, і пранікнуць сюды можна толькі цераз сцяну.

Аднак на другі дзень пасля таго, як я канчаткова замураваў сваю агароджу, здарылася адна падзея, якая страшэнна мяне напалохала; уся мая праца ледзь не прапала марна, ды і сам я ледзь застаўся жывы.

Вось як усё адбылося.

Я чымсьці быў заняты на дварэ, за палаткай, ля самай пячоры, як раптам са столі пячоры, з краю, якраз над маёй галавой, пасыпалася зямля і пярэднія палі, якія я паставіў, каб змацаваць скляпенне, абваліліся са страшэнным трэскам. Я вельмі напалохаўся, але не зразу-

меў, што адбылося. Мне здалося, што скляпенне абвалілася, як гэта здаралася і раней, таму што была рыхлая глеба.

«Калі я застануся тут,— падумаў я,— мяне засыпле новым абвалам. Трэба хутчэй уцякаць адсюль, каб на мяне не абвалілася гара!»

Я схапіў лескі і пералез цераз сцяну.

Не паспеў я ступіць на зямлю, як зразумеў, што прычынай абвалу гэты раз было землетрасенне. Зямля хадзіла ў мяне пад нагамі, і на працягу некалькіх хвілін здарылася тры такіх моцных штуршкі, што магло рассыпацца самае моцнае збудаванне. Я бачыў, як ад скалы, што высілася над морам, раптам адкалолася вяршыня і абвалілася з такім грукатам, якога я не чуў ні разу за ўсё сваё жыццё.

Усё мора страшэнна бушавала і пенілася, і мне здаецца, што на моры падземныя штуршкі былі куды мацнейшыя нават, чым на востраве.

Нічога падобнага раней я не чуў і не бачыў і таму зараз быў страшэнна здзіўлены і ўзбуджаны. Ад ваганняў зямлі ў мяне пачалася марская хвароба, як ад карабельнай гайданкі. Мяне пачало ванітаваць. Мне здавалася, што я паміраю.

У гэты час са страшэнным грукатам абвалілася скала. Да мяне вярнулася свядомасць, і мне прыйшла ў галаву страшэнная думка: што здарыцца са мною, калі на маю палатку абваліцца гара і назаўсёды пахавае ўсе мае рэчы, маю яду — усё, без чаго я не здолею пражыць? І сэрца зноў замерла.

Пасля трэцяга штуршка надышло зацішша. Я адчуў сябе лепш, але ў мяне ўсё-такі не хапала адвагі адразу вярнуцца дадому. Доўга яшчэ, панылы, сядзеў я на зямлі, не ведаючы, што вырашыць, з чаго пачаць.

Між тым хмары засланілі неба і як перад дажджом сцямнела. Падзьмуў ветрык, спачатку невялікі, амаль непрыкметны, потым ён усё мацнеў і мацнеў, і праз паўгадзіны наляцела бура. Мора ўспенілася, закіпела і з шалёным выццём пачало кідацца на берагі. Дрэвы выварочвала з карэннем. Так працягвалася гадзіны тры. Ніколі не бачыў я такое раз'юшанай буры. Потым бура пачала патроху сціхаць. Гадзіны праз дзве надышла цішыня, і тады хлынуў лівень.

**Увесь наступны дзень 18 красавіка** я праседзеў дома, таму што дождж ішоў не сціхаючы. Патроху я супакоіўся і пачаў цвяроза ўзважваць сваё становішча. Я так разважаў. Жыць у пячоры я больш не здолею, таму што гэта вельмі небяспечна: калі на востраве здараюцца землетрасенні, цяпер ці пасля гара абавязкова абваліцца і пахавае мяне жывога; трэба, значыць, перанесці палатку куды-небудзь на голае месца. А каб пазбегнуць небяспекі ад нападу дзікуноў ці звяроў, давядзецца зноў будаваць высокую сцяну.

**Два наступныя дні 19-га і 20-га** я з раніцы да вечара падшукваў сабе новую мясціну для жылля. Паступова я ўсвядоміў, што на перасяленне спатрэбіцца многа часу і што пакуль мне ўсё роўна давядзецца рызыкаваць і мірыцца з небяспекай абвалу, бо на неабгароджаным месцы жыць яшчэ больш небяспечна. І ўсё-такі я меркаваў узяцца за пабудову агароджы на новым месцы, не трацячы часу, каб пазней, калі яна будзе скончана, перанесці туды сваю палатку. 21 красавіка я канчаткова вырашыў узяцца за справу.

**З 22 па 27 красавіка.** Усю раніцу 22-га я думаў пра тое, як ажыццявіць мой план. Галоўная цяжкасць была ў недахопе інструмента. У мяне былі тры вялікія сякеры і мноства маленькіх сякерак (мы везлі іх, каб гандляваць імі), але ўсе яны даўно ўжо былі зазубраныя і ступіліся, бо мне заўсёды даводзілася секчы вельмі цвёрдыя, сукаватыя дрэвы. Праўда, у мяне было тачыла, але аднаму чалавеку справіцца з ім было немагчыма, таму што некаму іншаму трэба было прыводзіць камень у рух.

Я думаю, што ні адзін дзяржаўны дзеяч, ламаючы галаву над важнымі палітычнымі пытаннямі, не траціў столькі разумовай сілы, колькі патраціў я, развязваючы складаную задачу: як круціць маё тачыла без удзелу рук.



Нарэшце я змайстраваў такое кола, якое з дапамогай паса нагою прыводзілася ў рух і круціла тачыльны камень, вызваляючы абедзве рукі. Над гэтым прыстасаваннем я змарнаваў цэлы тыдзень.

**Заўвага.** Да таго часу я ніколі не бачыў тачыла з ножным прыводам, а калі і бачыў,

то не ўглядаўся, як яно зроблена; значна пазней я ўпэўніўся, што ў Англіі такія тачылы вельмі распаўсюджаныя, толькі там звычайна тачыльны камень меншы, чым той, што быў у мяне: мой быў вельмі вялікі і цяжкі.

28 і 29 красавіка. І сёння і ўчора цэлы дзень я тачыў свой інструмент; маё тачыла дзейнічае выдатна.

30 красавіка. Сёння заўважыў, што ў мяне засталося вельмі мала сухароў. Трэба быць вельмі ашчадным. Пералічыў усе мяхі і вырашыў з'ядаць не больш чым адзін сухар у дзень. Гэта сумна, але нічога не зробіш.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

### Рабінзон забірае рэчы з карабля.— Хвароба і туга

1 мая. Сёння раніцой у час адліву я заўважыў на беразе нейкую рэч, здалёку падобную на бочку. Пайшоў паглядзець, і выявілася, што гэта сапраўды бочка.

Тут жа былі раскіданы абломкі карабля. Напэўна, усё гэта выкінула на бераг бура. Я паглядзеў у той бок, дзе тырчаў каркас карабля, і мне здалося, што ён выступае над вадой больш, чым звычайна.

У бочцы быў порах, пашкоджаны вадой: ён увесь прамок і зацвярдзеў. Але я ўсё роўна выкаціў бочку вышэй, каб яе не знесла ў мора, а сам па аголеным дне накіраваўся да разбітага карабля — паглядзець, ці не трапіцца там яшчэ чаго-небудзь вартага для мяне.

Падышоўшы бліжэй, я заўважыў, што карабель трымаецца неяк вельмі дзіўна. Ужо даўно яго карма зусім ад яго адкалолася, але цяпер яна была адкінута ўбок, і хвалі разбілі яе на кавалкі. Насавая ж частка карабля, якая раней амаль утыкалася ў пясок, паднялася, напэўна, футаў на шэсць. Апрача таго, з боку палубы карма была занесена пяском, і з гэтага ж боку, да берага, утварылася пясчаная водмель, так што цяпер я мог упрытык падысці да карабля. Раней яшчэ за чвэрць мілі да яго пачыналася водмель, і, як памятае чытач, мне даводзілася плаваць. Я доўга не мог зразумець, чаму так

змянілася становішча карабля, а потым здагадаўся, што гэта адбылося ў выніку землетрасення.

Землетрасенне да такой ступені разбіла і раскалола карабель, што цяпер да берага штодня пачало прыбіваць ветрам і цячэннем розныя рэчы, якія вада вымывала з адкрытага трума.

Здарэнне з караблём цяпер захапіла ўсе мае думкі. Цяпер я і думаць забыўся пра мой намер перасяляцца на новае месца. Увесь наступны дзень я думаў пра тое, як мне прабрацца ўнутр карабля. Задача была няпростая, таму што ўсё аказалася забіта пяском. Але гэта мяне не спыніла: я ўжо навучыўся ніколі не адступацца перад цяжкасцямі і не адчайвацца. Я пачаў разбіраць карабель па частках, таму што добра разумеў: у маім становішчы можа стаць прыдатны любы хлам.

3 мая. Я прыхапіў з сабою пілу і паспрабаваў распілаваць ацалелыя часткі кармы, але давялося спыніць працу, бо пачаўся прыліў.

4 мая. Лавіў рыбу, але няўдала: усё траплялася такая, якую нельга есці. Гэта мне надакучыла, і я сабраўся ўжо ісці, але яшчэ раз закінуў вуду і выцягнуў невялікага дэльфіна. Вуда ў мяне самаробная: лёску я змайстраваў з пянькі ад старой вяроўкі, а кручкі зрабіў з дроту, таму што сапраўдных рыбалоўных кручкоў у мяне няма. І ўсё роўна я часам лавіў сваёй вудай столькі рыбы, што ў мяне было дастаткова. Еў я рыбу сушаную, добра правэндзіўшы яе на сонцы.

5 мая. Працаваў на караблі. Падпілаваў бімс[1]; ададраў ад палубы тры вялікія сасновыя дошкі, звязаў іх разам і, дачакаўшыся прыліву, паплыў на плыце да берага.

24 мая. Усё яшчэ працую на караблі. Многа рэчаў у труме было састаўлена вельмі цесна, цяпер я рассунуў іх ломам, і з першым жа прылівам яны ўсплылі наверх: некалькі бочачак і два матроскія куфэркі. На жаль, іх знесла ў мора — вецер дзьмуў з берага. Але сёння вецер змяніўся і хвалі выкінулі на бераг бочку з рэшткай бразільскай свініны, якая, дарэчы,

[1] Бімс — папярэчная бэлька, якая падтрымлівае палубу.



была не прыгодная для яды, таму што ў бочку трапіла многа салёнай вады і пяску.

16 чэрвеня. Знайшоў на беразе вялізную чарапаху. Раней я ніколі не бачыў тут чарапах.

17 чэрвеня. Спёк чарапаху на вуголлі. Знайшоў у ёй каля шасцідзесяці яек. Ніколі ў жыцці я, здаецца, не еў такога смачнага мяса! Не дзіва: да гэтага дня мая мясная ежа на востраве складалася толькі з казлінага і птушынага мяса.



18 чэрвеня. З раніцы да вечара лье дождж, я не выходжу з дому. Увесь дзень мяне б'е ліхаманка, хоць, наколькі мне вядома, у гэтых мясцінах не бывае халоднага дажджу.

19 чэрвеня. Мне ўсё яшчэ нядужыцца: дрыжу ад холаду, нібыта зімой.

20 чэрвеня. Усю ноч не заплюшчыў вачэй: баліць галава і трасе ліхаманка.

21 чэрвеня. Мне вельмі кепска! Баюся расхварэцца і страціць сілу. Што тады са мною будзе?

22 чэрвеня. Сёння мне як быццам лепш, але не ведаю, ці надоўга.

24 чэрвеня. Куды лепш.

25 чэрвеня. Страшэнная ліхаманка. Сем гадзін запар мяне кідала то ў гарачку, то ў холад. Скончылася потам і амаль непрытомнасцю.

26 чэрвеня. Мне лягчэй. У мяне скончыўся ўвесь запас мяса, і я павінен быў пайсці на паляванне, хоць і адчуваў страшэнную слабасць. Забіў казу, ледзь прыцягнуў яе дадому, спёк кавалачак мяса на вуголлі і з'еў. Вельмі хацелася зварыць супу, але ў мяне няма ні каструлі, ні гаршка.

27 чэрвеня. Зноў ліхаманка, такая моцная, што я ўвесь дзень праляжаў без яды і вады. Я паміраў ад смагі, але не меў сілы ўстаць і пайсці па ваду.

28 чэрвеня. Ноччу мучыўся ад смагі, але ні ў палатцы, ні ў пячоры не было ні кроплі вады, і мне давялося пакутаваць да раніцы. Толькі пад раніцу здолеў заснуць. Падрыхтаваў сабе лекі: тытунёвую настойку і ром. Выпіў яго, і мяне пачало ванітаваць. Але ўсё ж крыху палягчала.

**30 чэрвеня.** Я адчуваў сябе здаровым увесь дзень. Ліхаманкі не было. Пахадзіў са стрэльбай, але нядоўга: пабаяўся заходзіць далёка. У абед з апетытам з'еў чарапашыныя яйкі. Вечарам паўтарыў тыя ж лекі, якія памаглі мне ўчора.

I ўсё роўна на другі дзень, 1 ліпеня, мне зноў зрабілася кепска: мяне зноў калаціла ліхаманка, хоць гэты раз і менш, чым раней.

З 3 ліпеня мая ліхаманка больш не вярталася. Але канчаткова я ачуняў толькі тыдні праз два-тры...

Так пражыў я дзесяць месяцаў на гэтым самотным востраве. Мне было зразумела, што выратавацца адсюль у мяне няма ніякай магчымасці. Я быў цвёрда ўпэўнены, што да мяне тут ніколі не ступала нага чалавека.

Цяпер, калі маё жыллё было абнесена трывалай агароджай, я вырашыў самым старанным чынам даследаваць востраў, каб даведацца, ці няма на ім якіх-небудзь іншых жывёл і раслін, якія здолелі б прынесці мне карысць.

З 15 ліпеня я пачаў агляд. Перш за ўсё я накіраваўся да той маленькай бухты, куды я прычальваў свае плыты. У бухту ўпадаў ручай. Прайшоўшы мілі дзве ўверх па цячэнні, я ўпэўніўся, што прыліў туды не даходзіць, таму што на гэтым месцы і вышэй вада ў ручаі аказалася прэснай, празрыстай і чыстай. Мясцінамі ручай перасох, бо ў гэту пару года тут не ідуць дажджы.



Берагі ручая былі нізкія; ручай працякаў прыгожым лугам. Кругом зелянелі густыя, высокія травы, а далей, на схіле пагорка, у вялікай колькасці рос тытунь. Разліў не даходзіў да гэтых мясцін, і таму тытунь тут аж буяў. Там былі і іншыя расліны, якіх раней я ніколі не бачыў; магчыма, калі б я ведаў іх асаблівасці, я мог бы выкарыстаць іх з вялікай карысцю для сябе.



Я шукаў касаву[1]. З кораня яе індзейцы, якія жывуць у гарачым клімаце, робяць хлеб. Але я не знайшоў яе. Затое бачыў цудоўныя экземпляры альясу[2] і цукровага трыснягу. Але

[1] Касава — дрэўца, якое разводзіцца ў Амерыцы; у карэнні касавы многа спажыўнага крухмалу.

[2] Альяс — трапічная расліна з сямейства лілейных.

я не ведаў, ці можна прыгатаваць якую-небудзь ежу з альясу, а цукровы трыснёг быў дзікі і таму не прыгодны для вырабу цукру.



На другі дзень, 16-га, я зноў пабыў у тых мясцінах і прайшоў крыху далей — туды, дзе канчаліся лугі. Там я знайшоў многа розных пладоў. Больш за ўсё было дыняў. А па ствалах дрэў вілася вінаградная лаза. А над галавой віселі цяжкія спелыя гронкі. Гэта адкрыццё і здзівіла і ўзрадавала мяне. Вінаград аказаўся вельмі салодкі. Я вырашыў нарыхтаваць яго ў запас — высушыць на сонцы і, калі з яго атрымаюцца разынкі, хаваць яго ў кладоўцы: разынкі такія прыемныя на смак і карысныя здароўю. Для гэтага я сабраў, колькі здолеў, вінаградных гронак і развесіў іх на дрэвах.

У гэты дзень я не вярнуўся начаваць, мне захацелася застацца ў лесе. Непакоячыся, што ўначы на мяне можа напасці які-небудзь драпежнік, я, як і ў першы дзень, калі трапіў на востраў, ускарабкаўся на дрэва і так прабыў усю ноч.

Спаў я добра, а раніцой накіраваўся далей. Я прайшоў яшчэ мілі чатыры ў ранейшым кірунку на поўнач. У канцы дарогі я адкрыў новую цудоўную даліну. З вяршыні аднаго з пагоркаў браў свой пачатак сцюдзёны і быстрацечны ручай. Ён прабіваўся на ўсход.

Я пайшоў далінаю. Справа і злева ўзвышаліся пагоркі. Усё вакол зелянела, квітнела. Мне здавалася, што я ў духмяным садзе, дагледжаным стараннем чалавека. Кожны куст, кожнае дрэўца і кожная кветка стаялі ў пышным уборы. Какосавыя пальмы, апельсінавыя і лімонныя дрэвы раслі тут скрозь, але яны былі дзікія, і толькі некаторыя з іх мелі плады. Я нарваў зялёных лімонаў і потым піў ваду з лімонным сокам. Гэты напітак мяне вельмі асвяжаў і быў карысны для майго здароўя.

Толькі праз тры дні я вярнуўся дадому (так буду цяпер называць сваю палатку і пячору). Я з захапленнем успамінаў цудоўную маляўнічую даліну, якую я знайшоў, уяўляў яе гаі, з багаццем пладовых дрэў, думаў пра тое, як яна добра затулена ад вятроў, колькі там крынічнай вады, і я прыйшоў да заключэння, што месца, дзе я збудаваў сабе дом,



я выбраў няўдала: гэта найгоршая мясціна на ўсім востраве. А зрабіўшы такое заключэнне, я, натуральна, пачаў марыць пра тое, як бы мне перасяліцца ў тую квітнеючую зялёную даліну, дзе такое багацце розных пладоў. Трэба было толькі адшукаць у той даліне адпаведнае месца і абгарадзіць яго ад нападу драпежнікаў.

Гэта думка доўга хвалявала мяне: свежая зеляніна цудоўнай даліны так і клікала мяне да сябе. Мара аб перасяленні захапляла мяне і радавала. Але калі я дакладна абдумаў гэты план, калі разважыў, што зараз з мае палаткі я заўсёды бачу мора, а гэта азначае, маю хоць маленькую надзею на шчаслівую змену ў маім лёсе, я сказаў сабе, што мне ні ў якім разе не варта перабірацца ў даліну, з усіх бакоў закрытую пагоркамі. Можа ж так здарыцца, што хвалі занясуць на гэты бераг другога небараку, пацярпеўшага караблекрушэнне ў моры, і хто б ён ні быў, той няшчасны, я буду рады яму, як лепшаму сябру. Вядома, на такую выпадковасць надзеі было мала, але схавацца сярод гор і лясоў, у глыбіні вострава, удалечыні ад мора, азначала б назаўсёды замураваць сябе ў гэтай турме і да самае смерці забыць усякія мары пра волю.



І ўсё роўна я так палюбіў тую даліну, што прабыў там амаль увесь канец ліпеня і зладзіў сабе там другое жыллё. Я паставіў у даліне будан, абгарадзіў яго наглуха моцным двайным частаколам вышэй чалавечага росту, а прамежкі паміж частаколінамі залажыў ламаччам; выходзіў жа ■ двара і заходзіў у двор, як і ў маім старым жыллі, па прыстаўных лесках.

Такім чынам, мне і тут не было чаго баяцца нападу дзікіх звяроў. Мне так падабалася быць у гэтых новых мясцінах, што я часам затрымліваўся там па некалькі сутак, і дзвятры ночы запар я спаў у будане, і мне вельмі лёгка дыхалася.

«Цяпер у мяне на беразе мора ёсць дом, а ў лесе дача»,— казаў я сам сабе. Работы па збудаванню гэтай «дачы» забралі ў мяне ўвесь час да пачатку жніўня.

З ж н і ў н я я ўбачыў, што мае развешаныя гронкі вінаграду ўжо высахлі і з іх атрымалі-

ся выдатныя разынкі. Я адразу ж пачаў іх збіраць. Трэба было спяшацца, інакш іх сапсаваў бы дождж, і я пазбавіўся б амаль усіх сваіх зімовых прыпасаў, а прыпасы ў мяне былі багатыя: напэўна, каля двухсот вельмі буйных гронак. І ледзь толькі паспеў я зняць з дрэва і занесці ў пячору апошнюю гронку, як насунуліся чорныя хмары і хлынуў лівень. Ён ішоў без супынку два месяцы: з 14 жніўня да паловы кастрычніка. Часам гэта быў сапраўдны патоп, і тады я не меў магчымасці выйсці з пячоры па некалькі дзён.

За гэты час, на маё вялікае задавальненне, у мяне павялічылася сям'я. Адна мая кошка даўно ўжо сышла з дому і дзесьці прападала, я думаў, што яна загінула, і мне было шкада яе, як раптам у канцы жніўня яна вярнулася і прывяла траіх кацянят.

З 14 па 26 жніўня дажджы не спыняліся, і я амаль не выходзіў з дому, таму што пасля хваробы асцерагаўся трапляць пад дождж, баючыся прастуды. Але пакуль я сядзеў у пячоры і чакаў добрага надвор'я, мае харчовыя прыпасы пачалі падыходзіць к канцу, і таму я разы два нават рызыкнуў схадзіць на паляванне. Першы раз я падстрэліў казу, а другі, 26-га, злавіў вялізную чарапаху, з якой згатаваў сабе цэлы абед. Наогул у той час маё харчаванне размяркоўвалася так: на снеданне гронка разынак, на абед кавалак казляціны або чарапашынага мяса (спечанага на вуголлі, таму што, на жаль, у мяне не было ў чым варыць ці смажыць), на вячэру два ці тры чарапашыныя яйкі.

Усе гэтыя дванаццаць дзён, пакуль я хаваўся ў пячоры ад дажджу, я штодня па дзве ці па тры гадзіны займаўся землянымі работамі, бо даўно ўжо надумаўся павялічыць свой склеп. Я капаў і капаў яго ўсё ў адзін бок і, нарэшце, вывеў за агароджу.

Цяпер у мяне быў скразны ход, і я зрабіў тут патайныя дзверы, праз якія мог заходзіць і выходзіць, не карыстаючыся прыстаўнымі лескамі. Гэта, вядома, было зручна, але затое не так спакойна, як раней: раней маё жыллё было агароджана з усіх бакоў, і я мог спаць, не баючыся ворагаў; цяпер жа прабрацца ў пячору было проста: доступ да мяне быў адкры-

ты! Не разумею толькі, як я тады не даўмеўся, што баяцца мне няма каго, таму што за ўвесь час я не сустрэў на востраве ніводнае жывёліны, большай за казу.

30 верасня. Сёння сумная гадавіна майго жыцця на востраве. Я падлічыў зарубкі на слупе, і выявілася, што жыву я тут роўна трыста шэсцьдзесят пяць дзён!

Пашанцуе мне ці не калі-небудзь вырвацца з гэтай турмы на волю?

Нядаўна я выявіў, што ў мяне засталося вельмі мала чарніла. Трэба будзе абыходзіцца з ім больш ашчадна. Да гэтага часу я вёў свае запісы штодня і запісваў розныя дробязі, цяпер буду запісваць толькі выдатныя падзеі майго жыцця.

К гэтаму часу я паспеў заўважыць, што перыяды дажджоў чаргуюцца тут вельмі дакладна з сухім сезонам, і, такім чынам, я меў магчымасць загадзя падрыхтавацца і да засухі і да дажджоў.

Аднак вопыт гэты каштаваў мне вельмі дорага. Пра гэта сведчыць хоць бы такая падзея, якая здарылася са мною ў той час. Адразу ж пасля дажджоў, калі сонца прайшло ў Паўднёвае паўшар'е, я вырашыў, што настаў зручны час, каб пасеяць тыя мізэрныя запасы рысу і ячменю, пра якія гаварылася вышэй. Я пасеяў іх і з нецярпеннем пачаў чакаць ураджаю. Але надышлі сухія месяцы, у зямлі не засталося ні кроплі вільгаці, і ні адно зерне не ўзышло. Добра, што я адклаў у запас па жменьцы рысу і ячменю. Я так і сказаў сабе: «Лепш не высяваць усяго насення; я ж не ведаю добра яшчэ тутэйшы клімат, і я не ведаю напэўна, калі сеяць і калі збіраць ураджай». Я вельмі хваліў сябе за гэту перасцярогу, бо быў упэўнены, што ўвесь той пасеў загінуў ад засухі. Але ж як я быў здзіўлены, калі праз некалькі месяцаў, як толькі пачаліся дажджы, амаль усё маё зерне ўзышло, як быццам я толькі што яго пасеяў!

Пакуль рос і паспяваў мой хлеб, я зрабіў адно адкрыцце, якое потым прынесла мне немалую карысць.

Як толькі спыніліся дажджы і надвор'е ўсталявалася, недзе прыблізна ў лістападзе, я сабраўся на сваю лясную дачу. Я не быў там

некалькі месяцаў і з радасцю ўпэўніўся, што ўсё там засталося без змены, у тым самым выглядзе, як было і пры мне. Змянілася толькі агароджа вакол майго будана. Яна была, як вядома, з двайнога частаколу. Агароджа была цэлая, толькі частаколіны, на якія я высек маладыя дрэўцы не вядомай мне пароды, што раслі паблізу, частаколіны мае пайшлі ў рост, гэтак як расце ў нас лаза, калі зрэзаць верхавінку. Я вельмі здзівіўся, убачыўшы гэтыя свежыя галіны, і мне было вельмі прыемна, што агароджа мая ўся ў зеляніне. Я падстрыг кожнае дрэўца, каб па магчымасці надаць ім усім аднолькавы выгляд, і яны дзівосна разраслiся.



Хоць круглая плошча мае дачы мела каля дваццаці пяці ярдаў у дыяметры, дрэвы (так я мог цяпер называць свае частаколіны) хутка засланілі яе сваімі галінамі і давалі такі густы цень, што ў ім можна было хавацца ад сонца ў любую пару дня. Таму я вырашыў ссекчы яшчэ некалькі дзесяткаў гэтакіх жа калоў і ўбіць іх паўкругам вакол агароджы майго старога дома. Так я і зрабіў. Я ўбіў іх у зямлю ў два рады, адступіўшы ад сцяны ярдаў на восем. Яны прыняліся, і неўзабаве ў мяне вырасла жывая агароджа, якая спачатку бараніла мяне ад спякоты, а пазней саслужыла мне і зусім іншую, больш важную службу.

К гэтаму часу я канчаткова ўпэўніўся ў тым, што на маім востраве поры года трэба падзяляць не на летні і зімовы перыяды, а на сухі і дажджлівы, прычым гэтыя перыяды размяркоўваюцца прыблізна так:

| | | |
|---|---|---|
| Палова лютага.<br>Сакавік.<br>Палова красавіка. | Дажджы. | Сонца стаіць у зеніце. |
| Палова красавіка.<br>Май.<br>Чэрвень.<br>Ліпень.<br>Палова жніўня. | Суха. | Сонца рухаецца да поўначы. |
| Палова жніўня.<br>Верасень.<br>Палова кастрычніка. | Дажджы. | Сонца ў зеніце. |
| Палова кастрычніка.<br>Лістапад.<br>Снежань.<br>Студзень.<br>Палова лютага. | Суха. | Сонца рухаецца на поўдзень. |

Дажджавы сезон можа быць даўжэйшы і карацейшы — гэта залежыць ад ветру,— а ўво-

гуле я вызначыў іх правільна. Паступова, з практыкі, я ўпэўніўся, што мне вельмі небяспечна ў перыяд дажджоў знаходзіцца пад адкрытым небам: гэта шкодзіць здароўю. Таму перад пачаткам дажджоў я кожны раз рабіў запас правізіі, каб як мага радзей выходзіць за парог, і ўсе дажджлівыя месяцы стараўся сядзець дома.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

### Рабінзон працягвае даследаваць востраў





Не раз спрабаваў я сплесці сабе кош, але дубцы, якія мне трапляліся, былі такія крохкія, што ў мяне нічога не атрымлівалася.

Дзіцем яшчэ любіў я хадзіць да карзіншчыка, які жыў у нашым горадзе. Я ўважліва назіраў, як ён робіць кашы. І цяпер гэта мне вельмі прыдалося. Усе дзеці назіральныя і любяць дапамагаць дарослым. Прыгледзеўшыся да работы карзіншчыка, я неўзабаве скеміў, як ён пляце свае кашы і карзіны, і, як умеў, хутка пачаў і сам памагаць яму. Паступова я навучыўся плесці не горш за свайго прыяцеля... І вось цяпер у мяне не было толькі адпаведнага матэрыялу. Нарэшце мне прыйшла ў галаву думка: а ці не паспрабаваць мне дубцы тых дрэў, з якіх я гарадзіў свой частакол? У іх жа галіны павінны быць гэтакія ж гнуткія, як у нашае лазы ці вярбы. І я вырашыў паспрабаваць.



На другі ж дзень я пайшоў на дачу, выбраў і зрэзаў некалькі самых тонкіх дубцоў і ўпэўніўся, што яны як лепш не трэба прыгодныя для пляцення кашоў. У наступны раз я прыйшоў з сякераю, каб адразу насекчы дубцоў як найбольш. Мне не прыйшлося доўга шукаць іх, таму што дрэвы гэтай пароды раслі тут скрозь. Насечаныя дубцы я перанёс за агароджу майго будана і схаваў там.

Як толькі пачаліся дажджы, я сеў за працу і пачаў плесці кашы. Яны служылі мне на розныя патрэбы: я насіў імі зямлю, складаў у іх розныя рэчы і г. д. Праўда, кашы ў мяне атрымліваліся не вельмі каб зграбныя, але яны

былі трывалыя і добра апраўдвалі сваё прызначэнне. А мне гэта толькі і трэба было.

З таго часу мне нярэдка даводзілася плесці кашы: старыя ламаліся і зношваліся і патрэбны былі новыя. Я плёў розныя кашы — і вялікія і маленькія, але галоўным чынам назапашваў глыбокія і шчыльныя кашы, каб хаваць збожжа: я хацеў, каб яны служылі мне замест мяхоў. Праўда, цяпер у мяне збожжа было яшчэ мала, але ж я меў намер назапашваць яго на працягу некалькіх год.

Я казаў ужо, што мне вельмі хацелася абысці ўвесь востраў і што я некалькі разоў даходзіў да ручая і яшчэ вышэй — да таго месца, дзе я збудаваў будан.



Адтуль лёгка можна было прайсці да супрацьлеглага берага, якога я яшчэ ні разу не бачыў. Я ўзяў стрэльбу, сякеру, добры запас пораху, шроту і куляў, прыхапіў на ўсякі выпадак два сухары і вялікую гронку разынак і падаўся ў дарогу. За мною, як заўсёды, пабег сабака.

Калі я дайшоў да свайго будана, я не спыніўся і рушыў далей на захад. І раптам, прайшоўшы з паўгадзіны, я ўбачыў перад сабою мора, а ў моры, на маё вялікае здзіўленне, паласу зямлі.

Быў яркі сонечны дзень, я добра бачыў зямлю, але не мог пэўна вызначыць, мацярык гэта ці востраў. Высокае пласкагор'е цягнулася з захаду на поўдзень і знаходзілася ад майго вострава вельмі далёка — па майму разліку, міляў за сорак, калі не больш.

Я не меў аніякага ўяўлення, што гэта была за зямля. Адно я ведаў пэўна: гэта, безумоўна, частка Паўднёвай Амерыкі, што ляжала, як відаць, непадалёку ад іспанскіх уладанняў. Зусім магчыма, што там жывуць дзікуны-людаеды і што, калі б я трапіў туды, становішча маё было б куды горшае, чым зараз.

Гэта думка міжволі ўзрадавала мяне.

Значыць, зусім дарэмна праклінаў я свой горкі лёс. Жыццё маё магло б скласціся куды горш. Значыць, я зусім дарэмна мучыў сябе марным шкадаваннем, навошта бура выкінула мяне менавіта сюды, а не ў нейкае іншае месца. Значыць, я павінен радавацца, што жыву тут, на бязлюдным востраве.

Разважаючы такім чынам, я не спяшаўся і паволі ішоў наперад, і пры гэтым на кожным кроку ўсё больш і больш пераконваўся, што гэта частка вострава, дзе я знаходзіўся зараз, была куды больш прывабнай, чым тая, дзе я збудаваў сваё першае жыллё. Усюды тут рассцілаліся зялёныя квітнеючыя паляны, цудоўныя гаі, звінела спевам птаства.



Я заўважыў, што тут вадзілася мноства папугаяў, і мне захацелася аднаго злавіць: я спадзяваўся прыручыць яго і навучыць гаварыць. Пасля некалькіх няўдалых спроб мне ўсё ж удалося злавіць маладога папугая: я падбіў яму палкаю крыло. Аглушаны маім ударам, ён зваліўся на зямлю. Я падняў яго і прынёс дадому. Пазней мне ўдалося дабіцца, каб ён клікаў мяне маім імем.

Я дайшоў да марскога берага і ўпэўніўся, што лёс закінуў мяне на самую горшую частку вострава.



Тут увесь бераг быў усеяны чарапахамі, а там, дзе я жыў, за паўтара года я знайшоў толькі тры. Тут была безліч птушак разнастайных парод. Былі і такія, якіх я ніколі не бачыў. Мяса некаторых здалося мне вельмі смачным, хоць я нават не ведаў, як іх завуць. Сярод вядомых мне птушак самымі лепшымі былі пінгвіны.

Зноў паўтараю: гэты бераг быў лепшы ва ўсіх адносінах і больш прывабны за мой. І ўсё роўна я не меў ніякага жадання перасяляцца сюды. Пражыўшы ў сваёй палатцы каля двух гадоў, я паспеў прывыкнуць да тых мясцін; тут жа я адчуваў сябе падарожнікам, госцем, тут я адчуваў сябе ніякавата, і мяне цягнула дадому.

Я выйшаў на бераг, павярнуў на ўсход і прайшоў узбярэжжам каля дванаццаці міляў. Тут я ўмацаваў у зямлю высокі шост, каб прыкмеціць месца, таму што ў наступны раз я вырашыў прыйсці сюды з другога боку. І накіраваўся назад. Я хацеў вярнуцца другім шляхам.

«Востраў зусім невялікі,— думаў я,— і заблудзіць на ім немагчыма. У крайнім выпадку я падымуся на горку, агледжуся і ўбачу, дзе знаходзіцца маё старое жыллё».

Аднак я зрабіў вялікую памылку. Адышоўшы ад берага не болей дзвюх-трох міляў, я не-

прыкметна спусціўся ў шырокую даліну, якую так цесна абступалі пагоркі, пароcлыя густым лесам, што я ніяк не мог разабраць, дзе я знаходжуся. Я мог бы кіравацца па сонцу, але для гэтага патрэбна было дакладна ведаць, дзе знаходзіцца ў гэты час сонца. Горш за ўсё было тое, што на працягу трох ці чатырох дзён, пакуль я блукаў па даліне, надвор'е стаяла пахмурнае і сонца зусім не паказвалася. У рэшце рэшт мне давялося зноў вярнуцца да берага мора, на тое самае месца, дзе стаяў мой шост.

Адтуль я вярнуўся дадому ранейшай дарогай. Я ішоў не спяшаючыся і часта садзіўся адпачыць, таму што было вельмі горача, а мне давялося несці многа цяжкіх рэчаў — стрэльбу, зарады, сякеру.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ.

**Рабінзон вяртаецца ў пячору.— Палявыя работы**

У час гэтага падарожжа мой сабака спалохаў казляня і схапіў яго, але загрызці не паспеў: я падбег і адабраў яго. Мне вельмі хацелася забраць яго: я страшэнна марыў набыць як-небудзь дваіх казлянят, каб развесці статак і забяспечыць сябе мясам на той час, калі ў мяне скончыцца ўвесь порах. Я змайстраваў казляняці нашыйнік і павёў яго на вяроўцы; вяроўку я даўно ўжо звіў з пянькі ад старых канатаў і цяпер заўсёды насіў яе ў кішэні. Казляня ўпіралася, але ўсё роўна ішло. Дабраўшыся да свае дачы, я пакінуў яго ў загарадзі, а сам пайшоў далей: мне хацелася хутчэй апынуцца дома, бо я падарожнічаў ужо больш за месяц.

Не магу выказаць, з якім задавальненнем вярнуўся я пад дах свайго старога дома і зноў разлёгся ў гамаку. Бадзянне па востраве, калі ў мяне не было дзе прыхіліць галавы, так стаміла мяне, што мой уласны дом (як зваў я цяпер сваё жыллё) здаўся мне надзвычай утульным.

З тыдзень я адпачываў і цешыўся хатняй ядою. Большую частку гэтага часу я быў за-

няты важнай справай: майстраваў клетку для Попкі, які адразу ж зрабіўся хатняю птушкаю і надзвычай хутка прывык да мяне.

Затым я ўспомніў пра беднае казляня, якое сядзела ў палоне на дачы. «Напэўна, яно ўжо з'ела ўсю траву,— думаў я,— і выпіла ўсю ваду, якую я пакінуў яму, і цяпер галадае». Трэба было схадзіць па яго. Прыйшоўшы на дачу, я застаў яго там, дзе пакінуў. Зрэшты, яно і не магло нікуды пайсці. Яно памірала з голаду. Я нарэзаў галін з бліжэйшых дрэў і перакінуў яму за агароджу.



Калі казляня пад'ела, я прывязаў яму за нашыйнік вяроўку і хацеў весці яго, як раней, але, нагаладаўшыся, казляня зрабілася такое ручное, што вяроўка яму ўжо была непатрэбна: яно пабегла следам за мною, як сабака.



Па дарозе я ўвесь час карміў яго, і, дзякуючы гэтаму, яно стала такім жа паслухмяным і рахманым, як і астатнія жыхары майго дома. Казляня так да мяне прызвычаілася, што не адыходзіла ні на крок.

Надышоў снежань, калі павінен быў узысці рыс і ячмень. Уроблены мною кавалак зямлі быў невялікі, таму што, як я казаў ужо, засуха загубіла амаль усю маю сяўбу першага года і ў мяне заставалася не больш за васьмушку бушаля[1] кожнага гатунку збожжа.

Гэты раз можна было чакаць цудоўнага ўраджаю, як раптам выявілася, што ў мяне ёсць пагроза зноў страціць яго ўвесь, таму што маё поле спустошвае процьма разнастайных ворагаў, ад якіх немагчыма абараніцца. Гэтымі ворагамі былі козы, а таксама тыя дзікія звяркі, якіх я назваў зайцамі. Салодкія сцябліны рысу спадабаліся ім: яны прападалі на полі дзень і ноч і паядалі маладыя парасткі перш, чым яны паспявалі закаласавацца.

Супроць нашэсця гэтых ворагаў быў адзін толькі сродак: абгарадзіць усё поле плотам. Я так і зрабіў.

Але гэта работа была вельмі цяжкая, галоўным чынам таму, што трэба было спяшацца: шкоднікі няшчадна знішчалі калоссе. Праўда, палетак мой быў такі невялікі, што за тры тыдні агароджа была гатова.

[1] Б у ш а л ь — англійская мера сыпкіх цел; роўна 36 літрам.



Агароджа аказалася даволі спраўнай. Пакуль яна не была скончана, я адпужваў шкоднікаў стрэламі, а на ноч прывязваў да агароджы сабаку, які брахаў да раніцы. Дзякуючы ўсім гэтым мерам перасцярогі шкоднікі пакінулі мяне ў спакоі, а мае каласы пачалі наліваца зернем.

Але ледзь толькі хлеб закаласіўся, як з'явіліся новыя ворагі: наляцела процьма пражэрлівых птушак і пачала кружыць над полем, чакаючы, калі я пайду, каб накінуцца на збажыну. Я зараз жа выпусціў на іх зарад шроту (я ніколі не выходзіў без стрэльбы), і не паспеў я стрэліць, як з поля ўзнялася другая чарада, якой я спачатку не заўважыў.

Я быў не на жарт устрывожаны.

«Яшчэ некалькі дзён такога разбою — і бывайце, усе мае надзеі,— сказаў я сабе,— у мяне няма больш насення, і я застануся без хлеба».

Што было рабіць? Як пазбавіцца ад гэтай новай напасці? Нічога прыдумаць я не мог, аднак цвёрда вырашыў: чаго б гэта ні каштавала, абараніць свой хлеб, нават калі б мне давялося вартаваць яго цэлыя суткі.



Спачатку я абышоў усё поле, каб упэўніцца, ці многа шкоды нарабілі мне птушкі. Аказалася, што нямала. І ўсё ж з гэтай стратай яшчэ можна было б змірыцца, калі б удалося захаваць астатні ўраджай. Птушкі стаіліся на бліжэйшых дрэвах: яны чакалі, каб я пайшоў. Я зарадзіў стрэльбу і зрабіў выгляд, што адыходжу. Зладзеі ўзрадаваліся і шуганулі на мой палетак. Гэта мяне страшэнна ўзлавала. Спачатку я думаў пачакаць, каб села ўся хмара, але ў мяне не хапіла цярпення.

«Гэта ж з кожнага зярняці, якое яны здзяўбуць зараз, я, можа, у будучым губляю цэлую буханку хлеба»,— сказаў я сам сабе.

Я падбег да агароджы і пачаў страляць; тры птушкі засталіся на месцы. Я падняў іх і павесіў на высокім слупе, каб напалохаць астатніх. Цяжка нават уявіць сабе, якое ўздзеянне гэта зрабіла: ні адна птушка больш не села на мой палетак. Усе паляцелі з гэтай часткі вострава; ва ўсякім разе я не бачыў ніводнай за ўвесь час, пакуль віселі мае пудзілы на слупе. Няма чаго і казаць: гэта перамога над птушкамі прынесла мне вялікае задавальненне.

К канцу снежня збажына паспела, і я сабраў другі ўраджай у гэтым годзе.

У мяне, на жаль, не было ні касы, ні сярпа, і пасля доўгіх разваг я вырашыў скарыстаць у сваёй палявой працы шырокую шаблю, якую я ўзяў на караблі разам з іншай зброяй. Праўда, збажыны ў мяне было не так ужо многа, і таму зжаць яе было зусім не цяжка. Ды і жаў я сваім адметным спосабам: зразаў толькі каласы і зносіў іх з поля ў вялікім кашы. Калі ўсё было прыбрана, я перацёр каласы рукамі і ў выніку з адной восьмай часткі бушаля насення кожнага гатунку атрымаў каля двух бушаляў рысу і два з паловай бушалі ячменю (зразумела, па прыблізнаму падліку, таму што ў мяне не было меркі).



Ураджай быў выдатны, і такі поспех натхніў мяне. Цяпер я мог спадзявацца, што праз некалькі гадоў у мяне будзе пастаянны запас хлеба. Але разам з тым у мяне ўзнікалі і новыя цяжкасці. Як, не маючы ні млына, ні нават жорнаў, ператварыць зерне ў муку? Як прасеяць муку? Як змясіць з мукі цеста? Як, нарэшце, спячы хлеб? Нічога гэтага я не ўмеў. Таму я вырашыў не чапаць свайго ўраджаю і пакінуць усё збожжа на насенне, а тым часам, да наступнага пасеву, прыкласці ўсе намаганні да таго, каб вырашыць галоўную задачу — навучыцца ператвараць збожжа ў хлеб.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

### Рабінзон вырабляе посуд

У дажджы, калі нельга было выйсці з дому, я між іншым вучыў свайго папугая гаварыць. Гэта вельмі мяне пацяшала.

За некалькі ўрокаў ён ужо ведаў сваё імя, а потым, хоць і не хутка, вывучыўся даволі гучна і выразна вымаўляць яго.

«Попка» было першае слова, якое я пачуў на востраве з чужых вуснаў.

Але гаворка з Попкам была не заняткам, а падмогай у рабоце. У той час у мяне была вельмі важная справа. Даўно ўжо ламаў я галаву над тым, як вырабляецца гліняны посуд,

у якім я меў пільную патрэбу, але нічога не ўмеў прыдумаць: не было адпаведнай гліны.

«Каб толькі знайсці гліну,— думаў я,— і мне будзе зусім няцяжка зляпіць нешта накшталт гаршка ці міскі. Праўда, і гаршчок і міску неабходна абпальваць, але ж я жыву ў гарачым клімаце, дзе сонца гарачэй за ўсякую печ. Ва ўсякім разе мой посуд, прасохшы на сонцы, будзе дастаткова трывалым. Яго можна будзе браць у рукі, можна будзе трымаць у ім збожжа, муку і захоўваць сухія прыпасы ад сырасці».

І я вырашыў, што, як толькі знайду прыгодную гліну, абавязкова вылеплю некалькі вялікіх пасудзін, каб захоўваць збожжа. Пра такі гліняны посуд, у якім можна было б варыць ежу, я пакуль што і марыць не мог.

Чытач, напэўна, пашкадаваў бы мяне, а магчыма, і пасмяяўся б з мяне, калі б я яму расказаў, як няўдала пачаў я сваю работу, якія нязграбныя, недарэчныя рэчы атрымліваліся ў мяне на першым часе, колькі маіх вырабаў разбуралася толькі таму, што я недастаткова крута замешваў гліну і яна не вытрымлівала ўласнага цяжару. Адны гаршкі ў мяне патрэскаліся таму, што я паспяшаўся вынесці іх на сонца, калі яно паліла, як агнём; іншыя рассыпаліся на дробныя чарапкі яшчэ да прасушкі, як толькі я дакранаўся да іх. Два месяцы я працаваў, не разгінаючы спіны. Шмат часу пайшло ў мяне на пошукі добрай ганчарнай гліны, на тое, каб накапаць яе, прынесці дадому, апрацаваць. І ўсё роўна, нягледзячы на ўвесь гэты клопат, у мяне атрымаліся ўсяго дзве нязграбныя гліняныя пасудзіны — назваць іх збанамі было ніяк немагчыма.







І ўсё ж гэта былі вельмі карысныя рэчы. Я сплёў з дубцоў дзве вялікія карзіны і, калі мае гаршкі на сонцы добра высахлі і зацвярдзелі, асцярожна прыўзняў іх адзін за адным і паставіў у карзіны. А для большай бяспекі, каб гаршкі не пабіліся, пустое месца паміж карзінай і пасудзінай запоўніў рысавай і ячменнай саломай. Гэтыя першыя свае гаршкі я выкарыстаў пакуль што для захоўвання сухога збожжа. Я баяўся, што яны адсырэюць, калі буду трымаць у іх вільготныя прадукты. Пазней я збіраўся ссыпаць у іх муку, калі знайду спосаб малоць маё збожжа.

Вялікія вырабы з гліны атрымаліся ў мяне няўдалыя. Куды лепш удаваліся мне вырабы дробнага посуду: маленькія круглыя гаршчочкі, талеркі, гладышыкі, кубкі, міскі і іншыя рэчы. Дробныя рэчы было лягчэй ляпіць, апрача таго, яны раўней абпальваліся на сонцы і таму былі больш трывалыя.

Але ўсё роўна галоўная мая задача заставалася нявырашанай. Мне патрэбен быў посуд, у якім бы я здолеў варыць: ён павінен быў вытрымліваць агонь і не прапускаць ваду, а для гэтага мае гаршкі былі не прыгодныя.

Але вось аднойчы я расклаў вялікі агонь, каб падсмажыць на вуголлі мяса. Калі яно спяклося, я хацеў затушыць вуголле і выпадкова ўбачыў чарапок, які трапіў у агонь ад разбітага глінянага збана. Чарапок так накаліўся, што быў чырвоны, як чарапіца, і зацвярдзеў, як камень. Мяне гэта адкрыццё прыемна ўразіла.

«Калі гліняны чарапок так зацвярдзеў на агні, то значыць з такім жа поспехам можна абпальваць на агні і гліняны посуд»,— вырашыў я.

Я думаю, што ніводзін чалавек у свеце не радаваўся гэтак з такой нязначнай прычыны, як радаваўся я, упэўніўшыся, што мне ўдалося вырабіць гаршкі, якія не баяцца ні вады, ні агню.

Я ледзь здолеў дачакацца, калі астынуць мае гаршкі, каб можна было наліць у адзін з іх вады, паставіць зноў на агонь і зварыць у ім мяса. Гаршчок аказаўся выдатны. Я зварыў сабе з казляціны вельмі смачны булён, хаця, вядома, калі б пакласці ў яго капусты і цыбулі ды заправіць яшчэ аўсянкаю, ён атрымаўся б яшчэ лепшы.

Цяпер я задумаўся аб тым, як зрабіць каменную ступку, каб малоць, ці, дакладней, таўчы ў ёй збожжа; таму што пра такое выдатнае вынаходніцтва, як млын, і гаворкі не магло быць: адной пары чалавечых рук не пад сілу было ажыццявіць гэткую работу.

Але зрабіць ступку было таксама не проста: у рамястве каменячоса я быў такім жа невукам, як і ва ўсіх іншых, і, апрача таго, у мяне не было патрэбных прылад. Не адзін дзень змарнаваў я на пошукі адпаведнага каменя, але

нічога не знайшоў. Тут патрэбны быў вельмі цвёрды камень і да таго ж дастаткова вялікі, каб у ім можна было выдзеўбаць паглыбленне.

На маім востраве былі скалы, але пры ўсіх маіх намаганнях я не мог адкалоць ад іх абломка патрэбнага памеру. Да таго ж на ступку гэты крохкі порысты камень з пароды пясчанікаў усё роўна быў непрыгодны: пад цяжкім таўкачом ён бы крышыўся і ў муку трапляў бы пясок.

Такім чынам, змарнаваўшы шмат часу на бескарысныя пошукі, я адмовіўся ад думкі пра каменную ступу і вырашыў змайстраваць яе з дрэва — матэрыял знайсці было лягчэй.

Сапраўды, я хутка адшукаў у лесе вельмі цвёрдую калоду, такую вялізную, што з цяжкасцю здолеў зрушыць яе з месца. Я абчасаў яе сякерою, каб надаць ёй па магчымасці патрэбную форму, а затым распаліў агонь і пачаў выпальваць у ёй паглыбленне. Так робяць бразільскія чырвонаскурыя, калі будуюць лодкі. Няма чаго і казаць, што гэта работа каштавала мне немалых намаганняў.

Скончыўшы ступу, я вычасаў з так званага жалезнага дрэва цяжкі таўкач. І ступу і таўкач я схаваў да наступнага ўраджаю. Тады, па маіх разліках, я павінен буду атрымаць дастаткова збожжа, частку якога здолею стаўчы на муку.

Цяпер трэба было падумаць пра тое, як я буду замешваць хлеб, калі нарыхтую мукі.

Перш за ўсё я не меў закваскі; зрэшты, гэтай бядзе ўсё роўна немагчыма было памагчы, і таму пра закваску я не клапаціўся. Але як было абысціся без печы? Вось гэта была сапраўды галаваломка. І тым не менш я ўсё ж даўмеўся, чым яе замяніць.

Я зляпіў з гліны некалькі вельмі шырокіх і мелкіх пасудзін накшталт талерак, як мае быць абпаленых на агні. Я падрыхтаваў іх яшчэ задоўга да пачатку жніва і паставіў у кладоўцы. Яшчэ раней у мяне быў зроблены ачаг — роўная пляцоўка на зямлі з квадратных (вядома, калі казаць усур'ёз, далёка ад квадратных) цаглін, таксама ўласнага вырабу і таксама добра абпаленых.

Калі прыйшла пара пячы хлеб, я расклаў на гэтым ачагу вялікі агонь. І калі дровы

выгаралі, я разгроб вуголле па ўсім ачагу і даў яму паляжаць з паўгадзіны, каб ачаг напаліўся да чырвані. Тады я згроб жар у адзін бок і паклаў на ачаг свой хлеб, накрыўшы яго перавернутым дагары блюдам, а блюда засыпаў гарачым вуголлем.

І што ж? Мой хлеб пёкся, як у самай лепшай печы.

Прыемна было мне паспытаць свежага, толькі што спечанага хлеба! Мне здавалася, што ніколі ў жыцці не спытваў я такога ласунку.

Наогул за вельмі кароткі тэрмін я зрабіўся выдатным пекарам; не кажучы пра звычайны ўжо хлеб, я навучыўся пячы пудзінгі і праснакі з рысу. Толькі пірагоў я не пёк, бо, апрача казляціны і птушынага мяса, у мяне не было ніякай іншай начынкі.

На гэтыя гаспадарчыя работы ў мяне пайшоў увесь трэці год майго жыцця на востраве.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

### Рабінзон будуе лодку і шые сабе новае адзенне

Вы можаце не сумнявацца, што ўвесь гэты час мяне не пакідалі думкі пра зямлю, што відаць была з другога берага. У глыбіні душы я не пакідаў шкадаваць, што пасяліўся не на тым беразе: мне ўсё здавалася, што, калі б я бачыў перад сабою тую зямлю, як-небудзь я знайшоў бы магчымасць дабрацца да яе. А ўжо калі б я дабраўся да яе, то мне, магчыма, удалося б і выбрацца з гэтых мясцін на волю.

Вось калі я не раз успамінаў свайго маленькага прыяцеля Ксуры і сваю доўгую шлюпку з бакавым парусам, на якой я прайшоў уздоўж афрыканскіх берагоў больш за тысячу міляў.

Я вырашыў зірнуць на наш карабельны бот, які яшчэ ў тую буру, калі мы пацярпелі караблекрушэнне, выкінула на востраў за некалькі міляў ад майго жылля. Гэта лодка ляжала непадалёку ад таго месца, куды яе выкінула. Прыбоем яе перакуліла дагары дном і аднесла крыху вышэй, на пясчаную водмель; яна ляжала на сухім месцы, і вады вакол яе не было.

Калі б я здолеў адрамантаваць і спусціць на ваду гэту шлюпку, я змог бы без асаблівай цяжкасці дабрацца да Бразіліі. Але для такой работы адной пары рук было мала. Мне няцяжка было зразумець, што аднаму мне зрушыць гэту шлюпку з месца гэтак жа немагчыма, як, скажам, зрушыць з месца мой востраў. І ўсё роўна я вырашыў паспрабаваць. Я накіраваўся ў лес, насек тоўстых жэрдак, якія павінны былі служыць мне рычагамі, вычасаў з чурбакоў два каткі і ўсё гэта перацягнуў да шлюпкі.

«Каб толькі мне здолець перавярнуць яе на дно,— казаў я сабе,— а адрамантаваць яе — справа няцяжкая. Атрымаецца такая выдатная лодка, што на ёй смела можна будзе рушыць у мора».

І я не пашкадаваў сілы на гэту бескарысную работу.

Я патраціў на яе тры ці чатыры тыдні. Мала таго: калі я, нарэшце, зразумеў, што ў мяне не хопіць сілы зрушыць такое цяжкае судна, у мяне ўзнік новы план. Я ўзяўся адкідаць пясок ад аднаго борта лодкі, разлічваючы, што, калі лодка пазбавіцца пункту апоры, яна сама перавернецца і стане на дно; адначасова я падкладаў пад яе аскабалкі дрэва, каб, перавярнуўшыся, яна стала менавіта туды, куды было мне патрэбна.

Лодка сапраўды стала на дно, але гэта зусім не наблізіла мяне да мае мэты: я ўсё роўна не мог спусціць яе на ваду. Я нават не мог падвесці пад яе рычагі і нарэшце быў вымушаны адмовіцца ад свае задумы. Але гэта няўдача не адбіла ў мяне ахвоты зрабіць яшчэ спробу дабрацца да мацерыка. Наадварот, калі я ўбачыў, што ў мяне зусім няма ніякай магчымасці адплыць ад абрыдлага берага, маё жаданне пусціцца ў акіян не толькі не аслабела, а, наадварот, зрабілася яшчэ мацнейшае.

Нарэшце мне прыйшло ў галаву: а ці не паспрабаваць мне самому зрабіць лодку або, яшчэ лепш, пірогу, накшталт тых, якія робяць у тутэйшых шырынях туземцы?

«Каб зрабіць пірогу,— разважаў я,— не патрэбна амаль ніякіх прылад, таму што яе выдоўбваюць з суцэльнага ствала дрэва; такую работу адолее і адзін чалавек».

Адным словам, зрабіць пірогу, здавалася мне, не толькі магчыма, але нават і вельмі лёгка, і думка пра гэту работу была для мяне вельмі прыемная. З вялікім задавальненнем думаў я пра тое, што мне будзе лягчэй нават чым дзікунам справіцца з гэтай справай.

Я не задаваў сабе пытання, як я спушчу сваю пірогу на ваду, калі яна будзе гатова, а між тым гэта перашкода была куды больш істотная, чым недахоп інструмента.

Я з такім захапленнем марыў пра маё будучае падарожжа, што ні на секунду не спыняўся на гэтым пытанні, хоць было зусім відавочна, што куды лягчэй правесці лодку сорак пяць міляў морам, чым цягнуць яе сорак пяць ярдаў па зямлі, якая аддзяляе яе ад мора.

Адным словам, у гэтай гісторыі з пірогай я паводзіў сябе такім дзіваком, якога толькі можа разыграць чалавек пры поўным розуме.

Я цешыўся сваёй выдумкай, нават не паспрабаваўшы ўзважыць, а ці хопіць у мяне сілы, каб здзейсніць яе.

Нельга сказаць, каб думка пра спуск пірогі на ваду не прыходзіла мне ў галаву — не, яна прыходзіла, але я не даваў ёй ходу, заглушаючы яе кожны раз недарэчным довадам: «Спачатку зробім лодку, а там падумаем ужо, як яе спусціць. Не можа быць, каб я нічога не прыдумаў!»

Вядома ж, усё гэта было вар'яцтва! Але мая распаленая мара аказалася мацней за ўсякія развагі, і я, доўга не думаючы, узяўся за сякеру. Я ссек цудоўны кедр, які меў пяць футаў дзесяць дзюймаў у папярэчніку ўнізе ля камля, а ўверсе, на вышыні дваццаці двух футаў,— чатыры футы адзінаццаць дзюймаў; затым ствол паступова танчэў і, нарэшце, разгаліноўваўся.

Можна ўявіць сабе, як лёгка было мне зваліць гэта велізарнае дрэва!

Дваццаць дзён я сек толькі адзін ствол, заходзячы то з аднаго, то з другога боку, ды яшчэ чатырнаццаць дзён мне спатрэбілася, каб ацерабіць галіны. Цэлы месяц часаў я сваю калоду, намагаючыся вычасаць хоць нешта падобнае на кіль, таму што без кіля пірога не здолела б трымацца на вадзе прама. А тры месяцы пайшло яшчэ на тое, каб выдаўбаць

яе знутры. На гэты раз я абышоўся без агню: усю гэту непамерную работу я зрабіў малатком і долатам. Нарэшце ў мяне атрымалася цудоўная пірога, якая смела магла падняць чалавек дваццаць пяць, а гэта значыць і мяне з усім маім грузам.

Я быў у захапленні ад цуда свае працы: ніколі ў жыцці я не бачыў такое вялікай лодкі з цэлага дрэва. Затое ж і каштавала яна мне дорага! Колькі разоў давялося мне, знемагаючы ад стомы, прыкласціся да гэтага дрэва сякерай!

Аднак, як бы там ні было, палавіна справы была зроблена. Заставалася толькі спусціць лодку на ваду, і я не сумняваюся, што, калі б гэта мне ўдалося, я накіраваўся б у самае вар'яцкае і самае адчайнае з усіх марскіх падарожжаў, якія калі-небудзь распачыналіся на зямным шары. Але ўсе мае намаганні спусціць яе на ваду аказаліся марныя: мая пірога засталася там, дзе была!

Ад лесу, дзе я збудаваў сваю лодку, да вады было не больш за сто ярдаў, але лес стаяў у катлавіне, а бераг быў высокі, абрывісты. Гэта была першая перашкода.

Праўда, я адважна вырашыў яе знішчыць: трэба было зняць усю лішнюю зямлю такім чынам, каб ад лесу да берага ўтварыўся пакаты нахіл. Страшна ўспомніць, колькі сілы ўклаў я ў гэту працу, але хто пашкадуе свае апошнія сілы, калі гаворка ідзе пра тое, каб дабіцца волі!

Такім чынам першая перашкода была знішчана: дарога для лодкі гатова. Але гэта не дало вынікаў: колькі я ні біўся, я не мог зрушыць з месца маю пірогу, як раней не мог зрушыць карабельную шлюпку.

Тады я змераў адлегласць, якая аддзяляла пірогу ад мора, і вырашыў выкапаць канал: калі нельга было правесці лодку да вады, тады заставалася ваду прывесці да лодкі. І я пачаў быў ужо капаць, але калі прыкінуў у думках патрэбную глыбіню і шырыню маючага быць канала, калі падлічыў, за які прыкладна час здолее зрабіць такую работу адзін чалавек, то выявілася, што, каб давесці яе да канца, мне спатрэбіцца не меней дзесяці — дванаццаці год.

Нічога не зробіш, сціснуўшы зубы, давялося адмовіцца і ад гэтай задумы.

Я быў бясконца засмучаны, аднак тут жа разважыў, што брацца за справу, не разлічыўшы папярэдне, колькі часу і працы на яе спатрэбіцца, не ўзважыўшы, ці хопіць у цябе сілы скончыць яе,— неразумна.

За гэтым бязглуздым заняткам сустрэла мяне чацвёртая гадавіна майго жыцця на востраве.

К гэтаму часу большасць рэчаў, якія я ўзяў на караблі, або зусім у мяне ўжо знасілася, або канчала свой век. Карабельныя харчовыя запасы таксама былі ўжо на астатку.

Адразу ж за чарнілам у мяне скончыўся запас хлеба, дакладней не хлеба, а карабельных сухароў. Я эканоміў іх як толькі мог. За апошнія паўтара года я з'ядаў у дзень не болей аднаго сухара. І ўсё роўна да таго часу, калі я сабраў са свайго поля ўжо столькі збожжа, што яго можна было ўжываць і ў ежу, я амаль год не спытваў і крошкі хлеба.

Адзежа мая к гэтаму часу канчаткова знасілася. У мяне былі толькі кашулі ў клетку (каля трох тузін), якія я знайшоў у куфэрках матросаў. Іх я насіў асабліва ашчадліва; на маім востраве вельмі часта было так горача, што даводзілася хадзіць у адной кашулі, і не ведаю, што б я рабіў, каб у мяне не было гэтага запасу.

Вядома, у гэтым клімаце я здолеў бы хадзіць і голы. Але, калі на мне была адзежа, я лягчэй пераносіў спякоту. Ад пякучых промняў трапічнага сонца на скуры заставаліся пухіры, кашуля ж бараніла яе ад сонца, і, апрача таго, мяне ахалоджваў рух паветра паміж кашуляй і целам. Не мог я таксама звыкнуць хадзіць на сонцы з голай галавой; кожны раз, як толькі я выходзіў без шапкі, у мяне пачынала балець галава.

Патрэбна было найлепш выкарыстаць тыя запасы адзежы, якія ў мяне яшчэ заставаліся.

Перш за ўсё мне патрэбна была куртка; усе, якія ў мяне былі дагэтуль, я знасіў. Таму я вырашыў паспрабаваць перашыць на курткі матроскія бушлаты, якія ўсё яшчэ ляжалі ў мяне без патрэбы. У такіх бушлатах матросы стаяць зімовымі начамі на вахце.

І вось я ўзяўся за кравецтва! Кажучы шчыра, я быў даволі-такі няўдалы кравец, але, як там ні кажы, дзве ці тры курткі я ўсё ж сяк-так агораў.

На мой разлік, іх павінна было хапіць мне надоўга.

Пра першую ж маю спробу пашыць сабе штаны лепш і не казаць: скончылася яна сорамам і няўдачай.

Аднак неўзабаве пасля таго я вынайшаў новы спосаб апранацца і з таго часу не меў недахопу ў адзежы.

Справа ў тым, што ў мяне захаваліся шкуры ўсіх жывёл, на якіх я паляваў. Кожную шкуру я высушваў на сонцы, расцягнуўшы яе на жэрдках. Толькі спачатку я, не маючы практыкі, вельмі доўга трымаў іх на сонцы, і таму першыя шкуры былі такія каляныя, што іх нельга было выкарыстаць. Затое астатнія былі выдатныя. З іх я і пашыў перш за ўсё сабе вялікую шапку поўсцю наверх, каб яна не баялася дажджу. Футравая шапка была такая ўдалая, што я вырашыў з такога ж матэрыялу змайстраваць сабе яшчэ і поўны гарнітур, гэта значыць штаны і куртку. Штаны я пашыў кароткія, да каленяў, і вельмі прасторныя; куртку таксама зрабіў вольную, таму што і тое і другое патрэбна было мне не так для цеплыні, як для таго, каб бараніцца ад сонца.

Мой крой і шытво, кажучы шчыра, не варты былі добрага слова. Цясляр я быў ніякі, а кравец — і яшчэ горшы. І тым не менш, мая адзежа, пашытая ўласнаручна, служыла мне як не трэба лепш, асабліва калі мне здаралася выходзіць з дому ў дождж: уся вада сцякала па доўгай поўсці, і я заставаўся зусім сухі.

Пасля курткі і штаноў я надумаўся змайстраваць сабе парасон.

Я бачыў, як робяць парасоны ў Бразіліі. Там гарачыня такая страшэнная, што без парасона нельга абысціся. А на маім востраве было не халадней, наадварот, бадай, нават яшчэ гарачэй, таму што ён бліжэй да экватара. Хавацца ад гарачыні я не мог, большую частку свайго часу я праводзіў пад адкрытым небам. Неабходнасць прымушала мяне выходзіць з дому ў рознае надвор'е, а часам і падоўгу блукаць

пад дажджом і сонцам. Адным словам, без парасона я быў як без рук.

Доўга я калупаўся і многа часу адабрала ў мяне гэта работа, перш чым здолеў змайстраваць нешта крыху падобнае на парасон. Разы два ці тры, калі я думаў, што ўжо дасягнуў мэты, у мяне атрымлівалася такое непадабенства, што даводзілася зноў пачынаць усё спачатку. Але ў рэшце рэшт я ўсё ж дабіўся свайго і зрабіў даволі прыстойны парасон. Справа ў тым, што я хацеў, каб ён раскрываўся і закрываўся,— у гэтым вось і была ўся загвоздка. Вядома, зрабіць яго нерухомым было вельмі лёгка, але тады давялося б насіць яго заўсёды раскрытым, а гэта было нязручна. Як я ўжо сказаў, я адолеў і гэту цяжкасць, і мой парасон адкрываўся і закрываўся. Я нацягнуў на яго казіныя шкуры поўсцю наверх: дажджавая вада сцякала па поўсці, як па нахіленай страсе, і самыя гарачыя сонечныя промні не маглі пранікнуць скрозь мой парасон.

З гэтым парасонам я не баяўся ніякага дажджу і не пакутаваў ад сонца нават у самае гарачае надвор'е.

Калі ён быў мне не патрэбны, я складваў яго і нёс пад пахай.

Так я і жыў на сваім востраве, спакойны і задаволены.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

### Рабінзон будуе другую лодку, меншых памераў, і спрабуе аб'ехаць вакол вострава

Мінула яшчэ пяць гадоў, і за гэты час, як я памятаю, не адбылося нічога асаблівага.

Жыццё маё ішло па-ранейшаму — ціха і спакойна, жыў я на старым месцы, і па-ранейшаму ўвесь мой час быў у працы і на паляванні.

Цяпер у мяне было ўжо столькі збожжа, што майго ўраджаю хапала мне на цэлы год; вінаграду таксама было ўдосталь. Але з гэтай прычыны мне даводзілася працаваць у лесе і ў полі яшчэ больш, чым раней.

Аднак галоўным маім клопатам было збудаванне новай лодкі. На гэты раз я не толькі зрабіў лодку, але і спусціў яе на ваду: я вывеў яе ў бухтачку па вузкім канале, які мне давялося выкапаць на працягу паўмілі.

Першую сваю лодку, як ужо ведае чытач, я зрабіў такога велізарнага памеру, што вымушаны быў пакінуць яе на месцы пабудовы, як помнік уласнай дурноце. Ён заўсёды нагадваў мне пра тое, што ў далейшым мне трэба быць больш разумным.



Цяпер я ўжо быў спрактыкаваны. Праўда, на гэты раз я збудаваў лодку амаль за паўмілі ад вады, таму што бліжэй не знайшоў адпаведнага дрэва, але я быў упэўнены, што здолею спусціць яе на ваду, бо бачыў, што справа, якую задумаў, гэтым разам была мне па сіле, і цвёрда вырашыў давесці яе да канца. Амаль два гады пайшло ў мяне на збудаванне лодкі. Мне так страшэнна хацелася атрымаць нарэшце магчымасць плаваць па моры, што я не шкадаваў ніякае працы.

Трэба, аднак, заўважыць, што будаваў я гэту новую пірогу зусім не для таго, каб пакінуць свой востраў. З гэтай марай я даўно ўжо развітаўся. Лодка была такая малая, што не было чаго і думаць пераплысці на ёй сорак ці болей міль, якія ляжалі паміж маім востравам і мацерыком.

Цяпер у мяне была больш сціплая мэта: аб'ехаць вакол вострава — і толькі. Я ўжо аднойчы пабываў на супрацьлеглым беразе, і адкрыцці, якія я там зрабіў, так зацікавілі мяне, што мне яшчэ тады захацелася агледзець усё ўзбярэжжа, якое мяне акружала.

І вось цяпер, калі ў мяне з'явілася лодка, я вырашыў, чаго б гэта ні каштавала, аб'ехаць свой востраў морам. Перш чым рушыў у дарогу, я старанна падрыхтаваўся да свайго падарожжа. Я змайстраваў для свае лодкі невялічкую мачту і пашыў такі ж невялічкі парус з кавалкаў парусіны, якой у мяне было яшчэ дастаткова ў запасе.

Калі лодка была аснашчана, я выпрабаваў яе ход і ўпэўніўся, што пад парусам яна ідзе даволі прыстойна. Тады я прыбудаваў на карме і на носе невялічкія скрынкі, каб захаваць ад дажджу і хваль правізію, зарады і іншыя

неабходныя мне рэчы, якія я буду браць з сабой у дарогу. Для стрэльбы я выдзеўбаў у дне лодкі вузкі жолаб.

Затым я ўмацаваў раскрыты парасон, нахіліўшы яго так, каб ён быў якраз над маёй галавой і бараніў мяне ад сонца ўсё роўна як стрэшка.

Дагэтуль час ад часу я рабіў невялікія прагулкі морам, але ніколі не заходзіў далёка ад свае бухты. Цяпер жа, калі я меў намер аглядзець межы свае маленькае дзяржавы і падрыхтаваў сваё судна для далёкага плавання, я занёс на яго палову казінай тушы, гліняны гаршчок падсмажанага рысу і ячменныя праснакі, якія я ўжо сам пёк.

6 лістапада я накіраваўся ў дарогу.

Праездзіў я куды больш, чым разлічваў. Справа ў тым, што хоць мой востраў і быў сам па сабе невялікі, але калі я павярнуў да ўсходняй часткі яго ўзбярэжжа, перада мной узнікла непрадбачаная перашкода. У гэтым месцы ад берага адыходзіць вузкая града скал; іншыя з іх тырчаць з вады, іншыя схаваны ў вадзе. Града заходзіць міль на шэсць у адкрытае мора, а далей, за скаламі, яшчэ мілі на паўтары цягнецца пясчаная водмель. Такім чынам, каб абагнуць гэту касу, давялося даволі далёка ад'ехаць ад берага. Гэта было вельмі небяспечна.

Я хацеў нават павярнуць назад, таму што не мог з дакладнасцю вызначыць, як далёка мне давядзецца прайсці ў адкрытым моры, пакуль я абагну граду падводных скал, і баяўся рызыкаваць. І, апрача таго, я не ведаў, ці здолею павярнуць назад. Таму я кінуў якар (перад тым як адправіцца ў дарогу, я змайстраваў сабе нешта накшталт якара з абломка жалезнага крука, які я знайшоў на караблі), узяў стрэльбу і сышоў на бераг. Убачыўшы непадалёку даволі высокую горку, я ўзлез на яе, змераў на вока даўжыню скалістай грады, якая адсюль была добра відаць, і вырашыў рызыкнуць.



Але не паспеў я дабрацца да гэтай грады, як апынуўся на страшнай глыбіні і следам затым трапіў у магутны струмень марскога цячэння. Мяне закруціла, як у шлюзе вадзянога млына, падхапіла і панесла. Пра тое, каб

павярнуць да берага ці звярнуць убок, не было чаго нават і думаць. Усё, што я мог зрабіць, гэта трымацца каля самага краю цячэння і старацца не трапіць у сярэдзіну.

Між тым мяне зносіла ўсё далей і далей. Калі б быў хоць невялікі ветрык, тады б я здолеў узняць парус. Але на моры стаяў поўны штыль. Я працаваў вёсламі з усяе сілы, аднак справіцца з цячэннем не мог і ўжо развітваўся з жыццём. Я ведаў, што праз некалькі міляў тое цячэнне, куды я трапіў, сальецца з другім цячэннем, якое абгінала востраў, і што, калі да таго часу я не здолею звярнуць убок, я беззваротна загіну.

А між тым я не бачыў ніякай магчымасці звярнуць.

Выратавання не было: мяне чакала верная смерць — і не ў марскіх хвалях, таму што мора было спакойнае, а з голаду. Праўда, на беразе я знайшоў чарапаху, такую вялікую, што ледзь здолеў падняць яе, каб узяць з сабой у лодку. Быў у мяне таксама добры запас прэснай вады — прыхапіў свой самы большы гліняны збан. Але што гэта азначала для няшчаснай істоты, якая трапіла ў бязмежны акіян, дзе можна праплыць тысячу міляў і не ўбачыць нават прыкмет зямлі!

Пра свой пустэльны, закінуты востраў я ўспамінаў цяпер як пра зямны рай, і адзіным маім цяпер жаданнем было вярнуцца ў гэты рай. Я аддана прасціраў да яго рукі.

— О мая пустыня! Ты падаравала мне шчасце! — усклікваў я.— Мне ўжо ніколі цябе не пабачыць. О, што цяпер будзе са мною? Куды занясуць мяне бязлітасныя хвалі? Які ж няўдзячны я быў, калі наракаў на сваю адзіноту і праклінаў гэты цудоўны востраў!

Цяпер ён для мяне быў такі дарагі і мілы, і мне было горка думаць, што я павінен ужо навек развітацца з надзеяй яго ўбачыць зноў.

Мяне несла і несла ў бясконцую водную далячынь. Але хоць я і адчуваў смяртэльны страх і адчай, я ўсё ж не паддаваўся гэтым пачуццям і веславаў з усяе сілы, стараючыся скіраваць лодку на поўнач, каб перасекчы цячэнне і абагнуць рыфы.

Раптам апоўдні пацягнуў ветрык. Гэта мяне падбадзёрыла.

Але ўявіце сабе маю радасць, калі ветрык пачаў хутка свяжэць і праз паўгадзіны зрабіўся ўжо добрым ветрам!

К гэтаму часу мяне адагнала ўжо далёка ад майго вострава. І каб выпадкова ў тую пару ўзняўся туман, мне быў бы канец!

У мяне не было компаса, і калі б я згубіў з вачэй свой востраў, я не ведаў бы, куды кіраваць шлях. Але, на маё шчасце, быў сонечны дзень і нішто не прадказала туману.

Я паставіў мачту, узняў парус і пачаў кіраваць на поўнач, каб выбіцца з цячэння.

Як толькі мая лодка павярнула з ветрам і пайшла насуперак цячэнню, я заўважыў у ім змену: вада зрабілася куды святлейшая. Я зразумеў, што цячэнне па нейкай прычыне пачынае слабець, тады як раней, калі яно было хуткае, вада ўвесь час была ўскаламучаная. І сапраўды, хутка я ўбачыў справа ад сябе на ўсходзе скалы (іх можна было адрозніць здалёку па белай пене хваль, што бурліла вакол кожнай з іх). Вось гэтыя скалы і запавольвалі цячэнне, перапыняючы яму шлях.

Неўзабаве я ўпэўніўся, што яны не толькі запавольваюць цячэнне, а яшчэ і разбіваюць яго на два струмені, з якіх галоўны толькі крыху адхіляецца на поўдзень, пакідаючы скалы злева, а другі крута паварочвае назад і накіроўваецца на паўночны захад.

Толькі той, хто з вопыту ведае, што значыць атрымаць памілаванне, стоячы на эшафоце, ці выратавацца ад бандытаў у тую апошнюю хвіліну, калі нож прыстаўлены да горла, толькі той зразумее маю радасць пры гэтым адкрыцці.

Маё сэрца білася ад радасці, калі я накіраваў сваю лодку ў адваротны струмень, што цёк назад, падставіў парус спадарожнаму ветру, які яшчэ больш пасвяжэў, і весела паплыў да вострава.

Каля васьмі гадзін вечара я падплыў да берага і, нагледзеўшы зручнае месца, прычаліў.

Немагчыма апісаць тую радасць, якая перапаўняла мяне, калі я адчуў пад сабою цвёрдую зямлю!

Якім мілым здалося мне кожнае дрэўца майго цудоўнага вострава! З гарачай пяшчо-

тай глядзеў я на гэтыя ўзвышшы і даліны, якія толькі ўчора яшчэ выклікалі сум і тугу ў маім сэрцы. Як я быў рады, што зноў убачу свае палі і гаі, сваю пячору і свайго адданага сабаку, сваіх коз! Якой прыгожай здалася мне дарога ад берага да майго будана.

Быў ужо вечар, калі я дабраўся да свае лясной дачы. Я пералез цераз плот, лёг у цень і, адчуваючы страшэнную стому, неўзабаве заснуў.

Але якое ж было маё здзіўленне, калі мяне абудзіў нечы голас. Так, гэта быў чалавечы голас! Тут, на востраве, быў чалавек, і ён моцна крычаў сярод начы:

— Робін! Робін! Робін Круза! Бедны Робін Круза! Куды ты трапіў, Робін Круза? Куды ты трапіў? Дзе ты быў?



Змучаны доўгім веславаннем, я спаў такім моцным сном, што не адразу здолеў абудзіцца, і мне доўгі час здавалася, што я чую гэты голас у сне.

Але крык настойліва паўтараўся:

— Робін Круза! Робін Круза!

Нарэшце я прачнуўся і зразумеў, дзе я. Першым маім пачуццём быў жахлівы страх. Я ўсхапіўся, дзіка азіраючыся вакол, і раптам узняў галаву і ўбачыў на агароджы свайго папугая.

Вядома, я адразу ж здагадаўся, што гэта ён і выкрыкваў гэтыя словы: дакладна такім жа жаласным голасам я сам часта казаў пры ім гэтыя словы, і ён добра іх завучыў. Сядзе, бывала, мне на палец, наблізіць дзюбу да майго твару і пачынае паныла паўтараць: «Бедны Рабінзон Круза! Дзе ты быў і куды ты трапіў?»

Але нават упэўніўшыся, што гэта быў папугай, і, разумеючы, што, апрача папугая, тут няма каму быць, я яшчэ доўга не мог супакоіцца.

Я зусім не разумеў, як ён, па-першае, трапіў на маю дачу, па-другое, чаму ён прыляцеў менавіта сюды, а не ў іншае месца.

Але таму, што ў мяне не было ніякага сумнення, што гэта ён, мой верны Попка, я паклікаў яго і працягнуў яму руку. Гаманкая птушка адразу ж села мне на палец і паўтарыла зноў:

— Бедны Рабінзон Круза! Куды ты трапіў?

Попка нібыта радаваўся, што зноў бачыць мяне. Пакідаючы будан, я пасадзіў яго на плячук і панёс з сабою.

Непрыемныя прыгоды мае марской экспедыцыі надоўга адбілі ў мяне ахвоту плаваць морам, і многа дзён успамінаў я пра тую небяспеку, якая пагражала мне, калі мяне несла ў акіян.

Вядома, добра было б мець лодку на гэтым баку вострава, бліжэй да майго дома, але як прывесці яе адтуль, дзе я пакінуў яе? Абагнуць мой востраў з усходу — толькі ад аднае думкі пра гэта ў мяне сціскалася сэрца і стыла кроў. Што там робіцца, на другім баку вострава, я не меў ніякага ўяўлення. А што, калі цячэнне і з таго боку гэтакае ж імклівае, як і з гэтага? Хіба не можа яно шпурнуць мяне на ўзбярэжныя скалы з той жа сілай, з якою другое цячэнне зносіла мяне ў адкрытае мора? Адным словам, хоць на пабудову гэтай лодкі і спуск яе на ваду я паклаў і нямала сілы, аднак я вырашыў, што ўсё ж лепей застацца без лодкі, чым рызыкаваць праз яе жыццём.

Трэба сказаць, што цяпер я ўжо добра налаўчыўся ва ўсіх ручных работах, якіх патрабавалі ўмовы майго жыцця. Калі я адразу апынуўся на востраве, я не ўмеў трымаць сякеры ў руках, а цяпер, пры выпадку, я мог бы палічыцца неблагім цесляром, асабліва калі ўзяць у разлік тыя абставіны, што ў мяне было зусім мала інструментаў.

Я і ў ганчарнай справе (зусім нечакана!) зрабіў прыкметны крок наперад: наладзіў станок з кругам, які круціўся. Таму работа мая стала і больш хуткай і лепшай: цяпер замест нязграбных вырабаў, на якія не хацелася глядзець, у мяне атрымліваўся зусім прыстойны посуд даволі правільнай формы.

Але ніколі я, здаецца, так не радаваўся і не ганарыўся сваім вынаходніцтвам, як у той дзень, калі мне ўдалося зрабіць люльку. Вядома, мая люлька мела першабытны выгляд — са звычайнай абпаленай гліны, як і ўсе мае ганчарныя вырабы, і атрымалася яна не вельмі прыгожая. Але яна была дастаткова моцная і добра прапускала дым, а галоўнае — гэта была ўсё-такі люлька, пра якую я столькі марыў, таму што прывык курыць з вельмі даўняга



часу. На нашым караблі былі люлькі, але, перавозячы адтуль рэчы, я не ведаў, што на востраве расце тытунь, і вырашыў, што не варта іх браць.

К гэтаму часу я заўважыў, што мае запасы пораху пачынаюць прыкметна змяншацца. Гэта надзвычай устрывожыла і засмуціла мяне, таму што новага не было дзе ўзяць. Што ж я рабіць буду, калі ў мяне выйдзе ўвесь порах? Як я тады буду паляваць на коз і птушак? Няўжо да канца сваіх дзён я застануся без мясной стравы?

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

### Рабінзон прыручае коз

На адзінаццатым годзе майго жыцця на востраве, калі порах у мяне пачаў канчацца, я пачаў сур'ёзна думаць, як бы знайсці спосаб лавіць дзікіх коз жывымі. Больш за ўсё мне хацелася злавіць матку з казлянятамі.

Спачатку я ставіў сілкі, і козы нярэдка траплялі ў іх. Але мне ад гэтага было мала карысці: козы з'ядалі прынаду, а потым разрывалі сілкі і зусім спакойна ўцякалі на волю. На жаль, у мяне не было дроту, і сілкі даводзілася рабіць вераўчаныя.

Тады я вырашыў пакапаць воўчыя ямы. Ведаючы мясціны, дзе козы хадзілі часцей за ўсё, я выкапаў там тры глыбокія ямы, накрыў іх пляцёнкамі ўласнаручнай работы і паклаў на кожную пляцёнку ахапак каласоў рысу і ячменю. Хутка я ўпэўніўся, што козы наведваюць мае ямы: каласы былі з'едзены і вакол былі відаць сляды казіных капытоў. Тады я прыдумаў сапраўдныя пасткі і на другі ж дзень знайшоў у адной яме вялізнага старога казла, а ў другой трох казлянят: аднаго самца і дзвюх самак.

Старога казла я выпусціў на волю, бо не ведаў, што з ім рабіць. Ён быў такі дзікі і злосны, што ўзяць яго жывога было немагчыма (я баяўся зайсці да яго ў яму), а забіваць яго не было патрэбы. Як толькі я падняў пляцёнку, ён выскачыў з ямы і прыпусціў з усіх ног наўцёкі.

Пазней мне давялося ўпэўніцца, што голад утаймоўвае нават ільвоў. Але тады я гэтага не ведаў. Калі б я прымусіў казла пагаладаць дні тры-чатыры, а потым прынёс яму вады і крыху каласоў, ён бы ўціхаміраўся і быў бы спакойны не горш за маіх казлянят.



Козы наогул вельмі разумныя і паслухмяныя. Калі з імі добра абыходзіцца, іх зусім не цяжка прыручыць.

Але, паўтараю, у той час я гэтага не ведаў. Выпусціўшы казла, я падышоў да тае ямы, дзе сядзелі казляняты, выцягнуў іх усіх траіх па аднаму, звязаў разам вяроўкаю і ледзьве прывалок іх дадому.

Даволі доўга я не мог прымусіць іх есці. Апрача малака мацеры, яны яшчэ не ведалі іншай ежы. Але калі яны добра выгаладаліся, я кінуў ім некалькі сакавітых каласоў, і яны памалу ўзяліся за яду. Неўзабаве яны прывыклі да мяне і зрабіліся зусім ручныя.

З таго часу я пачаў разводзіць коз. Мне хацелася, каб у мяне быў цэлы статак, таму што гэта быў адзіны сродак забяспечыць сябе мясам да таго часу, калі ў мяне скончыцца порах і шрот.

Гады праз паўтара ў мяне ўжо было не менш дванаццаці коз, лічачы з казлянятамі, а яшчэ праз два гады мой статак вырас да сарака трох галоў. З цягам часу я збудаваў пяць загароджаных загонаў; усе яны злучаліся паміж сабой варотцамі, каб можна было пераганяць коз з аднаго лужка на другі.

У мяне цяпер быў невычарпальны запас казінага мяса і малака. Кажучы па шчырасці, калі я толькі браўся разводзіць коз, я нават і не думаў пра малако. Толькі пазней я пачаў іх даіць.

Я думаю, што нават самы пануры чалавек не стрымаўся б ад усмешкі, каб убачыў мяне з маім сямействам за абедзенным сталом. На галоўным месцы сядзеў я, кароль і ўладар вострава, які поўнаўладна распараджаўся жыццём усіх сваіх падданых: я мог караць і міласць, дараваць і адбіраць волю, і сярод маіх падданых не было ніводнага бунтаўшчыка.

Трэба было бачыць, з якой каралеўскай пышнасцю я абедаў адзін, акружаны маімі прыдворнымі. Толькі Попку, пястуну, дазвалялася

размаўляць са мной. Сабака, які даўно ўжо састарыўся, садзіўся заўсёды з правай рукі свайго ўладара, а злева сядалі каты, чакаючы падачкі з маіх уласных рук. Такая падачка лічылася знакам асаблівай каралеўскай міласці.

Гэта былі не тыя каты, якіх я прывёз з карабля. Тыя даўно памерлі, і я сам пахаваў іх непадалёк ад свайго жылля. Адна кошка ўжо на востраве акацілася; я пакінуў у сябе двое кацянят, і яны выраслі ручнымі, а астатнія збеглі ў лес і здзічэлі. Паступова на востраве расплодзілася такое мноства катоў, што ад іх не было адбою: яны лазілі да мяне ў кладоўку, цягалі правізію і пакінулі мяне ў спакоі толькі тады, калі я прыстрэліў двух ці трох.

Паўтараю: я жыў сапраўдным каралём, ні ў чым не маючы патрэбы; вакол мяне заўсёды быў цэлы штат адданых мне прыдворных — не было толькі людзей. Аднак, як убачыць чытач, неўзабаве прыйшоў час, калі ў маіх уладаннях з'явілася нават вельмі многа людзей.

Я цвёрда вырашыў ніколі больш не распачынаць небяспечных марскіх падарожжаў, і ўсё роўна мне вельмі хацелася мець пад рукамі лодку — хаця б для таго, каб плаваць на ёй каля самага берага. Я часта думаў пра тое, як бы мне перавесці яе на той бок вострава, дзе была мая пячора. Але, разумеючы, што ажыццявіць гэты план цяжка, кожны раз я супакойваў сябе тым, што мне добра і без лодкі.

Аднак, сам не ведаю чаму, мяне вельмі цягнула да тае горкі, куды я ўзбіраўся ў час мае апошняе паездкі. Мне хацелася яшчэ раз паглядзець адтуль, якія абрысы берагоў і куды накіроўваецца цячэнне. У рэшце рэшт я не вытрымаў і падаўся ў дарогу — на гэты раз пехатой, уздоўж берага.

Калі б у нас у Англіі з'явіўся чалавек у такой адзежы, якая была на мне ў той час, усе прахожыя, я ўпэўнены, разбегліся б ад страху або пакаціліся б са смеху; ды і сам я не раз, гледзячы на сябе, міжвольна ўсміхаўся, уяўляючы сабе, як я шпацырую па роднаму Йоркшыру з такой світай і ў такім убранні.



На галаве ў мяне ўзвышалася спічастая няўклюдная шапка з казінага футра. Яна спаў-



зала мне на патыліцу, каб прыкрываць маю шыю ад сонца, а ў час дажджу не даваць вадзе ліцца за каўнер. У гарачым клімаце няма нічога больш шкоднага, чым дождж, які трапляе за адзежу на голае цела.

Затым на мне быў доўгі камзол з таго ж матэрыялу, амаль да каленяў. Штаны былі са скуры вельмі старога казла з такой доўгай поўсцю, што яны закрывалі мне ногі амаль да палавіны лытак. Панчох у мяне зусім не было, а замест чаравік я змайстраваў сабе — не ведаю, як і назваць,— боты не боты з доўгімі шнуркамі, якія завязваліся збоку. Абутак гэты быў вельмі дзіўны, як, зрэшты, і ўсё астатняе маё ўбранне.



Камзол я падпяразваў шырокай папругай з казінай скуры; спронжку мне замянілі два шкурацікі, а з бакоў я прышыў па пятлі — не шпагу і кінжал насіць, а для пілы і сякеры.



Апрача таго, я надзяваў скураную перавязь цераз плячо з такімі ж засцежкамі, як і на папрузе, толькі крыху вузейшымі. Да гэтай перавязі я прымацоўваў дзве сумкі так, каб яны знаходзіліся пад левай рукой: у адной быў порах, у другой шрот. За спіною ў мяне вісела карзіна, за плячыма стрэльба, а над галавою — вялізны футравы парасон. Парасон быў брыдкі, але ён быў, бадай, самай неабходнай прыналежнасцю пры маіх дарожных зборах. Больш патрэбная за парасон — была хіба толькі стрэльба.

Колерам твару я найменш, чым можна было чакаць, нагадваў негра, улічваючы тое, што я жыў непадалёк ад экватара і ніколькі не баяўся загару.

Спачатку я адпусціў сабе бараду. Барада вырасла непамернай даўжыні. Потым я пагаліў яе, пакінуўшы толькі вусы; але затое вусы выгадаваў незвычайныя, сапраўдныя турэцкія. Яны былі такой страшэннай даўжыні, што ў Англіі палохалі б прахожых.

Але пра ўсё гэта я зазначаю мімаходам: не надта многа было на востраве гледачоў, якія маглі б захапляцца маім тварам і паставай,— дык ці не ўсё роўна, якая была ў мяне знешнасць! Я загаварыў пра яе проста таму, што прыйшлося да слова, і больш ужо не буду весці гаворкі на гэту тэму.

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

### Нечаканая трывога.— Рабінзон умацоўвае сваё жыллё

Неўзабаве адбылася падзея, якая рашуча парушыла спакойнае цячэнне майго жыцця.

Было пад поўдзень. Я ішоў берагам мора, накіроўваючыся да свае лодкі, і раптам, на вялікае здзіўленне і жах, убачыў на пяску выразны след босай чалавечай нагі!

Я спыніўся і не мог крануцца з месца, як быццам мяне ўдарыла громам, як быццам я ўбачыў здань.

Я пачаў прыслухоўвацца, я азіраўся навокал, але не чуў і не бачыў нічога падазронага.

Я ўзбег наверх па ўзбярэжнаму схілу, каб лепш агледзець увесь краявід; зноў спусціўся да мора, прайшоў уздоўж берага — і нідзе не знайшоў нічога: ніякіх прыкмет прысутнасці людзей, апрача гэтага адзінага адбітка нагі.

Я вярнуўся яшчэ раз на тое ж месца. Мне хацелася даведацца, ці няма там яшчэ адбіткаў. Але другіх адбіткаў не было. Магчыма, мне здалося? Магчыма, гэты след не належаў чалавеку? Не, я не памыліўся! Гэты быў несумненна след нагі чалавека: я выразна адрозніў пяту, пальцы, падэшву. Адкуль тут узяўся чалавек? Як ён сюды трапіў? Я губляўся ў здагадках і не мог спыніцца ні на чым пэўным.

Страшэнна растрывожаны, не чуючы зямлі пад нагамі, заспяшаўся я дадому, у сваю крэпасць. Думкі блыталіся ў маёй галаве.

Праз кожныя два-тры крокі я азіраўся. Я баяўся кожнага куста, кожнага дрэва. Кожны пень здалёку я прымаў за чалавека.

Немагчыма апісаць, якую нечаканую і палахлівую форму набывалі раптам усе рэчы ў маім узбуджаным уяўленні, якія дзікія фантастычныя думкі хвалявалі мяне ў той момант і якія бязглуздыя намеры прыходзілі мне ў галаву па дарозе.

Дабраўшыся да свае крэпасці (так я пачаў з таго дня называць сваё жыллё), я імгненна апынуўся за агароджай, нібыта за мною гналася пагоня.

Я нават не мог успомніць, пералез я цераз агароджу прыстаўнымі лескамі, як заўсёды,

ці зайшоў праз дзверы, гэта значыць знадворці зайшоў праз дзверы, гэта значыць знадворным праходам, які я выкапаў у гары. Я і на другі дзень не здолеў прыпомніць гэтага.

Ніводзін заяц, ніводзін ліс, ратуючыся ад зграі сабак, не ўцякалі так у сваю нару, як я.

Усю ноч я не мог заснуць і тысячу разоў задаваў сабе адно і тое ж пытанне: якім чынам здолеў трапіць сюды чалавек?

Магчыма, гэта адбітак нагі якога-небудзь дзікуна, які трапіў на востраў выпадкова. А можа, дзікуноў было многа? Магчыма, яны выйшлі ў мора на сваёй пірозе і іх прыгнала сюды цячэннем ці ветрам? Зусім магчыма, што яны пабылі на беразе, а потым зноў выйшлі ў мора, таму што ў іх, відаць, было гэтак жа мала жадання заставацца ў гэтай пустыні, як у мяне — жыць па суседству з імі.

Вядома, яны не заўважылі мае лодкі, інакш здагадаліся б, што на востраве жывуць людзі, пачалі б шукаць іх і напэўна знайшлі [redacted] мяне.

Але тут мяне апякла страшэнная думка: «А што, калі яны бачылі маю лодку?» Ад гэтай думкі я пакутаваў.

«Праўда,— казаў я сабе,— яны зноў пайшлі ў мора, але гэта яшчэ нічога не даказвае; яны вернуцца, яны абавязкова вернуцца з цэлым натоўпам другіх дзікуноў і тады знойдуць мяне і з'ядуць. А калі ім і не ўдасца знайсці мяне, усё роўна яны ўбачаць мае палі, мае загарадкі, яны знішчаць увесь мой хлеб, згоняць мой статак, і мне давядзецца загінуць з голаду».

Першыя трое сутак пасля майго жахлівага адкрыцця я ні на мінуту не пакідаў свае крэпасці, так што пачаў нават галадаць. Я не трымаў дома вялікіх запасаў харчавання, і на трэція суткі ў мяне заставаліся толькі ячменныя праснакі і вада.

Мяне мучыла таксама і тое, што мае козы, якіх я звычайна даіў кожны вечар (гэта бала штодзённая забава), цяпер заставаліся нядоеныя. Я ведаў, што бедныя жывёліны праз гэта павінны былі вельмі пакутаваць; апрача таго, я баяўся, што ў іх можа загінуць малако. І мой страх спраўдзіўся: большасць коз захварэла і амаль перастала даваць малако.

На чацвёртыя суткі я набраўся адвагі і выйшаў. А тут яшчэ ў мяне з'явілася адна думка, якая канчаткова вярнула мне маю ра-



нейшую бадзёрасць. Якраз тады, калі мой страх, здавалася, дасягнуў вяршыні, калі ад адной здагадкі я кідаўся да другой і ні на чым не мог спыніцца, мне раптам прыйшло ў галаву, а ці не выдумаў я ўсю гэту гісторыю са следам чалавечай нагі і ці не мой гэта ўласны след. Ён жа мог застацца на пяску, калі я перадапошні раз хадзіў глядзець сваю лодку. Праўда, вяртаўся я звычайна другой дарогай, але гэта было даўно, і хіба мог я з упэўненасцю сцвярджаць, што ішоў тады менавіта той, а не гэтай дарогай?

Я пастараўся запэўніць сябе, што так яно і было, што гэта мой уласны след і што я быў падобны на таго дурня, які выдумаў байку пра нябожчыка, што ўстаў з труны і сам жа палохаўся свае байкі.

Вядома, гэта быў мой уласны след!

Упэўніўшы сябе такім чынам, я пачаў выходзіць з дому па розных гаспадарчых справах. Я пачаў кожны дзень бываць у сябе на дачы. Там я даіў коз, збіраў вінаград. Але калі б вы пабачылі, як я баязліва ішоў туды, як часта азіраўся па баках, гатовы ў любы момант кінуць сваю карзіну і сам кінуцца ўцякаць, вы, напэўна, падумалі б, што я нейкі страшэнны злачынца, якога прыгнятаюць пакуты сумлення.

Аднак прайшло яшчэ два дні, і я зрабіўся куды смялейшы. Я канчаткова ўпэўніў сябе, што ўвесь мой страх — не інакш як вынік недарэчнай памылкі, але, каб ужо не заставалася ніякіх сумненняў, я вырашыў яшчэ раз схадзіць на той бераг і параўнаць таямнічы след з адбіткам мае ўласнае нагі. Калі і той і мой след будуць аднолькавых памераў, то я магу быць упэўнены, што след, які мяне напалохаў, быў мой уласны і што я спалохаўся сябе самога.

З гэтым рашэннем я і падаўся ў дарогу. Але калі я прыйшоў на тое месца, дзе быў таямнічы след, для мяне, па-першае, стала зразумела, што, калі я выйшаў той раз з лодкі і вяртаўся дадому, я ніякім чынам не мог апынуцца на гэтым месцы, а па-другое, калі я для параўнання паставіў сваю нагу, выявілася, што мая нага была куды меншая!

Сэрца маё напоўнілася новым страхам, я дрыжаў як у ліхаманцы, віхор новых здагадак

закружыўся ў маёй галаве. Я пайшоў дадому зусім перакананы, што там, на беразе, пабыў чалавек — і, магчыма, не адзін, а пяць ці шэсць.

Я нават гатоў быў дапусціць, што гэтыя людзі зусім не прыязджалі, што яны жыхары вострава. Праўда, да гэтага часу я не заўважаў тут ніводнага чалавека, але магчыма, што яны ўжо даўно хаваюцца тут, а значыць, кожную мінуту могуць захапіць мяне знянацку.

Я доўга ламаў сабе галаву, як мне абараніць сябе ад гэтай небяспекі, і ўсё роўна не мог нічога прыдумаць.

«Калі дзікуны знойдуць маіх коз,— казаў я сам сабе,— і ўбачаць палі, на якіх каласуе мая збажына, яны будуць заўсёды вяртацца на востраў па новую здабычу, а калі яны яшчэ заўважаць і мой дом, яны абавязкова возьмуцца шукаць яго насельнікаў і ў рэшце рэшт дабяруцца і да мяне».

Таму, з гарачкі, я спачатку вырашыў зламаць загарадкі ўсіх маіх загонаў і выпусціць усю маю скаціну, затым, перакапаўшы палі, знішчыць усходы рысу і ячменю і зруйнаваць свой будан, каб вораг не мог знайсці ніякіх прыкмет чалавека.

Такое рашэнне ўзнікла ў мяне адразу ж пасля таго, як я ўбачыў гэты жахлівы адбітак нагі. Чаканне небяспекі заўсёды страшней за самую небяспеку, і чаканне бяды ў дзесяць тысяч разоў горш за самую бяду. Усю ноч я не мог заснуць. Затое пад раніцу, калі я аслабеў ад бяссонніцы, я заснуў як забіты і прачнуўся такім бадзёрым і свежым, якім даўно ўжо не адчуваў сябе.

Цяпер я пачаў разважаць спакайней і вось да якога прыйшоў рашэння. Мой востраў — адна з цудоўнейшых мясцін на зямлі. Тут вельмі добры клімат, многа дзічыны, многа раскошных раслін. І паколькі ён знаходзіцца паблізу мацерыка, няма нічога дзіўнага, што дзікуны, якія там жывуць, прыплываюць да яго берагоў у сваіх пірогах. Зрэшты, магчыма, што іх прыганяе сюды цячэннем або ветрам. Вядома, карэнных жыхароў тут няма, але заезджыя дзікуны тут, безумоўна, бываюць. Аднак за тыя пятнаццаць гадоў, што я пражыў на востраве, да гэтага часу я не бачыў чалавечых слядоў, значыць, калі дзікуны і з'яўляюц-

ца тут, яны ніколі не застаюцца тут надоўга. І калі яны да гэтага часу не знаходзілі для сябе зручнасцей і выгады, каб заставацца тут на даволі працяглы час, то, трэба меркаваць, так яно будзе і далей.

Значыць, мне магла пагражаць адзіная небяспека — наткнуцца на іх у тыя часы, калі яны будуць гасцяваць на маім востраве. Але, калі яны і прыедуць, наўрад ці мы сустрэнемся з імі, таму што, па-першае, дзікунам тут няма чаго рабіць, і, прыязджаючы сюды, яны, відаць, кожны раз спяшаюцца вярнуцца дадому; па-другое, можна з упэўненасцю сказаць, што яны заўсёды прыстаюць да таго боку вострава, які найболей аддалены ад майго жылля.

А таму, што я вельмі рэдка хаджу туды, у мяне няма прычыны асабліва баяцца дзікуноў, хоць, вядома, варта ўсё-такі падумаць пра бяспечны прытулак, дзе б я здолеў схавацца, калі яны зноў пакажуцца на востраве.

Цяпер мне давялося горка раскайвацца ў тым, што, пашыраючы сваю пячору, я вывеў з яе знадворны ход. Трэба было так ці інакш папраўляць гэту памылку. Пасля доўгіх разваг я вырашыў пабудаваць вакол свайго жылля яшчэ адну агароджу на такой адлегласці ад першай сцяны, каб выхад з пячоры застаўся ўнутры ўмацавання.

Зрэшты, мне нават не спатрэбілася будаваць новую сцяну: падвойны рад дрэў, якія я гадоў дванаццаць назад пасадзіў паўкругам уздоўж старое агароджы, быў ужо сам па сабе надзейнай абаронай — так густа былі пасаджаны гэтыя дрэвы і так моцна яны разрасліся. Заставалася толькі забіць калы ў прамежках між дрэвамі, каб ператварыць увесь гэты паўкруг у суцэльную моцную сцяну. Я так і зрабіў.

Цяпер маю крэпасць акружалі дзве сцяны. Але на гэтым мая праца не спынілася. Усю плошчу за знадворнай сцяной я засадзіў тымі ж дрэвамі, што былі падобны на вярбу. Яны так добра прымаліся і раслі з незвычайнай хуткасцю. Мне здаецца, што я пасадзіў іх не меней за дваццаць тысяч дрэўцаў. Аднак паміж гэтым гаем і сцяною я пакінуў даволі вялікую прастору, каб можна было здалёку заўважыць ворагаў, інакш яны б здолелі, прыкрытыя дрэвамі, падкрасціся да мае сцяны.

Праз два гады вакол майго дома зазелянеў малады гай, а яшчэ гадоў праз пяць-шэсць мяне абступіў з усіх бакоў дрымучы лес, зусім непралазны — з такой неверагоднай хуткасцю разрасталіся гэтыя дрэвы. Ніводзін чалавек, ці то дзікун, ці то белы, не здолеў бы цяпер здагадацца, што за гэтым лесам хаваецца дом. Каб зайсці ў сваю крэпасць ці выйсці з яе (таму што я не зрабіў прасекі ў лесе), я карыстаўся лескамі, якія прыстаўляў да гары. Калі ж лескі прымаліся, ніводзін чалавек не здолеў бы прабрацца да мяне, не зламаўшы шыі.

Вось колькі непасільнай працы ўзваліў я на свае плечы толькі таму, што мне памроілася, нібыта мне пагражае небяспека! Жывучы столькі гадоў пустэльнікам, удалечыні ад людзей, я паступова адвык ад іх, і людзі пачалі мне здавацца страшнейшымі за звяроў.

## РАЗДЗЕЛ ВАСЕМНАЦЦАТЫ

### Рабінзон упэўніваецца, што на яго востраве бываюць людаеды

Мінула два гады з таго дня, калі я ўбачыў на пяску след чалавечай нагі, але ранейшы душэўны спакой так і не вярнуўся болей да мяне. Скончылася маё ціхамірнае жыццё. Кожны, каму даводзілася на працягу доўгіх год адчуваць пакутлівы страх, зразумее, якім сумным і змрочным зрабілася з таго часу маё жыццё.

Аднойчы ў час маіх блуканняў па востраве я дайшоў да яго заходняга краю, дзе яшчэ ніколі не быў. Не даходзячы да берага, я падняўся на пагорак. І раптам мне здалося, што ўдалечыні, у адкрытым моры, бачна лодка.

«Напэўна, мяне падманвае зрок,— падумаў я.— За ўсе ж гэтыя доўгія гады, з дня ў дзень угледаючыся ў марскія прасторы, я ні разу не бачыў тут лодкі».

Шкада, што я не ўзяў з сабою падзорнай трубы. У мяне было некалькі труб; я знайшоў іх у адным з куфэркаў, якія я перавёз з нашага карабля. Але, на жаль, яны засталіся

дома. Я не мог разгледзець, сапраўды гэта была лодка ці не, хоць углядаўся ў мора так доўга, што ў мяне забалелі вочы. Спускаючыся з пагорка да берага, я ўжо нічога не бачыў; так і да гэтага часу не ведаю, што гэта было такое. Давялося адмовіцца ад усякіх далейшых назіранняў. Але з таго часу я даў сабе слова ніколі не выходзіць з дому без падзорнай трубы.

Дабраўшыся да берага — а на гэтым беразе, як ужо гаварылася, я ніколі не быў, я ўпэўніўся, што сляды чалавечых ног зусім не такая ўжо рэдкасць на маім востраве, як здавалася мне ўсе гэтыя гады. Так, я ўпэўніўся, што, калі б я жыў не на ўсходнім узбярэжжы, куды не прыставалі пірогі дзікуноў, я б даўно ўжо ведаў, што на маім востраве яны бываюць нярэдка і што заходні яго бераг служыць ім не толькі пастаяннай гаванню, але і тым месцам, дзе ў час сваіх жорсткіх разгулаў яны забіваюць і ядуць людзей!

Тое, што я ўбачыў, калі спусціўся з прыгорка і выйшаў на бераг, скаланула мяне і ашаламіла. Увесь бераг быў усеяны чалавечымі шкілетамі, чарапамі, касцямі рук і ног.

Не магу выказаць, які жах мяне ахапіў!

Я ведаў, што дзікія плямёны заўсёды ваююць паміж сабою. У іх часта бываюць марскія бітвы: адна лодка нападае на другую.

«Напэўна,— думаў я,— пасля кожнага бою пераможцы прывозяць сваіх ваеннапалонных і тут, па свайму бесчалавечнаму звычаю, забіваюць і з'ядаюць іх, таму што ўсе яны людаеды».

Тут жа непадалёку я заўважыў круглую пляцоўку, пасярод якой відны былі рэшткі вогнішча: тут, відаць, і сядзелі гэтыя дзікія людзі, калі паядалі целы сваіх палонных.

Жахлівае відовішча да таго ўразіла мяне, што ў першы момант я забыў пра небяспеку, якая пагражала мне на гэтым беразе. Абурэнне зверствам выціснула з мае душы ўсякі страх.

Я часта чуў пра тое, што ёсць плямёны дзікуноў-людаедаў, але ніколі да таго часу мне не здаралася самому бачыць іх. З агідай адвярнуўся я ад рэштак гэтага жудаснага балявання. Мяне званітавала. Я ледзь не страціў прытомнасць. Мне здалося, што я ўпаду.



А калі апамятаўся, то адчуў, што ні адной мінуты я не здолею тут застацца. Я ўзбег на пагорак і памчаўся назад да свайго жылля.

Заходні бераг застаўся далёка ззаду, а я ўсё яшчэ не мог канчаткова прыйсці да памяці. Нарэшце я спыніўся і пачаў збірацца з думкамі. Дзікуны, як я ўпэўніўся, ніколі не прыязджалі на востраў па здабычу. Напэўна, яны ні ў чым не мелі патрэбы, а магчыма, былі ўпэўнены, што нічога каштоўнага тут немагчыма адшукаць.

Не магло быць ніякага сумнення ў тым, што яны не адзін раз пабылі ў лясной частцы майго вострава, але, відаць, не знайшлі там нічога такога, што магло б ім спатрэбіцца.

Значыць, трэба быць толькі вельмі асцярожным. Калі, пражыўшы на востраве амаль васемнаццаць год, я да самага апошняга часу ні разу не знайшоў чалавечых слядоў, то, магчыма, я пражыву тут яшчэ васемнаццаць гадоў і не траплю на вочы дзікунам, хіба толькі наткнуся на іх выпадкова. Але такой выпадковасці няма чаго баяцца, таму што з гэтага дня маім адзіным клопатам будзе клопат пра тое, як найлепш схаваць прыкметы майго існавання на востраве.



Я мог бы ўбачыць дзікуноў адкуль-небудзь з засады, але я не хацеў і глядзець на іх — такія агідныя былі мне гэтыя крывапажэрныя драпежнікі, якія паядалі адзін аднаго, як звяры. Адна думка пра тое, што людзі могуць быць такія бесчалавечныя, гняла мяне і наводзіла на мяне страшэнны сум.

Каля двух гадоў пражыў я бязвыхадна ў той частцы вострава, дзе знаходзіліся ўсе мае ўладанні — крэпасць пад гарой, будан у лесе і тая лясная палянка, дзе я збудаваў загарадзь для коз. За гэтыя два гады я ні разу не схадзіў зірнуць на сваю лодку.

«Лепей я,— думалася мне,— пабудую сабе новае судна, а ранейшая лодка няхай застаецца там, дзе зараз. Выехаць на ёй у моры было б небяспечна. Там на мяне могуць напасці дзікуны-людаеды, і няма сумнення, што мяне яны разарвуць, як і іншых сваіх палонных».

Але мінула яшчэ з год, і я, нарэшце, усё ж адважыўся вывесці адтуль сваю лодку: вельмі ж ужо цяжка было рабіць новую! Ды і

гатова б яна была, гэтая новая лодка, толькі гады праз два-тры, а да таго часу я па-ранейшаму не меў бы магчымасці плаваць па моры.

Мне ўдалося шчасліва перавесці сваю лодку на ўсходні бок вострава, дзе для яе знайшлася вельмі зручная бухта, атуленая з усіх бакоў стромкімі скаламі. Уздоўж усходніх берагоў вострава праходзіла марское цячэнне, і я ведаў, што дзікуны нізашто не адважацца высадзіцца там.

Чытачу наўрад ці здасца дзіўным, што пад уплывам усіх гэтых жахаў і хваляванняў я зусім перастаў клапаціцца пра свой дастатак і дабрабыт. Мой розум страціў усю сваю вынаходлівасць. Не да таго мне цяпер было, каб клапаціцца пра паляпшэнне харчавання, калі я толькі і думаў, як бы ўратаваць сваё жыццё. Я не адважваўся ні ўбіць цвіка, ні раскалоць палена, таму што мне ўвесь час здавалася, што дзікуны могуць пачуць гэты гук. Страляць я тым болей не асмельваўся.

Але галоўнае — мяне кожны раз ахопліваў пакутлівы страх, як толькі мне даводзілася распальваць агонь, таму што дым, які днём відаць на вялікай адлегласці, заўсёды мог мяне выдаць. З гэтай прычыны ўсе работы, для якіх патрабаваўся агонь (напрыклад, абпальванне гаршкоў), я перанёс у лес, у сваю новую сядзібу. А для таго, каб у сябе дома рыхтаваць ежу і пячы хлеб, я вырашыў запасціся драўляным вуголлем. Гэтае вуголле, згараючы, амаль не дае дыму. Яшчэ хлапчуком, у сябе на радзіме, я не раз бачыў, як здабываюць яго. Трэба насекчы тоўстых дроў, скласці іх у адну кучу, прыкрыць слоем дзёрну і спаліць. Калі вугаль быў гатовы, я пераносіў яго дадому і карыстаўся ім замест дроў.

І вось аднойчы, калі я, пачынаючы нарыхтоўку вугалю, ссек ля падножжа высокай гары некалькі вялікіх кустоў, я заўважыў пад імі нару. Мяне зацікавіла, куды яна можа весці. З вялікай цяжкасцю я праціснуўся ў яе і апынуўся ў пячоры. Пячора была вельмі прасторная і такая высокая, што я тут жа, адразу каля ўвахода здолеў стаць на ўвесь рост. Але прызнаюся, што вылез я куды хутчэй, чым залез.

Углядаючыся ў цемру, я ўбачыў, як проста на мяне глядзелі два вялізныя палаючыя вокі;

яны гарэлі, як зоркі, адбіваючы слабае дзённае святло, якое пранікала ў пячору знадворку і падала проста на іх. Я не ведаў, каму належаць гэтыя вочы — нячысціку ці чалавеку, але, перш чым паспеў што-небудзь сцяміць, кінуўся прэч з пячоры.

Праз некаторы час я, аднак, апамятаўся і тысячу разоў аблаяў сябе дурнем.

«Хто пражыў дваццаць гадоў у адзіноце на бязлюдным востраве, таму смешна баяцца чарцей,— сказаў я сам сабе.— Напраўду ж у гэтай пячоры не можа быць нікога страшнейшага за мяне».

І, набраўшыся адвагі, я ўзяў галавешку, якая гарэла, і зноў палез у пячору. Не паспеў я ступіць і трох крокаў, асвятляючы дарогу сваёй паходняй, як зноў напалохаўся, яшчэ больш, чым адразу: я пачуў цяжкі ўздых. Я адхінуўся назад і скамянеў ад жаху; усё цела маё пакрылася халодным потам, і валасы сталі дыбам. Калі б у мяне на галаве быў капялюш, ён напэўна зваліўся б на зямлю. Але, сабраўшы ўсю сваю мужнасць, я зноў рушыў наперад і пры святле галавешкі, якую трымаў над галавой, убачыў на зямлі страшэнную пачвару — вялізнага старога казла!

Казёл ляжаў нерухома і цяжка дыхаў у перадсмяротнай агоніі, ён паміраў, відаць, ад старасці. Я злёгку штурхнуў яго нагою, каб даведацца, ці здолее ён устаць. Ён спрабаваў падняцца, але не змог.

«Няхай сабе ляжыць,— падумаў я.— Калі ён напалохаў мяне, то як павінен напалохацца які-небудзь дзікун, які надумаецца падацца сюды!»

Аднак я ўпэўнены, што ніводзін дзікун і ніхто іншы не адважыўся б пранікнуць у пячору. Ды і наогул толькі чалавеку, які, накшталт мяне, меў патрэбу ў бяспечным сховішчы, магло прыйсці ў галаву лезці ў гэту пячору.

На другі дзень я ўзяў з сабою шэсць вялікіх свечак уласнаручнай работы (к гэтаму часу я вывучыўся рабіць выдатныя свечкі з казінага тлушчу) і вярнуўся ў пячору.

Ля ўвахода пячора была шырокая, але паступова яна рабілася ўсё вузейшай, так што недзе ў глыбіні яе мне давялося стаць на ка-

рачкі і каля дзесяці ярдаў паўзці наперад, што было, сказаць праўду, даволі смелым учынкам, таму што я зусім не ведаў, куды вядзе гэты ход і што мяне чакае наперадзе. Але вось я адчуў, што з кожным крокам праход робіцца ўсё шырэйшы і шырэйшы. Крыху пазней я паспрабаваў устаць на ногі, і выявілася, што я магу стаяць на ўвесь рост. Скляпенне пячоры ўзнімалася футаў на дваццаць. Я запаліў дзве свечкі і ўбачыў такую цудоўную карціну, якой у жыцці ніколі не бачыў. Я знаходзіўся ў прасторным гроце. Полымя маіх дзвюх свечак адбілася ў яго ззяючых сценах. Яны адсвечвалі сотнямі тысяч рознакаляровых агнёў. Ці то былі ўкрапаныя ў камень пячоры дыяменты ці іншыя каштоўныя камяні? Гэтага я не ведаў. Відаць, гэта было золата.

Я ніколі не спадзяваўся, што зямля можа хаваць у сваіх нетрах такія дзівосы. Гэта быў чароўны грот. Дно ў яго было сухое і роўнае, пакрытае дробным пяском. Нідзе не заўважалася ні агідных макрыц, ні чарвякоў, нідзе — ні на сценах, ні на скляпеннях — не было і знаку вільгаці. Адзіная нязручнасць — вузкі ўваход, але для мяне гэта нязручнасць была надзвычай каштоўная: я столькі часу шукаў бяспечнага сховішча, а бяспечней за гэта цяжка было знайсці.

Я так узрадаваўся сваёй знаходцы, што вырашыў адразу ж перанесці ў грот большую частку тых рэчаў, якія былі мне асабліва дарагія,— перш за ўсё порах і ўсю запасную зброю, гэта значыць дзве паляўнічыя стрэльбы і тры мушкеты.

Перацягваючы рэчы ў маю новую кладоўку, я ўпершыню адкаркаваў бочачку з падмочаным порахам. Я быў упэўнены, што ўвесь гэты порах нікуды не варты, але выявілася, што вада пранікла ў бочачку толькі на тры-чатыры дзюймы кругом; порах, які падмок, зацвярдзеў, і ўтварылася трывалая скарынка; пад гэтай скарынкай увесь астатні порах захаваўся зусім несапсаваны, як ядро арэха ў шкарлупіне. Такім чынам, зусім нечакана я зрабіўся ўладальнікам новых запасаў выдатнага пораху.

Як я ўзрадаваўся такой нечаканасці! Увесь гэты порах — а яго было не менш шасцідзесяці фунтаў — я перанёс у свой грот для больш на-

дзейнага схову, пакінуўшы ў сябе пад рукамі тры ці чатыры фунты на выпадак нападу дзікуноў. У грот я перацягнуў і ўвесь запас свінцу, з якога я рабіў кулі.

Цяпер мне ўяўлялася, што я падобны на аднаго з тых старадаўніх волатаў, якія, паводле паданняў, жылі сярод скал і ў пячорах, куды немагчыма было пранікнуць ніводнаму чалавеку.

«Няхай сабе,— казаў я сам сабе,— няхай хоць пяцьсот дзікуноў шныраць па ўсім востраве, шукаючы мяне; яны ніколі не знойдуць майго тайніка, а калі і знойдуць, нізашто не адважацца зрабіць на яго напад!»

Стары казёл, якога я знайшоў тады ў сваёй новай пячоры, здох на другі дзень, і я закапаў яго ў зямлю на тым месцы, дзе ён ляжаў: гэта было куды лягчэй, чым выцягнуць яго з пячоры.

Ішоў ужо дваццаць трэці год майго жыцця на востраве. Я паспеў да таго звыкнуцца і прызвычаіцца да яго прыроды і клімату, што, калі б не баяўся дзікуноў, якія маглі кожную мінуту тут з'явіцца, я ахвотна згадзіўся б дажыць тут, у гэтым зняволенні, усю рэшту сваіх дзён да апошняй гадзіны, калі я лягу і памру, як гэты стары казёл.

У апошнія гады, пакуль я яшчэ не ведаў, што мне пагражае напад дзікуноў, я прыдумаў сабе сякія-такія забаўкі, якія пры маёй адзіноце вельмі ўсцешвалі мяне. Дзякуючы ім я праводзіў свой час куды весялей, чым раней.

Па-першае, як ужо гаварылася, я навучыў свайго Попку размаўляць, і ён так прыязна балбатаў са мною, вымаўляючы словы так падзельна і выразна, што я слухаў яго з вялікім задавальненнем.

Сумняваюся, каб яшчэ які-небудзь іншы папугай умеў гаварыць лепш за яго. Ён пражыў у мяне не меней за дваццаць шэсць год. Ці доўга яшчэ яму заставалася жыць, я не ведаю; жыхары Бразіліі запэўняюць, што папугаі жывуць да ста гадоў.

Было ў мяне яшчэ два папугаі, яны таксама ўмелі гаварыць і абодва выкрыквалі «Робін Круза!», але далёка не так добра, як Попка. Праўда, яго я вучыў і патраціў часу і намаганняў куды больш.

Мой сабака быў маім шчырым таварышам і добрым спадарожнікам на працягу шаснаццаці год. Потым ён спакойна сканаў ад старасці, але я ніколі не забуду, як аддана любіў ён мяне.

Тыя каты, якіх я пакінуў у сваім доме, таксама даўно ўжо зрабіліся паўнапраўнымі членамі мае немалой сям'і.

Апрача таго, я заўсёды трымаў пры сабе двух ці трох казлянят, якіх прывучаў есці з маіх рук. І заўсёды ў мяне вадзілася вялікая колькасць птушак; я лавіў іх на беразе, падразаў ім крылле, каб яны не маглі паляцець, і хутка яны рабіліся ручнымі і з вясёлым крыкам збягаліся да мяне, як толькі я паказваўся на парозе.

Маладыя дрэўцы, якія я пасадзіў вакол крэпасці, даўно разрасліся ў густы гай, і ў гэтым гаі таксама пасялілася мноства птушак. Яны рабілі свае гнёзды на невысокіх дрэвах і выводзілі птушанят, і ўсё гэта жыццё, што кіпела вакол мяне, суцяшала і радавала мяне ў маёй адзіноце.

Такім чынам, паўтараю, мне жылося б вельмі добра і ўтульна і я быў бы зусім задаволены сваім лёсам, калі б не баяўся, што на мяне ў любы момант могуць напасці дзікуны.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

### Дзікуны зноў наведваюць востраў Рабінзона.— Крушэнне карабля

Надышоў снежань, і час было збіраць ураджай. Я працаваў у полі з ранку да вечара. І вось аднойчы, выйшаўшы з дому, калі яшчэ не зусім развіднела, я, на вялікі свой жах, убачыў на беразе, мілі за дзве ад мае пячоры, полымя вялікага вогнішча.

Я спыніўся як укопаны. Значыць, на маім востраве зноў з'явіліся дзікуны!

І з'явіліся яны не ў тым баку, дзе я амаль ніколі не бываў, а тут, непадалёку ад мяне.

Я стаіўся ў гаі, што акружаў мой дом, не адважваючыся ступіць кроку, каб не наткнуцца на дзікуноў.



Аднак і застаючыся ў гаі, я ўсё роўна быў вельмі занепакоены: я баяўся, што, калі дзікуны пачнуць шнырыць па востраве і ўбачаць мае ўробленыя палеткі, мой статак, маё жыллё, яны адразу ж здагадаюцца, што на востраве жывуць людзі, і не супакояцца, пакуль не адшукаюць мяне. Марудзіць было немагчыма. Я хутка вярнуўся да сябе за агароджу, падняў за сабою лескі, каб не пакідаць слядоў, і пачаў рыхтавацца да абароны.

Я падрыхтаваў усю сваю артылерыю (так я зваў мушкеты, якія стаялі на лафетах уздоўж знадворнай сцяны), агледзеў і зарадзіў абодва пісталеты і вырашыў абараняцца да канца.

Я праседзеў у сваёй крэпасці каля дзвюх гадзін, ламаючы галаву, што б мне яшчэ такое прыдумаць для абароны майго ўмацавання.

«Як шкада, што ўсё маё войска складаецца з аднаго толькі чалавека! — падумаў я.— У мяне няма нават лазутчыкаў, якіх я здолеў бы паслаць у разведку».

Што робіцца ў лагеры ворага, я не ведаў. Гэта няпэўнасць прыгнятала мяне. Я схапіў падзорную трубу, прыставіў лескі да крутога схілу гары і дабраўся да вяршыні. Там я лёг ніцма і направіў трубу на тое месца, дзе бачыў агонь. Дзікуны, іх было дзевяць чалавек, сядзелі вакол невялікага вогнішча зусім голыя.



Вядома, вогнішча яны расклалі не для таго, каб пагрэцца,— у гэтым не было патрэбы, таму што стаяла страшэнная гарачыня. Не, я быў упэўнены, што на гэтым вогнішчы яны смажылі свой жахлівы абед з чалавечага мяса! «Дзічына», вядома, была ўжо нарыхтаваная, толькі жывая ці забітая — гэтага я не ведаў.

Людаеды прысталі да вострава на дзвюх пірогах, якія цяпер стаялі на пяску: быў час адліву, і мае жудасныя госці, відаць, чакалі прыліву, каб плыць назад.

Так і здарылася: як толькі пачаўся прыліў, дзікуны кінуліся да лодак і адчалілі. Я забыў сказаць, што за гадзіну ці паўтары да ад'езду яны скакалі па беразе: з дапамогай падзорнай трубы я добра бачыў іх дзікія скокі.

Як толькі я ўпэўніўся, што дзікуны пакінулі востраў і зніклі, я злез з гары, ускінуў на плечы абедзве стрэльбы, заткнуў за пояс два

пісталеты, а таксама сваю вялізную шаблю без ножнаў і, не трацячы часу, накіраваўся да таго пагорка, адкуль рабіў свае першыя назіранні пасля таго, як заўважыў на беразе чалавечы след.

Дабраўшыся да гэтага месца (што заняло часу не меней дзвюх гадзін, бо я быў нагружаны цяжкою зброяй), я зірнуў у бок мора і ўбачыў яшчэ тры пірогі з дзікунамі, якія плылі ад вострава да мацерыка.

Гэта прывяло мяне ў жах. Я пабег да берага і ледзь не закрычаў ад гневу, калі ўбачыў рэшткі таго жудаснага балявання, якое там адбывалася: кроў, косці і кавалкі чалавечага мяса, якое гэтыя ліхадзеі толькі што паядалі ў скоках і весялосці.

Мяне ахапіла такое абурэнне, я адчуў такую нянавісць да гэтых забойцаў, што мне захацелася жорстка адпомсціць ім за іх крыважэрнасць. Я пакляўся, што, калі наступны раз зноў убачу на беразе іх агіднае баляванне, я нападу на іх і знішчу ўсіх, колькі б іх ні было.

«Няхай я загіну ў няроўным баі, няхай сабе яны разарвуць мяне,— казаў я сабе,— але не магу ж я дапусціць, каб у мяне на вачах людзі беспакарана елі людзей!»

Аднак прайшло адзінаццаць месяцаў, а дзікуны не з'яўляліся. За ўвесь гэты час мой ваяўнічы запал нікольki не астыў: я толькі і думаў пра тое, як бы мне знішчыць людаедаў.

Я вырашыў напасці на іх знянацку, асабліва калі яны зноў падзеляцца на дзве групы, як гэта было ў апошні іх прыезд.

Я не падумаў тады, што калі нават і пераб'ю ўсіх дзікуноў, што прыедуць да мяне (дапусцім, іх будзе дзесяць ці дванаццаць чалавек), то на другі дзень ці праз тыдзень, а можа, праз месяц мне давядзецца мець справу з новымі дзікунамі. А там зноў, зноў... І так бясконца, пакуль я сам не ператваруся ў такога ж жахлівага забойцу, як і гэтыя няшчасныя, што паядаюць уласных братоў.

Пятнаццаць ці шаснаццаць месяцаў я правёў у няспыннай трывозе. Я кепска спаў, кожную ноч сніў жахлівыя сны і часта ўсхопліваўся з пасцелі, дрыжучы ад страху.

Часам мне снілася, што я сам забіваю дзікуноў, і мне падрабязна маляваліся ў сне моманты нашых боек.

Днём я таксама не меў ні хвіліны спакою. Зусім магчыма, што такое напружанне і трывога ў рэшце рэшт давялі б мяне да вар'яцтва, калі б раптам не здарылася падзея, якая адразу ж адцягнула ўсе мае думкі ў другі бок. Гэта адбылося на дваццаць чацвёртым годзе майго жыцця на востраве, у сярэдзіне мая, калі верыць майму несамавітаму драўлянаму календару.

Увесь гэты дзень, шаснаццатага мая, грымеў гром, бліскала маланка і навальніца не сціхала ні на хвіліну. Позна вечарам я чытаў кнігу, стараючыся забыць свае хваляванні. Раптам я пачуў гарматны стрэл. Мне здалося, што ён данёсся да мяне з мора.

Я сарваўся з месца, у момант прыставіў лескі да схілу гары і хутка-хутка, дарэмна баючыся патраціць нават адно імгненне, стаў карабкацца па лесках уверх. Якраз у тую мінуту, калі я апынуўся на вяршыні, перада мною далёка ў моры бліснуў агеньчык, а праз паўмінуты пачуўся другі гарматны стрэл.

«У моры гіне карабель,— сказаў я сам сабе.— Ён падае сігналы, ён спадзяецца, што будзе выратаваны. Напэўна, непадалёку знаходзіцца другі які-небудзь карабель, у якога ён просіць дапамогі».

Я быў вельмі ўсхваляваны, але ніколькі не разгубіўся і паспеў сцяміць, што хоць я і не маю сілы памагчы гэтым людзям, затое, можа, яны дапамогуць мне.

У адзін момант я сабраў усё ламачча, якое ляжала паблізу, склаў яго ў кучу і падпаліў. Дрэва было сухое, і, нягледзячы на моцны вецер, полымя вогнішча ўзнялося так высока, што з карабля, калі гэта сапраўды быў карабель, не маглі не заўважыць майго сігналу. І агонь быў несумненна заўважаны, таму што, як толькі ўспыхнула полымя вогнішча, пачуўся новы гарматны стрэл, потым яшчэ і яшчэ, усё з таго ж боку.

Я падтрымліваў агонь усю ноч — да раніцы, а калі зусім развіднела і перадранішні туман крыху развеяўся, я ўбачыў у моры, прама на ўсходзе, нейкі цёмны сілуэт. Але што гэта было:

корпус карабля ці парус, я не мог разгледзець нават у падзорную трубу, таму што было вельмі далёка, а мора ўсё яшчэ засцілаў туман.

Усю раніцу я назіраў за морам і тым прадметам і пераканаўся, што ён нерухомы. Можна было меркаваць, што гэта карабель, які стаіць на якары.

Я не вытрымаў: схапіў стрэльбу, падзорную трубу і пабег на паўднёва-ўсходні бераг, да таго месца, дзе пачыналася каменная града, што выходзіла ў мора.

Туман ужо развеяўся, і, забраўшыся на бліжэйшы ўцёс, я мог выразна распазнаць корпус карабля. Сэрца маё сціснулася ад гора. Відаць, няшчасны карабель наскочыў на нябачныя падводныя скалы і разбіўся на тым месцы, дзе яны заступалі шлях шалёнаму марскому цячэнню. Гэта былі тыя ж самыя скалы, што некалі пагражалі і мне.

Калі б тыя, што пацярпелі крушэнне, заўважылі востраў, яны напэўна спусцілі б шлюпкі і паспрабавалі б дабрацца да берага.

Але чаму яны стралялі з гармат адразу пасля таго, як я запаліў сваё вогнішча?

Магчыма, убачыўшы касцёр, яны спусцілі на ваду выратавальную шлюпку і пачалі кіравацца да берага, але не мелі сілы адолець шалёную буру, іх знесла ўбок і яны ўсе патанулі? А магчыма, яшчэ да крушэння яны засталіся без лодак? У час жа буры здараецца і так: калі судна пачынае тануць, людзям часта даводзіцца, каб аблегчыць груз, выкідаць свае шлюпкі за борт. Магчыма, гэты карабель быў не адзін? Можа, разам з ім у моры было яшчэ два ці тры караблі і яны, пачуўшы сігналы, падплылі да няшчаснага сабрата і падабралі яго экіпаж? Праўда, гэтак наўрад ці магло здарыцца: другога карабля я не бачыў.

Але які б лёс ні напаткаў тых няшчасных, я не мог ім дапамагчы, і мне заставалася толькі аплакваць іх пагібель.

Мне было шкада і іх і сябе.

Яшчэ больш пакутліва, чым раней, я адчуў у гэты дзень увесь жах сваёй адзіноты. Ледзь толькі я ўбачыў карабель, я зразумеў, як страшэнна змаркоціўся я без людзей, як страшэнна мне хочацца бачыць іх твары, чуць іх галасы, паціскаць ім рукі, размаўляць з імі! Мае вус-

ны міжвольна і бясконца паўтаралі словы: «Ах, калі б хоць два ці тры чалавекі... не, няхай сабе нават хоць адзін толькі выратаваўся і прыплыў да мяне! Ён быў бы мне таварышам, сябрам, і я здолеў бы дзяліць з ім гора і радасць».

Ні разу за ўсе гады мае адзіноты не адчуваў я такога палкага жадання сустрэчы з людзьмі.

«Няхай бы хоць толькі адзін! Ах, хоць бы адзін!» — паўтараў я тысячу разоў.

І гэтыя словы распальвалі ва мне такі сум, што, вымаўляючы іх, я сутаргава сціскаў кулакі і так моцна сашчэпліваў зубы, што потым доўга не мог іх расцяць.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

### Рабінзон робіць намер пакінуць свой востраў

Да апошняга года майго жыцця на востраве я так і не даведаўся, ці выратаваўся хто-небудзь з таго карабля, які загінуў.

Праз некалькі дзён пасля караблекрушэння я знайшоў на беразе, насупраць таго месца, дзе разбіўся карабель, цела юнгі. Я глядзеў на яго, шчыра сумуючы. У яго быў такі мілы, такі дабрадушны малады твар! Магчыма, калі б ён застаўся жывы, я палюбіў бы яго, і жыццё маё зрабілася б куды шчаслівейшым.

Але не варта плакаць па тым, чаго ўсё роўна не вернеш. Я доўга блукаў па ўзбярэжжы, а потым зноў падышоў да тапельца. На ім былі кароткія палатняныя штаны і матроская куртка. Не было ніякіх прыкмет, па якіх можна было б вызначыць, якой ён нацыянальнасці: у кішэнях у яго я не знайшоў нічога, апрача двух залатых манет і люлькі.

Бура сціхла, і мне страшэнна захацелася ўзяць лодку і дабрацца на ёй да карабля. Я не сумняваўся, што знайду там нямала карысных рэчаў, якія могуць мне спатрэбіцца. Але не толькі гэта спакушала мяне: больш за ўсё мяне хвалявала надзея, што, магчыма, на караблі засталася якая-небудзь жывая істота, якую я здолею выратаваць ад смерці.

«І калі я выратую яе,— казаў я сабе,— маё жыццё будзе куды больш светлым і радасным».

Гэта думка завалодала ўсім маім сэрцам: я адчуваў, што ні днём ні ноччу не буду ведаць спакою, пакуль не наведаю разбітае судна. І я сказаў сабе:

«Няхай будзе што будзе, а я паспрабую дабрацца туды. Чаго б гэта мне ні каштавала, я павінен адправіцца ў мора, калі не хачу, каб мяне замучыла сумленне».

З гэтым рашэннем я паспяшаўся вярнуцца да сябе ў крэпасць і пачаў рыхтавацца да цяжкай і небяспечнай паездкі.

Я ўзяў хлеба, вялікі збан прэснай вады, бутэльку рому, карзіну з разынкамі і компас. Узваліўшы сабе на плечы ўсю гэту каштоўную паклажу, я накіраваўся да таго берага, дзе стаяла мая лодка. Вычарпаўшы з яе ваду, я склаў у яе рэчы і вярнуўся па новы груз. На гэты раз я прыхапіў з сабою вялікі мяшок рысу, другі збан прэснай вады, дзесяткі два ячменных праснакоў, бутэльку казінага малака, кавалак сыру і парасон.

Усё гэта я з вялікай цяжкасцю перанёс у лодку і адчаліў. Спачатку я пайшоў на вёслах і трымаўся, па магчымасці, бліжэй да берага.

Калі я дасягнуў паўночна-ўсходняга канца вострава і трэба было ўзняць парус, каб пусціцца ў адкрытае мора, я спыніўся ў нерашучасці.

«Ісці ці не ісці? Рызыкаваць ці не?» — пытаўся я сам у сябе.

Я зірнуў на хуткі струмень марскога цячэння, што абгінала востраў, і ўспомніў, якая страшэнная небяспека пагражала мне ў час мае першай паездкі. І памалу мая рашучасць пачала слабець. Тут абодва цячэнні сутыкаліся, і я добра бачыў, што ў якое б цячэнне я ні трапіў, любое з іх знясе мяне далёка ў адкрытае мора.

«Мая ж лодка такая малая,— казаў я сабе,— што варта ўзняцца свежаму ветру, і яе зараз жа захлісне хваляй, і тады мая пагібель немінучая».

Пад уражаннем гэтых думак я зусім аслабеў і ўжо гатовы быў адмовіцца ад свае задумы. Я зайшоў у невялічкую бухтачку, прыча-

ліў да берага, сеў на пагорак і глыбока задумаўся, не ведаючы, што мне рабіць.

Але неўзабаве пачаўся прыліў, і я ўбачыў, што справа выглядае ўжо зусім не так кепска: выявілася, што адліў ідзе з паўднёвага боку вострава, а цячэнне прыліву — з паўночнага, так што калі я, вяртаючыся з разбітага судна, буду трымаць курс да паўночнага берага вострава, то застануся жывы і здаровы.

Значыць, баяцца няма чаго. Я зноў падбадзёрыўся і вырашыў заўтра ж, на світанні, выйсці ў мора.

Надышла ноч. Я пераначаваў у лодцы, укрыўшыся матроскім бушлатам, а раніцай рушыў у дарогу.

Спачатку я ўзяў курс у адкрытае мора, прама на поўнач, пакуль не трапіў у струмень цячэння, якое накіроўвалася на ўсход. Мяне панесла вельмі хутка, і менш чым за дзве гадзіны я даплыў ужо да карабля.

Змрочнае відовішча адкрылася маім вачам: карабель (відаць, іспанскі) уткнуўся носам паміж двух уцёсаў.

Карма была знесена; уцалела толькі насавая частка. І грот-мачта і фок-мачта былі спілаваны.

Калі я падышоў да борта, на палубе паказаўся сабака. Убачыўшы мяне, ён пачаў кідацца і скавытаць, а калі я паклікаў яго, ён скочыў у ваду і падплыў да мяне. Я ўзяў яго ў лодку. Сабака паміраў з голаду і смагі. Я даў яму кавалак хлеба, і ён накінуўся на яго, як згаладалы ў снежную зіму воўк. Калі сабака наеўся, я даў яму крыху вады, і ён пачаў так прагна хлябтаць, што напэўна лопнуў бы, калі б даць яму ўволю.

Затым я падняўся на карабель. Першае, што я ўбачыў, гэта былі два трупы: яны ляжалі ў рубцы, моцна счапіўшыся рукамі. Відаць, калі карабель наскочыў на скалу, яго ўвесь час залівала велізарнымі хвалямі, таму што была страшэнная бура, і гэтыя два чалавекі, баючыся, каб іх не змыла за борт, ухапіліся адзін за аднаго ды так і захлынуліся. Хвалі былі такія высокія і так часта захліствалі палубу, што карабель, па сутнасці, увесь час знаходзіўся пад вадой, і тыя, каго не змылі хвалі, захлынуліся ў каютах і ў кубрыку.

**Апрача сабакі, на караблі не засталося ніводнай жывой істоты.**

**Большую частку рэчаў, відаць, таксама змыла ў мора, а тыя, што засталіся, прамоклі. Праўда, у труме стаялі нейкія бочкі з віном ці з гарэлкай, але яны былі такія вялікія, што я нават не спрабаваў скрануць іх з месца.**

**Было там яшчэ некалькі скрыняў, якія, відаць, належалі матросам; дзве скрыні я знёс у лодку, нават не паспрабаваўшы адчыніць іх. Калі б замест насавой часткі ўцалела карма, мне, напэўна, трапілася б нямала дабра, таму што нават у гэтых дзвюх скрынях я пасля знайшоў сякія-такія каштоўныя рэчы. Карабель, відаць, быў вельмі багаты.**

**Апрача скрынь, я знайшоў на караблі бочачку з нейкім спіртным напіткам. У бочачцы было не менш за дваццаць галонаў, і мне давялося нямала памучыцца, каб перацягнуць яе ў лодку. У каюце я знайшоў некалькі стрэльбаў і вялікую парахаўніцу, а ў ёй фунты чатыры пораху. Стрэльбы я пакінуў, бо яны мне былі не патрэбны, а порах узяў. Узяў я таксама шуфлік і шчыпцы для вугалю, яны мне былі вельмі патрэбны. Узяў два медныя кацялкі і медны кафейнік.**

**З усім гэтым грузам, а таксама з сабакам я адчаліў ад карабля, бо пачынаўся прыліў. У той жа дзень, недзе к гадзіне ночы, я вярнуўся на востраў стомлены і змучаны ўшчэнт. Я вырашыў перанесці сваю здабычу не ў пячору, а ў новы грот, таму што туды было бліжэй. Ноч я зноў пераначаваў у лодцы, а раніцой, падмацаваўшыся снеданнем, выгрузіў на бераг прывезеныя рэчы і ўважліва іх перабраў і пераглядзеў. У бочачцы быў ром, але, сказаць па праўдзе, няўдалы, куды горшы за той, які мы пілі ў Бразіліі.**

**Затое, калі я адчыніў скрыні, я знайшоў у іх многа карысных і каштоўных рэчаў.**

**У адной з іх быў, напрыклад, куфэрак вельмі зграбнай і мудрагелістай формы. У куфэрку было многа бутэлек з прыгожымі срэбнымі коркамі; у кожнай бутэльцы не менш трох пінт выдатнага духмянага лікёру.**

**Там жа я знайшоў чатыры бляшанкі цудоўнай зацукраванай садавіны; на жаль, дзве з іх былі сапсаваны салёнай марской вадой, але**

дзве былі так шчыльна закаркаваны, што ў іх не пранікла ні кроплі вады. У скрыні я знайшоў некалькі зусім яшчэ моцных сарочак, і гэта знаходка мяне вельмі ўзрадавала; затым паўтары тузіны каляровых шыйных хусцінак і столькі ж белых палатняных насавых хусцінак, якія мяне вельмі ўзрадавалі, таму што няма нічога прыемней, як у гарачыню выціраць спацелы твар тонкай палатнянай хусцінкай.

На дне скрыні я знайшоў тры мяшэчкі з грашыма і некалькі невялікіх зліткаў золата, вагою, мне здаецца, каля фунта.

У другой скрыні былі курткі, штаны і камзолы, даволі паношаныя, з таннай матэрыі.

Прызнацца, калі я збіраўся на гэты карабель, я думаў, што знайду на ім куды больш карысных і каштоўных рэчаў. Праўда, я разжыўся на даволі прыстойную суму грошай, але ж грошы цяпер былі для мяне непатрэбным смеццем! Я ахвотна аддаў бы ўсе тыя грошы за тры-чатыры пары самых звычайных чаравік і панчох, якіх не насіў вось ужо некалькі год.

Склаўшы здабычу ў надзейным месцы і пакінуўшы там сваю лодку, я рушыў назад пехатой. Была ўжо ноч, калі я вярнуўся дадому. Дома ўсё было ў поўным парадку: спакойна, утульна і ціха. Папугай прывітаў мяне ласкавым словам, а казляняты з такой радасцю кінуліся да мяне, што я не мог не пагладзіць іх і не даць ім свежых каласоў.

Ранейшыя мае страхі з таго часу як быццам развеяліся, і я зажыў па-старому, без усякіх хваляванняў, урабляючы свае палі і даглядаючы жывёлу, да якой прывык яшчэ мацней, чым раней.

Так я пражыў амаль два гады, у поўным дастатку, не ведаючы ніякіх нягод. Але ўсе гэтыя два гады я толькі і думаў пра тое, як бы мне пакінуць мой востраў. З той мінуты, як я ўбачыў карабель, які абяцаў мне волю, мая адзінота зрабілася для мяне яшчэ больш ненавіснай. Дні і ночы праводзіў я ў думках пра ўцёкі з гэтай турмы. Калі б я меў баркас, хоць бы накшталт таго, на якім я ўцёк ад маўраў, я без роздуму рушыў бы ў мора, нават не думаючы пра тое, куды занясе мяне вецер.

Нарэшце я прыйшоў да пераканання, што мне ўдасца вырвацца на волю толькі ў тым выпадку, калі я захаплю каго-небудзь з дзікуноў, якія наведваюць мой востраў. Лепш за ўсё было б захапіць аднаго з тых няшчасных, якіх гэтыя людаеды прывозілі сюды, каб разарваць і з'есці. Я выратую яму жыццё, і ён дапаможа мне вырвацца на волю. Але план гэты вельмі цяжкі і небяспечны: для таго, каб захапіць патрэбнага мне дзікуна, я павінен буду напасці на натоўп людаедаў і перабіць усіх да адзінага, а гэта наўрад ці мне ўдасца. Апрача таго, мая душа жахалася пры адной толькі думцы, што мне давядзецца праліць столькі чалавечай крыві няхай сабе і дзеля ўласнага выратавання.

Доўга гэтак змагаўся я сам з сабою, пакуль, нарэшце, палымяная прага волі не перамагла ўсе довады развагі і сумлення. Я вырашыў, чаго б гэта ні каштавала, захапіць аднаго з дзікуноў у першы ж раз, як яны прыедуць на мой востраў.

І вось я пачаў амаль штодня падкрадвацца ад свае крэпасці да таго далёкага берага, да якога найбольш пэўна маглі прычаліць пірогі дзікуноў. Я хацеў захапіць іх знянацку. Але прайшло паўтара года — і нават болей,— а дзікуны не паказваліся. У рэшце рэшт нецярпенне маё зрабілася такое неадольнае, што я зусім забыў пра асцярожнасць і ўявіў сабе чамусьці, што, калі б мне давялося страцца з дзікунамі, я лёгка справіўся б не толькі з адным, але і з двума і нават з трыма.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

### Рабінзон выратоўвае дзікуна і дае яму імя Пятніца

Уявіце ж сабе маё здзіўленне, калі аднойчы, выйшаўшы з крэпасці, я ўбачыў унізе каля самага берага (гэта значыць зусім не там, дзе я чакаў іх убачыць) пяць ці шэсць індзейскіх пірог. Пірогі стаялі пустыя. Людзей не было відаць. Напэўна, яны выйшлі на бераг і некуды схаваліся.

Ведаючы, што ў кожную пірогу звычайна садзіцца чалавек па шэсць, а то і болей, прызнацца, я вельмі разгубіўся. Я ніяк не чакаў, што мне давядзецца ўступіць у бойку супроць такой вялікай варожай сілы.

«Іх не меней за дваццаць чалавек, а то, бадай, усе трыццаць будзе. Хіба я адзін усіх іх адолею!» — занепакоена падумаў я.

Я быў у нерашучасці і не ведаў, што мне рабіць, але ўсё ж засеў у сваёй крэпасці і падрыхтаваўся да бою.

Навокал была цішыня. Я прыслухоўваўся, ці не пачуюцца з таго боку крыкі або песні дзікуноў. Нарэшце мне надакучыла чакаць. Я пакінуў сваю стрэльбу пад лескамі і падняўся на вяршыню ўзгорка.

Высоўваць галаву было небяспечна. Я схаваўся за гэтай вяршыняй і пачаў глядзець у падзорную трубу. Дзікуны цяпер вярнуліся да сваіх лодак. Іх было не меней за трыццаць чалавек. Яны расклалі на беразе вогнішча і, відаць, гатавалі на агні нейкую ежу. Што яны гатавалі, я не мог разгледзець, бачыў толькі, што яны скачуць вакол вогнішча нейкі шалёны танец, як заўсёды звычайна скачуць дзікуны.

Працягваючы назіраць за імі ў падзорную трубу, я ўбачыў, што яны падбеглі да лодак, выцяглі адтуль двух чалавек і павалаклі да вогнішча. Відаць, яны мелі намер забіць іх.

Да гэтай мінуты няшчасныя, відаць, ляжалі ў лодках са звязанымі рукамі і нагамі. Аднаго з іх імгненна збілі з ног. Відаць, яго стукнулі па галаве дубінай ці драўляным мечам, гэтай звычайнай зброяй дзікуноў; зараз жа на яго накінулася яшчэ двое ці трое і ўзяліся за работу: распаролі яму жывот і пачалі патрашыць.

Другі палонны стаяў тут жа, чакаючы сваей чаргі.

Узяўшыся за першую ахвяру, мучыцелі забылі пра яго. Палонны адчуў сябе на волі, і ў яго, відаць, узнікла надзея на выратаванне: ён раптам кінуўся наперад і з незвычайнай хуткасцю прыпусціў наўцёкі.

Ён бег пясчаным берагам у той бок, дзе было маё жыллё.

Прызнаюся, я страшэнна напалохаўся, калі заўважыў, што ён бяжыць проста на мяне.

Ды і як было не напалохацца: у першую хвіліну мне здалося, што даганяць яго кінулася ўся шайка. Аднак я застаўся на месцы і хутка ўбачыў, што за ўцекачом гоняцца ўсяго толькі два ці тры чалавекі, а астатнія, крыху прабегшы, патроху пачалі адставаць, а потым зноў павярнулі назад да вогнішча. Гэта надало мне бадзёрасці. Але канчаткова я супакоіўся, калі ўбачыў, што ўцякач далёка апярэдзіў сваіх ворагаў: было зразумела, што, калі ён здолее прабегчы з такой хуткасцю яшчэ з паўгадзіны, яны яго ні ў якім разе не зловяць.

Дзікуноў, якія беглі берагам, і маю крэпасць падзяляла вузкая бухта, пра якую я расказваў не раз,— тая самая, куды я прычальваў са сваімі плытамі, калі перавозіў рэчы з нашага карабля.

«Што ж ён будзе рабіць, гэты бядак,— падумаў я,— калі дабяжыць да бухты? Ён павінен будзе пераплысці яе, інакш яму не ўцячы ад пагоні».

Але я дарэмна непакоіўся за яго: уцякач не думаючы кінуўся ў ваду, хутка пераплыў бухту, вылез на другі бераг і, не запавольваючы кроку, пабег далей.

З трох людаедаў, што гналіся за ім, толькі двое кінуліся ў ваду, а трэці не адважыўся: відаць, ён не ўмеў плаваць; ён пастаяў на тым беразе, паглядзеў услед двум другім, потым павярнуўся і, не спяшаючыся, накіраваўся назад.

Я з радасцю заўважыў, што два дзікуны, якія гналіся за ўцекачом, плылі разы ў два павольней за яго.

І вось тут я зразумеў, што надышоў час дзейнічаць. Сэрца маё загарэлася.

«Цяпер або ніколі! — сказаў я сам сабе і памчаўся наперад.— Ратаваць, ратаваць гэтага няшчаснага, чаго б гэта ні каштавала!»

Не трацячы часу, я збег па лесках да падножжа гары, схапіў пакінутыя там стрэльбы, затым з такой жа хуткасцю зноў узабраўся на гару, спусціўся з другога боку і пабег наўскасяк проста да мора, каб спыніць дзікуноў.

І таму, што я бег уніз па схіле пагорка самай кароткай дарогай, то хутка апынуўся паміж уцекачом і яго праследаванцелямі. Ён уцякаў, не азіраючыся, і не заўважыў мяне.

Я крыкнуў яму:

— Стой!

Ён азірнуўся і ў першы момант, здаецца, спалохаўся мяне яшчэ больш, чым сваіх праследавацеляў.

Я зрабіў яму знак, каб ён наблізіўся да мяне, а сам пайшоў павольным крокам насустрач тым двум дзікунам, якія гналіся за ім. Калі пярэдні параўнаўся са мною, я нечакана кінуўся на яго і прыкладам стрэльбы збіў яго з ног. Страляць я баяўся, каб не спудзіць астатніх дзікуноў, хоць яны былі далёка і наўрад ці маглі пачуць мой стрэл, а калі б і пачулі, то ўсё роўна не здагадаліся б, што гэта такое.

Калі адзін з пагоні ўпаў, другі, відаць, спалохаўшыся, спыніўся. Я між тым спакойна набліжаўся да яго. Але калі, падышоўшы бліжэй, я ўбачыў, што ў руках у яго лук і страла і што ён цэліцца ў мяне, мне міжволі давялося стрэліць. Я прыцэліўся, спусціў курок і паклаў яго на месцы.

Няшчасны ўцякач, нягледзячы на тое, што я забіў яго абодвух ворагаў (ва ўсякім разе так яму павінна было здавацца), быў да таго напалоханы агнём і гукам стрэлу, што страціў здольнасць рухацца; ён стаяў, як прыкаваны да месца, не ведаючы, на што адважыцца: бегчы ці застацца пры мне, хаця, напэўна, хацеў бы ўцячы, калі б мог.

Я зноў пачаў крычаць яму і паказваць на мігах, каб ён падышоў бліжэй. Ён зразумеў: зрабіў два крокі і спыніўся, потым зрабіў яшчэ некалькі крокаў і зноў стаў як укопаны.

Тут я заўважыў, што ён увесь дрыжыць; няшчасны, відаць, баяўся, што, калі ён трапіць да мяне ў рукі, я зараз жа заб'ю яго, як і тых дзікуноў.

Я зноў зрабіў яму знак, каб ён наблізіўся да мяне, і наогул імкнуўся як-небудзь яго падбадзёрыць.

Ён падыходзіў да мяне ўсё бліжэй і бліжэй. Праз кожныя дзесяць-дванаццаць крокаў ён падаў на калені. Відаць, ён хацеў выказаць мне падзяку за тое, што я выратаваў яму жыццё.

Я ласкава ўсміхаўся яму і з самым прыветным выглядам вабіў яго да сябе рукой.

Нарэшце дзікун падышоў зусім блізка. Ён зноў упаў на калені, пацалаваў зямлю, прыціснуўся да яе лбом і, прыўзняўшы маю нагу, паставіў яе сабе на галаву. Гэта, напэўна, павінна было азначаць, што ён клянецца быць маім рабом да апошняга дня свайго жыцця.

Я падняў яго і з той жа ласкавай прыязнай усмешкай стараўся паказаць яму, што яму не трэба мяне баяцца.

Але трэба было дзейнічаць далей. Раптам я заўважыў, што той дзікун, якога я стукнуў прыкладам, не забіты, а толькі аглушаны. Ён заварушыўся і апрытомнеў.

Я паказаў на яго ўцекачу:

— Вораг твой яшчэ жывы, бачыш!

У адказ ён прамовіў некалькі слоў, і хоць я нічога не зразумеў, але нават гукі яго голасу здаліся мне прыемнымі і мілагучнымі: бо за ўсе дваццаць пяць гадоў свайго жыцця на востраве я ўпершыню пачуў чалавечы голас!

Аднак у мяне не было часу доўга думаць пра гэта: людаед, якога я аглушыў, настолькі апрытомнеў, што падняўся і ўжо сядзеў на зямлі, і я заўважыў, што мой дзікун зноў пачынае баяцца яго. Трэба было супакоіць няшчаснага. Я ўжо быў прыцэліўся ў яго ворага, але тут мой дзікун пачаў паказваць мне знакамі, каб я даў яму шаблю, якая вісела ў мяне за плячыма. Я падаў яму шаблю. Ён імгненна схапіў яе, кінуўся на свайго ворага і адным узмахам адсек яму галаву.



Такое майстэрства вельмі здзівіла мяне: ніколі ж у жыцці гэты дзікун не бачыў іншае зброі, апрача драўлянага мяча. Пазней я даведаўся, што тутэйшыя дзікуны выбіраюць для сваіх мячоў настолькі моцнае дрэва і вострацъ яго так выдатна, што такім мячом можна адсекчы галаву не горш, чым стальным.

Пасля гэтай крывавай расправы са сваім праследаваццелем мой дзікун (з гэтага часу буду называць яго толькі сваім дзікуном) з вясёлым смехам вярнуўся да мяне, трымаючы ў адной руцэ маю шаблю, а ў другой — галаву забітага. Зрабіўшы перада мною шэраг нейкіх незразумелых для мяне рухаў, ён урачыста паклаў галаву і зброю на зямлю каля маіх ног.

Ён бачыў, як я застрэліў аднаго з яго ворагаў, і гэта ўразіла яго: ён не мог зразумець,

як гэта можна забіць чалавека на такой вялікай адлегласці.

Ён паказаў на забітага мною і на мігах папрасіў у мяне дазволу збегаць зірнуць на яго. Я таксама, гэтак жа на мігах, пастараўся даць яму зразумець, што не забараняю яму выканаць гэта жаданне, і ён адразу ж пабег туды.

Наблізіўшыся да трупа, ён зняме́ў і доўга ў здзіўленні глядзеў на яго. Потым нахіліўся над ім і пачаў паварочваць яго то на адзін, то на другі бок. Убачыўшы ранку, ён пачаў уважліва разглядаць яе. Куля трапіла дзікуну якраз у сэрца, і крыві выйшла мала. Адбылося ўнутранае кровазліццё, смерць надышла імгненна.

Зняўшы з мерцвяка яго лук і калчан са стрэламі, мой дзікун зноў падбег да мяне. Я адразу ж павярнуўся і пайшоў адсюль, запрашаючы яго ісці за мною. Я паспрабаваў растлумачыць яму на мігах, што заставацца тут немагчыма, таму што дзікуны, якія знаходзяцца на тым беразе, могуць кожную хвіліну кінуцца за ім у пагоню.

Ён адказаў мне таксама знакамі, што варта было б спачатку закапаць мерцвякоў у пясок, каб ворагі не ўбачылі іх, калі прыбягуць на гэта месца. Я даў сваю згоду (таксама з дапамогай знакаў), і ён адразу ж узяўся за работу. Са здзіўляючай хуткасцю ён выкапаў рукамі ў пяску такую глыбокую яму, што ў ёй лёгка мог змясціцца чалавек. Затым ён зацягнуў у гэту яму аднаго забітага і засыпаў яго пяском; з другім ён зрабіў тое ж самае,— карацей кажучы, за якую-небудзь чвэрць гадзіны ён пахаваў іх абодвух.

Пасля гэтага я загадаў яму ісці за мною, і мы рушылі ў дарогу. Ішлі мы доўга, таму што я павёў яго не ў крэпасць, а зусім у другі бок — у самую далёкую частку вострава, дзе быў мой новы грот.

У гроце я даў яму хлеба, галінку разынак і крыху вады. Вадзе ён асабліва ўзрадаваўся, таму што пасля хуткага бегу адчуваў моцную смагу.

Калі ён падмацаваўся, я паказаў яму куток пячоры, дзе ў мяне ляжаў ахапак рысавай саломы, прыкрыты коўдраю, і знакамі рас-

тлумачыў яму, што ён можа легчы тут і начаваць.

Бедалага лёг і імгненна заснуў.

Карыстаючыся момантам, я пастараўся лепш разгледзець, як ён выглядае.

Гэта быў прывабны малады чалавек, высокага росту, цудоўнага складу, рукі і ногі меў мускулістыя, моцныя і ў той жа час надзвычай зграбныя; на выгляд яму было гадоў дваццаць шэсць. У твары яго я не заўважыў нічога панурага ці жорсткага; гэта быў мужны і ў той жа час пяшчотны і прыемны твар, і на ім нярэдка з'яўляўся выраз лагоднасці, асабліва калі ён усміхаўся. Валасы ў яго былі доўгія і чорныя; яны падалі на твар гладкімі пасмамі. Лоб высокі, адкрыты; колер скуры цёмна-карычневы, вельмі прыемны для вока. Твар круглы, шчокі поўныя, нос невялікі. Рот прыгожы, губы тонкія, зубы роўныя, белыя, як слановая косць. Спаў ён не больш паўгадзіны, нават не спаў, а драмаў, потым усхапіўся на ногі і выйшаў з пячоры да мяне.

Я тут жа ў загоне даіў сваіх коз. Як толькі ён убачыў мяне, ён тут жа падбег і зноў упаў перада мною на зямлю, усяляк выказваючы самую пакорную падзяку і адданасць. Прыпаўшы тварам да зямлі, ён зноў паставіў сабе на галаву маю нагу і ўвогуле, як толькі ўмеў, усімі даступнымі яму сродкамі імкнуўся даказаць мне сваю бязмежную пакору, намагаўся растлумачыць, што з гэтага дня ён будзе служыць мне ўсё жыццё.

Я шмат зразумеў з таго, што ён імкнуўся мне сказаць, і пастараўся запэўніць яго, што я ім вельмі задаволены.

З таго дня я пачаў вучыць яго самым неабходным словам. Перш за ўсё я сказаў яму, што буду называць яго Пятніца (я выбраў яму гэта імя ў напамінак таго дня, калі я выратаваў яму жыццё). Затым я навучыў яго вымаўляць маё імя, навучыў таксама вымаўляць «так» і «не» і растлумачыў яму значэнне гэтых слоў.

Я прынёс яму малака ў гліняным збану і паказаў, як трэба мачаць хлеб у малако. Ён адразу навучыўся ўсяму гэтаму і пачаў на мігі паказваць, што мая пачостка яму спадабалася.

Мы пераначавалі ў гроце, але адразу, як толькі надышла раніца, я загадаў Пятніцы ісці за мною і павёў яго ў сваю крэпасць. Я растлумачыў, што хачу падарыць яму сякое-такое адзенне. Ён, відаць, вельмі ўзрадаваўся, таму што быў зусім голы.

Калі мы ішлі паўз тое месца, дзе былі пахаваны забітыя ўчора два дзікуны, ён паказаў мне на іх магілы і ўсяляк імкнуўся мне растлумачыць, што нам варта адкапаць абодва трупы, каб зараз жа з'есці іх.

Тут я зрабіў выгляд, што страшэнна ўзлаваўся, што мне агідна нават слухаць пра такія рэчы, што мяне пачынае ванітаваць ад аднае думкі пра гэта, што я ўзнелюблю і ўзненавіджу яго, калі ён толькі дакранецца да забітых. Нарэшце я зрабіў рашучы рух рукою, загадваючы яму адысці ад магіл; і ён адразу ж вельмі пакорна адышоў.

Пасля гэтага мы з ім падняліся на пагорак: мне хацелася паглядзець, ці тут яшчэ дзікуны.

Я дастаў падзорную трубу і навёў яе на тое месца, дзе бачыў іх учора. Але іх і след прастыў: на беразе не было ніводнай лодкі. Я не сумняваўся, што дзікуны паехалі, нават не паспрабаваўшы шукаць двух сваіх таварышаў, якія засталіся на востраве.

Я, вядома, узрадаваўся гэтаму, але мне хацелася мець больш дакладныя звесткі пра маіх нязваных гасцей. Бо цяпер я ўжо быў не адзін, са мною быў Пятніца, і таму я зрабіўся куды смялейшы, а разам са смеласцю ў мяне абудзілася і цікаўнасць.

У аднаго з забітых засталіся лук і калчан са стрэламі. Я дазволіў Пятніцы ўзяць гэту зброю, і з таго часу ён не разлучаўся з ёю ні днём ні ўначы. Хутка мне давялося ўпэўніцца, што лукам і стрэламі мой дзікун валодае па-майстэрску. Апрача таго, я ўзброіў яго шабляй, даў яму адну сваю стрэльбу, а сам узяў дзве другія, і мы рушылі ў дарогу.

Калі мы прыйшлі на тое месца, дзе ўчора балявалі людаеды, нашым вачам адкрылася такое жахлівае відовішча, што ў мяне замерла сэрца ў грудзях і застыла ў жылах кроў.

Але Пятніца быў зусім спакойны: такія відовішчы былі яму не ўпершыню і зусім яго не здзіўлялі.

Зямля ў многіх мясцінах была заліта крывёю. Вакол валяліся кавалкі смажанага чалавечага мяса. Увесь бераг быў усыпаны касцямі людзей: тры чарапы, пяць рук, косці ад трох ці чатырох ног і мноства іншых частак шкілета.

Пятніца расказаў мне з дапамогай знакаў, што дзікуны прывезлі з сабою чатырох палонных: траіх яны з'елі, а ён быў чацвёрты. (Тут ён тыцнуў сябе пальцам у грудзі.)

Вядома, я зразумеў далёка не ўсё з таго, што ён расказваў мне, але сёе-тое ўсё ж здолеў сцяміць. Паводле яго слоў, некалькі дзён назад у дзікуноў, якія былі пад уладай аднаго варожага князька, адбылася вялікая бойка з тым племенем, да якога належаў ён, Пятніца. Чужыя дзікуны перамаглі і забралі ў палон вельмі многа народу. Пераможцы падзялілі палонных паміж сабою і павезлі іх у розныя мясціны, каб забіць і з'есці гэтак жа, як зрабіў той атрад дзікуноў, які выбраў месцам баляванні адзін [redacted] берагоў майго вострава.

Я загадаў Пятніцы раскласці вялікае вогнішча, затым сабраць усе косці, усе кавалкі мяса, зваліць іх у гэта вогнішча і спаліць.

Я заўважыў, што яму вельмі хочацца паласавацца чалавечым мясам (ды яно і не дзіўна: ён жа таксама быў людаед!). Але я зноў рашуча паказаў яму знакамі, што мне здаецца агідным і мярзотнай нават сама думка пра такі ўчынак, і тут жа прыгразіў яму, што заб'ю яго пры першай жа спробе парушыць маю забарону.

Пасля гэтага мы вярнуліся ў крэпасць, і я, не адкладваючы, узяўся абшываць свайго дзікуна.

Перш за ўсё я надзеў на яго штаны. У адной са скрынь, якія я забраў [redacted] загінуўшага карабля, знайшлася гатовая пара палатняных штаноў, іх давялося толькі крыху перашыць. Затым я пашыў яму куртку з казінага футра, прыклаўшы ўсе свае здольнасці і ўменне на тое, каб куртка атрымалася як найлепш (у той час я ўжо быў даволі спрактыкаваны кравец), і змайстраваў яму з заечых шкурак шапку, вельмі зручную і даволі прыгожую.

Такім чынам на першым часе ён быў апрануты з галавы да ног і застаўся, відаць, вельмі задаволены, што яго адзежа не горшая за маю.

Праўда, з непрывычкі яму было нязручна ў адзежы, таму што ён усё жыццё хадзіў голы; асабліва перашкаджалі яму штаны. Скардзіўся ён і на куртку: казаў, што рукавы ціснуць яму пад пахамі і націраюць плечы. Давялося сёе-тое перашыць, але мала-памалу ён прыцярпеўся і прывык.

На другі дзень я пачаў думаць, дзе б мне яго змясціць.

Мне хацелася ўладкаваць яго як зручней, але я яшчэ не зусім быў упэўнены ў ім і баяўся пасяліць яго разам з сабою. Я паставіў яму маленькую палатку на вольнай плошчы паміж дзвюх сцен мае крэпасці, і ён такім чынам апынуўся за агароджай таго двара, дзе стаяла маё жыллё.

Але гэта мая перасцярога аказалася зусім дарэмнай. Неўзабаве Пятніца даказаў мне на справе, як самааддана ён любіць мяне. Я не мог не прызнаць яго сваім сябрам і перастаў асцерагацца яго.

Ніколі ніводзін чалавек не меў такога вернага і адданага сябра, як мой Пятніца. Ні раздражнення, ні хітрасці не было ў яго ніколі ў адносінах да мяне; заўсёды прыветны і гатовы да паслугі, ён быў прыхільны да мяне, як дзіця да бацькі. Я ўпэўнены, што, калі б спатрэбілася, ён ахвяраваў бы дзеля мяне сваім жыццём.

Я быў вельмі шчаслівы, што ў мяне нарэшце з'явіўся таварыш, і даў сабе слова навучыць яго ўсяму, што магло прынесці яму карысць, а перш за ўсё навучыць яго гаварыць на мове мае радзімы, каб мы з ім маглі разумець адзін аднаго. Пятніца аказаўся такім здольным вучнем, што лепшага і пажадаць было нельга.

Але самае каштоўнае ў ім было тое, што ён вучыўся так старанна, з такой радаснай гатоўнасцю слухаў мяне, такі быў шчаслівы, калі разумеў, чаго я дабіваюся ад яго, што для мяне было вялікім задавальненнем вучыць яго і размаўляць з ім.

З таго часу, як Пятніца застаўся са мною, жыццё маё зрабілася прыемным і лёгкім. І калі б я мог лічыць сябе ў бяспецы ад іншых дзікуноў, я, здаецца, сапраўды без шкадавання згадзіўся б застацца на востраве да канца маіх дзён.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ДРУГІ

### Рабінзон размаўляе з Пятніцай і павучае яго

Дні праз два ці тры пасля таго, як Пятніца пасяліўся ў маёй крэпасці, мне прыйшло ў галаву, што, калі я хачу, каб ён не еў чалавечага мяса, я павінен прывучыць яго да мяса жывёл.

«Няхай ён паспытае казінае мяса»,— сказаў я сам сабе і вырашыў узяць яго з сабой на паляванне.

Раніцой мы пайшлі з ім у лес і, адышоўшы дзве ці тры мілі ад дома, убачылі пад дрэвам дзікую казу з казлянятамі.

Я схапіў Пятніцу за руку і зрабіў яму знак, каб ён не варушыўся. Потым на вялікай адлегласці я прыцэліўся, стрэліў і забіў адно казляня.

Бедны дзікун, не разумеючы, як можна забіць жывую істоту, не наблізіўшыся да яе (хоць ён і бачыў раней, як я забіў яго ворага), быў канчаткова ашаломлены. Ён задрыжаў, захістаўся, і мне нават здалося, што ён зараз упадзе.

Ён не заўважыў казляня, якое я забіў, і яму здалося, што я хацеў забіць яго, Пятніцу, і ён пачаў абмацваць сябе, ці не ідзе часам у яго дзе кроў. Потым ён нават адхіліў палу сваё курткі, каб паглядзець, ці не паранены ён, і, упэўніўшыся, што застаўся жывы і непашкоджаны, упаў перада мной на калені, абняў мае ногі і доўга штосьці тлумачыў мне на сваёй мове.

Гаворка яго была незразумелая, але лёгка можна было здагадацца, што ён просіць мяне не забіваць яго.

Жадаючы супакоіць яго, даказаць, што я не маю намеру рабіць яму зло, я ўзяў Пятніцу за руку, засмяяўся і, паказаўшы на забітае казляня, загадаў яму пабегчы забраць яго. Пятніца выканаў мой загад. Пакуль ён разглядаў казляня, стараючыся зразумець, чаму яно аказалася забітым, я зноў зарадзіў стрэльбу.



Неўзабаве пасля гэтага я ўбачыў на дрэве, на адлегласці ружэйнага стрэлу ад мяне, вялікую птушку, падобную на коршака. Жадаючы растлумачыць Пятніцу, што такое стральба, я падазваў яго да сябе, паказаў яму спачатку

пальцам на птушку, потым на стрэльбу, потым на зямлю пад тым дрэвам, на якім сядзела птушка, як быццам кажучы яму: «Вось глядзі: зараз я зраблю так, што яна ўпадзе», і ўслед за тым стрэліў. Птушка ўпала і аказалася не коршакам, а вялікім папугаем. І на гэты раз, нягледзячы на ўсе мае тлумачэнні, Пятніца ад страху нібыта скамянеў.

Тут толькі я здагадаўся, што асабліва ўражвала яго, калі я страляў са стрэльбы: да гэтага часу ён яшчэ ні разу не бачыў, як я зараджаю стрэльбу, і, відаць, думаў, што ў гэтай жалезнай палцы сядзіць нейкая злая чарадзейная сіла, якая прыносіць на любой адлегласці смерць чалавеку, зверу, птушцы, наогул усякай жывой істоце, дзе б яна ні знаходзілася, блізка ці далёка.

Ён і потым яшчэ доўгі час не здольны быў адолець у сабе страх і здзіўленне перад кожным маім стрэлам.

Мне здаецца, калі б я толькі дазволіў яму, ён пачаў бы пакланяцца мне і маёй стрэльбе, нібыта мы былі багамі.

Першы час ён не адважваўся нават дакрануцца да стрэльбы, але затое размаўляў з ёю, калі думаў, што я не чую, як з жывою істотай. Пры гэтым яму здавалася, што стрэльба яму адказвае. Потым ужо ён мне прызнаўся, што ён упрошваў стрэльбу, каб яна злітавалася над ім.

Калі Пятніца крыху апамятаўся, я прапанаваў яму прынесці мне забітую дзічыну. Ён зараз жа пабег па яе, але вярнуўся не адразу, таму што яму давялося доўга шукаць птушку: як выявілася, я не забіў яе, а толькі параніў, і яна адляцела далёка ўбок. Нарэшце ён усё-такі знайшоў яе і прынёс; я ж выкарыстаў яго адсутнасць, каб зноў зарадзіць стрэльбу. Я лічыў, што да пэўнага часу будзе лепей не паказваць яму, як гэта робіцца.

Я спадзяваўся, што нам трапіцца яшчэ якаянебудзь дзічына, але больш нічога не траплялася, і мы вярнуліся дадому.

У той жа вечар я садраў шкуру з забітага казляняці і старанна выпатрашыў яго, потым распаліў вогнішча і, адрэзаўшы кавалак казляціны, зварыў яго ў гліняным гаршку. Атрымаўся цудоўны мясны навар. Я паспытаў яго і прапанаваў Пятніцу. Вараная страва яму вельмі

спадабалася, толькі ён здзівіўся, навошта я яе пасаліў. Ён пачаў паказваць мне на мігах, што соль — агідная, непрыемная яда. Узяўшы ў рот дробачку солі, ён пачаў пляваць і зрабіў выгляд, нібыта яго пачынае ванітаваць, а потым выпаласкаў рот вадою.

Каб запярэчыць яму, я ў сваю чаргу паклаў у рот кавалачак мяса без солі і таксама пачаў пляваць, паказваючы, што мне праціўна есці без солі.

Але Пятніца ўпарта стаяў на сваім. Мне так і не ўдалося прывучыць яго да солі. Толькі праз многа часу ён пачаў саліць сваю яду, ды і то вельмі патрошачку.

Накарміўшы свайго дзікуна варанай казляцінай і булёнам, я вырашыў пачаставаць яго на другі дзень той жа самай казляцінай, толькі ўжо ў выглядзе смажаніны. Смажыў я яе над вогнішчам, як гэта часта робіцца ў нас, у Англіі. З двух бакоў вогнішча ўтыкаюць у зямлю дзве жэрдкі, зверху прымацоўваюць паміж імі папярочную жэрдку, вешаюць на яе кавалак мяса і паварочваюць яго над агнём да таго часу, пакуль яно не сасмажыцца.

Усё гэта збудаванне Пятніцу вельмі спадабалася. Калі ж ён паспытаў смажаніны, захапленню яго не было межаў. Самымі выразнымі жэстамі ён тлумачыў мне, як спадабалася яму гэта ежа, і, нарэшце, заявіў, што ніколі больш не будзе есці чалавечага мяса. Я вельмі ўзрадаваўся гэтаму.

На другі дзень я даручыў яму малоць і прасяваць збожжа, папярэдне паказаўшы, як гэта робіцца. Ён хутка зразумеў, у чым справа, і пачаў вельмі энергічна працаваць, асабліва калі даведаўся, дзеля чаго гэта робіцца. А даведаўся ён пра гэта ў той жа дзень, таму што я накарміў яго хлебам, спечаным з нашай мукі.

У хуткім часе Пятніца навучыўся працаваць не горш за мяне.

І таму, што цяпер я вымушаны быў карміць двух чалавек, мне патрэбна было падумаць пра будучыню. Перш за ўсё мне трэба было павялічыць свае пасевы і сеяць больш збожжа. Я выбраў вялікі ўчастак зямлі і ўзяўся абгароджваць яго. Пятніца не толькі старанна, але і вельмі весела і з задавальненнем памагаў мне ў працы.

Я растлумачыў яму, што гэта будзе новае поле для хлебных каласоў, таму што нас цяпер двое і патрэбна будзе зрабіць запас хлеба не толькі на мяне, а і на яго таксама. Яго вельмі расчуліла, што я так клапаціўся пра яго: ён усяляк стараўся растлумачыць мне пры дапамозе знакаў, што ён разумее, як многа мне далося зараз спраў, і просіць, каб я хутчэй навучыў яго рабіць розную карысную работу, а ўжо ён будзе старацца з усяе сілы.

То быў самы шчаслівы год майго жыцця на востраве.

Пятніца вывучыўся даволі прыстойна гаварыць па-англійску: ён ведаў назвы амаль усіх рэчаў, якія яго акружалі, і тых мясцін, куды я мог яго пасылаць, дзякуючы чаму даволі талкова выконваў усе мае даручэнні.

Ён меў таварыскі і гаваркі нораў, любіў паразмаўляць, і я цяпер мог у дастатковай ступені ўзнагародзіць сябе за доўгія гады вымушанага маўчання.

Але Пятніца падабаўся мне не толькі таму, што ў мяне была магчымасць размаўляць з ім. З кожным днём я ўсё болей захапляўся яго сумленнасцю, яго сардэчнай прастатой і шчырасцю.

Паступова я адчуў прыхільнасць да яго, ды і ён таксама так палюбіў мяне, як, напэўна, не любіў дагэтуль нікога.

Аднойчы мне захацелася распытаць пра яго мінулае жыццё; я хацеў даведацца, ці не сумуе ён па радзіме і ці не хоча вярнуцца дадому. У той час я ўжо так добра навучыў яго гаварыць па-англійску, што ён мог адказваць амаль што на кожнае маё пытанне.

І вось я спытаў пра яго роднае племя:

— А што, Пятніца, гэта племя адважнае? Ці здаралася так, што яно перамагала ворагаў?

Ён усміхнуўся і адказаў:

— О, вядома! Мы вельмі адважныя, мы заўсёды перамагаем у бойцы.

— Ты кажаш, што вы заўсёды перамагаеце ў бойцы? А як жа так атрымалася, што цябе ўзялі ў палон?

— А нашы ўсё роўна пабілі тых, шмат пабілі.

— А чаму ж ты тады казаў, што тыя пабілі вас? Яны ж узялі цябе і іншых у палон?





— У тым месцы, дзе я біўся, ворага было куды болей. Яны схапілі нас — адзін, два, тры і мяне. А нашы пабілі іх у другім месцы, дзе мяне не было. У тым месцы нашы схапілі іх — адзін, два, тры, шмат, вялізную тысячу.

— А чаму ж вашы не прыйшлі вам на дапамогу?

— Ворагі схапілі адзін, два, тры і мяне і звезлі нас у лодцы, а ў нашых на той час лодкі не было.

— А скажы ты мне, Пятніца, што робяць вашы з тымі, хто трапляе да іх у палон? Таксама звозяць іх куды-небудзь далей і там іх ядуць, як тыя людаеды, якіх я бачыў?

— Вядома, нашы таксама ядуць чалавека... усе ядуць.

— А куды яны іх вязуць, калі збіраюцца іх з'есці?

— Розныя месцы, куды надумаюцца.

— А сюды яны прыязджаюць?

— Вядома, прыязджаюць і сюды. І ў іншыя розныя месцы.

— А ты тут быў калі з імі?

— Так. Быў. Вунь там быў...

І ён паказаў на паўночна-заходнюю ўскраіну вострава, дзе, відаць, заўсёды збіраліся яго аднапляменнікі.

Такім чынам выявілася, што мой сябра і прыяцель Пятніца быў у ліку тых дзікуноў, якія наведвалі аддаленыя берагі вострава, і не раз ужо еў людзей у тых мясцінах, дзе потым хацелі з'есці яго самога.

Калі я праз некаторы час, набраўшыся смеласці, павёў яго на бераг (туды, дзе я ўпершыню ўбачыў груды чалавечых касцей), Пятніца адразу ж пазнаў гэтыя мясціны. Ён расказаў мне, што аднойчы, калі ён прыязджаў на мой востраў са сваімі аднапляменнікамі, яны забілі і з'елі тут дваццаць мужчын, дзвюх жанчын і адно дзіця. Ён не ведаў, як сказаць па-англійску «дваццаць», і каб растлумачыць мне, колькі чалавек яны з'елі, паклаў дваццаць каменьчыкаў адзін пры адным.

Працягваючы гутарку з Пятніцай, я спытаў у яго, ці далёка ад майго вострава да той зямлі, дзе жывуць дзікуны, і ці часта гінуць іх лодкі, пераплываючы гэту адлегласць. Выявілася, што плаваць тут зусім бяспечна: ён, Пятніца, не ве-

дае ніводнага выпадку, каб хто-небудзь тут патануў, бо непадалёк ад нашага вострава праходзіць марское цячэнне: раніцой яно накіроўваецца ў адзін бок і заўсёды пры спадарожным ветры, а пад вечар і вецер і цячэнне паварочваюць у процілеглы бок.

Спачатку мне падумалася, што гэтае цячэнне залежыць ад прыліву і адліву, і толькі значна пазней я выявіў, што яно складае працяг магутнай ракі Арынока, якая ўпадае ў мора непадалёку ад майго вострава, і ён, такім чынам, знаходзіцца якраз насупраць дэльты гэтай рэчкі. Палоса ж зямлі на захадзе і паўночным захадзе, якую я лічыў за мацярык, аказалася вялікім востравам Трынідадам, што ляжыць супроць паўночнай часткі вусця той жа рэчкі.

Я задаваў Пятніцы тысячу самых разнастайных пытанняў пра гэту зямлю і яе насельнікаў: пытаўся, ці небяспечныя тутэйшыя берагі, ці бурнае там мора, ці жорсткія там людзі і якія народы жывуць па суседству. Ён з ахвотай адказваў на ўсе мае пытанні і без усякага ўтойвання расказваў усё, што яму было вядома.

Пытаўся я таксама, як завуцца розныя плямёны дзікуноў, якія жывуць у тых мясцінах, але ён паўтараў толькі адно: «Карыбэ, карыбэ». Вядома, мне няцяжка было здагадацца, што ён кажа пра караібаў, якія, мяркуючы па нашых геаграфічных картах, жывуць менавіта ў гэтай частцы Амерыкі, займаючы ўсю берагавую палосу ад вусця ракі Арынока да Гвіяны і да горада Санта-Марта[1].

Апрача таго, ён расказаў мне, што далёка «за месяцам», гэта значыць у тым баку, дзе заходзіць месяц, ці, інакш кажучы, на захад ад яго радзімы, жывуць такія ж, як я, белыя барадатыя людзі (тут ён паказаў на мае доўгія вусы). Паводле яго слоў, гэтыя людзі «забілі многа, многа чалавекаў».

Я зразумеў, што ён кажа пра іспанскіх заваёўнікаў, якія праславіліся ў Амерыцы сваёй жорсткасцю[2].

Я спытаў у яго: ёсць ці не ў мяне якая-небудзь магчымасць пераплысці цераз мора да белых людзей.

[1] Санта-Марта—горад у Калумбіі, на беразе Карыбскага мора.
[2] Іспанцы, якія заваявалі Паўднёвую Амерыку ў XVI стагоддзі, страшэнна жорстка адносіліся да заваяваных народаў.

Ён адказаў:

— Вядома, можна: толькі трэба плысці на дзвюх лодках.

Я доўга не мог уцяміць, што ён хоча сказаць, але нарэшце з вялікай цяжкасцю здагадаўся, што на яго мове гэта азначае вялікую шлюпку, мабыць, у два разы большую за звычайную пірогу.

Словы Пятніцы мяне вельмі ўзрадавалі: з гэтага дня ў мяне з'явілася надзея, што рана ці позна, а я ўсё роўна вырвуся адсюль і што за сваю волю буду ўдзячны майму дзікуну.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ТРЭЦІ

### Рабінзон і Пятніца будуюць лодку

Мінула яшчэ некалькі месяцаў.

За гэты час Пятніца навучыўся разумець амаль усё, што я яму казаў. Сам ён гаварыў па-англійску ўжо амаль усё, хоць і вельмі няправільна. Паступова я расказаў яму ўсё пра сваё жыццё: як я трапіў на свой востраў, колькі гадоў прабыў тут і як я пражыў гэтыя гады.

Яшчэ раней я адкрыў Пятніцу таямніцу стральбы (таму што для яго гэта была сапраўды таямніца): я паказаў яму кулі, растлумачыў адзеянне пораху і навучыў яго страляць. Я аддаў яму на пастаяннае карыстанне адну сваю стрэльбу. Я падарыў яму нож, і гэты падарунак зрабіў яго шчаслівым чалавекам. Я змайстраваў яму партупею, накшталт тых, на якіх у нас, у Англіі, носяць корцікі; толькі замест корціка я даў яму сякеру, якая была, па сутнасці, такой жа добрай зброяй і, апрача таго, магла быць прыдатнай для розных гаспадарчых патрэб.

Я многа расказваў Пятніцу пра еўрапейскія дзяржавы, асабліва пра маю радзіму. Я апісваў яму наша жыццё, нашы норавы і звычкі, расказваў яму, як мы вандруем па ўсіх частках свету і плаваем на вялікіх караблях. Я растлумачыў яму, як збудавана вялікае парусное судна, і расказаў яму пра тое, як я ездзіў на карабель, які пацярпеў крушэнне, і здаля паказаў

яму месца, дзе карабель наскочыў на падводныя камяні. Вядома, я мог паказаць яго вельмі прыблізна, таму што карабель даўно разбіла на трэскі і ўсе абломкі знесла ў мора. Паказаў я таксама яму тую амаль ужо сатлелую лодку, на якой мы хацелі выратавацца, калі бура прыгнала нас да гэтага берага.

Убачыўшы гэту лодку, Пятніца задумаўся і доўга маўчаў. Я спытаў у яго, пра што ён думае, і ён праз некаторы час адказаў:

— Я бачыў адна такая лодка, як гэта. Яна плавала тое месца, дзе жыве мой народ.

Я доўга не разумеў, што ён хоча сказаць: ці тое, што ў іх мясцовасці дзікуны плаваюць на такіх лодках, ці што такая лодка плыла паўз іх берагі.

Нарэшце, пасля доўгіх роспытаў, мне ўдалося высветліць, што дакладна такую ж лодку прыбіла да тых берагоў, дзе жыло яго племя.

— Яе прыгнала да нас ліхое надвор'е,— растлумачыў Пятніца і зноў надоўга змоўк.

«Напэўна,— падумаў я,— які-небудзь еўрапейскі карабель пацярпеў крушэнне ля тых берагоў. Шалёныя хвалі маглі змыць з яго лодку і прыгнаць яе туды, дзе жывуць дзікуны». Але, па маёй нездагадлівасці, мне і ў галаву не прыйшло, што на той лодцы маглі быць людзі, і, працягваючы распытваць Пятніцу, я думаў толькі пра лодку.

— Раскажы мне, якая яна з выгляду.

Пятніца абмаляваў яе мне вельмі падрабязна і раптам зусім нечакана горача дадаў:

— Белыя чалавекі не патанулі, мы іх выратавалі!

— А хіба ў лодцы былі белыя людзі? — паспешліва спытаў я.

— Так,— адказаў ён,— поўная лодка белых людзей!

— Колькі іх было?

Ён паказаў мне спачатку дзесяць пальцаў, а потым яшчэ сем.

— Дзе ж яны? Што з імі здарылася?

Ён адказаў:

— Яны жывуць. Яны жывуць у нашых.

Тут мне раптам прыйшла ў галаву думка: ці не з таго самага карабля, які разбіўся ў тую навальнічную ноч непадалёку ад майго вострава, былі гэтыя семнаццаць чалавек белых?

Магчыма, калі карабель наскочыў на скалу і яны ўбачылі, што яго нельга выратаваць, яны пераселі ў шлюпку, а потым іх прыбіла да зямлі дзікуноў, сярод якіх ім і давялося пасяліцца.

Я спахмурнеў і пачаў строгім голасам дапытваць Пятніцу, дзе ж тыя людзі цяпер. Ён зноў гэтак жа горача адказаў:

— Яны жывыя! Ім добра!

І дадаў, што хутка ўжо чатыры гады, як гэтыя людзі жывуць у яго землякоў, і тыя не крыўдзяць іх, не чапаюць, а даюць ім усякую ежу, і яны маюць поўную волю.

Я спытаў у яго:

— Як магло здарыцца, што дзікуны не забілі і не з'елі белых людзей?

Ён адказаў:

— Белыя чалавекі сталі нам браты. Нашы ядуць толькі тых, каго перамагаюць у бойцы.

Мінула яшчэ некалькі месяцаў. Аднойчы, гуляючы па востраве, забрылі мы з Пятніцай на ўсходнюю частку вострава і ўзняліся на вяршыню пагорка. Адтуль, як я ўжо казаў, многа год назад я ўбачыў палосу зямлі, якую палічыў за мацярык Паўднёвай Амерыкі.

Зрэшты, першы ўзышоў на вяршыню Пятніца, а я крыху адстаў, бо пагорак быў высокі і даволі круты.

Як і тады, дзень быў вельмі ясны.

Пятніца доўга ўглядаўся ўдалечыню і раптам крыкнуў, пачаў падскакваць і скакаць, як вар'ят, крычаць мне, каб я хутчэй карабкаўся на пагорак.

Я са здзіўленнем глядзеў на яго.

Ніколі не даводзілася мне бачыць яго такім узбуджаным. Нарэшце ён спыніў свае скокі і крыкнуў:

— Хутчэй, хутчэй сюды!

Я спытаў у яго:

— Што здарылася? Чаго ты так радуешся?

— Так, так! — паўтараў ён. — Я шчаслівы! Вунь там, глядзі... адсюль відно... там мая зямля, мой народ!

Твар яго свяціўся шчасцем, вочы ззялі; здавалася, усёй сваёй істотай ён ірвецца туды, у той край, дзе яго родныя і блізкія.

Убачыўшы, як ён радуецца і весяліцца, я быў вельмі засмучаны.



«Дарэмна я ставіўся з такім бязмежным даверам да гэтага чалавека,— сказаў я сабе.— Ён прыкідваецца маім адданым сябрам, а сам толькі і думае пра тое, як бы яму ўцячы».

І я з недаверам зірнуў на Пятніцу.

«Зараз ён лагодны і пакорны,— думаў я,— але варта яму толькі апынуцца сярод іншых дзікуноў, ён, вядома, зараз жа забудзе, што я выратаваў яму жыццё, і аддасць мяне сваім аднапляменнікам; ён прывядзе іх сюды, на мой востраў. Яны заб'юць і з'ядуць мяне, і ён будзе баляваць разам з імі гэтак жа весела і бесклапотна, як раней, калі яны прыязджалі сюды святкаваць сваю перамогу над дзікунамі варожых плямён».

Маё падазрэнне з таго часу ўсё мацнела. Я пачаў ухіляцца свайго ўчарашняга сябра, мае адносіны да яго зрабіліся абыякавымі і халоднымі.

Так працягвалася некалькі тыдняў. На шчасце, я хутка пераканаўся, што быў страшэнна вінаваты перад гэтым шчырым юнаком.

Пакуль я падазраваў яго ў здрадлівых і каварных намерах, ён па-ранейшаму адносіўся да мяне з адданасцю; у кожным слове яго было столькі дабрыні і дзіцячага даверу, што ў рэшце рэшт мне зрабілася брыдка ад маіх падазрэнняў. Я зноў адчуў у ім вернага сябра і пастараўся ўсяляк загладзіць перад ім сваю віну. А ён нават не заўважыў мае халоднасці да яго, і гэта было для мяне самым яскравым сведчаннем яго сардэчнай шчырасці.

Аднойчы, калі мы з Пятніцай зноў падымаліся на пагорак (гэты раз над морам стаяў туман і супрацьлеглага берага не было відно), я спытаў у яго:

— А што, Пятніца, табе хацелася б вярнуцца на радзіму, да сваіх?

— Вядома,— адказаў ён,— я быў бы яшчэ як рады вярнуцца туды!

— Што б ты там рабіў? — працягваў я.— Зрабіўся б зноў крыважэрным і пачаў бы, як і раней, есці чалавечае мяса?

Мае словы, відаць, усхвалявалі яго. Ён пакруціў галавой і адказаў:

— Не, не! Пятніца сказаў бы ўсім сваім: жывіце, як трэба, ешце хлеб са збожжа, малако, казінае мяса, не ешце чалавека.

— Ну, калі ты скажаш ім гэта, яны цябе заб'юць.

Ён зірнуў на мяне і сказаў:

— Не, не заб'юць. Яны будуць рады вучыцца добраму.

Затым ён дадаў:

— Яны многа вучыліся ў барадатых чалавекаў, што прыехалі ў лодцы.

— Дык табе хочацца вярнуцца дадому? — паўтарыў я сваё пытанне.

Ён усміхнуўся і сказаў:

— Я не здолею плысці так далёка.

— Ну, а калі б я даў табе лодку,— спытаў я ў яго,— ты паехаў бы на радзіму, да сваіх?

— Паехаў бы! — горача адклікнуўся ён.— Але і ты павінен паехаць са мною.

— Як жа мне ехаць? — запярэчыў я.— Яны мяне адразу ж з'ядуць.

— Не, не, не з'ядуць! — прамовіў ён палка.— Я зраблю так, што не з'ядуць! Я зраблю так, што яны будуць цябе многа любіць.

Пятніца хацеў гэтым сказаць, што ён раскажа сваім землякам, як я забіў яго ворагаў і выратаваў яму жыццё. Ён быў упэўнены, што за гэта яны будуць моцна любіць мяне.

Пасля гэтага ён расказаў мне, з якой дабрынёй яны аднесліся да семнаццаці белых барадатых людзей, якіх прыбіла бураю да берагоў яго радзімы. З таго моманту ў мяне з'явілася страснае жаданне паспрабаваць, чаго б гэта ні каштавала, пераправіцца ў краіну дзікуноў і адшукаць там тых белых «барадатых чалавекаў», пра якіх казаў Пятніца.

Не магло быць ніякага сумнення, што гэта іспанцы ці партугальцы, і я быў упэўнены, што, калі толькі я здолею пабачыцца і пагутарыць з імі, разам мы прыдумаем спосаб вырвацца адсюль на волю. «Ва ўсякім выпадку,— думаў я,— на гэта будзе болей надзеі, калі нас будзе васемнаццаць чалавек і калі мы пачнём дружна дзейнічаць дзеля агульнай справы. А што здолею зрабіць я, адзін, без памагатых, на маім астраўку, за сорак міляў ад іх берага!»

Гэты план моцна засеў у мяне ў галаве, і праз некалькі дзён я зноў загаварыў пра яго.

Я сказаў Пятніцу, што дам яму лодку, каб ён здолеў вярнуцца на радзіму, і ў той жа дзень павёў яго да той бухтачкі, дзе была мая лодка.

Вычарпаўшы з яе ваду, я падвёў яе да берага і паказаў Пятніцу. Мы абодва селі ў лодку, каб выпрабаваць яе ход. Пятніца, як выявілася, быў цудоўны вясляр і працаваў вёсламі не горш за мяне. Лодка хутка імчалася па вадзе. Калі мы адышлі ад берага, я сказаў яму:

— Ну што ж, Пятніца, паедзем да тваіх землякоў?

Ён паглядзеў на мяне неяк сумна і паныла: відаць, на яго думку, лодка была занадта малая для такога плавання. Тады я сказаў, што ў мяне ёсць другая, большая. І на другі дзень мы з ім накіраваліся ў лес, на тое месца, дзе я пакінуў сваю першую лодку, якую не здолеў спусціць на ваду. Пятніцу гэта лодка спадабалася.

— Такая згодзіцца, згодзіцца,— паўтараў ён.— Тут можна многа класці хлеба, вады і ўсяго.

Але з дня пабудовы гэтай лодкі мінула дваццаць тры гады. Увесь гэты час яна правалялася без усякага догляду пад адкрытым небам, яе пякло сонца і мачылі дажджы, уся яна рассохлася і згніла. Аднак гэта не пахіснула майго намеру ажыццявіць паездку на мацярык.

— Нічога, не бядуй,— сказаў я Пятніцу.— Мы пабудуем гэткую ж лодку, і ты паедзеш дадому.

Ён не адказаў ні слова, але вельмі засмуціўся і зрабіўся маўклівы. Калі я спытаў у яго, што з ім, Пятніца прамовіў:

— За што Рабінзон Круза сярдуе на Пятніцу? Што я кепскае зрабіў?

— Чаму ты надумаў, што я сярдую на цябе? Я нікольні не сярдую,— адказаў я.

— «Не сярдую. Не сярдую!» — паўтарыў ён разоў шэсць ці сем запар.— А навошта пасылаеш Пятніцу дадому, да яго землякоў і родных?

— Дык ты ж сам казаў, што табе хочацца дадому,— заўважыў я.

— Так, хочацца,— адказаў ён,— але толькі з табою. Каб ты і я. Робін не паедзе — Пятніца не паедзе! Пятніца не хоча без Робіна!

Ён і слухаць не хацеў пра тое, каб пакінуць мяне.

— Але, памяркуй сам,— сказаў я,— навошта я паеду туды? Што я там буду рабіць?

Ён горача запярэчыў мне:

— Што ты будзеш там рабіць? Многа рабіць, добра рабіць: вучыць дзікіх чалавекаў быць добрымі, разумнымі.

— Мілы Пятніца,— сказаў я і ўздыхнуў,— ты сам не ведаеш, пра што кажаш. Куды ўжо такому няшчаснаму невуку, як я, яшчэ вучыць некага!

— Няпраўда! — горача запярэчыў ён.— Мяне вучыў — будзеш вучыць і іншых чалавекаў.

— Не, Пятніца,— сказаў я,— едзь без мяне, а я застануся тут адзін, без людзей. Жыў жа я неяк адзін да гэтага часу!

Гэтыя словы, відаць, здаліся яму вельмі крыўднымі. Ён імкліва кінуўся да сякеры, што ляжала непадалёку, схапіў яе, прынёс і падаў мне.

— Навошта ты даеш мне сякеру? — спытаў я.

Ён адказаў:

— Забі Пятніцу!

— Навошта мне цябе забіваць? Ты ж нічога кепскага мне не зрабіў.

— А навошта праганяеш Пятніцу адсюль? — горача ўсклікнуў ён.— Забі Пятніцу, не праганяй яго адсюль!

Ён быў страшэнна ўсхваляваны. Я заўважыў на вачах у яго слёзы. Словам, адданасць яго была такая моцная, што, калі б я нават хацеў, я не здолеў бы прагнаць яго. Я тут жа сказаў яму і часта паўтараў потым, што ніколі больш не буду гаварыць пра яго ад'езд на радзіму, пакуль ён хоча заставацца са мною.

Такім чынам я канчаткова ўпэўніўся, што Пятніца назаўсёды адданы мне.

Калі ён нават і хацеў вярнуцца на радзіму, то толькі таму, што ўсім сэрцам любіў сваіх аднапляменнікаў: ён спадзяваўся, што я паеду да іх і навучу іх дабру.

Але я добра разумеў, што мне гэта, вядома, не пад сілу.

І ўсё роўна я страсна жадаў як мага хутчэй адправіцца на радзіму да Пятніцы, каб убачыць «барадатых» людзей, якія жывуць у той краіне. Нарэшце я вырашыў, не адкладваючы далей, распачаць пабудову вялікай лодкі, на якой можна было б рушыць у адкрытае мора.



Перш за ўсё трэба было выбраць прыдатнае дрэва з дастаткова тоўстым ствалом.

Тут думаць не трэба было: на востраве расло столькі велізарных дрэў, што з іх можна было збудаваць не толькі лодку, а, бадай, цэлы флот. Але я добра памятаў, якую зрабіў памылку, калі будаваў сваю вялізную пірогу у лесе, далёка ад мора, а потым не здолеў прыцягнуць яе да берага. Каб гэта памылка не паўтарылася, я вырашыў знайсці такое дрэва, якое расце бліжэй да мора, каб можна было без асаблівай цяжкасці спусціць лодку на ваду.

Але ля самага берага раслі пераважна дробныя і чэзлыя дрэвы.

Я абышоў амаль усё ўзбярэжжа і не знайшоў нічога прыдатнага. Выручыў мяне Пятніца: выявілася, што ў гэтай справе ён разумеў больш за мяне. Я і сёння не ведаю, якой пароды было тое дрэва, з якога мы тады пабудавалі лодку.

Пятніца стаяў на тым, каб мы агнём выпалілі ўнутранасць дрэва, як робяць пры пабудове сваіх пірогаў дзікуны. Але я сказаў яму, што лепей выдаўбаць яе долатам і іншым цяслярскім інструментам, і, калі я паказаў яму, як гэта робіцца, ён ахвотна згадзіўся, што мой спосаб лепшы і больш надзейны.

Пятніца хутка вывучыўся рабіць і гэту работу.

Мы з захапленнем узяліся за работу, і праз месяц лодка была гатова. Мы патрацілі на яе многа сілы, абчасалі яе сякерамі, і ў нас атрымалася сапраўдная марская лодка [redacted] высокім кілем і моцнымі бартамі; яна была цалкам прыгодная для нашай мэты, таму што пэўна магла падняць дваццаць чалавек.

Пасля таго спатрэбілася яшчэ каля двух тыдняў, каб спусціць наша судна на ваду. Для гэтай мэты мы прыстасавалі драўляныя каткі, але лодка была такая цяжкая, а рабочых рук так мала, што і на катках яна рухалася наперад страшэнна павольна, дзюйм за дзюймам.

Калі лодка была спушчана на ваду, я са здзіўленнем убачыў, як спрытна спраўляецца з ёю Пятніца, як хутка ўмее ён паварочваць яе ўправа і ўлева і як добра вяслуе.

Я спытаў у яго, ці няма небяспекі, на яго думку, выпраўляцца ў мора на такой лодцы.

— О не,— сказаў ён,— такая лодка не страшна плыць, няхай дзьме моцны вецер!

Але перш чым рушыць у мора, я намерыўся зрабіць яшчэ адну справу, пра якую Пятніца пакуль што не ведаў, а іменна: паставіць у лодцы мачту з парусам, а таксама змайстраваць якар і карабельны канат. Зрабіць мачту было няцяжка: на востраве расло многа на дзіва стройных высокіх кедраў. Я выбраў адно маладзенькае дрэўца — яно расло непадалёку ад бухты, дзе стаяла наша новая лодка,— і загадаў Пятніцу ссекчы яго. Затым ён пад маім кіраўніцтвам ацерабіў ствол ад галін і старанна абчасаў яго. Мачта была гатова.

Над парусам мне давялося пастарацца самому. У мяне ў кладоўцы захоўваліся старыя парусы, або, лепш сказаць, кавалкі парусіны. Але гэта парусіна ляжала ўжо больш за дваццаць шэсць год.

Я ніколі не спадзяваўся, што мне давядзецца шыць з яе парусы, і таму не вельмі даражыў ёю і нікольні не клапаціўся пра тое, каб захаваць яе. Я быў упэўнены, што ўся гэта парусіна даўно згніла. Так яно і аказалася: большая частка яе была гнілая. І ўсё ж сёе-тое магло зараз згадзіцца. Я выбраў два мацнейшыя кавалкі і ўзяўся за шытво.

Многа сілы патраціў я на гэту работу: у мяне ж не было нават іголак! І ўсё ж у рэшце рэшт я змайстраваў нейкае мізэрнае падабенства вялікага трохкутнага паруса, накшталт тых, якімі карыстаюцца ў Англіі (там такі парус называюць «нагою барана»), і, апрача таго, маленькі парус, так званы «блінд».

Такімі парусамі я ўмеў кіраваць лепш за ўсё, таму што дакладна такія ж парусы былі на той шлюпцы, на якой я некалі ўцякаў з Афрыкі.

Каля двух месяцаў прыладжваў я да лодкі мачту і парусы, але затое ўся работа была зроблена вельмі дасканала. Апрача двух парусаў я змайстраваў яшчэ трэці. Гэты парус я ўмацаваў на носе. Ён павінен быў памагаць нам паварочваць лодку пры перамене галса[1], для таго каб ісці супроць ветру. А затым я зрабіў

[1] Галс — курс судна адносна ветру; напрыклад, судна ідзе левым галсам, калі вецер дзьме ў левы бок судна.

выдатны руль і прыладзіў яго да кармы, што павінна было значна аблегчыць кіраванне лодкай.

У справе пабудовы марскіх суднаў я быў невук, але я добра разумеў усю карысць такога прыстасавання, як руль, і таму не пашкадаваў тут ні сілы, ні працы. Далося мне гэта нялёгка: на адзін гэты руль у мяне пайшло амаль столькі ж часу, колькі на пабудову і аснастку ўсяе лодкі.

Калі ўсё было гатова, я пачаў вучыць Пятніцу кіраваць маёй лодкай, таму што ні руля, ні паруса ён ніколі ў вочы не бачыў. На першым часе, калі ён убачыў, як я паварочваю лодку рулём і як парус надзімаецца то з аднаго, то з другога боку, ён быў такі ашаломлены, нібыта яму паказалі нейкае дзіва.

Тым не менш пад маім кіраўніцтвам ён хутка навучыўся кіраваць лодкай і зрабіўся ўмелым маракам. Адна толькі справа ніяк яму не давалася — карыстанне компасам. Але паколькі ў тых мясцінах туманы бываюць толькі ў час дажджоў, компас быў не вельмі патрэбны. Днём мы маглі кіраваць на ўзбярэжжа, якое віднелася ўдалечыні, ■ ноччу трымаць курс па зорках. Іншая справа ў перыяд дажджоў, але тады ўсё роўна нельга было падарожнічаць ні морам, ні па зямлі.

Надышоў дваццаць сёмы год майго зняволення ў гэтай турме. Праўда, тры апошнія гады можна было смела скінуць з разліку, бо пасля з'яўлення на востраве майго адданага Пятніцы жыццё маё зусім змянілася.

Набліжаўся сезон дажджоў, калі большую частку дня даводзіцца сядзець дома. Неабходна было перачакаць гэты час і зрабіць захады да таго, каб дажджы не пашкодзілі нашу лодку. Мы прывялі яе ў тую бухтачку, у якую я прыставаў са сваімі плытамі, і, дачакаўшыся прыліву, падцягнулі яе да самага берага. Потым мы выкапалі на тым месцы, дзе стаяла лодка, даволі глыбокую яму такіх памераў, што лодка змясцілася ў ёй, як у доку. Ад мора мы адгарадзілі яе моцнай плацінай, пакінуўшы для вады толькі вузкі праход.

Калі з наступным прылівам наш маленькі док запоўніўся вадою, мы наглуха заклалі пла-

ціну, так што лодка засталася на вадзе, але марскія хвалі не маглі захліснуць яе і прыліў не мог знесці яе ў мора. Каб абараніць лодку ад дажджоў, мы прыкрылі яе тоўстым слоем галін, і яна такім чынам апынулася нібы пад страхой.

Цяпер мы маглі спакойна чакаць добрага надвор'я, каб у лістападзе ці снежні рушыць пад парусам у мора.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ЧАЦВЁРТЫ

Бітва з дзікунамі.—Рабінзон выратоўвае іспанца.— Пятніца знаходзіць бацьку

Як толькі спыніліся дажджы і зноў засвяціла сонца, я пачаў з раніцы да ночы рыхтавацца да будучага плавання. Я загадзя разлічыў, колькі правізіі нам можа спатрэбіцца, і пачаў нарыхтоўваць неабходныя прыпасы.

Тыдні праз два, а то і раней, я меў намер разбурыць плаціну і вывесці лодку з дока.

Але нам не суджана было адправіцца ў дарогу.

Неяк аднойчы раніцой, калі я, як звычайна, быў заняты падрыхтоўкай да ад'езду, мне прыйшло ў галаву, што добра было б, апрача іншай ежы, прыхапіць з сабою невялікі прыпас і чарапашынага мяса.



Я паклікаў Пятніцу і папрасіў яго збегаць на бераг і злавіць чарапаху. (Мы палявалі на чарапах кожны тыдзень, таму што абодва любілі іх мяса і яйкі.)

Пятніца памчаўся выконваць маю просьбу, але не прайшло і чвэрткі гадзіны, як ён прыбег назад, перамахнуў, як на крылах, цераз агароджу і, раней, чым я паспеў спытаць у яго, што здарылася, закрычаў:

— Гора, гора! Бяда! Кепска!

— Што здарылася? Што такое, Пятніца? — спытаў я трывожна.

— Там, каля берага,— адказаў ён,— каля берага адна, дзве тры... адна, дзве, тры лодкі!

З яго слоў я зразумеў, што ўсіх лодак было шэсць, але, як потым высветлілася, іх было толькі тры, а ён двойчы паўтарыў падлік, таму што быў вельмі ўсхваляваны.

— Не трэба палохацца, Пятніца! Трэба быць адважным! — сказаў я, стараючыся падбадзёрыць яго.

Небарака быў страшэнна напалоханы. Ён чамусьці выратыў, нібыта дзікуны з'явіліся па яго, нібыта яны яго парэжуць на кавалкі і з'ядуць. Ён увесь калаціўся. І я не ведаў, як яго супакоіць. Я казаў, што мяне, калі на тое пайшло, чакае такая ж небяспека: калі з'ядуць яго, то з'ядуць і мяне разам з ім.

— Але мы будзем бараніцца! — сказаў я.— Мы не дамося жывымі ім у рукі. Мы распачнём з імі бойку, і ты ўбачыш, што мы пераможам! Ты ж умееш страляць, ці не так?

— Я ўмею страляць,— адказваў ён,— толькі іх многа, вельмі многа.

— Не страшна,— сказаў я,— адных мы заб'ём, а астатнія напалохаюцца нашых стрэлаў і разбягуцца. Я абяцаю табе, што не дам цябе ў крыўду. Я буду адважна бараніцца сам і цябе буду бараніць. Толькі абяцай мне, што таксама будзеш адважна бараніць мяне і выконваць усе мае загады.

— Я памру, калі ты загадаеш, Рабінзон Круза!

Пасля гэтага я прынёс з пячоры вялікую конаўку рому і даў яму выпіць (я так ашчадліва абыходзіўся са сваім ромам, што ў мяне заставаўся яго яшчэ ладны запас).

Затым мы сабралі ўсе нашы мушкеты і паляўнічыя стрэльбы, падрыхтавалі іх як след і зарадзілі. Апрача таго, я ўзброіўся, як заўсёды, шабляю, а Пятніцу даў сякеру.

Падрыхтаваўшыся такім чынам да бою, я ўзяў падзорную трубу і падняўся для разведкі на гару.

Накіраваўшы трубу на бераг мора, я хутка ўбачыў дзікуноў: іх было чалавек дваццаць, ды, апрача таго, на беразе ляжала трое звязаных людзей. Лодак, паўтараю аказалася толькі тры, не шэсць. Было зразумела, што ўвесь гэты натоўп дзікуноў з'явіўся на востраў з адзінай мэтай — адсвяткаваць сваю перамогу над ворагам. Прадбачылася жахлівае крывавае відовішча.

Я таксама заўважыў, што гэты раз яны высадзіліся не там, дзе высаджваліся тры гады назад, у дзень нашай першай сустрэчы з Пят-





ніцай, а куды бліжэй да мае бухтачкі. Тут бераг быў нізкі, і амаль да самае вады спускаўся густы лес.

Мяне страшэнна хвалявала злачынства, якое мела адбыцца неўзабаве. Марудзіць не было калі. Я збег з гары і сказаў Пятніцу, што трэба як мага хутчэй напасці на гэтых крыважэрных людзей.

Пры гэтым я яшчэ раз спытаўся ў яго, ці будзе ён мне дапамагаць. Ён цяпер зусім асмялеў (магчыма, гэтаму часткова садзейнічаў ром) і з бадзёрым, нават радасным выглядам паўтарыў, што гатовы памерці за мяне.

Усё яшчэ будучы ўзбуджаны, я схапіў пісталеты і стрэльбы (астатняе ўзяў Пятніца), і мы рушылі ў дарогу. На ўсякі выпадак я ўзяў у кішэню бутэльку рому і даў Пятніцу несці невялікі мяшэчак з запаснымі кулямі і порахам.

— Ідзі за мной,— сказаў я,— не адставай ні на крок і маўчы. Не пытайся ў мяне нічога. Ды не надумайся страляць без мае каманды!

Падышоўшы да ўскрайку лесу з таго боку, які быў бліжэй да берага, я спыніўся, ціхенька паклікаў Пятніцу і, паказаўшы яму высокае дрэва, загадаў узлезці на верхавіну і зірнуць, ці відны адтуль дзікуны і што яны робяць. Ён амаль адразу ж злез з дрэва і паведаміў, што дзікуны сядзяць вакол вогнішча, даядаючы аднаго [redacted] палонных, якіх яны прывезлі, а другі, звязаны, ляжыць там жа, на пяску.

— Потым яны з'ядуць і таго,— дадаў Пятніца зусім спакойна.

Уся мая душа так і ўспыхнула ад раз'юшанасці пры гэтых словах.

Пятніца сказаў мне, што другі палонны не індзеец, [redacted] адзін з тых белых барадатых людзей, якія прыплылі да яго берага на лодцы. «Трэба дзейнічаць»,— вырашыў я. Я схаваўся за дрэва, дастаў падзорную трубу і выразна ўбачыў на беразе белага чалавека. Ён ляжаў нерухома, таму што яго рукі і ногі былі звязаны гнуткімі дубцамі. Не было сумнення, што гэта быў еўрапеец: ён быў апрануты.

Наперадзе раслі кусты, і сярод гэтых кустоў стаяла дрэва. Кусты былі даволі густыя, так што можна было падкрасціся туды непрыкметна.

Хоць я і быў так страшэнна абураны, што мне хацелася кінуцца на людаедаў у той жа момант, нават не думаючы пра магчымыя вынікі, я ўсё ж стрымаў сваю раз'юшанасць і прабраўся тайком да дрэва. Дрэва стаяла на пагорку. З гэтага пагорка мне было відаць усё, што адбывалася на беразе.

Ля вогнішча, цесна прыціснуўшыся адзін да аднаго, сядзелі дзікуны. Іх было дзевятнаццаць чалавек.

Крыху воддаль, схіліўшыся над звязаным еўрапейцам, стаялі яшчэ двое. Відаць, іх толькі што паслалі па палоннага. Яны павінны былі забіць яго, парэзаць на часткі і раздаць кавалкі яго мяса ўсім, хто быў на гэтым баляванні.

Я павярнуўся да Пятніцы.

— Глядзі на мяне,— сказаў я,— што я буду рабіць, тое рабі і ты.

З гэтымі словамі я паклаў на зямлю адзін з мушкетаў і паляўнічую стрэльбу, а з другога мушкета прыцэліўся ў дзікуноў. Пятніца зрабіў тое ж самае.

— Ты гатовы?—спытаўся я ў яго.

— Так,— адказаў ён.

— Ну, тады страляй,— сказаў я, і мы стрэлілі абодва адначасова.

Прыцэл Пятніцы быў больш удалы за мой. Ён забіў двух чалавек і параніў трох, я ж толькі двух параніў і забіў аднаго.

Лёгка сабе ўявіць, якое страшэннае ўзрушэнне нарабілі нашы стрэлы сярод дзікуноў! Тыя, што засталіся жывыя, усхапіліся на ногі, не ведаючы, куды кінуцца, у які бок глядзець, таму што хоць яны разумелі, што ім пагражае смерць, але не бачылі, адкуль яна.

Пятніца, выконваючы мой загад, не зводзіў вачэй з мяне.

Не даючы дзікунам апамятацца пасля першых стрэлаў, я кінуў на зямлю мушкет, схапіў стрэльбу, узвёў курок і зноў прыцэліўся. Пятніца дакладна паўтараў кожны мой рух.

— Ты гатовы, Пятніца?—спытаў я зноў.

— Гатовы!—адказаў ён.

— Страляй,— скамандаваў я.

Два стрэлы грымнулі амаль адначасова, але таму што гэты раз мы стралялі са стрэльбаў, якія былі зараджаны шротам, то забітых ака-

залася толькі двое (ва ўсякім разе ўпалі толькі двое), затое параненых было вельмі шмат.

Абліваючыся крывёй, яны, як шалёныя, бегалі па беразе і дзіка крычалі. Трое, відаць, былі цяжка паранены, таму што хутка паваліліся. Праўда, потым выявілася, што яны засталіся жывыя.

Я ўзяў мушкет, у якім былі яшчэ зарады, і, крыкнуўшы: «Пятніца, за мною!» — выбег з лесу на адкрытае месца. Пятніца не адставаў ад мяне ні на крок. Заўважыўшы, што ворагі ўбачылі мяне, я з моцным воклічам кінуўся наперад.

— Крычы і ты! — загадаў я Пятніцу.

Ён тут жа закрычаў, куды мацней за мяне. На жаль, маё ўзбраенне было такое цяжкае, што перашкаджала мне бегчы. Але я як быццам не адчуваў яго і імчаўся наперад, колькі меў сілы, проста да няшчаснага еўрапейца, які, як ужо гаварылася, ляжаў убаку, на пясчаным беразе, паміж морам і вогнішчам дзікуноў. Каля яго не было ніводнага чалавека. Тыя двое, што хацелі зарэзаць яго, уцяклі пры першых жа стрэлах. Страшэнна напалоханыя, яны кінуліся да мора, ускочылі ў лодку і пачалі адчальваць. У тую ж лодку паспелі ўскочыць яшчэ тры дзікуны.

Я павярнуўся да Пятніцы і загадаў яму расправіцца з імі. Ён у момант зразумеў маю думку і, прабегшы крокаў сорак, наблізіўся да лодкі і стрэліў у іх.

Усе пяцёра пападалі на дно лодкі. Я думаў, што ўсе яны забітыя, але двое адразу ж падняліся. Відаць, яны ўпалі толькі са страху.



Пакуль Пятніца страляў у ворагаў, я выняў свой кішэнны нож і перарэзаў дубцы, якімі былі звязаны рукі і ногі палоннага. Я дапамог яму падняцца і спытаў у яго па-партугальску, хто ён такі. Ён адказаў:

— Эспаньола (іспанец).

Неўзабаве ён крыху апрытомнеў і пачаў з дапамогай жэстаў горача выказваць мне сваю ўдзячнасць за тое, што я выратаваў яму жыццё.

Паклікаўшы на дапамогу ўсе свае веды іспанскае мовы, я сказаў яму па-іспанску:

— Сеньёр, гаварыць мы будзем потым, а зараз мы павінны змагацца. Калі ў вас засталося крыху сілы, то вось вам шабля і пісталет.

Іспанец з удзячнасцю ўзяў тое і другое і, адчуўшы ў руках зброю, як быццам зрабіўся другім чалавекам. Адкуль у яго ўзялася сіла! Як бура, наляцеў ён на дзікуноў і ў адзін момант пасек двух на каваркі.

Праўда, для такога подзвігу не патрабавалася вялікай сілы: няшчасныя дзікуны, аглушаныя грукатам нашай страляніны, былі да таго перапалоханы, што не здольны былі ні ўцякаць, ні бараніцца. Многія падалі проста ад страху, як тыя два, што зваліліся на дно лодкі ад стрэлу Пятніцы, хаця кулі і не зачапілі іх.

Аддаўшы шаблю і пісталет іспанцу, я застаўся толькі з мушкетам. Ён быў зараджаны, але я пакідаў свой зарад на выпадак якойнебудзь нечаканасці і таму не страляў.

У кустах, пад тым дрэвам, адкуль мы ўпершыню распачалі агонь, засталіся нашы паляўнічыя стрэльбы. Я паклікаў Пятніцу і загадаў збегаць па іх.

Ён зараз жа выканаў мой загад. Я аддаў яму свой мушкет, а сам пачаў зараджаць астатнія стрэльбы, сказаўшы іспанцу і Пятніцу, каб яны прыходзілі да мяне, калі ім спатрэбіцца зброя. Яны выказалі поўную гатоўнасць падпарадкоўвацца майму загаду.

Пакуль я зараджаў стрэльбы, іспанец з незвычайнай адвагай напаў на аднаго з дзікуноў, і паміж імі завязалася жорсткая бойка.

У руках у дзікуна быў вялізны драўляны меч. Дзікуны выдатна валодаюць гэтай смертаноснай зброяй. Такім мечам яны хацелі і прыкончыць іспанца, калі той ляжаў каля вогнішча. Цяпер гэты меч зноў быў занесены над яго галавой. Я нават не чакаў, што іспанец акажацца такім ваяўнічым: праўда, ён усё яшчэ быў слабы пасля перанесеных пакут, але біўся адважна і нанёс праціўніку шабляй два страшэнныя ўдары па галаве. Дзікун быў велізарнага росту, вельмі мускулісты і дужы. Раптам ён адкінуў свой меч, і яны схапіліся ўрукапашную. Іспанцу давялося вельмі кепска: дзікун адразу ж збіў яго з ног, наваліўся на яго і пачаў вырываць у яго шаблю. Убачыўшы гэта, я ўскочыў і кінуўся яму на дапамогу. Але іспанец не разгубіўся: ён знарок выпусціў шаблю з рук, выхапіў з-за пояса пісталет, стрэліў у дзікуна і палажыў яго на месцы.

Між тым Пятніца з гераічнай адвагай праследаваў дзікуноў, якія ўцякалі. У руцэ ў яго была толькі сякера, іншай зброі не было. Гэтай сякерай ён прыкончыў ужо трох дзікуноў, параненых першымі нашымі стрэламі, і цяпер ён быў бязлітасны да кожнага, хто трапляўся яму на дарозе.

Іспанец, адолеўшы грамілу, які пагражаў яму, ускочыў на ногі, падбег да мяне, схапіў адну з зараджаных мною паляўнічых стрэльбаў і кінуўся даганяць двух дзікуноў. Ён параніў абодвух, але, таму што доўга бегчы ў яго не хапіла сілы, абодва дзікуны паспелі схавацца ў лесе.

За імі, размахваючы сякерай, пабег Пятніца. Нягледзячы на свае раны, адзін з дзікуноў кінуўся ў мора і паплыў за лодкай: у ёй было трое дзікуноў, якія паспелі адчаліць ад берага.

Трое дзікуноў, што знаходзіліся ў лодцы, працавалі вёсламі з усяе сілы, імкнучыся хутчэй уцячы з-пад стрэлаў.

Пятніца разы два ці тры стрэліў ім наўздагон, але, здаецца, не папаў.

Ён пачаў угаворваць мяне ўзяць адну з пірог дзікуноў і рушыць за ўцекачамі, пакуль яны яшчэ не паспелі вельмі далёка адплыць ад берага.

Я і сам не хацеў, каб яны ўцяклі. Я баяўся, што калі яны раскажуць сваім землякам пра наш напад на іх, то тыя хлынуць на нас у незлічонай колькасці, і нам тады непаздаровіцца. Праўда, у нас ёсць стрэльбы, а ў іх толькі стрэлы і драўляныя мячы, але, калі да нашага берага прычаліць цэлая флатылія варожых лодак, мы, вядома, будзем знішчаны бязлітасна. Таму я пагадзіўся з настойлівасцю Пятніцы. Я накіраваўся да пірогаў, загадаўшы яму ісці за мною следам.

Але якое ж вялікае было маё здзіўленне, калі, ускочыўшы ў пірогу, я ўбачыў там чалавека! Гэта быў стары дзікун. Ён ляжаў на дне лодкі са звязанымі рукамі і нагамі. Відаць, яго таксама павінны былі з'есці ля вогнішча. Не разумеючы, што адбываецца вакол (ён не мог нават зірнуць за борт пірогі — так моцна яго скруцілі), няшчасны, здаецца, думаў, што яго толькі затым і развязалі, каб зарэзаць і з'есці.

Тут падбег Пятніца.

— Скажы гэтаму чалавеку,— звярнуўся я да Пятніцы,— што яго ворагі знішчаны, што ён на волі і што мы не зробім яму ніякага зла.

Пятніца загаварыў са старым, я ж уліў палоннаму ў рот некалькі кропель рому.

Радасная вестка пра волю ажывіла няшчаснага: ён падняўся на ногі са дна лодкі і прамовіў некалькі слоў.

Немагчыма ўявіць, што зрабілася з Пятніцай! Самы чэрствы чалавек і той быў бы да слёз крануты, калі б убачыў яго ў гэту мінуту. Ледзь толькі ён пачуў голас старога дзікуна і ўбачыў яго твар, як кінуўся абдымаць яго і цалаваць, заплакаў, засмяяўся, прыціснуў яго да грудзей, закрычаў, потым пачаў скакаць вакол яго, заспяваў, зноў заскакаў, потым зноў заплакаў і пачаў біць сябе па галаве і па твары — адным словам, паводзіў сябе, як вар'ят.

Я спытаў у яго, што здарылася, але доўга не мог дабіцца ад яго ніякага тлумачэння. Нарэшце, крыху апамятаўшыся, ён сказаў мне, што гэты чалавек — яго бацька.

Не магу выказаць, да чаго расчуліла мяне такое непадробнае пачуццё сына да бацькі! Ніколі я не думаў, што грубага дзікуна можа так уразіць і ўзрадаваць сустрэча з бацькам.

І ў той жа час нельга было не смяяцца з тых вар'яцкіх падскокаў і жэстаў, якімі ён выказваў свае пачуцці да бацькі. Разоў дзесяць ён выскакваў з лодкі, а потым зноў ускакваў у яе; то расхіне куртку і прыцісне бацькаву галаву да сваіх голых грудзей, то пачне расціраць яго здранцвелыя рукі і ногі.

Убачыўшы, што стары ўвесь аж скалеў, я параіў расцерці яго ромам, і Пятніца тут жа ўзяўся расціраць яго.

Пра пагоню за ўцекачамі мы, вядома, забылі і думаць; іх лодка за гэты час зайшла так далёка, што амаль знікла з вачэй.

Мы нават не спрабавалі плыць за імі ў пагоню і, як потым выявілася, вельмі добра зрабілі, таму што гадзіны праз дзве ўзняўся страшэнны вецер, які несумненна перавярнуў бы нашу лодку. Ён дзьмуў з паўночнага захаду якраз насустрач уцекачам. Наўрад ці змаглі яны адолець гэту буру; я быў упэўнены, што яны загінулі сярод хваль, не пабачыўшы родных берагоў.

Неспадзяваная радасць так моцна ўсхвалявала Пятніцу, што ў мяне не хапіла смеласці адарваць яго ад бацькі. «Трэба даць яму супакоіцца»,— падумаў я, стоячы непадалёку і чакаючы, калі астыне яго раднаснае ўзбуджэнне.

Гэта здарылася не хутка. Нарэшце я паклікаў Пятніцу. Ён накіраваўся да мяне подбегам, з вясёлым смехам, шчаслівы і задаволены. Я спытаў у яго, ці даваў ён бацьку хлеба. Ён засмучана пакруціў галавой:

— Няма хлеба: дурны сабака нічога не пакінуў, усё з'еў сам! — і паказаў на сябе.

Тады я выняў са свае торбы ўсю, якая ў мяне была, правізію — невялічкую ляпёшку і дзве ці тры галінкі разынак — і аддаў Пятніцу. І ён усё гэтак жа клапатліва і пяшчотна пачаў карміць бацьку, як малое дзіця. Бачачы, што ён дрыжыць ад хвалявання, я параіў самому яму падмацаваць свае сілы рэшткамі рому, але і ром ён аддаў старому.

Праз мінуту Пятніца ўжо некуды імчаўся як шалёны. Бегаў ён увогуле вельмі хутка. Дарэмна я крычаў яму ўслед, каб ён спыніўся і сказаў мне, куды ён бяжыць,— ён ужо знік.

Праўда, праз чвэртку гадзіны ён вярнуўся, і крокі яго зрабіліся куды павольнейшыя. Калі ён падышоў бліжэй, я ўбачыў, што ён штосьці нясе. Гэта быў гліняны збан з прэснай вадой, якую ён прынёс бацьку. Для гэтага ён збегаў дадому, у нашу крэпасць, а заадно прыхапіў яшчэ і дзве буханкі хлеба. Хлеб ён аддаў мне, а ваду панёс старому, дазволіўшы, між іншым, і мне напіцца, таму што і мне вельмі хацелася піць. Вада ажывіла старога лепш за ўсякі спірт: ён, здавалася, паміраў ад смагі.

Калі стары напіўся, я паклікаў Пятніцу і спытаў, ці не засталося ў збане вады. Ён адказаў, што засталося, і я загадаў яму даць напіцца беднаму іспанцу, які пакутаваў ад смагі не меней, чым стары дзікун. Я паслаў іспанцу таксама буханку хлеба.

Іспанец усё яшчэ быў вельмі слабы. Ён сядзеў на палянцы пад дрэвам у поўнай знямозе. Дзікуны так моцна звязалі яго, што цяпер у яго параспухалі рукі і ногі.

Калі ён прагнаў смагу свежай вадой і з'еў хлеба, я падышоў да яго і даў яму жменю разынак. Ён узняў галаву і паглядзеў на мяне з

невыказнай удзячнасцю, потым паспрабаваў устаць, але не здолеў — так распухлі і балелі ў яго ногі. Гледзячы на гэтага хворага чалавека, цяжка было нават уявіць сабе, як ён пры такой знямозе мог толькі што так адважна біцца з ворагам. Я параіў яму сядзець і не рухацца і даручыў Пятніцу расцерці яму ногі ромам.

Пакуль Пятніца расціраў іспанца, ён кожныя дзве хвіліны, а магчыма, і часцей паварочваўся, каб пабачыць, ці не трэба чаго-небудзь яго бацьку. Пятніца бачыў толькі галаву старога, бо той сядзеў на дне лодкі. Раптам азірнуўшыся, ён убачыў, што галава знікла; у той жа момант Пятніца ўжо быў на нагах. Ён не бег, а ляцеў: здавалася, ногі яго не дакранаюцца зямлі. Але калі, дабегшы да лодкі, ён убачыў, што бацька прылёг адпачыць і спакойна ляжыць на дне лодкі, ён зараз жа вярнуўся да нас.

Тады я сказаў іспанцу, што мой сябар дапаможа яму падняцца і давядзе да лодкі, у якой мы прывязём яго да нашага жылля.

Але Пятніца, рослы і дужы, падняў яго, як дзіця, ускінуў сабе на спіну і панёс. Дайшоўшы да лодкі, ён асцярожна пасадзіў яго спачатку на борт, а затым на дно поруч [redacted] бацькам. Потым выйшаў на бераг, сапхнуў лодку ў ваду, зноў ускочыў у яе і ўзяўся за вёслы. Я пайшоў пехатой.

Пятніца выдатна веславаў, і, нягледзячы на моцны вецер, лодка так хутка неслася ўздоўж берага, што я не паспяваў за ёю.

Пятніца без прыгод прывёў лодку ў нашу гавань і, пакінуўшы там бацьку і іспанца, пабег берагам назад.

— Куды ты бяжыш? — спытаў я, калі мы размінoўваліся.

— Трэба прывесці яшчэ адну лодку,— крыкнуў ён мне на бягу і віхрам памчаўся далей.

Ніводзін чалавек, ніводзін конь не ўгналіся б за ім — так хутка ён бегаў. Ледзь я дайшоў да бухтачкі, як ён ужо з'явіўся туды з другою лодкаю.

Выскачыўшы на бераг, ён пачаў памагаць нашым новым гасцям выйсці з лодкі, але абодва яны так знясілелі, што не маглі трымацца на нагах.

Бедны Пятніца не ведаў, што рабіць.

Я таксама задумаўся.

— Пакінь пакуль што нашых гасцей на беразе, а сам ідзі за мной,— сказаў я яму.

Мы пайшлі ў бліжэйшы гай, ссеклі два-тры дрэўцы, змайстравалі насілкі, на якіх і даставілі хворых да знадворнай сцяны нашай крэпасці.

Тут мы ўжо зусім разгубіліся, не ведаючы, што нам рабіць далей. Перацягнуць двух дарослых людзей цераз такую высокую агароджу нам, вядома, было не пад сілу. Давялося зноў памаракаваць, і я зноў прыдумаў, што рабіць. Мы з Пятніцай узяліся за работу, і гадзіны праз дзве ў нас была гатова зусім нядрэнная парусінавая палатка, на якую мы накідалі голля. У гэтай палатцы мы змайстравалі дзве пасцелі з рысавай саломы і чатырох коўдраў.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ

### Новыя жыхары вострава.— Прыбыццё англічан



Пасля таго як я ўладкаваў з жыллём нашых хворых гасцей, толькі што выратаваных з палону, завёў іх пад дах іх новага дома, дзе яны маглі адпачыць і аднавіць свае сілы, трэба было падрыхтаваць ім ежу. Я паслаў Пятніцу, каб ён прывёў з майго маленькага статка гадавалае казляня. Ён зарэзаў яго і пад маім наглядам згатаваў з казляціны смажаніну і зварыў добры булён.

Гэты булён мы заправілі ячменем і рысам; атрымаўся вельмі смачны суп. Гатаванне ежы адбывалася за знадворнай сцяной, таму што, як гаварылася ўжо раней, я ніколі не раскладаў вогнішча ў крэпасці.

Мы накрылі стол у новай палатцы і паабедалі на наваселлі ўчатырох.

Я на гэтым абедзе выконваў абавязкі старшыні і займаў нашых гасцей гутаркай. Пятніца быў пры мне за перакладчыка не толькі тады, калі я размаўляў з яго бацькам, а таксама і з іспанцам, таму што іспанец даволі прыстойна размаўляў на мове дзікуноў.

Калі мы паабедалі, ці, дакладней, павячэралі, я папрасіў Пятніцу ўзяць адну пірогу і з'ездзіць па нашы стрэльбы, якія мы за недахопам часу пакінулі на месцы бойкі; на другі дзень я паслаў яго закапаць трупы забітых, а таксама жахлівыя рэшткі крывавага балю.

Пятніца дакладна выканаў маё даручэнне. Ён так старанна знішчыў сляды ўсіх дзікуноў, што, калі я зноў пабыў на тым месцы, я не адразу здолеў пазнаць яго. Толькі па дрэвах на ўскрайку ўзбярэжнага лесу я здагадаўся, што людаеды балявалі якраз тут.

Праз некалькі дзён, калі мае новыя сябры адпачылі і прыкметна акрыялі пасля ўсіх перажытых імі выпрабаванняў, я пачаў з дапамогай Пятніцы весці з імі гутарку.



Перш за ўсё я спытаў у бацькі Пятніцы, ці не баіцца ён, што тыя людаеды, якія ўцяклі, могуць вярнуцца на востраў з цэлым полчышчам другіх дзікуноў, якія жорстка расправяцца з намі.

Стары адказаў, што, на яго думку, дзікуны, якія збеглі, ніяк не здолелі дабрацца да родных берагоў у такую моцную буру, якая бушавала ў тую ноч, што, напэўна, іх лодку перавярнула і ўсе яны патанулі.

— А калі яны засталіся жывыя,— сказаў ён,— іх аднесла ўбок і прыбіла да зямлі варожага племя, дзе іх абавязкова з'ядуць.

Памаўчаўшы крыху, стары працягваў:

— Але нават калі яны і шчасліва даплылі дадому, то і тады яны не рызыкнуць вярнуцца. Яны былі так страшэнна напалоханы вашым нечаканым нападам, грукатам і агнём стрэлаў, што, відаць, раскажуць сваім аднапляменнікам, нібыта таварышы іх загінулі ад грому і маланкі. Вас жа двух — цябе і Пятніцу — яны палічылі за ўгневаных д'яблаў, якія спусціліся на зямлю, каб іх знішчыць. Я сам чуў, як яны гаварылі пра гэта адзін аднаму. Яны не могуць уявіць сабе, каб звычайны чалавек мог вывяргаць полымя, гаварыць, як гром, і забіваць на далёкай адлегласці, нават не падымаючы рукі.

Стары казаў праўду. Пазней я даведаўся, што нават праз многа гадоў пасля таго ніводзін дзікун не адважваўся паказацца на маім востраве. Відаць, тыя ўцекачы, якіх мы лічылі загінуўшымі, усё ж вярнуліся на радзіму і сваі-

мі страшэннымі расказамі напалохалі іншых дзікуноў. Магчыма нават, што іх племя склала павер'е, нібыта кожнага, хто ступіць на бераг гэтага зачараванага вострава, багі знішчаць агнём.

Не прадбачачы гэтага, я доўгі час быў у нязменнай трывозе, чакаючы помсты дзікуноў. Праўда, і я і мая маленькая армія заўсёды былі гатовы да бойкі: цяпер жа нас было чацвёра, і, няхай бы да нас з'явілася хоць сотня ворагаў, мы не пабаяліся б у любы час распачаць з імі бойку.

Але ж іх магло быць і дзвесце і трыста, і тады яны перамаглі б нас.

Аднак міналі дні, а лодкі дзікуноў не з'яўляліся. Разам з тым я ўсё часцей і часцей вяртаўся да свае даўнішняй думкі пра падарожжа на мацярык. Бацька Пятніцы не раз запэўняў мяне, што я магу смела разлічваць на гасцінную сустрэчу ў яго землякоў, таму што я выратаваў і яго сына і самога яго ад смерці.

Але пасля адной сур'ёзнай гаворкі з іспанцам я пачаў сумнявацца, ні варта мне прыводзіць у выкананне мой план.

Іспанец сказаў мне, што хоць дзікуны і сапраўды далі прытулак у сябе семнаццаці іспанцам і партугальцам, якія пацярпелі крушэнне каля іх берагоў, але ўсе гэтыя еўрапейцы жывуць зараз у страшэннай нястачы і часта нават галадаюць. Дзікуны не прыгнятаюць іх і даюць ім поўную волю, але самі яны жывуць у такой галечы, што не заўсёды здольны пракарміць прышэльцаў.

Я спытаў у іспанца пра падрабязнасці іх апошняга плавання, і ён паведаміў мне, што іх карабель ішоў з Рыо-дэ-ла-Платы ў Гавану, куды павінен быў прывезці срэбра і пушніну і нагрузіцца еўрапейскімі таварамі, якіх там было дастаткова.



У час буры пяць чалавек з іх карабельнай каманды патанула, ■ астатнія пасля шматдзённых пакут і жахаў, зняможаныя смагай і голадам, нарэшце прычалілі да краіны людаедаў. Высадзіўшыся ў гэтай краіне, яны адчувалі сябе страшэнна жахліва, з мінуты на мінуту чакаючы, што іх з'ядуць дзікуны. У іх была з сабой агнястрэльная зброя, але не было ні пораху, ні куль: той порах, які яны ўзялі ■ сабою

ў лодку, за дарогу амаль увесь падмок, а што засталося, яны даўно выдаткавалі, таму што на першым часе здабывалі сабе ежу толькі паляваннем.

Я спытаў у яго, які, на яго думку, лёс чакае яго таварышаў у краіне дзікуноў і ці спрабавалі яны калі-небудзь выбрацца адтуль на волю. Ён сказаў, што ў іх было многа нарад з гэтага выпадку, але ўсё канчалася слязьмі і скаргамі.

— У нас жа не было,— растлумачыў ён,— ні судна, на якім можна было б плыць у адкрытае мора, ні інструмента для збудавання такога судна, ні харчовых запасаў.

Тады я сказаў яму:

— Я з вамі буду гаварыць шчыра. Як вы мяркуеце, згодзяцца ці не вашы таварышы пераехаць на мой востраў? Я ахвотна запрасіў бы іх сюды. Мне здаецца, што ўсе разам мы знайшлі б нейкі спосаб дабрацца да якой-небудзь узбярэжнай краіны, а адтуль — на радзіму. Адно толькі мяне палохае: запрашаючы іх сюды, я аддаюся ім у рукі. Што, калі яны акажуцца каварнымі злымі людзьмі? Што, калі яны за маю гасціннасць адплацяць мне здрадай? Пачуццё ўдзячнасці, увогуле кажучы, некаторым людзям зусім не ўласціва. Сярод іх могуць аказацца здраднікі. А гэта было б, згадзіцеся, вельмі крыўдна: выратаваць людзей з бяды для таго толькі, каб трапіць у палон да іх у іх Новай Іспаніі[1]. Ужо няхай лепей з'ядуць дзікуны, чым трапіць у бязлітасныя кіпцюры папоў ці быць спаленым інквізітарамі[2]. Калі б вашы таварышы,— гаварыў я далей,— прыехалі сюды, я ўпэўнены, што пры такой колькасці работнікаў мы лёгка б збудавалі вялікае судна, на якім бы здолелі паплысці на поўдзень і дайсці да Бразіліі ці накіравацца на поўнач — да іспанскіх уладанняў. Але, вядома, калі я аддам у рукі ім зброю, а яны ў падзяку за маю дабрату павернуць гэту зброю супроць мяне ж, калі, карыстаючыся тым, што яны мацней за мяне, яны адбяруць у мяне маю волю,—

[1] Новай Іспаніяй тады называлі Мексіку, заваяваную іспанцамі ў XVI стагоддзі.

[2] Інквізітары — іспанскія манахі, якія жорстка распраўляліся з кожным, хто не належаў да каталіцкай царквы. Такіх «ерэтыкаў» яны спальвалі на агні.

тады яны прымусяць мяне пашкадаваць, што я зрабіў ім столькі дабра.

Іспанец адказаў вельмі шчыра:

— Таварышы мае церпяць такія цяжкія нягоды і так добра разумеюць усю безнадзейнасць свайго становішча, што я нават у думках не трымаю, каб яны здолелі кепска аднесціся да чалавека, які дапаможа ім выратавацца з няволі. Калі хочаце,— працягваў ён,— я разам з гэтым старым з'езджу да іх, перадам ім вашу прапанову і прывязу вам іх адказ. Калі яны згодзяцца на вашы ўмовы, я вазьму з іх урачыстую прысягу, што яны пойдуць за вамі на тую зямлю, якую вы ім прапануеце, і да звароту дадому будуць безадказна падпарадкоўвацца вам як свайму начальніку. Вы будзеце загадваць, а мы — падпарадкоўвацца. Калі хочаце, мы складзём пісьмовую ўмову, кожны з нас падпіша яе, і я прывязу яе вам.

Затым ён сказаў, што ён гатовы, не адкладваючы, зараз жа прысягнуць мне на вернасць.

— Клянуся, што буду служыць вам да смерці! — так скончыў ён сваю палкую прамову.— Вы выратавалі мне жыццё, і я аддаю яго вам. Я пільна буду сачыць, каб мае суайчыннікі не парушылі прысягі, якую яны дадуць вам, і заўсёды буду біцца за вас да апошняй кроплі крыві. Аднак я магу паручыцца за сваіх землякоў: усе яны людзі сумленныя, вельмі надзейныя, і сярод іх няма ніводнага здрадніка.

Пасля такіх шчырых слоў усе мае сумненні зніклі, і я вырашыў паспрабаваць выратаваць гэтых людзей. Я сказаў іспанцу, што адпраўлю да іх яго і старога дзікуна.

Але, калі ўсё ўжо было гатова да адплыцця, іспанец раптам загаварыў пра тое, што лепей было б адкласці наш намер на некалькі месяцаў, а магчыма, і на год.

— Перш чым перавозіць гасцей,— сказаў ён,— нам варта паклапаціцца пра іх харчаванне.

Ён меў рацыю. Правізіі ў нас было мала. Яе ледзь хапала на чацвярых, а калі прыедуць госці, яны знішчаць усе нашы прыпасы за тыдзень, і ўсе мы будзем асуджаны на галодную смерць.

— Таму,— сказаў іспанец,— я прашу ў вас дазволу ўзараць новую дзялянку зямлі. Дару-

чыце гэта нам тром, мы зараз жа возьмемся за работу і пасеем усё збожа, якое вы здолееце выдзеліць на сяўбу. Потым дачакаемся ўраджаю, збяром хлеб, і, калі яго хопіць на тое, каб пракарміць новых людзей, тады я і бацька Пятніцы накіруемся па іх. Калі ж яны прыедуць на гэты востраў зараз, ім пагражае люты голад, а гэта можа выклікаць паміж імі разлад і ўзаемную нянавісць.

Разумная прадбачлівасць гэтага чалавека спадабалася мне. Я ўбачыў, што ён і сапраўды клапоціцца пра мой дабрабыт і адданы мне ўсім сэрцам.

Патрэбна было яго параду прывесці ў выкананне.

І ўсе чацвёра мы ўзяліся ўзорваць новае поле. Мы старанна рыхлілі глебу (наколькі гэта магчыма з драўлянымі прыладамі), і праз месяц, калі настаў час пасеву, у нас была вялікая дзялянка старанна ўзаранай зямлі, на якой мы пасеялі дваццаць два бушалі ячменю і шаснаццаць бушалёў рысу, гэта значыць усё збожжа, якое я змог даць на сяўбу.

Цяпер, калі нас было чацвёра, дзікуны маглі б напалохаць нас толькі тады, калі б яны нечакана напалі на нас у вельмі вялікай колькасці. Мы не баяліся дзікуноў і вольна хадзілі па ўсім востраве. А паколькі ўсе мы марылі толькі пра тое, як бы хутчэй адсюль з'ехаць, кожны з нас стараўся як мага, каб здзейсніць гэту мару. У час сваіх блуканняў па востраве я прыкмячаў дрэвы, прыдатныя для пабудовы карабля. Іспанец і Пятніца з бацькам узяліся секчы гэтыя дрэвы.

Я паказаў ім, якія неверагодныя цяжкасці давялося адолець мне, каб вычасаць з цэлага дрэва кожную дошку, і мы пачалі ўсе разам рыхтаваць новы запас дошак. Мы начасалі іх каля тузіна. Гэта былі моцныя дубовыя дошкі каля трыццаці пяці футаў у даўжыню, двух футаў шырыні і ад двух да чатырох дзюймаў таўшчыні. Кожнаму зразумела, якая гэта цяжкая была праца.

У той жа час я імкнуўся па магчымасці павялічыць свой маленькі статак. З гэтай мэтай двое з нас кожны дзень хадзілі лавіць дзікіх казлянят, так што хутка ў нас было каля дваццаці галоў.

Затым нас чакала яшчэ адна важная справа: трэба было паклапаціцца пра нарыхтоўку разынак, бо вінаград пачынаў паспяваць ужо. Мы назбіралі і насушылі яго велізарную колькасць. Адначасова з хлебам разынкі складалі аснову нашага харчавання. Мы ўсе вельмі любілі разынкі. Сапраўды, я не ведаю больш смачнай і спажыўнай ежы.

Надышоў час жніва. Ураджай ячменю і рысу быў някепскі. Праўда, мы чакалі, што ён будзе лепшы, але ўсё роўна ён быў нішто сабе, і цяпер мы здолелі б пракарміць хоць пяцьдзесят чалавек. Больш таго, з такім запасам правіянту мы смела маглі рушыць у плаванне і дабрацца да любога берага Паўднёвай Амерыкі.

Куды ж ссыпаць увесь рыс і ячмень? Для гэтага патрэбны былі вялікія карзіны, і мы адразу ж узяліся плесці іх.

Іспанец пры гэтым паказаў сябе як выдатны майстар гэтай справы.

Цяпер, калі ў мяне было дастаткова мяса і хлеба, каб пракарміць гасцей, я дазволіў іспанцу ўзяць лодку і ехаць па іх. Я строга загадаў яму не прывозіць ніводнага чалавека, не ўзяўшы з яго прысягі, што ён не толькі не зробіць мне ніякага зла, не нападзе на мяне са зброяй у руках, але, наадварот, будзе бараніць мяне ад розных ворагаў. Гэту прысягу яны павінны будуць напісаць на паперы, і кожны павінен будзе распісацца пад ёю.

У той момант я нeяк забыў, што іспанцы, якія пацярпелі крушэнне, не мелі ні паперы, ні чарніла.

З гэтымі павучаннямі іспанец і стары дзікун рушылі ў дарогу на той самай пірозе, на якой іх прывезлі на мой востраў.

Як весела было мне збіраць іх у гэту дарогу! За ўсе дваццаць сем год майго зняволення на востраве я ўпершыню мог спадзявацца на тое, што вырвуся адсюль на волю. Я даў гэтым людзям вялікі запас хлеба і разынак, каб хапіла ім і нашым будучым гасцям.

Нарэшце я пасадзіў іх у пірогу і пажадаў ім добрай дарогі. Развітваючыся, я дамовіўся з імі, што калі яны будуць везці ў сваёй пірозе іспанцаў, яны ўзнімуць сцяг у адкрытым моры, каб я мог здалёк пазнаць іх пірогу.

Адчалілі яны пры свежым ветры ў дзень поўні, у кастрычніку.

На жаль, я не магу назваць больш дакладную дату, бо, аднойчы згубіўшы правільны падлік дзён і тыдняў, я потым ужо не здолеў аднавіць яго.

Мінула даволі многа часу з моманту ад'езду маіх вандроўнікаў. Я чакаў іх з дня на дзень. Мне здавалася, што яны позняцца, што ўжо дзён восем назад павінны былі яны вярнуцца на востраў. Раптам адбыўся адзін зусім не прадбачны выпадак, якога яшчэ ніколі не здаралася за ўсе гады майго жыцця на востраве.

Неяк на досвітку, калі я яшчэ спаў моцным сном, прыбягае да мяне Пятніца і моцна крычыць:

— Едуць! Едуць!

Я падхапіўся, у момант апрануўся, пералез цераз агароджу і выбег у гай (ён к гэтаму часу так разросся, што яго смела можна было ўжо зваць лесам).

Я да такой ступені забыўся пра небяспеку, што, насуперак звычаю, не ўзяў з сабою ніякай зброі. Я быў цвёрда ўпэўнены, што гэта вяртаецца іспанец са сваімі сябрамі.

Якое ж было маё здзіўленне, калі я ўбачыў у моры, міляў за пяць ад берага, незнаёмую лодку з трыкутным парусам! Лодка трымала курс прама на востраў, яе падганяў моцны спадарожны вецер, і яна хутка набліжалася. Ішла яна не з боку мацерыка, а з паўднёвага канца вострава.

Адным словам, гэта была зусім не тая лодка, якую мы чакалі.

На ўсякі выпадак трэба было падрыхтавацца да абароны.

Я прапанаваў Пятніцу схавацца ў гаі і ўважліва сачыць за людзьмі, якія знаходзіліся ў лодцы, таму што нам невядома было, сябры гэта ці ворагі. Затым я вярнуўся дадому, прыхапіў падзорную трубу і пры дапамозе лесак узлез на вяршыню гары, каб, не будучы бачны сам, агледзець усю мясцовасць; так рабіў я заўсёды, калі баяўся нападу ворагаў.

Не паспеў я падняцца на гару, як адразу ж убачыў карабель.



Ён стаяў на якары каля паўднёва-ўсходняга берага вострава, міляў за восем ад майго жылля. Ад берага да яго было не больш пяці міляў.

Карабель, несумненна, быў англійскі, ды і лодка, як я цяпер мог упэўніцца, аказалася англійскім баркасам.

Не магу выказаць, якія разнастайныя пачуцці выклікала ў мяне гэтае адкрыццё.

Маю радасць ад таго, што я ўбачыў карабель, прытым англійскі, радасць ад чакання сустрэчы з маімі суайчыннікамі (значыць, з сябрамі) немагчыма апісаць.

Разам з тым нейкая патаемная трывога, якую я не мог растлумачыць, вымушала мяне паводзіць сябе асцярожна.

Перш за ўсё я задаў сабе пытанне: навошта спатрэбілася англійскаму купецкаму судну заходзіць у гэтыя мясціны, якія ляжалі, як мне было вядома, у баку ад усіх гандлёвых шляхоў англічан? Я ведаў, што яго не магла прыгнаць бура, таму што апошнім часам на моры буры не было. Калі нават на караблі сапраўды знаходзіліся англічане, мне ўсё роўна няварта да пары да часу паказвацца ім на вочы, бо зусім верагодна, што з'явіліся яны сюды не з добрым намерам. Лепей ужо мне і надалей заставацца на востраве, чым даверыцца падазроным людзям і аказацца ў руках якіх-небудзь бандытаў ці забойцаў.

Стоячы на гары, я не пераставаў сачыць за лодкай, якая набліжалася да вострава.

Раптам яна зрабіла круты паварот і пайшла ўздоўж берага ў напрамку да бухтачкі, дзе я калісьці прычальваў з плытамі. Відаць, тыя, што сядзелі ў лодцы, выглядалі, дзе б лепей прычаліць. Яны не заўважылі бухтачкі і прычалілі ў другім месцы, за паўмілі ад яе.

Я быў шчаслівы, што яны высадзіліся менавіта там, бо, калі б яны зайшлі ў бухтачку, яны апынуліся б, можна сказаць, у мяне на парозе і — хто ведае! — магчыма, выгналі б мяне з мае крэпасці і абрабавалі б да ніткі.

Людзі выйшлі на бераг, і я мог упэўніцца, што гэта сапраўды англічане, ва ўсякім разе большасць з іх. Аднаго ці двух, праўда, я палічыў за галандцаў, але я памыліўся, як потым выявілася. Усіх было адзінаццаць чалавек.

Трое з іх, відаць, былі прывезены сюды ў якасці палонных, таму што пры іх я не заўважыў ніякай зброі і мне здалося, што ў іх звязаны ногі. Я бачыў, як пяць чалавек, што першыя выскачылі на бераг, выцягвалі іх з лодкі.

Адзін з палонных, відаць, нечага прасіў: рухі яго рук выказвалі і пакуту, і мальбу і роспач. Відаць, ён быў у адчаі. Двое другіх таксама аб нечым упрошвалі, працягвалі наперад рукі, але ўвогуле яны як быццам былі спакайнейшыя і не так яскрава выказвалі сваё гора.

Я глядзеў на іх і нічога не разумеў. Раптам Пятніца крыкнуў мне:

— О, Робін Круза! Глядзі: белыя чалавекі таксама ядуць чалавекаў, як дзікія!

— Ты звар'яцеў, Пятніца! — сказаў я яму.— Няўжо ты думаеш, што яны іх з'ядуць?

— Вядома, з'ядуць,— адказаў ён.

— Не, не, Пятніца, ты памыляешся,— запярэчыў я.— Баюся, што яны іх заб'юць, але можаш быць упэўнены, што есці іх яны не будуць.

Я яшчэ не ўсё разумеў, што адбываецца ў мяне на вачах, але ўвесь дрыжаў ад жаху пры думцы, што зараз можа адбыцца крывавая расправа.



Мне нават здалося, што адзін з бандытаў занёс над галавой сваёй ахвяры нейкую зброю, накшталт цесака ці шаблі.

Уся кроў застыла ў мяне ў жылах: я быў упэўнены, што няшчасны паваліцца нежывым. Як я шкадаваў у той момант, што каля мяне няма іспанца і старога дзікуна!

Я заўважыў, што ні ў кога з бандытаў не было з сабою зброі.

«Добра было б,— падумаў я,— падкрасціся да іх цяпер, стрэліць ва ўпор і вызваліць гэтых палонных».

Але абставіны склаліся зусім інакш.

Бандыты, відаць, не мелі намеру забіваць сваіх палонных.

Напалохаўшы і наздзекаваўшыся з іх, бандыты разбегліся па востраве, відаць, каб агледзець мясцовасць, дзе яны апынуліся.

Палонных яны пакінулі пад наглядам двух сваіх таварышаў.

Але тыя, напэўна, былі п'яныя: як толькі астатнія пайшлі, абодва яны залезлі ў лодку і адразу ж заснулі.

Такім чынам палонныя засталіся адны. Але, замест таго каб выкарыстаць момант і дзейнічаць, яны сядзелі на пяску і азіраліся па баках у поўным адчаі.

Гэта нагадала мне першы дзень майго з'яўлення на востраве. Гэтаксама і я тады сядзеў на беразе, безнадзейна азіраючыся наўкол, і таксама лічыў сябе загінуўшым. Я быў упэўнены тады, што мяне разарвуць драпежныя звяры, залез на дрэва і праседзеў там усю ноч. Наогул не было такіх жахаў, якія б не здаваліся мне на тым першым часе. А між тым як ціхамірна пражыў я ўсе гэтыя гады! Але нічога гэтага я тады не прадбачыў.

Таксама і гэтыя трое няшчасных былі ў адчаі, не ведаючы, што выратаванне блізка.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ШОСТЫ
### Рабінзон сустракаецца з капітанам англійскага карабля

Бандыты высадзіліся на востраве ў час прыліву. Пакуль яны здзекаваліся з палонных, якіх яны прывезлі з сабой, а потым блукалі па незнаёмым востраве, прайшло вельмі многа часу: пачаўся адліў, і лодка апынулася на мелі.

У ёй, як ужо гаварылася, заставалася два чалавекі, якія вельмі хутка заснулі.

Праз гадзіну адзін [redacted] іх прачнуўся і, убачыўшы, што лодка стаіць на зямлі, паспрабаваў сцягнуць яе да вады, але не здолеў. Тады ён пачаў клікаць астатніх. Тыя прыбеглі і ўзяліся памагаць яму, але лодка была такая цяжкая, а пясок быў такі мокры і рыхлы, што ў іх не хапіла сілы спусціць яе на ваду.



Тады яны, як сапраўдныя маракі — а маракі, як вядома, самы бесклапотны народ на ўсім свеце і ніколі не думаюць пра будучыню,— кінулі лодку і зноў пайшлі гуляць. Перад тым як пайсці, адзін з іх моцна гукнуў другому:



— Ды кінь ты, Джэк, яе! Ахвота табе мазоліць рукі! Вось будзе прыліў, яна сама і ўсплыве.

Гэта гаварылася па-англійску. Значыць, яны і сапраўды былі мае землякі.

Пакуль яны не пайшлі, я то сядзеў, стаіўшыся за агароджай крэпасці, то сачыў за імі з вяршыні пагорка.

Да пачатку прыліву заставалася не меней дзесяці гадзін.

Значыць, увесь гэты час іх лодка пралежыць на пяску.

Вечарам, калі сцямнее, я выйду са свайго сховішча, падкрадуся да гэтых матросаў бліжэй; буду сачыць за кожным іх учынкам, за кожным рухам і, магчыма, я здолею падслухаць, пра што яны будуць гаварыць.

А пакуль не сцямнела, трэба было рыхтавацца да бою. Цяпер у мяне быў куды больш моцны і небяспечны праціўнік, чым раней, і рыхтавацца трэба было куды больш старанна.



Я доўга рыхтаваў стрэльбы, чысціў і зараджаў іх, а потым загадаў Пятніцу, які пад маім кіраўніцтвам зрабіўся вельмі ўдалым стралком, узброіцца з ног да галавы. Я ўзяў сабе дзве паляўнічыя стрэльбы, а яму даў тры мушкеты. Астатнюю зброю мы таксама размеркавалі паміж сабою.

Трэба сказаць, што ў гэтых даспехах у мяне быў вельмі ваяўнічы выгляд. На мне была мая грубая куртка з казінага футра і вялізная калматая шапка, на баку вісела голая шабля, за поясам былі два пісталеты, на кожным плечуку па стрэльбе.

Як ужо гаварылася, я вырашыў не распачынаць нічога, пакуль не сцямнее. Але гадзіны ў дзве, калі сонца пачало прыпякаць асабліва моцна, я заўважыў, што матросы пайшлі ў лес і не вярнуліся.

Відаць, іх змарыла спёка, і яны заснулі ў цяньку.

Іх палонным было не да сну. Няшчасныя панура сядзелі пад нейкім вялізным дрэвам, прыгнечаныя сваім горкім лёсам. Паміж імі і мною было не болей чвэрці мілі.

Іх ніхто не вартаваў, і я вырашыў, не чакаючы вечара, прабрацца да іх і пагутарыць з імі. Мне карцела даведацца, што яны за людзі і чаму яны тут. І я пайшоў да іх з тым дзіўным узбраеннем, якое я толькі што апісваў. За мною следам крочыў Пятніца. Ён таксама быў узброены з галавы да ног, хаця і не здаваўся такім страшыдлам, як я.

Я падышоў да трох палонных зусім блізка (яны сядзелі да мяне спіною і не бачылі мяне) і гучна спытаў іх па-іспанску:

— Хто вы такія, сеньёры?

Яны здрыгануліся ад нечаканасці, але, здаецца, напалохаліся яшчэ больш, калі ўбачылі, якое страшыдла падышло да іх. Ніхто з іх не адказаў ні слова, і мне здалося, што яны збіраюцца ўцякаць ад мяне.

Тады я загаварыў па-англійску.

— Джэнтльмены,— сказаў я,— не палохайцеся. Магчыма, вы сустрэнеце сябра там, дзе менш за ўсё чакаеце сустрэць яго. Я англічанін і хачу вам дапамагчы. Вы бачыце: нас толькі двое; у нас ёсць зброя і порах. Кажыце ж адразу, якім чынам мы можам аблегчыць ваш лёс, якое няшчасце надарылася з вамі?

— Нашых няшчасцяў так многа, што апісваць іх было б вельмі доўга,— адказаў адзін палонны,— між тым нашы мучыцелі непадалёку і кожную хвіліну могуць вярнуцца сюды. Але вось вам уся наша гісторыя ў некалькіх кароткіх словах. Я капітан карабля; мой экіпаж узбунтаваўся. Я заўсёды любіў матросаў, і яны мяне любілі. Пад маёй камандай ім жылося выдатна. Але іх збіла з панталыку шайка мярзотнікаў, якія завяліся на судне ў апошні час. Гэтыя мярзотнікі падбухторылі іх зрабіцца піратамі — марскімі бандытамі, каб рабаваць і паліць караблі. Таварышы мае, якіх вы тут бачыце (адзін — мой памочнік, другі — пасажыр), ледзь упрасілі гэтых людзей не забіваць нас, і, нарэшце, яны згадзіліся, з той умовай, што высадзяць нас на якім-небудзь бязлюдным беразе. Так яны і зрабілі. Мы былі ўпэўнены, што нас чакае тут галодная смерць,— мы лічылі гэту зямлю бязлюднай. Цяпер жа высветлілася, што тут жывуць людзі, якія гатовы самаахвярна выратаваць нас ад смерці.



— Дзе гэтыя бандыты? — спытаўся я.— Куды яны пайшлі? У які бок?

— Яны ляжаць пад тымі вунь дрэвамі, сэр,— паказаў капітан на пясок, што віднеўся непадалёку.— Сэрца ў мяне абмірае ад страху: я баюся, што яны ўбачаць вас і пачуюць, пра што мы зараз гаворым. Калі так, то мы загінулі! Яны бязлітасна заб'юць нас усіх да аднаго.

— У іх ёсць зброя? — спытаў я.

— Толькі дзве стрэльбы і яшчэ адна, якую яны пакінулі ў лодцы.

— Цудоўна,— сказаў я.— Астатняе я бяру на сябе. Усе яны спяць, і нам было б няцяжка падкрасціся да іх і ўсіх іх перабіць, але ці не лепей захапіць іх жывымі? Магчыма, яны адумаюцца, пакінуць разбой і захочуць стаць сумленнымі людзьмі.

Капітан сказаў, што сярод іх ёсць два небяспечныя бандыты, якія і пачалі бунт; наўрад ці трэба пакідаць іх, але, калі пазбавіцца ад гэтых двух, астатнія, ён упэўнены, раскаюцца і зноў вернуцца да сваё ранейшай справы.

Я папрасіў яго паказаць мне гэтых двух. Ён адказаў, што наўрад ці пазнае іх на такой вялікай адлегласці, але пры выпадку, вядома, пакажа.

— Наогул, я і мае таварышы,— сказаў капітан,— гатовы падпарадкавацца вам ва ўсім. Мы аддаёмся поўнасцю пад вашу ўладу. Кожны ваш загад будзе для нас законам.

— Калі так,— сказаў я,— давайце адыдземся далей, каб яны не ўбачылі нас і не падслухалі нашай гаворкі. Няхай сабе спяць, а мы пакуль вырашым, што нам рабіць.

Усе трое ўсталі і пайшлі за мною.

Я павёў іх у лясны гушчар і там, звяртаючыся да капітана, сказаў:

— Я паспрабую выратаваць вас, але папярэдне стаўлю вам дзве ўмовы.

Ён не даў мне дагаварыць.

— Я прымаю ўсе вашы ўмовы, сэр,— сказаў ён.— Калі вам пашчасціць адабраць у бандытаў мой карабель, камандуйце мною і маім караблём, як вы захочаце. Калі ж ваша задума вам не ўдасца, я застануся тут, разам з вамі, і буду да канца сваіх дзён вашым старанным памочнікам.

Такое ж абяцанне далі і яго таварышы.

— Добра,— сказаў я,— вось мае дзве ўмовы. Па-першае, пакуль вы не падымецеся на свой карабель, вы забудзеце, што вы капітан, і будзеце без усякіх пярэчанняў падпарадкоўвацца кожнаму майму загаду. І, калі я дам вам зброю, вы ні пры якіх умовах не накіруеце яе ні супроць мяне, ні супроць маіх блізкіх і вернеце яе мне па першаму запатрабаванню. Па-другое,

калі вам будзе вернуты ваш карабель, вы даставіце ў Англію на ім мяне і майго друга.

Капітан прысягнуў мне ўсімі прысягамі, якія толькі здольны прыдумаць чалавечы розум, што абодва мае патрабаванні ён і яго таварышы свята выканаюць.



— І не таму толькі,— дадаў ён,— што я лічу гэтыя патрабаванні мэтазгоднымі, але, галоўнае, таму, што я абавязаны вам жыццём і да самае смерці буду лічыць сябе вашым даўжніком.



— У такім разе не будзем цягнуць,— адказаў я.— Вось вам тры мушкеты, вось порах і кулі. А цяпер кажыце, што, па-вашаму, нам трэба рабіць.

— Дзякую вам, што вы звяртаецеся да мяне за парадай,— сказаў капітан,— але ці маю права я даваць вам парады? Вы — наш начальнік, і ваша справа даваць нам загады, а наша — выконваць іх.

— Мне здаецца,— сказаў я,— што нам лягчэй усё-такі будзе расправіцца з імі, калі мы нячутна падкрадземся, пакуль яны спяць, і выстралім у іх адразу з усіх нашых стрэльбаў. Каму суджана быць забітым, той будзе забіты. Калі ж тыя, што застануцца жывыя, папросяць літасці, іх, бадай, можна будзе памілаваць.

Капітан нерашуча заўважыў, што яму не хацелася б праліваць столькі крыві, што, калі можна, ён хацеў бы ўстрымацца ад такой жорсткасці.

— З гэтых людзей,— дадаў ён,— толькі два безнадзейныя нягоднікі, гэта яны падбухторвалі на злачынства астатніх. Калі яны ад нас уцякуць і вернуцца на карабель, мы прапалі, таму што яны наляцяць сюды з астатнімі матросамі і пераб'юць нас усіх.

— Значыць, трэба прыняць маю параду,— сказаў я.— Вы самі бачыце, што мы вымушаны быць жорсткімі: для нас гэта адзіны сродак выратавання.

Але было відаць, што капітану не хочацца забіваць і калечыць столькі сонных людзей, хоць гэтыя людзі і пакідалі яго на галодную смерць.

Заўважыўшы гэта, я сказаў яму, каб ён ішоў са сваімі таварышамі наперад і рабіў так, як лічыць больш мэтазгодным.

Пакуль у нас ішлі гэтыя перагаворы, піраты пачалі прачынацца. З лесу пачуліся іх галасы. Я ўбачыў, што двое з іх ужо стаяць на нагах, і спытаў капітана, ці не гэта завадатары бунту.

— Не,— адказаў ён,— гэтыя людзі былі верныя свайму абавязку да апошняй мінуты і прымкнулі да змоўшчыкаў пад уздзеяннем пагрозы.

— Тады няхай сабе яны ідуць,— сказаў я.— Не будзем перашкаджаць ім. Відаць, сам лёс паклапаціўся пра тое, каб выратаваць невінаватых ад кулі. Але крыўдуйце потым на сябе, калі вы дасце магчымасць астатнім уцячы. Яны схопяць нас, і вам тады літасці ўжо не будзе.

Гэтыя словы абудзілі ў капітана рашучасць. Ён і яго таварышы схапілі стрэльбы, засунулі за пояс пісталеты і рынуліся наперад.

Адзін з матросаў павярнуўся, пачуўшы крокі, і, убачыўшы ў руках сваіх палонных зброю, узняў трывогу.

Але было позна ўжо: у той самы момант, як ён закрычаў, прагучалі два стрэлы. Тыя, што стралялі, не прамахнуліся: адзін чалавек быў забіты напавал, другі цяжка паранены. Ён, аднак, усхапіўся на ногі і пачаў клікаць на дапамогу.

Але тут да яго наблізіўся капітан.

— Позна! — сказаў ён.— Цяпер ужо цябе ніхто не выратуе. Вось табе ўзнагарода за здраду!

З гэтымі словамі ён ускінуў мушкет і так моцна стукнуў здрадніка прыкладам па галаве, што той змоўк назаўсёды.

Цяпер, не лічачы трох чалавек, якія, відаць, зайшлі ў другі бок лесу, у нас заставаліся толькі тры працаўнікі, з якіх адзін быў лёгка паранены. У гэты час падышлі і мы з Пятніцай. Ворагі ўбачылі, што ім не выратавацца, і пачалі прасіць літасці. Капітан адказаў, што ён гатовы памілаваць іх, калі яны на справе дакажуць, што раскайваюцца ў сваім вераломстве, і прысягнуць, што дапамогуць яму завалодаць караблём. Яны пападалі перад ім на калені і пачалі горача запэўняць яго ў сваім раскаянні.

Капітан паверыў іх клятве і заявіў, што ахвотна даруе ім жыццё. Я не пярэчыў супроць гэтага, але патрабаваў, каб палонным звязалі рукі і ногі.

Як толькі перагаворы скончыліся, я загадаў Пятніцу і памочніку капітана збегаць да баркаса і зняць з яго парус і вёслы.

Неўзабаве вярнуліся і тыя тры матросы, якія блукалі па востраве. Яны зайшлі далёка і цяпер прыбеглі, пачуўшы нашы стрэлы.

Калі яны ўбачылі, што капітан з іх палоннага зрабіўся іх пераможцам, яны нават не спрабавалі супраціўляцца і, не пярэчачы, далі сябе звязаць.

Такім чынам перамога засталася за намі.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ СЁМЫ

### Бойка з піратамі

Цяпер, на волі, я мог падрабязна расказаць капітану пра ўсе свае прыгоды і няшчасці і распытаць яго пра тыя сумныя падзеі, у выніку якіх ён застаўся без карабля.

Я пачаў першы. Я расказаў яму ўсю гісторыю свайго жыцця за апошнія дваццаць сем гадоў. Ён слухаў вельмі ўважліва і не раз выказваў здзіўленне маёй мужнасцю і працавітасцю, якія пазбавілі мяне ад непазбежнай смерці.

Цяпер, калі ён падрабязна даведаўся пра маё жыццё на бязлюдным востраве, я запрасіў яго самога і яго спадарожнікаў да сябе ў крэпасць, куды мы зайшлі маім звычайным шляхам — па прыстаўных лесках. Я прапанаваў сваім гасцям добрую вячэру, а затым паказаў ім усю сваю хатнюю гаспадарку з усімі прыдуманымі мною за многія-многія гады мае адзіноты прыстасаваннямі.

Усё, што гэтыя людзі тут убачылі, здалося ім цудам. Усё, што я расказаў ім пра сябе, яны слухалі як чароўную казку. Але больш за ўсё іх уразілі збудаваныя мною ўмацаванні і тое, як хітра схавана было ў гушчары лесу маё жыллё. Паколькі дрэвы тут растуць куды хутчэй, чым у Англіі, мой гай за дваццаць год ператварыўся ў дрымучы лес. Дабрацца да майго дома было магчыма толькі па вузкай пакручастай сцяжынцы, якую я пакінуў, калі садзіў дрэвы.

Я растлумачыў капітану, што гэта крэпасць — галоўная мая рэзідэнцыя[1], але, як і падабае каралю, у мяне ў далечыні ад сталіцы ёсць летні палац, які зрэдку я таксама наведваю.

— Я, вядома, з ахвотай пакажу яго вам,— сказаў я,— але цяпер у нас ёсць больш важная справа: трэба падумаць, як адабраць у ворагаў ваш карабель.

— Розуму не прыкладу, што нам рабіць,— сказаў капітан.— На караблі яшчэ засталося дваццаць шэсць чалавек. Усе яны ўдзельнікі бунту, гэта значыць такога злачынства, за якое, паводле нашых законаў, адна кара — смерць. Піратам добра вядома, што, калі яны здадуцца нам, іх адразу ж, як толькі мы вернемся ў Англію, сустрэне шыбеніца. І таму што губляць ім няма чаго, бараніцца яны будуць адчайна. А пры такіх умовах нам, з нашымі слабымі сіламі, немагчыма пачынаць з імі бойку.

Я задумаўся. Словы капітана здаліся мне пераканаўчымі. Трэба было як мага хутчэй прыдумаць які-небудзь рашучы план. Цягнуць і марудзіць не было калі: з карабля магла з'явіцца новая шайка піратаў і перарэзаць усіх нас. Лепей за ўсё было б завабіць іх у пастку хітрасцю і напасці на іх знянацку. Але як гэта зрабіць? З мінуты на мінуту яны маглі з'явіцца тут.

— Напэўна,— сказаў я капітану,— там на караблі пачалі ўжо непакоіцца, чаму так доўга не вяртаецца лодка. Хутка яны захочуць даведацца, што здарылася з матросамі, якія паехалі на бераг, і пашлюць да нас другую лодку. На гэты раз у лодцы прыедуць узброеныя людзі, і тады мы не справімся з імі.

Капітан згадзіўся са мною.

— Перш за ўсё,— гаварыў я далей,— мы павінны паклапаціцца пра тое, каб бандыты не здолелі адвезці свой баркас назад, а таму трэба зрабіць яго непрыгодным для плавання, гэта значыць прадзіравіць яго дно.



Мы зараз жа заспяшаліся да баркаса. Гэта была вялізная лодка з крутымі бартамі. У баркасе аказалася многа рознага дабра. Мы знай-

[1] Рэзідэнцыя — местазнаходжанне кіраўніка дзяржавы. Тут гэта слова ўжыта жартам.

шлі там сякую-такую зброю, парахаўніцу, дзве бутэлькі — адну з гарэлкай, другую з ромам, некалькі сухароў, вялікі дроб цукру (фунтаў пяць ці шэсць), загорнуты ў парусіну. Усё гэта было мне вельмі дарэчы,— асабліва гарэлка і цукар: ні таго, ні другога я не спытваў ужо шмат гадоў.

Склаўшы ўвесь гэты груз на беразе і прыхапіўшы з сабою вёслы, мачту, парус і руль, мы прабілі ў дне баркаса вялікую дзірку. Такім чынам, калі б ворагі аказаліся мацнейшымі за нас і нам не ўдалося б з імі справіцца, іх баркас усё роўна застаўся б у нашых руках, і, шчыра кажучы, на гэта я разлічваў больш за ўсё.

Прызнаюся, я не вельмі верыў, што нам пашанцуе адабраць у піратаў карабель. «Але няхай яны пакінуць нам баркас,— думаў я сам сабе.— Адрамантаваць яго няцяжка, а на такім судне я лёгка дабяруся да Падветраных астравоў[1]. Па дарозе магу нават наведаць майго іспанца і яго суайчыннікаў, якія пакутуюць у дзікуноў».

Пасля таго як агульнымі намаганнямі мы ўсцягнулі баркас на такое высокае месца, куды не дасягае прыліў, мы прыселі адпачыць і параіцца, што ж нам рабіць далей.

Раптам з карабля мы пачулі гарматны стрэл. На караблі замахалі сцягам. Гэта, відаць, быў сігнал баркасу.

Крыху пазней грымнула яшчэ некалькі стрэлаў, сцягам махалі, не перастаючы, але ўсё гэтыя сігналы заставаліся без адказу: баркас не рухаўся з месца. Нарэшце [illegible] карабля спусцілі шлюпку (усё гэта нам было добра відаць у падзорную трубу). Шлюпка накіравалася да берага, і, калі яна падышла бліжэй, мы ўбачылі, што ў ёй не менш дзесяці чалавек, узброеных стрэльбамі.

Ад карабля да берага было каля шасці міляў, так што мы маглі разгледзець людзей, якія сядзелі ў шлюпцы. Нам відны былі нават іх твары: цячэннем шлюпку аднесла крыху на ўсход ад таго месца, куды прычаліў баркас, а веслярам, відаць, хацелася прычаліць абавязкова да

[1] Падветраныя астравы — астравы ў Вест-Індыі, на паўночным усходзе Карыбскага мора.

гэтага месца, і таму некаторы час ім давялося ісці ўздоўж берага, непадалёку ад нас. Тады вось мы і змаглі добра разгледзець іх. Капітан пазнаваў кожнага і паведамляў мне пра кожнага сваю думку.

Па яго словах, між імі знаходзілася тры вельмі сумленныя матросы; ён быў упэўнены, што іх падбухторылі супроць іх волі, пад пагрозай расправы, але затое боцман і ўсе астатнія — закончаныя бандыты і нягоднікі.

— Баюся, што з імі мы не справімся,— дадаў капітан.— Усё гэта адчайны народ, а цяпер, калі яны яшчэ даведаюцца, што мы і супрацівляемся, яны нас не памілуюць. Страшна падумаць, што яны з намі зробяць!

Я ўсміхнуўся і адказаў яму:

— Чаму вы гаворыце з такім страхам? Хіба мы маем права на страх? Што б ні чакала нас потым, усё будзе лепей нашага цяперашняга жыцця, і, такім чынам, любы выхад з гэтага становішча — нават смерць — мы павінны лічыць выратаваннем. Успомніце толькі пра тое, што я перажыў тут у адзіноце. Вы думаеце, лёгка дваццаць сем год пражыць, адрэзаным ад свету? Няўжо вы не лічыце, што варта рызыкнуць жыццём дзеля свабоды? Не,— гаварыў я,— небяспека не спыніць мяне. Мяне турбуе іншае.

— Што? — спытаў ён.

— Ды тое, што, як вы кажаце, сярод гэтых людзей ёсць тры ці чатыры сумленныя матросы, якіх мы павінны выратаваць. Калі б яны ўсе былі бандытамі, я ні хвіліны не сумняваўся б, што маю права знішчыць іх усіх. А ў тым, што мы з імі расправімся, я зусім упэўнены, таму што кожны, хто ступіць на гэты востраў, трапіць да нас і ад нас будзе залежаць, забіць яго ці дараваць яму жыццё.

Я гаварыў гучна, і твар у мяне быў вясёлы. Мая ўпэўненасць у перамогу перадалася і капітану, і мы горача ўзяліся за справу.

Яшчэ раней, калі з карабля пачалі спускаць шлюпку, мы паклапаціліся пра тое, каб схаваць нашых палонных як мага далей. Двух, якія капітану здаваліся найбольш небяспечнымі, я адправіў пад канвоем Пятніцы і памочніка капітана ў пячору. З гэтае турмы ўцячы было нялёгка; нават калі б ім і ўдалося нейкім цудам



пералезці цераз абедзве агароджы, яны заблудзіліся б у дрымучым лесе, які акружаў крэпасць. Сюды не маглі даляцець галасы іх хаўруснікаў, і адсюль немагчыма было ўгледзець, што адбываецца на востраве. Тут іх зноў звязалі, але Пятніца ўсё ж іх добра накарміў і запаліў ім у пячоры некалькі нашых самаробных свечак, а памочнік капітана аб'явіў ім, што, калі яны будуць паводзіць сябе ціха, праз дзень ці праз два ім вернуць волю.

— Але,— дадаў ён,— калі вы паспрабуеце ўцякаць, вас пры першай жа спробе прыстрэляць без усякай літасці.

Яны абяцалі цярпліва пераносіць сваё зняволенне і горача дзякавалі за тое, што іх не пакінулі без яды і святла.

З астатнімі чатырма палоннымі абышліся не так строга. Праўда, двух мы да часу пакінулі звязанымі, таму што капітан не мог паручыцца за іх, а двух я нават узяў на службу па асобай рэкамендацыі капітана. Абодва яны прысягнулі, што будуць служыць мне шчыра і аддана.

Такім чынам, калі лічыць гэтых двух матросаў і капітана з яго двума таварышамі, нас было зараз сямёра добра ўзброеных людзей, і я не сумняваўся, што мы без цяжкасці справімся з тымі дзесяццю малайцамі, якія павінны былі зараз прыехаць. Тым больш што сярод іх, паводле слоў капітана, былі сумленныя людзі, якіх, як ён сцвярджаў, нам будзе няцяжка перацягнуць на свой бок.

Падышоўшы да вострава на тым месцы, дзе стаяў іх баркас, матросы прычалілі, выйшлі са шлюпкі і выцягнулі яе на бераг. Гэтаму я быў вельмі рады, бо, прызнацца, баяўся, што яны з абачлівасці стануць на якар, не даходзячы да берага, і што два ці тры матросы застануцца пільнаваць шлюпку,— і тады мы не здолелі б яе захапіць.



Выйшаўшы на бераг, яны перш за ўсё кінуліся да свайго баркаса.

Няцяжка сабе ўявіць іх здзіўленне, калі яны ўбачылі, што ўсе снасці з яго і ўвесь груз зніклі, а ў днішчы чарнее вялізная дзірка.

Яны стаўпіліся вакол баркаса і доўга абмяркоўвалі між сабою, як магло здарыцца з іх лодкаю такое няшчасце, а потым узяліся моц-

на крычаць, клікаць сваіх таварышаў. Але ніхто не адклікнуўся.

Тады яны сталі ў кружок і далі залп з усіх сваіх стрэльбаў. Лясное рэха падхапіла іх стрэл і паўтарыла яго некалькі разоў. Але і гэта нічога не дало: тыя, што сядзелі ў пячоры, не маглі пачуць стрэлу; тыя ж, што былі з намі, хоць і чулі, але не адважыліся абазвацца.

Між тым піраты, упэўніўшыся, што ўсе іх заклікі застаюцца без адказу, страшэнна перапалохаліся і вырашылі адразу ж вярнуцца да сябе на карабель і паведаміць астатнім, што ў баркасе прабіта дно, а людзі, якія прыплылі на востраў, забітыя, таму што інакш яны абавязкова адклікнуліся б.

Капітан, які да гэтага часу ўсё яшчэ спадзяваўся, што мы здолеем захапіць карабель, цяпер канчаткова страціў надзею.

— Усё прапала! — сказаў ён панура.— Як толькі на караблі даведаюцца, што матросы, якія прыплылі на востраў, зніклі, новы капітан аддасць загад зняцца з якара, і тады бывай, мой карабель!

Аднак хутка адбылася падзея, якая яшчэ болей напалохала капітана.

Не прайшло і дзесяці мінут, як мы ўбачылі, што шлюпка, якая адчаліла ад берага, раптам павярнула назад і зноў накіроўваецца да нашага вострава. Напэўна, па дарозе матросы параіліся між сабою, і ў іх з'явіўся нейкі другі план.

Мы моўчкі сачылі за імі.

Прычаліўшы да берага, яны пакінулі ў шлюпцы трох чалавек, а астатнія сямёра ўзбеглі ўверх па гарыстым схіле і накіраваліся ў глыбіню вострава — відаць, шукаць таварышаў. Гэта моцна ўстрывожыла нас.

Калі нам нават пашанцуе захапіць семярых, якія выйшлі на бераг, наша перамога будзе дарэмная, бо мы не дагонім шлюпку, на якой засталіся трое астатніх. А тыя, вярнуўшыся на карабель, раскажуць таварышам пра тое няшчасце, якое здарылася на востраве, карабель адразу ж знімецца з якара, і мы страцім яго назаўсёды.

Што было рабіць? Нам не заставалася нічога іншага, як цярпліва чакаць, чым усё гэта скончыцца. Пасля таго як сямёра матросаў вый-

шлі на бераг, шлюпка з трыма астатнімі адышла даволі далёка ад берага і стала на якар, так што мы пазбавіліся магчымасці захапіць яе і схаваць.

Тыя, што выйшлі на бераг, відаць, вырашылі не разыходзіцца. Яны ішлі адзін пры адным і пачалі падымацца на гару, пад якою знаходзіўся мой дом. Мы бачылі іх добра, яны ж не маглі нас бачыць. Мы былі б вельмі рады, калі б яны падышлі да нас бліжэй і каб мы маглі стрэліць у іх.

Мы спадзяваліся, што яны накіруюцца да супрацьлеглага берага вострава, таму што, пакуль яны заставаліся на гэтым яго баку, мы не здолелі б пакінуць нашу крэпасць. Але, дабраўшыся да вяршыні гары, адкуль відаць была ўся паўночна-ўсходняя частка вострава, яго лясы і даліны, яны спыніліся і зноў пачалі моцна крычаць.

Нарэшце, не дачакаўшыся адказу і, напэўна, баючыся аддаляцца ад берага, яны селі пад дрэвам і пачалі раіцца.

Добра было б, калі б яны леглі і заснулі, як тыя, што прыехалі раніцой; тады мы хутка здолелі б з імі расправіцца.

Але яны і не думалі спаць. Яны адчувалі, што на востраве адбываецца штосьці нядобрае, і вырашылі трымацца асцярожна, хоць і не ведалі, якая небяспека ім пагражае і адкуль яна можа прыйсці.

Убачыўшы, што яны раяцца, капітан выказаў адну, вельмі вартую ўвагі, думку.

— Зусім магчыма,— сказаў ён,— што яны на сваім вайсковым савеце вырашаць яшчэ раз падаць сігнал загінуўшым таварышам і ўсе адразу стрэляць. Тут бы нам і кінуцца на іх, пакуль іх стрэльбы будуць разраджаныя. Тады ім нічога больш не застанецца, як здацца, і ўсё абыдзецца без кровапраліцця.

План, па-мойму, быў някепскі, але для таго, каб яго ажыццявіць, нам неабходна было быць на вельмі блізкай адлегласці ад ворагаў. Бо мы ж павінны былі кінуцца на іх у тую самую хвіліну, як яны дадуць залп. Але яны знаходзіліся ад нас так далёка, што не магло быць і думкі пра раптоўны напад на іх.

Ды яны і не стралялі.

Мы не ведалі, на што рашыцца.

Нарэшце я сказаў:

— Па-мойму, да наступлення ночы нам няма чаго рабіць. А ўначы, калі гэтыя сямёра не вернуцца ў лодку, мы зможам непрыкметна прабрацца да мора і завабіць якой-небудзь хітрасцю тых траіх, што засталіся ў лодцы.

Мы доўга сядзелі ў засадзе і з нецярпеннем чакалі, калі ж піраты крануцца з месца. Нам здавалася, што іх нарадзе не будзе канца.

Раптам яны адразу ўсхапіліся і накіраваліся проста да мора. Напэўна, ім здалося, што заставацца на востраве небяспечна, і яны вырашылі вярнуцца на карабель, пакінуўшы шукаць сваіх таварышаў.

«Кепскія нашы справы! — падумаў я.— Відаць, нам давядзецца назаўсёды развітацца з караблём».

Я сказаў пра гэта капітану, ён прыйшоў у такую роспач, што ледзь не страціў прытомнасць.

Але тут я прыдумаў вайсковую хітрасць, якую і пусціў у ход. Хітрасць не складаная, але план мой удаўся выдатна. Паклікаўшы да сябе Пятніцу і памочніка капітана, я загадаў ім спусціцца да бухтачкі (той самай, якую Пятніца некалі пераплыў, калі за ім гналіся людаеды), затым, абагнуўшы яе, звярнуць на паўмілі да захаду, падняцца на пагорак і крычаць з усяе сілы, пакуль не пачуюць матросы, якія вяртаюцца да лодкі. Калі ж матросы адгукнуцца, перабегчы на другое месца і зноў крычаць і клікаць, і, такім чынам, мяняючы кірунак, завабліваць ворагаў усё далей і далей у глыб вострава, пакуль яны не заблудзяць у лесе, а потым кружным шляхам вярнуцца сюды да мяне.

Матросы ўжо садзіліся ў лодку і гатовы былі адчаліць, як раптам з боку бухтачкі пачуліся моцныя крыкі: гэта крычалі Пятніца з памочнікам капітана.

Ледзь толькі піраты пачулі іх галасы, яны зараз жа адгукнуліся і з усіх ног кінуліся бегчы ўздоўж берага ў той бок, адкуль чуліся гэтыя крыкі, але бухта загарадзіла ім дарогу, таму што быў прыліў і вада ў бухце стаяла вельмі высока. Тады яны паклікалі тых, што засталіся ў шлюпцы, каб яны пад'ехалі і перавезлі іх на другі бераг.

Я гэтага толькі і чакаў.

Яны перабраліся цераз бухту і пабеглі далей, прыхапіўшы з сабою яшчэ аднаго чалавека. Такім чынам у шлюпцы засталося толькі двое. Я бачыў, як яны адвялі яе ў самы канец бухты, бліжэй да зямлі, і прывязалі там да чэзлага дрэўца.

Гэта вельмі мяне ўзрадавала. Даўшы магчымасць Пятніцы і памочніку капітана рабіць сваю справу, я загадаў астатняму атраду ісці за мною.

Хаваючыся ў густым і высокім хмызняку, мы абагнулі бухту і раптоўна ўзніклі перад тымі піратамі, якія засталіся ля берага. Адзін з іх сядзеў у шлюпцы, другі ляжаў на беразе і драмаў. Убачыўшы нас за тры крокі ад сябе, ён памкнуўся быў ускочыць, каб уцячы, але капітан, які стаяў спераду, кінуўся на яго і стукнуў прыкладам. Затым, не даючы апамятацца другому матросу, ён крыкнуў яму:

— Здавайся — або смерць!

Гэта быў адзін з тых матросаў, пра якіх капітан казаў, што яны прымкнулі да бунтаўшчыкоў не па сваёй волі, а пад пагрозай. Матрос не толькі здаўся па першаму нашаму патрабаванню, але адразу ж выказаў жаданне ўступіць у наш атрад. Хутка ён даказаў сваімі ўчынкамі, што ёнварты нашага даверу.

Тым часам Пятніца з памочнікам капітана не пераставалі крычаць і клікаць. Адгукваючыся на крык матросаў, яны вадзілі іх па ўсім востраве з пагорка на пагорак, з аднаго гаю ў другі, пакуль не завялі ў такую непралазную гушчэчу, адкуль нельга было выбрацца на бераг да надыходу ночы. Можна сабе ўявіць, як стамілі і знясілілі яны непрыяцеля, калі і самі вярнуліся да нас смяртэльна стомленыя.

Цяпер нам заставалася толькі падпільнаваць піратаў, калі яны будуць вяртацца да таго месца, дзе яны пакінулі шлюпку, і, ашаламіўшы іх нечаканым нападам з цемры, прымусіць іх здацца нам у палон.

Яны вярнуліся не хутка. Нам давялося прачакаць некалькі гадзін, і толькі тады мы пачулі, што яны павольна прабіраюцца да берага. Ішлі яны паасобку, далёка адзін ад аднаго. Пярэднія крычалі на задніх:

— Хутчэй! Хутчэй!

Заднія адказвалі:

— Мы не можам, мы стаміліся...

Усё гэта было нам на руку.

Нарэшце яны падышлі да бухты. За гэтыя некалькі гадзін пачаўся адліў, і шлюпка, якая была прывязана да дрэва, апынулася зараз на сушы.

Немагчыма апісаць, што сталася з піратамі, калі яны ўбачылі, што шлюпка на мелі, а людзі зніклі. З гучнымі праклёнамі кідаліся яны па беразе, яны крычалі, што іх занесла на зачараваны востраў, што тут жывуць або разбойнікі, якія ўсіх іх перарэжуць, або водзяцца чэрці, якія з'ядуць іх жывымі.

Некалькі разоў браліся яны клікаць сваіх таварышаў, называючы іх імёны і прозвішчы, але, вядома, адказу не атрымлівалі.

Пры слабым вячэрнім асвятленні нам відно было, як бегаюць яны ўперад і назад, ламаючы ў роспачы рукі. Стаміўшыся ад гэтай бязмэтнай беганіны, піраты кінуліся ў лодку, каб перадыхнуць, але не праходзіла і хвіліны, як яны зноў выскаквалі на бераг і зноў бегалі ўперад і назад.

Мае спадарожнікі прасілі ў мяне дазволу напасці на ворага, як толькі сцямнее. Але я не хацеў кровапраліцця і вырашыў расправіцца з піратамі больш мірным чынам. А галоўнае, я ведаў, што вораг узброены з галавы да ног, і не хацеў рызыкаваць жыццём сваіх людзей. Трэба было пачакаць, ці не падзеляцца сілы праціўніка на два ці тры атрады, і пакуль што я загадаў свайму войску наступаць на ворага.

Пятніцу і капітана я паслаў наперад. Яны павінны былі падкрасціся да піратаў паўзком і, калі спатрэбіцца, страляць у іх ва ўпор.

Але нядоўга ім давялося паўзці: на іх самі амаль наткнуліся тры піраты, якія выпадкова адлучыліся ад астатніх, у тым ліку і боцман, які, як ужо было сказана, быў галоўным завадатарам, а цяпер трымаўся, як самы апошні баязлівец.

Ледзь толькі капітан пачуў голас віноўніка ўсіх сваіх няшчасцяў і зразумеў, што той у яго ўладзе, ён прыйшоў у такое шаленства, што не вытрымаў, усхапіўся на ногі і стрэліў бандыту проста ў грудзі. Тады, вядома, стрэліў і Пятніца. Боцман быў забіты напавал, другі пірат



моцна паранены (ён сканаў гадзіны праз дзве), трэці ж здолеў уцячы.

Пачуўшы стрэлы, я адразу ж рушыў наперад усю сваю армію, якая налічвала цяпер восем чалавек. Вось яна ў поўным складзе: я — першы фельдмаршал, Пятніца — генерал-лейтэнант, затым капітан з двума афіцэрамі і трое радавых — ваеннапалонныя, якім мы даверылі зброю.

Калі мы падышлі да праціўніка, было ўжо зусім цёмна, таму нельга было разабраць, колькі нас.

Я паклікаў да сябе аднаго з ваеннапалонных — таго самага матроса, якога піраты пакінулі ў шлюпцы (цяпер ён ваяваў у нашых шэрагах), і загадаў яму паклікаць яго былых таварышаў па імёнах.

Перш чым страляць, я хацеў паспрабаваць весці з імі перагаворы і, у выпадку, калі яны будуць паспяховыя, скончыць справу мірна.



Мая спроба ўдалася поўнасцю. Зрэшты, інакш і быць не магло: вораг быў даведзены да адчаю, яму толькі і заставалася, што здацца.

Тым часам мой матрос крычаў на ўсё горла:

— Том Сміт! Том Сміт!

Том Сміт зараз жа адгукнуўся:

— Хто мяне кліча? Ты, Джымі Рой?

Ён, відаць, пазнаў гэтага матроса па голасе.

Джымі Рой адказваў:

— Гэта я! Том Сміт, кідай стрэльбу і здавайся, а не, дык вы загінулі! Вас у адну хвіліну ўкакошаць.

— Ды каму ж здавацца? Дзе яны там? — крыкнуў зноў Том Сміт.

— Тут,— адазваўся Джымі Рой.— Іх пяцьдзесят чалавек, і з імі наш капітан. Вось ужо дзве гадзіны, як яны гоняцца за вамі. Боцмана забілі, Біл Фрэй паранены, а мяне ўзялі ў палон. Калі вы не здасцеся зараз жа, развітвайцеся з жыццём — вам не будзе літасці!

Тады Том Сміт закрычаў:

— Спытай у іх, ці памілуюць яны нас. Калі памілуюць, мы зараз жа здамося, так ім і скажы.

— Добра, я скажу,— адказаў Джымі Рой.

Але тут перагаворы пачаў ужо сам капітан.

— Гэй, Сміт! — закрычаў ён.— Пазнаеш мой голас? Дык слухай: калі вы адразу ж складзяце

зброю і здасцеся, я абяцаю вам літасць, усім, апрача Біла Аткінса.

— Капітан, злітуйцеся нада мною,— пачуўся голас Біла Аткінса.— Чым я горшы за іншых? Іншыя гэтакія ж вінаватыя, як і я.

Гэта была сапраўдная хлусня, таму што Біл Аткінс, закаранелы пірат і разбойнік, даўно падбухторваў матросаў заняцца марскім разбоем. Ён першы кінуўся на капітана і звязаў яму рукі, абражаючы і лаючы яго. Таму капітан сказаў Білу Аткінсу, каб ён здаваўся, без якіх бы там ні было ўмоў, а там няхай ужо начальнік вострава вырашае, пакінуць яго жывога ці пакараць. (Начальнік вострава — гэта я: так цяпер усе мяне звалі.)

Біл Аткінс вымушаны быў здацца.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ВОСЬМЫ

**Капітан зноў становіцца камандзірам свайго карабля.— Рабінзон пакідае востраў**

Такім чынам, піраты склалі зброю, пакорна молячы злітавацца над імі. Той матрос, які гаварыў з імі, і яшчэ два чалавекі па майму загаду звязалі іх усіх, пасля чаго мая грозная армія з пяцідзесяці чалавек (а на самай справе іх было ўсяго толькі восем, уключаючы сюды і трох палонных) акружыла звязаных піратаў і завалодала іх шлюпкай. Сам я, аднак, не паказваўся ім з некаторых меркаванняў вышэйшай палітыкі.

Капітан цяпер мог як належыць гутарыць са сваімі матросамі. Ён абвінавачваў іх у здрадзе і жорстка папракаў за вераломства.

— Вы хацелі адабраць у мяне мой карабель, каб заняцца марскім разбоем і зрабіцца піратамі,— сказаў ён ім.— Гэта подла і агідна. Вы зганьбілі сябе на ўсё жыццё, самі выкапалі сабе яму і павінны быць удзячнымі лёсу, калі не трапіце на шыбеніцу.

Злачынцы каяліся, відаць, шчыра і малілі толькі аб адным, каб ім даравалі жыццё.

— Я не маю на гэта ўлады,— адказваў капітан.— Цяпер ваш лёс залежыць ад начальніка вострава. Вы думалі, што высадзілі нас на

пустынны бязлюдны бераг, але вы памыліліся: на гэтым востраве многа людзей і кіруе імі сумленны высакародны начальнік. Па дабрыні свайго сэрца ён памілаваў вас і, відаць, адправіць у Англію, дзе ваш лёс будзе вырашаны па закону. Але Білу Аткінсу начальнік загадаў рыхтавацца да смерці: заўтра раніцой ён будзе павешаны.

Усё гэта капітан, вядома, выдумаў, але яго думка зрабіла моцнае ўражанне: Аткінс упаў на калені, молячы капітана хадайнічаць за яго перад начальнікам вострава; астатнія таксама пачалі прасіць, каб іх не адпраўлялі ў Англію.

Бачачы такую пакору гэтых людзей, напалоханых пагрозай смерці, я сказаў сабе:

«Вось калі прыйшоў да мяне час збавення! Гэтыя няшчасныя так напалоханы, што, вядома, выканаюць любое наша патрабаванне: варта нам загадаць, і яны дапамогуць нам завалодаць караблём».

І, адышоўшыся далей за дрэвы, каб яны не здолелі разгледзець, як несамавіта выглядае грозны начальнік вострава, я крыкнуў:

— Паклікаць да мяне капітана!

Адзін з нашых людзей урачыста падышоў да капітана і сказаў:

— Капітан, вас кліча начальнік!

А капітан не меней урачыста адказаў:

— Перадайце яго сіяцельству, што я зараз з'яўлюся.

Пачуўшы гэта, піраты зусім паніклі. Яны паверылі, што непадалёку ад іх знаходзіцца сам губернатар з атрадам у пяцьдзесят чалавек.

Калі капітан падышоў да мяне, я паведаміў яму, што хачу завалодаць караблём з дапамогай нашых палонных. Капітан быў у захапленні. Мы вырашылі заўтра ж прывесці гэты намер у выкананне.

— Але для таго, каб дзейнічаць пэўна,— сказаў я,— нам патрэбна адлучыць адных палонных ад другіх. Аткінса з двума такімі ж бандытамі мы пасадзім у падзямелле; няхай Пятніца і ваш памочнік адвядуць іх туды. Астатнім жа я знайду адпаведнае месца.

Так мы і зрабілі: трох адвялі ў пячору, якая і сапраўды нагадвала даволі-такі змрочнае скляпенне, астатніх жа я адправіў на сваю лясную дачу, туды, дзе стаяў мой будан. Высокая

агароджа рабіла яе таксама даволі надзейнай турмой, тым больш што вязні былі звязаныя і ведалі, што іх лёс залежыць ад іх паводзін.

На другі дзень я паслаў да гэтых матросаў капітана. Ён павінен быў пагутарыць з імі, даведацца, якi сапраўдны ў іх настрой і пачуцці, а потым зрабіць мне падрабязную справаздачу пра сваю гутарку. Я хацеў ведаць, у якой ступені можна давяраць гэтым людзям і ці не будзе небяспечна ўзяць іх з сабой на карабель.

Капітан павёў справу разумна і рашуча. Ён нагадаў матросам, у якім крытычным становішчы яны апынуліся па ўласнай жа віне, і сказаў, што хоць начальнік вострава цяпер і памілаваў іх сваёй уладай, але, калі карабель прыйдзе ў Англію, іх будуць судзіць як здраднікаў і, няма сумнення, павесяць.

— Але,— дадаў ён,— калі вы дапаможаце мне адабраць у піратаў мой карабель, тады начальнік вострава, прымаючы да ўвагі, што вы па сваёй волі паслужылі добрай справе, паспрабуе прасіць, каб вам даравалася ваша злачынства.

Няцяжка здагадацца, з якім захапленнем сустрэлі гэтыя людзі яго прапанову.

Яны ўпалі перад капітанам на калені і кляліся, што будуць біцца за яго да апошняй кроплі крыві, што, калі ён выпрасіць ім памілаванне, яны будуць усё сваё жыццё лічыць сябе яго даўжнікамі, пойдуць за ім, куды ён загадае, хоць на край свету, і будуць шанаваць яго, як роднага бацьку.

— Цудоўна,— сказаў капітан,— пра ўсё гэта я далажу начальніку вострава і, са свайго боку, буду прасіць яго, каб ён памілаваў вас.

Затым ён вярнуўся да мяне, зрабіў мне падрабязную справаздачу пра сваю гутарку з матросамі і дадаў, што па яго перакананню мы пэўна можам спадзявацца на гэтых людзей.

Але я быў той думкі, што асцярожнасць ніколі не пашкодзіць, і таму сказаў капітану:

— Вось што мы зробім: мы возьмем пакуль што толькі пяцярых. Няхай не думаюць, што мы маем патрэбу ў людзях. Ідзіце і скажыце ім, што хоць у нас і дастаткова людзей, але, так, для выпрабавання, мы возьмем і пяцярых з іх; астатнія ж двое, разам з тымі трыма, што сядзяць у крэпасці (гэта значыць, у маёй пячо-

ры), будуць пакінуты начальнікам вострава ў якасці заложнікаў, і, калі іх таварышы, якія будуць прымаць удзел у нашай бойцы, парушаць сваю прысягу, усе пяцёра заложнікаў будуць павешаны.

Гэта была выключна суровая ўмова. Калі капітан перадаў палонным мой адказ, яны зразумелі, што з начальнікам вострава жарты кепскія. І, вядома, ім заставалася адно: прыняць мае ўмовы.

Заложнікі самі пачалі горача ўпрошваць сваіх вызваленых таварышаў, каб тыя не здрадзілі капітану.

Вось поўны склад нашай арміі напярэдадні вялікай бітвы:

па-першае, капітан, яго памочнік і пасажыр;

па-другое, двое вызваленых палонных, за якіх паручыўся сам капітан;

па-трэцяе, яшчэ двое, тыя, што сядзелі ў маім будане (цяпер па просьбе капітана іх таксама вызвалілі);

па-чацвёртае, тыя пяцёра з другой партыі, якіх мы вызвалілі пазней за іншых;

такім чынам, усяго дванаццаць чалавек, апрача тых пяцярых, якія засталіся ў маім скляпенні заложнікамі.

Я спытаў капітана, як ён мяркуе, ці магчыма напасці на карабель з такой малой сілай. Мне і Пятніцу немагчыма было адлучацца: у нас на руках заставалася сямёра чалавек, якіх мы павінны былі вартаваць і карміць.

Пяцярым заложнікам, якія сядзелі ў пячоры, я вырашыў ні ў чым не патураць. Два разы ў дзень Пятніца насіў ім яду і ваду і сам карміў іх, таму што мы нават не развязалі ім рукі. Астатнім жа мы далі некаторае паслабленне.

Гэтым двум я вырашыў нарэшце паказацца. Я прыйшоў да іх разам з капітанам. Ён сказаў ім, што я — давераная асоба начальніка вострава, які даручыў мне нагляд за ваеннапалоннымі, таму яны не маюць права нікуды адлучацца без майго дазволу, і пры першай жа спробе непаслушэнства іх закуюць у кайданы і пасадзяць у губернатарскую крэпасць.

З гэтага часу я ні разу не паказваўся палонным у якасці начальніка вострава, а заўсёды як яго давераная асоба, прычым кожны раз я



нагадваў пра начальніка, пра гарнізон, пра гарматы і крэпасць.

Цяпер заставалася толькі падрыхтавацца да будучай бітвы: старанна адрамантаваць абедзве лодкі, прыладзіць снасці і прызначыць каманду на кожную з іх.

Усе гэтыя клопаты я ўсклаў на капітана. Ён прызначыў камандзірам шлюпкі свайго пасажыра і даў яму чатырох чалавек; сам жа капітан, яго памочнік і з ім пяцёра матросаў складалі экіпаж баркаса. Капітан сцвярджаў (зусім справядліва), што лепш за ўсё падысці да карабля ў цемры, і ў бліжэйшы ж вечар адчаліў ад берага.

Калі апоўначы на караблі пачулі ўсплёскі вёсел і, паводле марскога звычаю, аклікнулі шлюпку, капітан загадаў Джымі Рою, каб ён адзін адгукнуўся, а астатнія каб маўчалі.

Джымі Рой крыкнуў, што ён прывёз усіх матросаў, але прыпазніўся, бо доўга шукаў іх, а потым пачаў падрабязна плесці і выдумляць розныя байкі наконт гэтага.

Пакуль ён балбатаў такім чынам, баркас і шлюпка прычалілі да борта.

Капітан і яго памочнік першыя ўскочылі на палубу са зброяй у руках і адразу ж збілі з ног ударамі прыкладаў двух піратаў, якія, ні аб чым не здагадваючыся, выйшлі ім насустрач; выявілася, што гэта карабельны цясляр і другі памочнік капітана, якія перайшлі на бок піратаў.

Увесь капітанскі атрад дзейнічаў дружна і адважна. Усе матросы, што знаходзіліся на палубе, былі схоплены, пасля чаго капітан загадаў замкнуць люкі, каб усіх астатніх затрымаць унізе.

Тым часам падаспелі камандзір і матросы другой шлюпкі; яны занялі ход у карабельную кухню і ўзялі ў палон яшчэ трох чалавек.

Калі на палубе і на шканцах[1] не засталося ўжо ніводнага ворага, капітан загадаў свайму памочніку ўзяць трох чалавек з каманды і пайсці ўзламаць дзверы галоўнай каюты, дзе, пачуўшы першыя гукі трывогі, замкнуўся новы капітан, абраны піратамі, і з ім два матросы і юнга.

[1] Шканцы — пляцоўка на верхняй палубе судна.



Яны паспелі захапіць з сабой зброю, так што, калі памочнік капітана са сваімі людзьмі высадзілі дзверы каюты, іх сустрэлі стралянінай. Памочніку раздрабіла руку мушкетнай куляй, двух матросаў таксама параніла, але ніхто не быў забіты.

Памочнік капітана крыкнуў: «На дапамогу!» Не звяртаючы ўвагі на сваю цяжкую рану, ён уварваўся ў каюту з пісталетам у руцэ і прастрэліў новаму капітану галаву. Той зваліўся, не паспеўшы прамовіць і слова: куля трапіла яму ў рот. Пасля гэтага астатнія здаліся без бою, так што больш не пралілося ні кроплі крыві.

Як толькі капітан стаў гаспадаром свайго карабля, ён загадаў даць сем гарматных стрэлаў. Гэта быў умоўны сігнал, якім ён паведаміў мне пра паспяховае заканчэнне справы. Чакаючы гэтага сігналу, я праседзеў на беразе дзве гадзіны і быў невыказна рады, калі пачуў яго. З супакоеным сэрцам я адразу ж вярнуўся дадому, лёг і імгненна заснуў, таму што быў вельмі стомлены трывогамі гэтага дня.

Мяне абудзіў новы стрэл. Я ўскочыў і пачуў, што нехта кліча мяне:

— Начальнік! Начальнік!

Я адразу ж пазнаў голас капітана. Ён стаяў над маёй крэпасцю, на гары. Я схапіў лескі і ўзлез да яго. Ён абняў мяне і сказаў, паказваючы на мора:

— Мой дарагі друг! Мой выратавальнік! Вось ваш карабель. Ён ваш, і ўсё, што на ім, ваша таксама! І ўсе мы таксама вашы!

Я глянуў у той бок, куды ён паказваў: карабель стаяў ужо на другім месцы, менш чым за паўмілі ад берага.

Выявілася, што, расправіўшыся з піратамі, мой сябар капітан зараз жа загадаў зняцца з якара і, карыстаючыся спадарожным ветрыкам, падышоў да тае бухты, дзе я некалі прычальваў са сваімі плытамі, затым, дачакаўшыся прыліву, ён на яліку зайшоў у бухту і заспяшаўся да мяне, каб паведаміць, што яго карабель знаходзіцца, можна сказаць, ля маіх дзвярэй.

Ад гэтай нечаканай радасці я ледзь не страціў прытомнасць: я ж на ўласныя вочы бачыў цяпер сваю доўгачаканую волю! Яна была тут,

у мяне ў руках! Да маіх паслуг быў вялікі карабель, які гатовы быў везці мяне, куды я захачу.

Я да таго ўзрадаваўся, што ў першы момант не здолеў адказаць капітану ні слова, і пэўна паваліўся б на зямлю, калі б ён не падтрымаў мяне.

Убачыўшы, што я канчаткова знясілеў ад раптоўнага шчасця, ён выцягнуў з кішэні шклянку з нейкімі лекамі, якія ён прыхапіў для мяне. Сербануўшы глыток, я ціха апусціўся на зямлю. І хоць свядомасць вярнулася да мяне, усё ж я доўга не мог загаварыць.

Бедны капітан быў усхваляваны не менш, чым я. Каб вярнуць мне мае душэўныя сілы, ён шаптаў мне тысячы ласкавых шчырых слоў. Але грудзі мае былі перапоўнены нахлынуўшым шчасцем; і я кепска разумеў, што ён гаворыць. Нарэшце я заплакаў ад радасці, і толькі пасля гэтага да мяне вярнулася здольнасць гаварыць. Тут я, у сваю чаргу, абняў свайго новага сябра і ад усяго сэрца павіншаваў яго. Мы абодва былі радасныя і ўсцешаныя.

Калі ж мы крыху апамяталіся, капітан сказаў мне, што прывёз мне сякія-такія рэчы, якія, на шчасце, не паспелі раскрасці бандыты, якія столькі часу гаспадарылі на яго караблі.

— Мне здаецца, што гэтыя рэчы будуць не зусім бескарысныя для вас,— сказаў капітан. Ён крыкнуў сваім матросам, якія заставаліся ў лодцы:

— Гэй, цягніце сюды пакункі, якія мы прывезлі начальніку вострава.



Гэта быў сапраўды багаты падарунак: капітан прывёз так многа самых разнастайных рэчаў, як быццам я збіраўся заставацца на востраве да канца свайго жыцця.



У пакунках былі: дванаццаць велізарных кавалкаў саланіны, шэсць кумпякоў вяндліны, мех гароху, каля ста фунтаў сухароў. Ён прывёз мне таксама скрынку цукру, скрынку мукі, мех лімонаў і дзве бутэлькі лімоннага соку.

Але, вядома, у тысячу разоў больш патрэбна была мне адзежа. І таму я бясконца ўзрадаваўся, калі выявілася, што мой сябар капітан прывёз мне паўтузіна новых, зусім чыстых сарочак, шэсць цудоўных хусцінак на шыю, дзве пары пальчатак, капялюш, чаравікі, пан-



чохі і свой выдатны, зусім новы яшчэ гарнітур — словам, ён апрануў мяне з галавы да ног.

Падарунак быў прыемны і вельмі карысны, але вы не можаце сабе ўявіць, які быў у мяне няўклюдны выгляд, калі я апрануўся ў новы гарнітур, як мне на першым часе было ў ім нязручна!

Закончыўшы агляд падарункаў, я загадаў занесці іх у маю крэпасць і пачаў раіцца з капітанам, як нам абысціся з нашымі палоннымі: забраць іх з сабою ці пакінуць тут.

— Браць іх з сабою вельмі небяспечна,— казаў капітан.— Гэта сапраўдныя галаварэзы. Асабліва ненадзейныя двое з іх, непапраўныя зладзеі і разбойнікі. Калі б я нават і рызыкнуў везці іх на сваім караблі, то не інакш як арыштантаў. Я закаваў бы іх у кайданы і аддаў бы ў рукі судовых улад у першай жа англійскай калоніі, у якую давядзецца нам зайсці.

— У такім выпадку,— сказаў я капітану,— лепей будзе пакінуць іх тут. І я бяруся зрабіць так, што гэтыя два разбойнікі самі пачнуць нас упрошваць, каб мы пакінулі іх на востраве.

— Калі вам гэта ўдасца, буду вельмі задаволены,— адказаў капітан.

— Добра,— сказаў я,— я зараз пагавару з імі ад вашага імя.

Затым я паклікаў да сябе Пятніцу і двух матросаў-заложнікаў (якіх мы цяпер вызвалілі, бо таварышы іх стрымалі слова, якое давалі) і загадаў ім перавесці пяцярых нашых палонных з пячоры ў будан.

Праз некаторы час мы з капітанам накіраваліся туды (я ў сваім новым гарнітуры і на гэты раз ужо ў якасці начальніка вострава). Падышоўшы да агароджы мае дачы, я загадаў вывесці да сябе арыштаваных і сказаў ім наступнае:

— Мне вядомы ўсе вашы злачынствы. Я ведаю, што вы напалі на безабаронных пасажыраў і забілі іх. Ведаю і тое, што вы хацелі зрабіцца піратамі, каб рабаваць мірныя караблі... Цяпер ведайце, што па майму загаду карабель вернуты капітану. Варта мне загадаць — і вас павесяць як разбойнікаў, злоўленых на месцы злачынства. Таму, калі ў вас ёсць што сказаць у сваё апраўданне, кажыце, бо я маю намер пакараць вас як забойцаў і здраднікаў.

Адзін з іх адказаў за ўсіх, што ім няма чаго сказаць у сваё апраўданне.

— Але, калі нас арыштавалі, капітан абяцаў нам літасць, і мы пакорна молім вас зміласцівіцца над намі і даравацъ нам жыццё.

— Я не ведаю, якую літасць я здолею зрабіць для вас,— адказаў я.— Я маю намер пакінуць востраў з усімі маімі людзьмі: мы ад'язджаем на радзіму. Што ж датычыць вас, то паводле слоў капітана ён павінен закаваць вас у кайданы і, прыехаўшы ў Англію, аддаць вас пад суд за здраду. А суд адразу ж вынесе вам смяротны прысуд. Іншага прысуду і быць не можа. Смерць на шыбеніцы — вось што чакае вас у Англіі. І таму наўрад ці будзеце вы задаволены, калі мы возьмем вас з сабою. У вас ёсць адно выратаванне — вы павінны застацца на востраве. Толькі пры гэтай умове я здолею вас памілаваць.

Яны з радасцю згадзіліся на маю прапанову і доўга дзякавалі мне.

— Лепей жыць у пустыні,— казалі яны,— чым вярнуцца на радзіму, дзе нас чакае шыбеніца.

Я загадаў развязаць іх і сказаў:

— Ідзіце ў лес на тое месца, дзе вас схапілі, і заставайцеся там, пакуль па вас не прышлюць. Я загадаю пакінуць вам сякую-такую зброю, харчовыя запасы і дам неабходныя ўказанні на першы час. Вы здолееце цудоўна тут жыць, калі будзеце настойліва працаваць.

Пасля гэтых перагавораў я вярнуўся дадому і пачаў рыхтавацца ў далёкае плаванне. Я, аднак, папярэдзіў капітана, што мне спатрэбіцца некаторы час, каб сабрацца ў дарогу, і папрасіў яго адпраўляцца на карабель аднаго, без мяне, а раніцой прыслаць па мяне шлюпку.

Калі капітан адчаліў, я загадаў паклікаць да сябе палонных і завёў з імі сур'ёзную гутарку.

Я зноў сказаў ім, што, па-мойму, яны робяць разумна, застаючыся на востраве, таму што калі б капітан узяў іх з сабою, іх абавязкова павесілі б.

Я падрабязна расказаў ім, як я сам трапіў на гэты востраў, як патроху паляпшаў сваю гаспадарку, як збіраў вінаград, як сеяў рыс і ячмень, як навучыўся пячы хлеб.



Я паказаў ім сваё ўмацаванне, свае каморы, свае палі і загоны — словам, зрабіў для іх усё, каб жыццё іх на востраве не здавалася такім цяжкім.

Я пакінуў ім сваю зброю (гэта значыць пяць мушкетаў, тры паляўнічыя стрэльбы і тры шаблі), паўтары бочачкі пораху і даў падрабязныя парады, як даглядаць коз, як даіць і адкормліваць іх, каб яны былі тлусцейшыя, як рабіць масла і сыр.

Такім чынам, мне давялося расказаць гэтым людзям усю доўгую гісторыю майго цяжкага, працавітага і адзінокага жыцця на востраве на працягу дваццаці васьмі год.

Развітваючыся з імі, я абяцаў, што папрашу капітана пакінуць ім яшчэ дзве бочачкі пораху, і таксама насенне гародніны, і расказаў ім, як цяжка было без гэтага насення.

Мех гароху, які капітан прывёз мне, каб я ўжываў яго ў ежу, я таксама аддаў ім і пры гэтым параіў выкарыстаць для пасеву ўвесь гарох, каб яго потым было больш.

Пасля гэтай гутаркі я на другі ж дзень, раніцой, перабраўся на карабель.

Хоць нам і вельмі не цярпелася хутчэй падняць парусы і рушыць у далёкае плаванне, усё-такі на якары мы прастаялі яшчэ цэлыя суткі.

На другі дзень раніцой мы ўбачылі, што да карабля плывуць два чалавекі. Выявілася, што гэта двое з тых пяцярых, якіх мы пакінулі на востраве.

— Вазьміце нас з сабою! — крычалі яны.— Лепей павесьце нас, толькі не пакідайце на востраве! Там усё роўна нас заб'юць.

У адказ на іх просьбу капітан заявіў, што не можа ўзяць іх без майго дазволу. У рэшце рэшт, прымусіўшы іх даць урачыстую прысягу, што яны выправяцца і будуць паводзіць сябе добра, мы ўзялі іх на карабель.

Паколькі неўзабаве пачаўся прыліў, на бераг была адпраўлена шлюпка з рэчамі, якія я абяцаў пасяленцам. Да гэтых рэчаў капітан дадаў, па маёй просьбе, скрыню, напакаваную рознай адзежай. Яны ўзялі гэты падарунак з вялікай удзячнасцю.

Трэба сказаць, што, развітваючыся з імі, я даў слова, што не забуду пра іх і што, калі толькі ў якім-небудзь порце мы сустрэнем ка-

рабель, шлях якога будзе ляжаць паўз мой востраў, я папрашу капітана таго карабля зайсці па іх і забраць у родныя краі.

Калі я пакідаў гэты востраў, я ўзяў з сабою на памяць вялікую востраканечную шапку, якую я ўласнаручна пашыў з казінага футра, парасон і аднаго з маіх папугаяў.

Не забыў я ўзяць і грошы, але яны так доўга ляжалі ў мяне без ужытку, што зусім пацямнелі.

Толькі старанна пачысціўшы іх, можна было ўбачыць, што гэта срэбра. Прыхапіў я таксама і залатыя манеты, якія знайшоў на разбітым іспанскім караблі.

Як я потым удакладніў па карабельным журнале, мой ад'езд адбыўся 19 снежня 1686 года. Такім чынам, я пражыў на востраве дваццаць восем год, два месяцы і дзевятнаццаць дзён.

Вецер быў спадарожны. Карабель імчаўся на ўсіх парусах. Мне было радасна думаць, што з кожнай хвілінай я ўсё бліжэй да родных берагоў. Калі ж нарэшце паказаліся ў туманнай далечыні белыя скалы радзімы, якую я не бачыў столькі гадоў, я ледзь не страціў розум ад хвалявання і шчасця. Я толькі тое і рабіў, што падбягаў да капітана і крычаў: «Хутчэй! Хутчэй!»

Як толькі мы кінулі якар, я развітаўся з усімі маімі спадарожнікамі і ў суправаджэнні аддананага Пятніцы заспяшаўся ў той горад, дзе прайшло маё дзяцінства. Бацькоў я ўжо не спадзяваўся ўбачыць жывымі. Бо нават у тую далёкую пару, калі я ўпершыню толькі адплываў у далёкія краі, яны былі такія старыя і слабыя, а з таго часу мінулі дзесяткі гадоў!

Вось і наша вуліца, вось і наш стары дом, які я так безразважна пакінуў. Са здзіўленнем сустрэлі мяне жыхары гэтага дома, калі я, усхваляваны да слёз, паведаміў, хто я такі. У першы момант мне не паверылі, але калі ўпэўніліся, што я сапраўды Рабінзон Круза, мяне ледзь не задушылі ў абдымках. Асабліва ўзрадаваліся мне мае сёстры і іх дзеці — хлапчукі і дзяўчаткі, якія ніколі раней не бачылі мяне. Усе даўно лічылі, што я памёр, і цяпер глядзелі на мяне, як на дзіва, нібыта я ўваскрэс з магілы.

Пасля першых прывітанняў і абдымкаў усе наперабой пачалі распытваць, дзе я прападаў столькі гадоў, што я бачыў у заморскіх краінах, якія былі ў мяне прыгоды, і хто такі Пятніца, і адкуль узялася ў мяне такая дзівосная вастраверхая шапка, і чаму ў мяне такія доўгія валасы і такі загарэлы твар. Калі я ўбачыў, што іх распытванням не будзе канца, я пасадзіў іх усіх, і дарослых, і дзяцей, ля каміна і пачаў падрабязна расказваць ім усё тое, пра што напісана тут, у гэтай кнізе. Яны слухалі мяне з вялікім захапленнем. Расказваў я з раніцы да ночы, а папугай сядзеў у мяне на плячуку і часта перабіваў маё апавяданне выгукамі:

— Робін, Робін, Робін Круза! Шчаслівы Робін Круза! Куды ты трапіў, Робін Круза? Куды ты трапіў? Дзе ты быў?



## ЗМЕСТ

Карней Чукоўскі. Пра «Рабінзона Круза» . . 7

Раздзел першы. Сям'я Рабінзона.— Уцёкі з бацькоўскага дому . . . . . . . 9

Раздзел другі. Першыя прыгоды на моры 11

Раздзел трэці. Рабінзон трапляе ў палон.— Уцёкі . . . . . . . . . . . 18

Раздзел чацвёрты. Сустрэча з дзікунамі . . . . . . . . . . . . . . 29

Раздзел пяты. Рабінзон селіцца ў Бразіліі.— Ён зноў выпраўляецца ў мора.— Карабель яго церпіць крушэнне . . . 34

Раздзел шосты. Рабінзон на бязлюдным востраве.— Ён здабывае рэчы з карабля і будуе сабе жыллё . . . . . . 41

Раздзел сёмы. Рабінзон на наваселлі.— Каза і казлянё . . . . . . . . . 51

Раздзел восьмы. Каляндар Рабінзона.— Рабінзон уладкоўвае сваё жыллё. 55

Раздзел дзевяты. Дзённік Рабінзона.— Землетрасенне . . . . . . . . . . 56

Раздзел дзесяты. Рабінзон забірае рэчы з карабля. Хвароба і туга . . . . . 61

Раздзел адзінаццаты. Рабінзон працягвае даследаваць востраў . . . . 81

Раздзел дванаццаты. Рабінзон вяртаецца ў пячору.— Палявыя работы . . . 84

**Раздзел трынаццаты.** Рабінзон выраб- ляе посуд . . . . . . . . . . . . . 88

**Раздзел чатырнаццаты.** Рабінзон будуе лодку і шые сабе новае адзенне 92

**Раздзел пятнаццаты.** Рабінзон будуе другую лодку, меншых памераў, і спрабуе аб'ехаць вакол вострава . . 98

**Раздзел шаснаццаты.** Рабінзон прыру- чае коз . . . . . . . . . . . . . . 106

**Раздзел семнаццаты.** Нечаканая тры- вога.— Рабінзон умацоўвае сваё жыл- лё . . . . . . . . . . . . . . . . 111

**Раздзел васемнаццаты.** Рабінзон упэўніваецца, што на яго востраве бываюць людаеды . . . . . . . . . 116

**Раздзел дзевятнаццаты.** Дзікуны зноў наведваюць востраў Рабінзо- на.— Крушэнне карабля . . . . . 124

**Раздзел дваццаты.** Рабінзон робіць на- мер пакінуць свой востраў . . . . . 129

**Раздзел дваццаць першы.** Рабінзон выратоўвае дзікуна і дае яму імя Пят- ніца . . . . . . . . . . . . . . . 135

**Раздзел дваццаць другі.** Рабінзон размаўляе з Пятніцай і павучае яго 145

**Раздзел дваццаць трэці.** Рабінзон і Пятніца будуюць лодку . . . . . . 152

**Раздзел дваццаць чацвёрты.** Бітва з дзікунамі.— Рабінзон выратоўвае іс- панца. — Пятніца знаходзіць бацьку 162

**Раздзел дваццаць пяты.** Новыя жы- хары вострава.— Прыбыццё англічан 173

**Раздзел дваццаць шосты.** Рабінзон сустракаецца з капітанам англійскага карабля . . . . . . . . . . . . . . 183

**Раздзел дваццаць сёмы.** Бойка з пі- ратамі . . . . . . . . . . . . . . 190

**Раздзел дваццаць восьмы.** Капітан зноў становіцца камандзірам свайго карабля.— Рабінзон пакідае востраў 201



Даниэл
Дефо

# ЖИЗНЬ И УДИВИТЕЛЬНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ МОРЕХОДА РОБИНЗОНА КРУЗО


Для детей младшего школьного возраста

На белорусском языке

Рэдактар Ул. Г. Машкоў. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктары Л. Р. Законнікава і Я. Ф. Харко.

Здадзена ў набор 25/V 1976 г. Падп. да друку 15/XI 1976 г. Тыраж 115 000 экз. Фармат $70\times108^{1}/_{16}$. Папера афс. № 2. Ум. друк. арк. 18,9. Ул.-выд. арк. 12,69. Зак. 3291. Цана 1 руб. 20 кап. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4. Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

